

# Маладосць


4

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(677) КРАСАВІК, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Раіса БАРАВІКОВА**





**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «МАЛАДОСЦІ»!***
***На І паўгоддзе 2010 года працягваецца падпіска.***

***Упершыню індывідуальная льготная — для настаўнікаў.***
***Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 5820 руб.***

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 9120 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 8150 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 11470 руб.***

Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 13.01.2010. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,22. Тыраж 2636 экз. Заказ 936.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# ПОДЗВІГ НАРОДА — У ПАМЯЦІ ПАКАЛЕННЯЎ



Пішу гэтыя нататкі і разумею, што чацвёрты нумар «Маладосці» нашы чытачы атрымаюць напрыканцы красавіка, калі ўжо так блізка будзе да надзвычай урачыстага свята — Дня Вялікай Перамогі, якое адзначыцца ўсім нашым народам, усёй краінай у шэсцьдзесят пяты раз.

Будуць праменіцца агністыя кветкі каля абеліскаў, і трапятліва будзе мігцець полымя Вечнага агню, і золатам заіскрацца ордэны і медалі на грудзях нашых ветэранаў... А яшчэ будуць слёзы і шчаслівы смех нашых дзяцей, якіх агорне радасць усенароднага свята. Дарослыя ж стануць абуджаць свае ўспаміны, якія ёсць у кожнага пакалення беларусаў. Успаміны найчасцей балючыя і горкія. Адны згадаюць свае нялёгкія франтавыя дарогі, смяртэльны, бязлітасны агонь вайны, другія — галечу свайго дзяцінства, якое абпаліла вайна, трэція — тых бясконца родных, каго вайна адняла... А гэта — тысячы, тысячы і тысячы, сотні тысяч, мільёны скошаных кулямі, знявечаных, спаленых... Успаміны баляць і вярэдзяць. Зразумела, яны ёсць і ў мяне, народжанай у першыя пасляваенныя гады. Добра помню тое, што яшчэ ў сваім раннім дзяцінстве чула ад бабулі Марыі на Магілёўшчыне ў Бялыніцкім раёне... У тысяча дзевяцьсот сорак першым, на самым пачатку вайны, пайшлі жанчыны на Друць мыць бялізну, а вада ў ёй чырвоная ад крыві — такія баі ішлі пад Магілёвам, што назаўжды ўпісаліся ў нашу гісторыю той непамерна-мужнай легендарнай Абаронай, дзе, магчыма, і завязалася прадзіва будучай Вялікай Перамогі! А потым былі гады страшнага ліхалецця... І вось летняя раніца, яшчэ паліла бабуля печ, а тут зазірнула суседка ў хату: «Нашы! Салдацікі нашы! На ўзлеску... Людзі бягуць туды!» Бабуля схапіла чыгунок з толькі што зваранай бульбай, і пабеглі... А там сапраўды — нашы! Плач радасці і трывожныя пытанні, у якіх надзея. «Хлопчыкі, родненькія, частуйцеся бульбай! А можа, дзе Грышачку майго сустракалі?..» Не магла тады ведаць бабуля, што яе старэйшы сын Рыгор ужо загінуў, згарэў у танку пад Вялікімі Лукамі, там і пахаваны ў брацкай магіле. А вось сына Андрэя (майго бацьку), якога восенню сорак першага года павінны былі прызваць у войска, яна сама, сабраўшы яму клунак, той жа восенню ляснымі сцежкамі завяла ў партызанскі атрад Асмана Касаева са словамі: «Грышачка наш недзе ваюе — і ты павінен ваяваць! Трэба, каб брат — да брата, сын — да сына... Тады і пераможам у гэтай вайне!» І ўставалі брат да брата, поруч, плячо да пляча, кожны на сваім ратным полі... Вось і перамаглі! Вось і святкуем доўгачаканы дзень Вялікай Перамогі, нізка схіляючы свае галовы перад памяццю тых, хто не дайшоў да яе. Ён проста аддаў сваё жыццё за кожнага з нас, і памяць усіх наступных пакаленняў будзе вечнай!

...І цяпер, калі грому гармат
Кулямёт падпявае па-брацку,
Ўспомні брата забітага, брат,
Ўспомні, сын, скатаванага бацьку!

Будзем помніць, як цяжкі кашмар,
Як баёў і нягоды выснову —
Ненавіснага ворага твар,
Ненавісную ворага мову.

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас паглядае.
Ў нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

Гэтыя радкі напісаў Змітрок Астапенка шостага снежня 1943 года. Ён сам не вярнуўся з той вайны, але яго паэзія дажыла да нашых дзён і будзе жыць яшчэ стагоддзі, як і вершы многіх і многіх нашых выдатных паэтаў. Яны — несмяротны ўзор мужнасці, адданасці і любові да нашай Бацькаўшчыны, да Беларусі.

У пятым нумары нашага часопіса будзе змешчана шмат твораў, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі. Рэдакцыя «Маладосці» віншуе ўсіх ветэранаў і проста нашых чытачоў з гэтым слаўным і светлым святам. Жадаем кожнаму і здароўя, і шчасця на доўгім жыццёвым шляху.

*З найлепшымі пачуццямі* Ф. Баравікова



*Алеся Кузьмінова нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Скончыла мінскую сярэднюю школу № 166. Узнагароджана 2-ой (у 2007 г.) і 3-яй (у 2008 г.) прэміямі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Цяпер вучыцца на другім курсе Інстытута журналістыкі БДУ па спецыяльнасці «Аўдыёвізуальныя СМІ». Супрацоўнічала з газетай «Переходный возраст», часопісамі «Роднае слова» і «Твоё поколение», тэлеканалам «Первый музыкальный», радыёстанцыяй «Сталіца». У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Алеся КУЗЬМІНОВА

# МАРА ПРОСТАЙ ШЧЫРАСЦЮ КРАНАЕ

## МАЁ СОНЦА

Маё сонейка свеціць ярчэй,
чым усе ліхтары.
Маё сонейка свеціць ярчэй,
чым усякія зоры.
Маё сонейка…
Я захавала вытокі вясны
У праменьчыку кожным…
Мяне закрывае ад гора
Маё сонца…
У кожнай хвіліне, у марах, вачах
Затрымаю святло,
каб у ім назаўсёды сагрэцца.
Не баяцца таксама згубіць
у трывожных начах
Ручаі найсвятлейшай надзеі,
ў якія сальецца
І па кропельцы будзе ізноўку мне сэрца кранаць,
Пакідаючы ў думках чырвоныя арабескі,
Тая радасць,
якую ніколі не зруйнаваць,
Тая радасць
увесну красуе першай пралескай.
Маё сонейка свеціць у кожным куточку зямлі,
Маё сонейка знойдзе мяне,
каб мой шлях заіскрыўся.
Маё сонейка свеціць ярчэй, чым усе ліхтары,
І яго зіхаценню Сусвет захацеў пакарыцца.

* * *

Божа, як файна на вуліцы!..
Крочыць у свежую зорную ноч
Ад дзвярэй да дзвярэй пад голас гадзінніка
мінскай ратушы…

Нічога, што дзверы зачынены:
Ад усіх у мяне ёсць ключы.
Адамкну!
Адмыкаю…

* * *

Пад сонцам белы ветразь… караблі…
Ды мара простай шчырасцю кранае.
Мой шлях плыве — на хвалях пралятае.
Пад сонцам белы ветразь… караблі.
І зорка мэты ў вышыні заззяе,
Каб верай душы поўныя былі.
Пад сонцам белы ветразь — караблі,
Ды мара простай шчырасцю кранае.

* * *

Горад. Дарога. Чаканне. Святло.
Сум. Адзінота. Ўспаміны. Акно.
Стол. Каляндар. Спадзяванне. Інет.
Вочы. Агонь. Думкі. Праца. Сюжэт.
Музыка. Ноч. Сёмы трэк. Фартэп’яна.
Сэрца. Душа. Хваляванне аргана.
Вершы. Каханне. Любоў і надзея.
Сшытак. Асадка. Размытасць ідэяў.
Мара. Гадзіннік. Ды ўсё праз Яго.
Горад. Дарога. Чаканне. Святло.

* * *

Бураю вогненнай,
Сцюжаю доўгаю,
Песняй самотнаю,
Словам замоўчаным,
Позіркам стрыманым,
Радасцю звонкаю,
Выглядам стомленым,
Дрэвам аголеным,
Ўзлётам пахіснутым,
Рыскамі чорнымі,
Літарай зблытанай
Час па цябе пасылаю.
Цень на сцяне —
Як адбітак Крышны,
Каб ты пачуў праз лістоты зграю
Сум па табе,
Мой увішны.

* * *

Я жыву нібы ў нейкай казцы:
Ўчора рыцар, а сёння прынц.
Ля мяне добры фей у масцы,
Сто падманлівых чараўніц.
Я чакаю сваёй карэты,
Каб хутчэй адвезла на баль.
Зацягнулі мае гарсэты —
І дыханне знікла амаль…
Я не ведаю, што чакае:
Можа, шчасце, а мо і зло.
Мой крыштальны туфлік Ён мае,
Мне астатняе ўсё адно.

* * *

Каму свяціць? Нашто гарэць?
Калі радок твой непатрэбны
І разбіваецца аб сцены
Тваё жаданне ўсё паспець.

Куды ісці? І дзе шукаць?
Калі ужо не сустракаюць
І вельмі проста пагарджаюць
Увагай, што хацеў аддаць.

Адкуль чакаць? І несці што?
Калі ад прагі нейкай веры
Ў твае зачыненыя дзверы
Не грукне конь у паліто?

* * *

Як доўга вы мяне чакалі,
Мае пустыя калідоры…
Дзе думкі з марамі блукалі,
Нібы растраціўшы ў прасторы
Свае імгненні… Я вярнуся
Не сёння – заўтра. Вы прымайце.
На дзень мінулы азірнуся.
Я буду, буду – сустракайце!

* * *

Не кажыце мне пра забароны:
Іх ніхто не ўспомніць і ўва сне.

Ходзім, быццам белыя вароны,
Звыкла патакаючы сабе.
Ходзім, змарнаваўшы час прыгожы,
Што нам дорыць лета гарачынь.
Толькі свет усё ж нам не варожы —
Бо наперад мкне падзеяў плынь.
Не кажыце мне, што на планеце
Кожны дзень прырода не пяе.
Мы жывём у велічным Сусвеце,
Звыкла патакаючы сабе.

**ЛЕТНЯЕ**

Гэты горад паклікаў мяне і не кажа, навошта.
Гэты горад паклікаў мяне і не кажа, нашто.
Гэты горад імгненні свае дасылае мне поштай,
Каб праз шэрыя хмары данесці надзеі святло.

Ну а я пабягу тратуарам,
Ну а я адкажу СМС-кай,
Ну а я палячу зноў за марай
У ICQ і навін RSS-кай.

Лета! Сонца! Жыццё!..
Кожны лёсу чакае свайго.

Гэты горад праз хвілі ляціць на празрыстых аблоках,
Гэты горад даруе мне ўсё, што пакінуць хачу,
Гэты горад заўсёды і сам у бясконцых вандроўках,
І мае мемуары ягоную цешаць душу.

Ну а я напішу па-англійску,
Ну а я пракрычу па-нарвежску
Беларускім матывам на дыску,
На касеце, паперы і флэшцы:
Лета! Сонца! Жыццё!..
Кожны лёсу чакае свайго.





*Іван Клімянкоў нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Хляўно Кармянскага раёна Гомельскай вобласці. У 1970 годзе скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Настаўнічаў. З 1971 года стаў выязджаць на сезонныя работы на Поўнач. Быў выхавацелем у рабочым інтэрнаце Мінскага аўтамабільнага завода, працаваў у калгасе Валожынскага і Кармянскага раёнаў. Літаратурнай працай займаецца з 1976 года. Аўтар кнігі апавяданняў «Сеанс гіпнозу».*

Іван КЛІМЯНКОЎ

# ПАЯДЫНАК

## (ФАНТАЗІЯ НА ШАХМАТНУЮ ТЭМУ)

***Аповесць***

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

*Чорны лімузін* бязгучна падкаціў да варот высокай мураванай агароджы, і тыя павольна рассунуліся, адкрыўшы вачам велізарны газон, пасярод якога ўзвышалася шэрая будыніна, накрытая карычневай чарапіцай.

І ні дрэўца, ні кусціка.

Катэдж не выдзяляўся ніякімі архітэктурнымі адметнасцямі. Пастаўлены на «папа» паралелепіпед з арачнымі вокнамі і немудрагелістымі балкончыкамі выклікаў у душы паныласць і наводзіў на думку, што праектаваў яго чалавек дрэннага густу і чэзлай фантазіі, калі не дапусціць хіба, што ён быў усяго толькі пакорлівым выканаўцам волі заказчыка.

Па зеленаватай брусчатцы аўтамабіль пад’ехаў да катэджа, развярнуўся, і адразу ж на ганак выйшаў сярэдняга росту мужчына ў элегантным шэрым гарнітуры, з парасонам над галавой. Густыя, расчэсаныя на прабор бялявыя валасы прыгожа аблямоўвалі прадаўгаваты бледны твар, вялікія шэрыя вочы пазіралі на свет стомлена і бяздумна. Механічна пераступаючы з прыступкі на прыступку, ён спусціўся на зямлю і, уладкаваўшыся зручней на заднім сядзенні, злёгку нахіліў галаву. Лімузін крануўся, мінуў вароты, выехаў на асфальтаваную дарогу сярод жытнёвага поля і праз чвэрць гадзіны ўліўся ў бясконцы аўтамабільны паток шырокай, мокрай ад дажджу аўтастрады.

Заплюшчыўшы вочы, мужчына ўслухоўваўся ў музыку, адчуваў, як прыемна разнявольваецца, робіцца бязважкім цела, як наплывае гаючае забыццё, пасля якога заўсёды прыбаўляецца сілы, у галаве незвычайна яснее, а мозг набывае асаблівую яснасць і празорлівасць. Выраз супакоенасці змякчыў строгія рысы яго твару.

Ціхая мелодыя лілася з дынамікаў магнітолы, закалыхвала, грэла душу і разам з тым выклікала ў ёй незразумелы лёгкі смутак, нагадвала пра нешта светлае…

Толькі пра што?

Ён усведамляў: адказ на гэта зробіць тугу яшчэ мацнейшай, перайначыць яе ў скруху і роспачнасць — і штосілы намагаўся не даць яму выплыць з падсвядомасці, акрэсліцца.

Марна...

Ужо не прасторны лімузін імчыць па шматпалоснай магістралі, а старэнькі «Масквіч», не раз вернуты да жыцця бацькавымі рукамі, дрогка і ўпарта коціцца па разбітай шашы, збочвае то ўправа, то ўлева, мінае выбоіны, час ад часу абганяе конныя павозкі, натужна ўзвывае на пад’ёмах, а з транзістара чуецца пяшчотная, як рука маці, што абняла яго за плечы, мелодыя.

Дзіўна, неверагодна: ён і той хлопчык — адно цэлае, і, разам з тым, яны раз’яднаныя навечна. Між імі неадольная бездань — час. Безліч часу.

І ўсё ж немагчымае магчыма. Усё меншай робіцца розніца паміж ім, цяперашнім, і хлопчыкам у матросцы, у аранжавых гольфах і зусім новых карычневых сандалях. Яны ўсёй душой імкнуцца адно да аднаго, і вось — здзейснілася! Не было таго, што было. Усё яму прыснілася. Які доўгі, цяжкі сон… Каб забыцца пра яго, трэба шчыльней прыціснуцца да маці. І сачыць за дарогай. Там шмат цікавага. Але дарогу засланяе шырокая бацькава спіна ў клятчастай кашулі. Якія дужыя і вялікія ў яго далоні! Руль амаль цалкам патанае ў іх.

— Ну як? — азіраецца і весела падміргвае ім бацька.

— Не сюды, за дарогай глядзі.

У голасе маці лёгкі дакор.

— Навошта? — дзівіцца бацька. — Машына ведае, як ехаць. Яна разумніца.

— Разумніца… — уздыхае маці.

«Чаму мама не верыць? — не можа зразумець ён. — Машыны ўсе разумныя. Наша таксама. Хутка яна прывязе нас у вёску, да бабулі Ганны. Тата казаў — яна добрая-добрая…»

Ён думае пра бабу Ганну, пра вёску, якой ніколі не бачыў, але якая, па словах бацькі, найпрыгажэйшая ў свеце. І паступова заплюшчваюцца вочы, цяжэе галава. Скруціўшыся клубочкам, ён кладзе яе на матчыны калені, слухае нястомнае вурчанне матора, а салодкая млявасць паглынае яго ўсё глыбей і глыбей.

— Радзік, прачніся! Мы прыехалі!

— Не хочу, не трэба…

Ён спрабуе вызваліцца з рук маці, але яна рашуча бярэ яго падпашкі, ставіць на зямлю.

— Пабудзь хвіліну.

А сама ідзе дапамагаць бацьку вымаць рэчы з багажніка.

Ад крыўды, што яго разбудзілі, з цяпла вымусілі апынуцца на прахалоддзі, запяршыла ў горле, зашчымелі вочы. Ён праціpae іх кулачкамі. Усё навокал чужое, варожае. Здаецца, што нехта хіжы сочыць за ім, чакае зручнага выпадку. Крык аб паратунку гатовы вырвацца з ягоных грудзей. Ён адкідвае галаву, набірае ў грудзі паветра, каб клікаць бацькоў, якія далёка-далёка, на другім канцы свету, але раптоўны страх змяняецца захапленнем. Бязмежная, з ледзь улоўным таямнічым свячэннем чарната над галавой успыхвае, мігціць, пераліваецца безліччу буйных і дробных, яркіх і ледзь бачных зорак. Такога цуду ён ніколі не бачыў. Зачараваны, з затоеным дыханнем, ён узіраецца ў недасягальны, велічны свет, знемагаючы ад жадання адарвацца ад зямлі, паляцець туды, уліцца ў іскрысты зоркавы карагод. Нібы пачуўшы ягонае жаданне, стракаты кілім заіскрыўся яшчэ мацней, лёгенька ўскалыхнуўся раз-другі, крануўся з месца і, спачатку павольна, а потым усё хутчэй і хутчэй, закружыўся перад вачыма і пачаў імкліва набліжацца. Ён з жахам і захапленнем зразумеў, што адарваўся ад зямлі і з неверагоднай хуткасцю панёсся ў вышыню, да вабнага зоркавага россыпу…

— Прыгожае неба?

Голас маці, лагодны і клапатлівы, даляцеў аднекуль здалёк, з пакінутай зямлі, але спыніў кружэнне неба, разняволіў дыханне, і ён задыхаў часта-часта, абапёрся рукой на машыну, каб не ўпасці, бо зямля была нетрывалай — прасядала, гойдалася пад нагамі.

— Радзік, табе дрэнна?

Ён маўчаў, не ведаў, што адказаць маці, як ёй паведаць пра свой палёт. Але тут падышоў бацька, абняў яго за плечы, і, нагнуўшыся над ім, паказаў пальцам у бок светлага марыва, якое цадзілася аднекуль здалёк, праз густую лістоту, што суцэльнай завесай спадала перад імі на невысокі, з частых вузкіх дошчачак плот.

— А вунь там і жыве твая бабуля Ганна, — узрушана, быццам хацеў паддобрыцца, паведаў бацька. — Ты рады?

— Рады, — прамовіў ён, хаця радасць, якой жыў апошнія дні і гадзіны, зараз, пасля зоркавага палёту, неяк сцішылася, і тое, што ён неўзабаве ўбачыць бабулю Ганну, не хвалявала ўжо так востра і ўзнёсла, як раней.

Адчыніўшы веснічкі, бацька ўзяў ягоную далоньку ў сваю, глыбокую і цёплую, і неяк сцішана, нібы баяўся некага патрывожыць, павёў па вузкай утаптанай сцяжынцы, па абодва бакі якой, апусціўшы да самай зямлі галіны, таямніча цямнелі нізкарослыя разгалістыя дрэвы. Неўзабаве белае марыва акрэслілася ў яркі прамавугольнік, і па доўгім чорным сілуэце, што невыразна выдзяляўся ў цемры, ён здагадаўся, што гэта акно хаты.

Узышоўшы на ганак, бацька асцярожна — каб не зарыпелі — адчыніў дзверы і падаўся ў іх чорны прагал. Ягоныя пальцы яшчэ мацней сціснулі далоньку, што трымаў у сваёй руцэ, а другой ён доўга соўгаў па сцяне — нечага шукаў. Нарэшце пстрыкнуў выключальнікам — запалілася няяркая лямпачка і асвяціла невялікі пусты пакой з доўгай лавай каля сцяны, на якой стаялі вёдры, слоікі з малаком. Цёмныя, з бярвенняў сцены былі абвешаны пукамі розных зёлак, ад якіх зыходзіў сухі, гаркаваты, але прыемны пах.

Бацька гэтак жа асцярожна накіраваўся да дзвярэй, абабітых карычневым матэрыялам, але маці, якая ішла следам, сумкай зачапіла пустое вядро на лаве, і яно гучна забрынчэла, пакацілася па падлозе. Пакуль бацька з выразам пакутнага расчаравання і дакору падымаў яго і ставіў на месца, дзверы расчыніліся: на парозе з'явілася дробненькая, у квяцістай кофце, чорнай спадніцы і белай хусцінцы, завязанай пад падбародак, бабулька.

— Хто тут? — нягучна, крыху здзіўлена і з лёгкай трывогай, быццам непакоілася пра некага, спытала яна і, убачыўшы гасцей, нібы пабольшала ў росце, узняла перад грудзямі складзеныя адна да адной далоні.

— А дзетачкі! — усклікнула бабулька слабым голасам, у якім чуліся і невыказная радасць, і шчаслівыя слёзы, і сумнеў, што гэта — ява. Галава яе лёгенька затрэслася, заторгаліся вусны. Яна парывіста ўсхліпнула раз, другі, ражком хусцінкі выцерла вочы.

— Прыехалі…

— А вось і ўнук твой. Глядзі, як вырас. Асілак!

Бацька шырока ўсміхнуўся, падхапіў дужымі рукамі яго падпашкі, і праз момант ён ужо стаяў у хаце перад бабуляй, апусціўшы галаву, унурыўшыся позіркам у нефарбаваную, вымытую да жаўцізны падлогу.

— А мой жа саколік, а мой жа ты каласочак…

Бабулька схілілася над ім, сухімі шурпатымі далонямі атуліла ягоныя шчокі, намагаючыся зазірнуць у вочы. Аднак гэтая яе пяшчота, як і дробненькі, у маршчынах твар, голас з адценнем плачу, была яму непрыемнай. А найбольш гняло рас-

чараванне, што так бязлітасна і раптоўна зруйнавалася дзівоснае царства, створанае яго ўяўленнем пра вёску, пра добрую фею бабулю Ганну, якая, ён быў перакананы ў гэтым, жыла ў казачна прыгожым, з крышталю і золата цераме.

Азіраючы паклееныя пажухлымі шпалерамі сцены, вялікую печ, закурадымленую над чалеснікамі, зусім не такую прыгожую і вясёлую, як у казцы пра Ямелю, маленькія, напалову занавешаныя фіранкамі вокны, ён ледзь не заплакаў ад крыўды за падман. Але здолеў стрымацца, вызваліўся з бабуліных рук, прытуліўся да маці. Адчужана, з крыўдай пазіраючы на бабулю, настойліва запатрабаваў:

— Хачу спаць.

Яму сапраўды хацелася спаць, але яшчэ большым было жаданне пазбавіцца ў сне тужлівай гаркавасці, якая паліла грудзі, перацінала дыханне.

Яго прымусілі выпіць кубак цёплага, нясмачнага, зусім не такога, як у горадзе, малака і ўжо соннага аднеслі ў другі пакой, паклалі ў ложак, клапатліва накрыўшы цёплай і лёгкай коўдрай. Ён чуў, як неўзабаве да ложка, асцярожна ступаючы, падышла бабуля, нахілілася над ім, пачала шаптаць нейкія незразумелыя словы. Ад яе шэпту рабілася цяплей і спакайней на душы, знікла крыўда і расчараванасць. Ён крышачку прыўзняў павекі і праз акно ўбачыў над сабой усыпаны бліскучымі зіхатлівымі зоркамі чорны, таямніча-вабны кілім; адчуў, як заходзіцца ў пранізлівым захапленні сэрца, а душу перапаўняе радасць ад таго, што зоркі ведаюць пра яго, клічуць да сябе. І, як тады, каля машыны, зоркавы кілім калыхнуўся, пачаў кружыцца, спачатку павольна, а потым хутчэй і хутчэй, ён адчуў, што нібыта ўздымаецца над ложкам, над зямлёй, зноў імкліва, аж зацінае дыханне, нясецца ў вышыню, да чароўнага зіхацення. На гэты раз ніхто не перашкодзіў яму, і ён даляцеў да зоркавага карагода, закружыўся ў ім, ператварыўся ў бліскучую мігатлівую зорачку…

Прачнуўшыся, ён доўга не расплюшчваў вачэй, ляжаў нерухома, патанаючы ў салодкай млявасці яшчэ не зусім адляцеўшага сну, у светлым прадчуванні нечага святочнага, радаснага, што неўзабаве павінна адбыцца з ім.

Лянотна перабіраючы нагамі, ён сцягнуў з сябе коўдру, сеў у ложку, агледзеўся і вельмі здзівіўся, убачыўшы замест свайго цеснага, з ружовымі сценамі пакойчыка прасторную залу з нязвыкла высокай белай столлю.

Вокнаў у зале было чатыры. Два з іх засланялі густалістыя галіны, якія гнуліся ад мноства жоўтых і чырвоных яблыкаў. Праз два акны ў другой сцяне віднелася блакітнае, глыбокае неба — яснае і ўрачыстае.

Асцярожна, каб не разбудзіць бацькоў, якія спалі на другім ложку, ён спусціўся на падлогу, надзеў штонікі і матроску, пачаў абувацца ў сандалікі. Спражка на адным сандаліку ніяк не хацела зашпільвацца, і ён доўга сядзеў на падлозе, так і гэтак спрабуючы зашпіліць яе, і ўвесь гэты час адчуваў на сабе чыйсьці ўважлівы позірк.

Нарэшце абуўшыся, ён узняўся, павярнуўся тварам туды, адкуль адчуваў позірк, і ў куце, над сваім узгалоўем, убачыў дзве каляровыя карціны. На адной быў намаляваны строга-задуменны, з расчасанымі на два бакі валасамі, з прыгожай невялікай бародкай, малады мужчына. Радзік здагадаўся, што гэта ягоны позірк ён адчуваў на сабе. І цяпер мужчына працягваў строга і выпрабавальна глядзець на яго. На другой карціне была выява маладой жанчыны з дзіцяткам на руках, і яна адразу ж палюбілася яму, бо была гэткая ж ціхамірная, добрая, як і маці. І гэткія ж, як у маці, былі ў яе вочы — усёдаравальныя, крыху журботныя.

Цеплыня і спакой зыходзілі з гэтых карцін.

Ён павярнуўся, выйшаў у суседні пакой, які ўжо не здаваўся гэткім змрочным і цесным, як учора, і доўга не мог адвесці зачараванага позірку ад печы, у якой горача палаў агонь, весела патрэсквалі, стралялі іскрамі дровы, іскры вылятали з чалеснікаў, падалі на падлогу і імгненна згасалі.

Бабулька сядзела каля стала на нізенькім услончыку, абірала бульбу, беручы з прыгожага, сплеценага з align рознакаляровых пруткоў кошыка. Твар яе свяціўся спагадай і замілаванасцю.

— Прачнуўся, саколік?

Ён нічога не адказаў, выйшаў у сенцы, выбраўся на шырокі драўляны ганак і знерухомеў, ашаломлены празрыстасцю раніцы, велічнай неабсяжнасцю блакітнага неба, прыгажосцю высокіх белых аблачынак, што віднеліся ў вышыні.

Над іхнім горадам не было такога неба. Штодзень ён бачыў толькі невялікі яго кавалак, выхаплены прагалам чатырох шматпавярховых дамоў, якія ўтваралі сабой глыбокі цагляны калодзеж, на дне якога на першым паверсе яны жылі. І ніколі ён не бачыў узыходу сонца. Цяпер шырока адкрытымі вачыма сачыў, як выплывае з ракі, якая серабрылася за раскошным лугам, вялізны чырвоны дыск, з урачыстай павольнасцю ўздымаецца ўсё вышэй і вышэй, з пунсовага робіцца залаціста-яркім, прамяністым. І ў адно імгненне ўсё наўкол змянілася, ажыло: трава заіскрылася, быццам на лузе загарэлася безліч драбнюткіх лямпачак, яшчэ зелянейшымі зрабіліся дрэвы, і ўрачыстую цішыню змяніў раптоўны, несціханы птушыны гоман. Ён стаяў, прытуліўшыся спінай да цёплай сцяны, глядзеў і слухаў гэтае хараство, разумеў, што і неба, і сонца, і трава зіхацяць і радуюцца таму, што бачаць яго, бо чакалі, не маглі дачакацца, калі ён выйдзе з хаты. Гэтак жа і птушкі, захоплена, наўзахваткі, вітаюць яго шматгалосым шчабятаннем. І ён нібыта растварыўся ў неабсяжнасці нябёсаў, у лістоце дрэў, у зіхаценні травы. Ад глыбокай удзячнасці, мілаты і любасці да ўсіх і ўсяго ў яго перахапіла дыханне, як і тады, калі глядзеў на зоркі, лёгенька закружылася галава, млявымі зрабіліся ногі, і ён бязвольна апусціўся на ганак, бязгучна, соладка заплакаў.

На ганак выйшла бабуля, убачыла яго слёзы, спагадліва нахілілася над ім, зазірнула ў вочы.

— А дзіцятка маё… Ножку пабіў?

Позірк яе блакітных вачэй быў ясны, прамяніўся дабрынёй і клопатам пра яго.

— Бабуля… — слёзы не давалі яму гаварыць. — А неба…

— Што — неба, саколік?

— Яно жывое?

— Ну, вядома, жывое.

— І сонца? І воблакі?

— І сонца, і воблакі. Вось некалі паляціш на самалёце і ўбачыш іх блізка-блізка. Яны як коткі, пушыстыя, лагодныя. Іх можна будзе пакратаць рукой, пагуляць з імі…

Машыну рэзка кінула ўбок. Кіроўца ціскануў і адпусціў тормаз, нягучна, праз зубы вылаяўся:

— Зараза! Падрэзаў.

І вінавата азірнуўся на гаспадара. Той, супакойваючы, крыху нахіліў галаву, выціснуў на твары нейкае падабенства ўсмешкі і зноў заплюшчыў вочы з надзеяй вярнуцца ў пяшчотны свет маленства. Але мелодыя, якая звязвала, яднала ў адно цэлае цяперашняе і мінулае, раптоўна груба абарвалася, і без усялякай паўзы яе змяніў разбітны, дзелавіта-ўзбуджаны голас папулярнага спартыўнага каментатара.

— Паважаныя радыёслухачы! Дарагія аматары шахмат! Усяго дзве гадзіны засталося да пачатку вялікіх, архізначных падзей, пра якія так шмат гаварылася і пісалася ў апошнія часы і якіх з нецярпеннем і хваляваннем чакаюць усе жыхары нашай планеты…

Кіроўца, зморшчыўшы ад прыкрасці твар, памкнуўся выключыць транзістар, але гаспадар яго зрабіў адмоўны жэст рукой, ссунуў бровы.

— Пакінь.

Кіроўца здзіўлена паглядзеў на гаспадара, кіўнуў яму ў знак таго, што ўсё зразумеў, прыпаў да руля, націснуў на акселератар, і лімузін імкліва, нібы раззлаваны за ўчыненую яму перашкоду, паімчаў, набіраючы хуткасць.

…— Так, я не перабольшваю — усе жыхары планеты, — працягваў узрушана каментатар. — І тут няма нічога дзіўнага, бо падзея гэта, несумненна, будзе лічыцца адной з самых знамянальных падзей нашага стагоддзя. Хто стане абсалютным шахматным каралём нашай планеты — жывы бялковы мозг ці электронны робат? Адказ на гэта нам дасць матч, які пачнецца неўзабаве ў Палацы Рэспублікі, адкуль я і вяду свой рэпартаж.

Ці можа машына мысліць? Гэтае пытанне паўстала адразу ж, як толькі з'явіліся электронна-вылічальныя машыны, і яно застаецца актуальным, да канца не вырашаным і ў наш час. Няма і кроплі сумніву, што там, дзе патрэбны шматлікія і складаныя разлікі, чалавек не можа спаборнічаць з камп'ютэрам. Гэта неаспрэчны факт. Але вось ці ёсць у робата шансы перамагчы свайго стваральніка ў творчай, інтэлектуальнай сферы? Здаецца, гэта ўжо не загадка. Сучасныя электронныя шахматысты лёгка выйграюць у гросмайстраў, намнога мацнейшыя за іх у аналізе, і тыя пакутна ўспрымаюць кожную сваю паразу… Далёка не забаўкамі здаюцца развагі пра тое, што рана ці позна электронны мозг заменіць чалавечы, і робаты адціснуць чалавека ва ўсіх сферах жыцця на задні план, і з часам, рана ці позна, мы ўсе трапім у электроннае рабства. І ўсё ж складваецца ўражанне, што апошняе слова чалавекам так і не было сказана.

Таму я маю смеласць сказаць: сённяшні паядынак паміж цяперашнім чэмпіёнам свету Радзімам Богушам і электронным монстрам «Дракон» з'яўляецца ці не лёсавызначальным для ўсяго чалавецтва.

«Дракон», як вам, пэўна, вядома, за пяць год не прайграў ніводнай партыі. Ні машыне, ні чалавеку. Але здзіўляе не толькі лёгкасць і колькасць яго перамог. Незабыўнае ўражанне пакідае якасць яго гульні. Звычайна шахматныя машыны адольваюць сваіх сапернікаў пераборам варыянтаў. Іх яны пералічваюць маланкава і на вялікую глыбіню. Камбінацыйны зрок, калі так можна гаварыць пра шахматнага робата, унікальны. Тут трэба адзначыць, што «Дракон» у шмат разоў пераўзыходзіць сваіх электронных братоў па ўсіх параметрах. Стыль яго гульні сведчыць, што ён, апроч гэтага, адметны стратэг. Цяжка паверыць, што яго стратэгічныя задумы грунтуюцца толькі на пераліку хадоў, — настолькі яны арыгінальныя і лагічныя. Як тут не ўспомніць словы вялікага Рыхарда Рэці, што шахматная праўда выяўляецца не столькі ў варыянтах, колькі ў ідэях. Складваецца ўражанне, што «Дракон», хацелі таго ці не яго стваральнікі, самаэвалюцыяніруе, набывае тое, што ў нас прынята называць інтэлектам, душой… Ва ўсякім разе, многія спецыялісты сыходзяцца на думцы, што «Дракон» — вяршыня сярод шахматных машын. Яго ўжо нельга пераўзысці. Магчымы толькі паўтор.

Двухразовы чэмпіён свету Радзім Богуш за апошнія пяць год таксама не прайграў ніводнай партыі. Няма на яго рахунку і нічыіх. Праўда, ён ніколі не сустракаўся з электроннымі шахматыстамі.

Безумоўна, Богуш — шахматны геній усіх часоў, роўных якому не было і не будзе. У яго няма зайдроснікаў. Хіба можна зайдросціць Богу?

У прыродзе нішто не адбываецца проста так. Усё ў ёй звязана паслядоўнасцю, рацыянальнай неабходнасцю. І з'яўленне такога феномена, як Богуш, ні ў якім разе не выпадковасць. У наш час, калі пахіснулася вера, што чалавек — самае дасканалае тварэнне прыроды, і выспявае думка, нібыта на змену яму ідзе электронны робат, прырода проста не магла не супрацьпаставіць яму жывы інтэлект, вяршыню

свайго тварэння, бо яна, як і мы, стаіць перад альтэрнатывай: каму панаваць на зямлі — чалавеку альбо яго злашчаснаму тварэнню?..

— Філосаф, — крыва, з пагардай пасміхнуўся кіроўца, але ў голасе яго чулася трывожная разгубленасць, а ўсмешка здавалася ненатуральнай.

Твар мужчыны па-ранейшаму заставаўся непарушным, вочы ягоныя былі заплюшчаны, і кіроўца не мог зразумець, слухае той каментатара, ці дрэмле, альбо думае пра нешта сваё.

— Аматары шахмат, безумоўна, добра ведаюць біяграфію Богуша, — чулася з дынаміка, — яго не зусім звычайны, я сказаў бы, аскетычны лад жыцця. Яму трыццаць два, ён не жанаты і жыве ў сваім загарадным асабняку амаль у поўнай адзіноце. Выязджае адтуль толькі на турніры і вельмі рэдка. Гэта лёгка зразумець: які сэнс гуляць, калі вынік вядомы наперад? У побыце ён вельмі сціплы. І справа, вядома, не ў нястачы грошай. Толькі за апошні матч на першынство свету ён атрымаў звыш дваццаці мільёнаў долараў.

Ёсць у чэмпіёна і яшчэ адно дзівацтва: ён ніколі не карыстаецца самалётам. Нават за акіян на турніры дабіраўся на караблі. Што таму прычынай — для ўсіх застаецца загадкай. Алергія на паветраныя падарожжы? Страх стаць ахвярай авіякатастрофы? Што ж, усё магчыма. Усе мы людзі. Версій і загадак шмат. Але сапраўдную прычыну, канечне ж, ведае толькі сам Богуш...

...З шырока распасцёртымі крыламі, магутны і грацыёзны, самалёт нагадваў серабрыстага велічнага птаха. Ён стаяў на шырокай бетоннай паласе і, здавалася, не мог дачакацца, калі, нарэшце, скончыцца пасадка, каб у той жа час пакінуць зямлю, імкліва рвануцца ў такі вабны блакіт неба, да воблакаў, да сонца.

Апынуўшыся ў самалёце, хлопчык адчуў, як затрымцела раптам ягонае сэрца, поўнае ўдзячнасці гэтай незвычайнай птушцы за тое, што дазваляе яму выправіцца разам з ёй у гэты палёт.

Бацька пасадзіў яго каля ілюмінатара, паклаў руку на плячо.

— Хочаш быць лётчыкам?

Ён нічога не адказаў бацьку, бо зусім не хацеў быць лётчыкам і ведаў: яны, гэтыя лётчыкі, тут толькі дзеля прыліку. Самалёту яны не патрэбны — ён сам уздымецца і паляціць, куды захоча. Яму не трэба нешта падказваць, кіраваць ім.

Запрацавалі рухавікі. Птах ажыў. Нутро яго напоўнілася прыглушаным гулам, а пасажыры сцішыліся, зрабіліся насцярожанымі.

А гул усё мацнеў, і самалёт ужо ўвесь дрыжэў, штосілы намагаўся адарвацца ад зямлі, аднак нешта моцна трымала яго, не хацела адпускаць. Нарэшце ён крануўся з месца. Спачатку павольна, быццам хацеў пераканацца, што ўжо нішто не стрымлівае яго, потым рухавікі загулі з шалёнай апантанасцю, і ён панёсся па бетоннай паласе з неверагоднай хуткасцю, а сама паласа зрабілася размытай, затуманенай і пачала падаць уніз, імкліва аддаляцца і нарэшце зусім знікла.

Ад страху яму зрабілася млосна, але, успомніўшы, які дужы і разумны гэты птах, ён адразу супакоіўся, усміхнуўся, пачаў неадрыўна сачыць за зямлёй. А яна мянялася ўвачавідкі, рабілася зусім непадобнай на сябе — чужой, халоднай, дзялілася на ўчасткі, падзеленыя прамымі межамі, перарэзанымі нітачкамі дарог.

Самалёт раптам пачаў валіцца набок, зямля некуды знікла, а ў круглае акенца было відаць толькі неба, на якім бялеліся вялікія бухматыя воблакі.

Неўзабаве самалёт выраўняўся, і ён зноў убачыў зямлю ўжо зусім непазнавальнай, ахутаную блакітнай смугой, непрыветную і абыякавую да ўсяго.

Ён з адчаем прыслухоўваўся, як расце ў ім незразумелая трывожная тужлівасць, быццам ён страчвае нешта вялікае і важнае, без чаго нельга жыць на свеце. І страчвае назаўсёды, незваротна.

— А воблакі будуць? — спытаў ён у бацькі, каб не даць гэтай роспачнасці зусім завалодаць яго душой.

— А то як жа. І хутка, — паблажліва пасміхнуўся той. — А праз якую гадзіну ўбачыш мора. О, гэта, брат, прыгажосць!

Але ён зусім не думаў пра мора, куды яны ляцелі на адпачынак.

Прыціснуўшыся тварам да акенца, ён пільна ўзіраўся ў аблокі, якія паволі набліжаліся і з кожным імгненнем гублялі сваю прывабнасць, рабіліся рыхлымі і цёмнымі. І самае страшнае — яны былі нежывыя. Ад іх веяла мёртвым холадам.

Тужлівая роспачнасць зноў палілася ў грудзі. Ён хацеў спытаць бацьку, ці на самай справе гэта і ёсць воблакі, як самалёт шумна шаргануўся аб нешта сваім чэравам, і ў салоне адразу зрабілася цёмна, няўтульна і страшна.

— Што гэта? — ён з жахам адхінуўся ад ілюмінатара.

— Воблака, — спакойна патлумачыў бацька. — Мы трапілі ў воблака.

— Гэта туман, — запярэчыў ён.

— А воблака і ёсць туман. Гэта здалёку, з зямлі, ён здаецца воблакам.

— Няпраўда, — крыкнуў ён з нянавісцю і адчаем. — Воблакі цёплыя і жывыя, як коцікі.

— Жывыя? Коцікі?

— Так бабуля казала.

— Ну, калі бабуля… — развёў бацька рукамі і пасміхнуўся.

Ён разумеў, што бацька пакеплівае з яго і бабулі, але самае балючае было тое, што праўда за бацькам. Ён разумеў гэта і ад няўцешнага гора сцяўся ў камячок, затрымцеў усім целам, горка заплакаў.

— Радзік, ты чаго? — спалохаліся бацька і маці. — Табе дрэнна?

— Мне страшна, — зманіў ён.

Бацька пасадзіў яго да сябе на калені, прытуліў да грудзей.

— Не бойся. Зараз вылецім з воблакаў — і будзе сонца.

Асляпляльнае, як успышка маланкі, святло знянацку ўдарыла яму ў вочы. Ён на імгненне зажмурыўся, але зараз жа расплюшчыў вочы і ўскрыкнуў ад захаплення:

— Сонца!

Яно было намнога ярчэйшым, чым хвіліну назад, а неба — бязмежным і глыбокім-глыбокім. Недзе пад імі бялелі густыя снегавыя паляны, яны апускаліся ніжэй і ніжэй, рабіліся ўсё прыгажэйшымі, але глядзець на іх яму было маркотна і горка. Ён ведаў: гэта падманлівая прыгажосць. Было ўражанне, што з ім зрабілі нешта нядобрае, страшнае. І нават бацька і маці, якія тут, побач, няздольны абараніць, ураtаваць ад гвалту, што чыніцца над ім і над імі. Яны нават не заўважаюць гэтага…

Воблакі былі ўжо далёка ўнізе, ператварыліся ў суцэльнае, з рэдкімі праталінамі, шэра-белае поле, але не цеплынёй і прывабнасцю веяла ад іх, а патыхала сцюжнай варожасцю. Сонца таксама было безуважным, адчужаным, і не толькі да яго, а да ўсяго на свеце.

Няўжо падманам быў і той ранак у вёсцы, на ганку бабулінай хаты?.. Няўжо і тады ўсё жыло само па сабе, ні пра што не дбаючы — сонца, неба, зямля?

Ён адчуваў, што гэта так, і знемагаў ад жудасці. Але яшчэ больш жудасным было адчуванне бязмежнасці прасторы, у якой ён апынуўся, і падсвядомае разуменне, што гэта бязмежнасць прасторы бясконцая, што яна будзе паглынаць іх глыбей і глыбей, каб не выпусціць з сябе ніколі.

І самалёт, які на зямлі здаваўся такім магутным, вялікім і разумным, на самай справе аказаўся драбнюткім і бездапаможным, вартым шкадобы, ва ўсім залежным ад гэтага маўклівага, бясконцага блакіту.

Сцяўшыся, глыбока ўцягнуўшы галаву ў плечыкі, ён услухоўваўся душой, як руйнуецца прыгожы, поўны чароўных гукаў і фарбаў свет, якім ён валодаў дагэтуль, які належаў толькі ЯМУ, існаваў толькі для ЯГО і ДЗЕЛЯ ЯГО. І разам з тым мярцвела і ягоная душа, з яе вылятала ўсё трапяткое і цёплае, саступаючы месца ледзяной пустэчы, якая панавала навокал. І ён прадчуваў, што гэта навечна, назаўсёды, што ніколі ўжо ён не будзе шчаслівы тым светлым, іскрыстым шчасцем дзіцячага наіву і няведання, як у тую раніцу…

Яго пачала біць ліхаманка. Прыціскаючыся да бацькавых грудзей, ён паспрабаваў ратавацца, хоць з роспаччу ўсведамляў, што ратунку няма.

— Хадзем адсюль! — у бяссіллі заплакаў ён. — Я не хачу… Я не люблю самалёт.

Дарэмна бацькі намагаліся суцешыць яго, суняць плач. Ён вырываўся з іх рук, біўся ў істэрыцы, жахаўся ад думкі, што яны не ведаюць, якая бяда напаткала яго, усіх…

— Я не люблю самалёт… Не люблю самалёт, — паўтараў і паўтараў ён у трызненні.

У аэрапорце іх ужо чакала машына хуткай дапамогі. Тры дні прабыў ён у бальніцы, потым бацькі забралі яго, і неўзабаве ён зусім ачуняў. Мора і сонца зрабілі сваё — так лічылі бацькі. І падумаць не маглі, што ўратавала яго смуглявая дзяўчынка Ірма, равесніца, з шаўкавіста-хвалістымі чорнымі кудзеркамі, з вялікімі карымі вачыма і заўсёднай усмешкай на пухлых пунсовых вуснах. Яны з маці жылі ў пакоі насупраць іхняга. Неяк, сустрэўшы яго ў калідоры, дзяўчынка ўсміхнулася яму, проста і даверліва прапанавала:

— Давай сябраваць.

Ён адказаў не адразу, бо быў ашаломлены яе прыгажосцю, зіхотнай усмешкай і неўтаймаванай жыццярадаснасцю, якой дыхала кожная рысачка твару дзяўчынкі.

— Добра, — нарэшце вымавіў ён і адчуў, як незвычайна лёгка і хораша зрабілася на душы.

З раніцы і да цямна яны былі разам, і сцюжнасць, якая халадзіла яму душу, пачала паціху знікаць.

… — Прырода пазначае сваіх абранцаў з маленства, і Радзім Богуш — яркае таму сведчанне.

Ад глыбокай пашаны і гонару голас каментатара сцішыўся, пацяплеў. Зрабіўшы невялічкую паўзу, каб даць слухачам у поўнай меры асэнсаваць выказанае ім меркаванне, ён з той жа трапяткой пачцівасцю пачаў абгрунтоўваць яго неаспрэчнасць.

— Ужо тое, што ў школу Богуша прынялі адразу ў чацвёрты клас, гаворыць само за сябе. А праз год ён — шасцікласнік. У трынаццаць атрымоўвае атэстат сталасці і залаты медаль за выдатныя адзнакі па ўсіх прадметах. Самы любімы яго прадмет, безумоўна, фізіка. Тут ён карыфей. Яму прарочаць вялікую будучыню, бачаць у ім геніяльнага атамшчыка. Дарэчы, у нас у студыі знаходзіцца ягоны школьны настаўнік фізікі Віктар Сідорка. Ён можа расказаць нямала цікавага пра свайго любімага вучня. Дарэчы, Богуш не раз у сваіх навуковых артыкулах успамінаў імя гэтага чалавека. Успамінаў з павагай і ўдзячнасцю. Калі ласка, Віктар Уладзіміравіч.

— Усё сапраўды так. Ніхто з настаўнікаў не сумняваўся, што перад намі будучае свяціла, вялікі фізік, — замяніў узбуджанага каментатара спакойны, прыемны барытон. — Фенаменальная памяць, востры і глыбокі розум і тая апантанасць, з якой вучань Радзім Богуш аддаваўся вучобе, давалі ўсе падставы верыць у гэта. Хуткасць, з якой ён чытаў і засвойваў, прычым засвойваў дасканала і глыбока навуковыя артыкулы, уражвала. За гады вучобы ў школе Богуш прачытаў безліч кніг і трактатаў па фізіцы. Ён штодня задаваў мне пытанні, часцей па атамнай тэорыі, і з кожным разам адказваць на іх было мне ўсё цяжэй. Тыя, хто мае дачыненне да гэта-

га раздзела фізікі, памятаюць яго артыкул, у якім ён паставіў пад сумніў некаторыя фундаментальныя сцвярджэнні знакамітых вучоных-атамшчыкаў. І даказаць дванаццацігадоваму хлапчуку памылковасць яго поглядаў аказалася вельмі няпроста.

…Высокі, стройны фізік у старанна адпрасаваным цёмна-карычневым гарнітуры, з мяккай, ледзь прыкметнай іранічнай усмешкай, якая хавалася ў левым куточку яго рота, спадабаўся яму з першага ўрока. Яго няспешная манера гаварыць надавала тлумачэнням пераканаўчасць, яго ўпэўненасць у сабе прымушала верыць, што ён ведае тое, чаго не можа ведаць ніхто іншы. Калі падчас кантрольных работ ён праходзіў паміж радамі парт, зазіраючы ў сшыткі і даючы парады, Богуш з нецярпеннем чакаў яго падыходу да сваёй парты. А той неяк асабліва, як роўны роўнаму, па-сяброўску клаў руку яму на плячо і пытаў з клапатлівай спагадай: «Ёсць праблемы?» І тады сэрца хлопчыка сціскалася ад шчасця. Ён употай любаваўся мужным профілем фізіка, і знікалі тады рэшткі страху і роспачнасці, зведаныя ім некалі ў самалёце, якія ўсё яшчэ жылі ў душы. Аднойчы, калі настаўнік, абапершыся рукамі на спінку крэсла, крыху падаўшыся тулавам уперад, пачаў тлумачыць атамную будову рэчываў, Богуш здрыгануўся і сцяўся ў чаканні, быццам спружына.

Нарэшце!

Нешта падказвала яму, што зараз ён уведае вялікую таямніцу, ад якой прасвятлее і вылечыцца назаўсёды яго душа, зменіцца само жыццё, і ўсё навокал заззяе, заіскрыцца, як ТОЙ СВЯТОЙ раніцай.

Позірк фізіка быў скіраваны некуды ўдалячынь, увышыню, здавалася, ён не думаў пра вучняў, не бачыў іх, а разважаў сам з сабою, даводзіў сабе неаспрэчныя ісціны, нетаропка вымаўляючы слова за словам. І кожнае з іх адгукалася жахам у душы Богуша, поўніла яе болем і роспаччу, руйнавала і размывала ўсё навокал, драбіла на драбнюткія часцінкі,ператварала ў пыл тое, што за хвіліну да гэтага было цэласным і непадзельным, утоптвала ў бруд прыгожае, мярцвіла жывое. І зноў ніхто, як і ў самалёце, не адчуваў, не ўсведамляў, што адбываецца жудасная сусветная катастрофа. Наадварот, усе з цікаўнасцю, нават з захапленнем успрымалі, як руйнуецца тое, што ён так любіў, чаму так радаваўся: дрэвы, кветкі, трава, дамы, самі людзі. Усё гэта толькі сукупнасць малекул, якія, у сваю чаргу, распадаюцца на асобныя малекулы, на атамы і гэтак да бясконцасці. І ўсё бачнае — неба, сонца, зоркі — усяго толькі воблака, шэры туман, падман і бяссэнсіца. Неадольная, страшная сіла выпіхала яго з-за парты, захлынала вар'яцтвам, змушала з адчайна-пранізлівым крыкам кінуцца да настаўніка, каб не даць яму гаварыць, прымусіць прызнацца ў хлусні, абвергнуць сказанае.

— Пра што думаем, Радзім?

Якое шчасце!

Ён сядзіць за партай, штосілы ўчапіўшыся пальцамі ў сядзенне, напяты, як струна, з усяе сілы намагаецца ўтрымаць сябе на месцы.

Занепакоена і пранікнёна зазіраючы яму ў вочы, быццам з намерам выведаць патаемныя думкі, настаўнік пераканаўча не то загадвае, не то ўгаворвае, а на самой справе падводзіць рысу пад усім, што гаварыў дагэтуль:

— Запомні: усё сказанае вельмі важна. Гэта аснова асноў светабудовы. Ключ да пазнання свету.

«Няпраўда! Навошта?! Я не хачу гэтага!»

Але хто зразумее ягонае неадольнае гора? Хто дапаможа, уратуе?

Ніхто.

І зноў адчуў сябе адзінокім, адрынутым, навечна асуджаным на штосьці страшнае, няўцешнае.

…Знешне анатам быў поўнай процілегласцю фізіку — нізенькі, тоўсты і тлусты, з вялікай круглай галавой з рэдкімі, падобнымі на пух валасамі, праз якія прасвечвалася ружовае цемя. Шырокі, набрынялы чырванню ягоны твар быў заўсёды самазадаволены, маленькія вочкі глядзелі на ўсіх іранічна і насмешліва. Ён абагаўляў і дасканала ведаў анатомію. Адкінуўшы галаву, прыплюснуўшы вочы тоўстымі павекамі і апусціўшы сашчэпленыя рукі на ніз круглага жывата, ён мог увесь урок прастаяць на адным месцы і, захліпваючыся, працяжна-саладжавым голасам расказваць пра будову цела, пра функцыі яго органаў, пра іх узаемадзейнасць.

— Абмен рэчываў — гэта тое, што мы называем жыццём, — захоплена казаў ён, раз-пораз смачна аблізваючы пунсовыя губы, уздымаючы для пераканаўчасці ўказальны палец над галавой. — Яго сутнасць — паступленне звонку арганічных і неарганічных рэчываў, іх засваенне, змяненне і выкідванне. Страва, якую мы ўжываем, па вялікаму рахунку — паліва, вугаль, што кідаецца ў топку нашага арганізма.

Разявіўшы рот, ён рабіў артыстычны жэст далонню, складзенай накшталт шуфліка, нібыта на самай справе закідваў у рот вугаль і, прыжмурыўшы задаволена вочы, рабіў сківіцай некалькі жавальных рухаў.

— А смак?

Гэта вырвалася ў Радзіка само па сабе, ад наплыву агіды і ўсведамлення таго, што руйнуецца ці не апошняе, на чым трымаецца яго цікаўнасць да жыцця і жаданне жыць.

— Вы хочаце ведаць, якое значэнне мае смак? — кпліва паглядзеў на яго анатам, нібыта абражаны недарэчным пытаннем. — Выключна практычнае. Каб адрозніць адну страву ад другой, карыснае ад шкоднага, неабходнае ад непатрэбнага. Гэта ўжо чалавечая схільнасць да скажэнняў змяніла яго першапачатковае прызначэнне, стварыла кулінарыю і спарадзіла гурманаў…

Ён амаль не памятаў, як дабраўся ў той дзень са школы дадому. Яму ўяўлялася, што ён ужо зусім не чалавек, а нейкае прыстасаванне для перапрацоўкі арганічных рэчываў, і ніяк не мог уцяміць, каму і навошта гэта трэба. А ў час абеду, ледзь толькі паднёс лыжку да рота, ягоныя вантробы раптоўна балюча таргануліся, даўкі камяк падкаціўся да горла. Увачавідкі ўявілася, як пераварваюцца ў страўніку салата, катлеты і, трапіўшы ў кішэчны тракт, пад уздзеяннем амінакіслот ператвараюцца ў «нізкамалекулярнае злучэнне». Зацiснуўшы рот далонямі, ён выскачыў з-за стала.

Яго ванітавала доўга і пакутна. Калі прыехала «хуткая», ён ужо нічога не ўсведамляў, адолены кашмарамі: усё развальвалася, ператваралася ў густую цёмна-шэрую мешаніну, якую ўсмоктваў гэткі ж брудна-шэры непраглядны туман. Туман усмоктваў і яго — раўнадушна і неадольна. Ён адчайна праціваўся, адмахваўся штосілы, хапаўся за падушку і, адчуваючы, як усё глыбей і глыбей вязне ў мярзотнай, задушлівай багне, выгінаўся ўсім целам, адчайна, без усялякай надзеі на выратаванне, крычаў:

— Я не хачу ў самалёт!

Усе баяліся, што хвароба зацягнецца надоўга, але ранкам ён узняўся з ложка, не зважаючы на пярэчанні бацькоў, пачаў збірацца ў школу. Паказацца псіхіятру, як раіў доктар «хуткай», як ні настойвала на тым маці, ён рашуча адмовіўся.

Што было з таго карысці? Ніхто не здольны яму дапамагчы. Для гэтага трэба змяніць сусвет. Такое немагчыма, нікому не пад сілу. Нават усім дактарам разам.

Ратаванне прыйшло зусім неспадзявана, выпадкова. Але ён успрыняў гэта як літасцівую спагаду невядомых вышэйшых сіл, якія пасылаюць яму збаўленне. Не проста ж так зацікавіўся ён гэтай невялікай, выкінутай кімсьці ў кантэйнер кніжкай. Яго незвычайна ўразіў каляровы малюнак на вокладцы кнігі — вялізны тэлескоп, а ў адкрытым люку абсерваторыі на фоне зоркавага неба — вялізная планета. Ужо

праз многа год ён зразумеў, што ўразіў яго не сам малюнак, а падтэкст яго, назва кнігі: «Сусвет і яго будова», якая праз выяву на вокладцы імгненна абудзіла ў ім спадзяванне на нешта. Хоць імя і прозвішча аўтара — Мікалай Рубакін — ні пра што не казалі.

Вярнуўшыся ў кватэру, ён старанна выцер вокладку, зачыніўся ў сваім пакойчыку, і ўжо першыя прачытаныя старонкі дыхнулі на душу гаючай прахалодай, адпусцілі з нявoлі. Прадчуванне не падвяло: кніжка не пакідала каменя на камені ад малекулярнай тэорыі, пра якую пісалася ў падручніках і пра якую так пераканаўча гаварыў фізік.

Ніякай смерці, ніякага хаосу ў прыродзе не існуе. Найдрабнейшыя часцінкі рэчываў зусім не мёртвыя, бяздушныя малекулы ці атамы, а бясконцае мноства населеных светаў, дзе мірыяды драбнюткіх людзей твораць гісторыю мікрачалавецтва.

«Калі мы зробімся меней за атам у некалькі мільярдаў разоў, то ядро атама будзе здавацца нам такім жа вялікім, як і Сонца. Бясконца малому, быць можа, і канца няма, як няма канца і бясконца вялікаму… Усе сусветы існуюць адзін у другім, меншыя ўсярэдзіне большых, і ў іх жыцці-быцці праяўляюцца адны і тыя ж правілы. Там вірue такое напружанае жыццё, якое мы сабе наўрад ці ўяўляем».

Кніжка была прачытана за вечар, і адразу ж усё навокал яго змянілася, ажыло. І раніцай, калі ішоў у школу, густы туман, што ахутваў горад, не здаваўся ўжо змрочным і варожым і не выклікаў тужлівасці і страху, бо і ён быў напоўнены жыццём, няхай нябачным, але гэткім жа напружаным і цікавым.

Але фізік на ягоныя роспыты пра электронных жыхароў толькі паблажліва ўсміхнуўся:

— У цябе вельмі багатая фантазія, Радзім. На вялікі жаль, сучасная навука нічога падобнага не выявіла.

— Гэта зусім не азначае, што на электронах няма жыцця, — з болем запярэчыў ён фізіку, і той, пільна паглядзеўшы яму ў вочы, пасур'ёзнеў тварам, задумаўся.

— Ні ў якім разе не азначае. Многае з таго, што мы ведаем цяпер, сто год назад людзі і ўявіць не маглі. І тое, што адкрыецца праз дзесяць, дваццаць год, зараз здалося б нам неверагодным. А што, пастаў сабе за мэту даказаць існаванне мікрасветаў. Вельмі цікавая праблема. І важная…

Пачуццё глыбокай удзячнасці варухнулася ў грудзях Богуша. Безумоўна, фізік быў чуйнай душы чалавекам і выдатным псіхолагам. Ён не стаў руйнаваць яго ілюзій і, сам таго не ведаючы, падарыў яму некалькі год шчаслівага жыцця, напоўненага пошукам і вялікай надзеяй. Надзеяй, якая ў рэшце рэшт разбілася аб неабвержнасць доказаў…

...— У семнаццаць год Богуш скончыў фізмат універсітэта, — экзальтавана распавядаў каментатар. — А яго дыпломная была прызнана вучоным саветам як кандыдацкая. Праз год ён ужо доктар. Але, як ні дзіўна, пасля абароны доктарскай Богуш назаўсёды парывае з навукай. Што магло быць таму прычынай, застаецца загадкай. Сам Богуш катэгарычна адмовіўся даць хоць нейкія тлумачэнні свайму незвычайнаму рашэнню.

Аднак благога без добрага не бывае. Магчыма, мы страцілі будучае свяціла навукі, але затое набылі геніяльнага шахматыста, роўнага якому не было і наўрад ці будзе…

...Яшчэ да абароны кандыдацкай і доктарскай ён ведаў, што з навукай для яго ўсё скончана. Тое, на што ён спадзяваўся, аказалася беспадстаўным меркаваннем Рубакіна. Ніякага жыцця на электронах не існуе і не можа існаваць. Гэта неабвержны факт. І свае навуковыя работы ён пісаў толькі дзеля таго, каб прынесці радасць бацькам, якія так ганарыліся сынам, жылі толькі ім.

Аднойчы яму прыснілася Ірма. Яны ляжалі побач на пляжы, на беразе мора, як і тады, у дзяцінстве, і наўкол не было ні душы. Невялікія ціхія хвалі мякка і рытмічна накочваліся на бераг, абдавалі іх цёплымі пырскамі, пяшчотна краналіся падэшваў ног. Яго ніколькі не дзівіла, што Ірма не маленькая, дробненькая дзяўчынка, а дарослая, прыгожая, з смалянiстымі, хвалістымі валасамі, смуглявым танкарысым тварам, з прыпухлымі пунсовымі вуснамі, між якіх бялелася палосачка роўных, белых, як снег, зубоў. Яна не зводзіла з яго палкіх, з павалокай вачэй, якія свяціліся глыбокай пяшчотай і ўлюблёнасцю. Ад гэтага позірку ў яго перахоплівала дыханне. Іх целы прыцiскаліся адно да аднаго ўсё шчыльней і шчыльней, дыханні зліліся, і ён адчуў саланаваты прысмак яе вуснаў. Шчымленне, ад якога заходзілася сэрца, перарасло раптам у пранізлівую, не зведаную ніколі дагэтуль асалоду.

Прачнуўшыся, ён доўга ляжаў нерухома. Шчасце перапаўняла яго. Цяпер ён ведаў: апроч малекул, атамаў, электронаў, хаосу існуе і нешта цэласнае, непадуладнае драбненню — каханне. Трэба толькі адшукаць Ірму — і жыццё набудзе паўнату і сэнс. Гэта несумненна, бо сон яго — пакліч душ, якія не могуць быць адна без аднае. Галоўнае не марудзіць, не губляць ні хвіліны, адшукаць яе як мага хутчэй.

…Ён доўга хадзіў па людным, стракатым ад featnakalyarovых купальнікаў пляжы, углядваўся ў твары жанчын, якія хоць нечым нагадвалі Ірму, бачаную ў сне. Калі бераг зусім апусцеў, а сонца завісла на небасхіле, гарачы ружовы туман, які столькі дзён засланяў ягоную свядомасць, неяк імгненна развеяўся, ён жахнуўся з самога сябе. Як можна было паддацца такому самападману і, кінуўшы ўсё, ехаць сюды з непахіснай перакананасцю, што яна тут сумуе, з нецярпеннем чакае яго? Гэта было памутненне розуму. Адназначна, яго душэўныя пакуты трансфармаваліся ў вар'яцтва. І сон той — пачатак гэтага вар'яцтва.

Але і вяртанне ў ранейшае жыццё здавалася не меншым вар'яцтвам. Халодная дрыготка скаланула цела ад уяўлення, што давядзецца зноў прыкідвацца перад бацькамі шчаслівым, зноў займацца ненавіснай цяпер навукай…

Сонца ўсё ніжэй апускалася да вады. Пляж апусцеў. Няспешна, фіксуючы кожны свой рух, ён пачаў здымаць з сябе адзенне.

Круг замкнуўся.

Выйсця не было.

Заставалася адзінае…

Павольным позіркам абвёў ён зацягнутыя сіняй смугой горы, паглядзеў у бледнаваты блакіт вечаровага неба, глыбока ўздыхнуў, увайшоў у цёплую ваду, дачакаўся хвалі, моцна адпіхнуўся ад дна і, роўнымі ўзмахамі падграбаючы пад сябе ваду, паплыў.

Ніякіх думак, ніякіх пачуццяў.

Пуста наўкол…

Азірнуўшыся на бераг, які ператварыўся ў невыразную рысу, ён падумаў, што наўрад ці хто заўважыць яго адтуль, набраў у лёгкія як мага больш паветра, каб потым не стала сілы вынырнуць на паверхню з вялікай глыбіні, як нехта некалі гэтак жа як і ён, змучаны жыццём…

— Радзім?..

Гэта быў амаль шэпт, але ён аглушыў яго, прымусіў азірнуцца.

— Ірма?

Твар яго пакутна перакрывіўся, і адразу ж на ім з'явілася ласкава-самотная ўсмешка: ён быў удзячны жыццю за апошняе насланнё.

— Пазнаў?

Яна была тая ж, што і ў сне, толькі большым шчасцем блішчэлі яе вочы.

— Ты адкуль?

Ён прагнуў, каб бачанае гэта доўжылася як мага даўжэй.

— Я плыла за табой. Я бачыла, як ты распранаўся. Усё вагалася: ты ці не? У цябе быў такі самотны твар. Табе цяжка?

— Цяпер — не. Я ведаю, ты — мая галюцынацыя. Але я шчаслівы, не выказаць, які шчаслівы.

Яна засмяялася.

— Я не галюцынацыя. Ты можаш мяне пакратаць.

Яна дакранулася пальцамі да яго пляча. Ён прыцiснуў яе далонь да шчакі і доўга не адпускаў — не верыў. Занадта неверагодным, нечаканым было ратаванне.

— Як ты тут апынулася?.. У гэтым горадзе?

— Прыехала адпачываць. Сёння.

— А раней прыязджала сюды?

— Ніколі.

— Як ты пазнала мяне?

— Цябе шмат паказваюць па тэлебачанні. І здымкі ў газетах…

— А я цябе прысніў. Нядаўна. Такой, як ты ёсць. Дзіўна.

— Нічога дзіўнага. Я столькі думала пра цябе.

— Але гэтая сустрэча… Якое супадзенне…

— Гэта лёс. Я моцна хацела, каб ты прыехаў. І ты прыехаў.

Яны даплылі да берага, апрануліся, па бетоннай лесвіцы ўзняліся на высокую шматлюдную набярэжную.

— Ты дзе спыніўся? — спытала яна.

— Пакуль нідзе. Я адразу ж прыйшоў сюды.

— Ідзем да мяне ў гатэль. Там ёсць незанятыя нумары.

Яна злёгку пачырванела.

— У гэтым гатэлі жылі многія знакамітасці, — быццам у нечым хацела апраўдацца яна. — Мастакі, кампазітары, пісьменнікі… Цяпер гэты спіс папоўніцца.

Яна сказала гэта без ценю жарту.

Ён спахмурнеў.

— Я ніколі не буду знакамітасцю.

— Ты ўжо знакамітасць.

Ён спыніўся, паглядзеў ёй у вочы, ціха, як пакляўся, сказаў:

— З навукай скончана.

Яна адмоўна пакруціла галавой.

— Гэта не ад цябе залежыць, Радзім.

— Скончана, — паўтарыў ён. — Дзеля цябе.

Твар яе ўспыхнуў радасцю.

Яна займала светлы, прасторны нумар. За шырокім, зацягнутым празрыстай шторай акном пералівалася, ружавела пад промнямі нізкага сонца мора — велічнае, спакойнае.

Мядзвяны, расплаўлены сонечны круг увачавідкі патанаў у пунсовай прасторы вады.

Паўзмрок, лёгкі і таямнічы, запанаваў у пакоі. І гэткай жа лёгкай, чуйнай і таямнічай была цішыня.

Нейкі час яны яшчэ ўглядаліся ў марскую далячынь, услухоўваліся ў ціхае, засяроджанае шапаценне хваляў, потым павярнуліся адно да аднаго разгублена-напружанымі, засяроджанымі тварамі.

Ён адчуваў, як крывяцца ў бездапаможна-вінаватай усмешцы яго вусны, праклінаў недарэчнасць гэтай усмешкі, намагаўся і ніяк не мог сцерці яе з твару.

Вочы Ірмы зблізу здаваліся незвычайна вялікімі, загадкавымі, вусны яе злёгку прыадкрыліся, быццам хацела нешта спытаць. Яна нечага чакала ад яго. Але ён ніяк не мог адважыцца. Цела нібы налілося ртуццю. Ён адчуваў, што далей марудзіць нельга, і з вялікім намаганнем паклаў рукі ёй на плечы, глыбока, перарывіста ўздыхнуў, дрыготкімі пальцамі расшпіліў гузік халаціка і застыў у жаху ад зробленага, сцяўся і з жудасцю чакаў пакарання. Тады яна нетаропка, быццам вяршыла абрад, пачала расшпільваць на ім кашулю. Ад дотыку яе пальцаў ён коратка, усім целам уздрыгваў, і кожны дотык быццам уліваў у яго грудзі прагу жыцця, якая збірала, сплаўляла ў адзінае цэлае ўсё тое, што было дагэтуль раз'яднана, надавала новае жыццё і значнасць пахам, гукам, рэчам, і ён з жахам думаў, што ўсяго гэтага магло не быць, калі б не той ратавальны сон.

Яны ляжалі, прытуліўшыся адно да аднаго, сцішаныя, напружаныя, і ён усё яшчэ з недаверам адчуваў, як адраджаецца ягоная стомленая, змярцвелая душа.

— Ты сказаў, што пакінеш навуку? — шэптам спытала яна.

— Так. Назаўсёды.

— Але чаму?

— Мне нішто не трэба. Апроч цябе.

— Значыць, усё праз мяне?

— Не толькі. Не трэба пра гэта. Я кахаю цябе. Я вельмі кахаю цябе.

Яна шчыльней прыціснулася да яго.

— Праўда, Радзім?

Гэта было не пытанне, а пякучае жаданне яшчэ раз пачуць сказанае.

— Так. Ты для мяне — усё. Ты мой Сусвет.

Штосьці падобнае на ўсхліп вырвалася з яе грудзей. Богуш крануўся вуснамі яе шчакі і адчуў саленаваты прысмак. Ён не маніў, бо сапраўды быў бязмерна шчаслівы і ведаў, што гэта яшчэ не ўсё, не мяжа, не вяршыня, што ёсць нешта большае, вастрэйшае за тое пачуццё, якое перапаўняла яго. І зведаць гэта ў яго ўладзе. Але неакрэслены, падсвядомы страх, як крык аб небяспецы, утрымліваў яго ад апошняга кроку.

— Так... — прашаптала яна, нібы ў трызненні. — Так…

Яе шэпт адагнаў страх і нерашучасць. Пругкая гарачая хваля падхапіла іх, імкліва пачала ўзнімаць усё вышэй і вышэй, і гэтаму ўзлёту не было канца, а сэрца, здавалася, не вытрымае, вось-вось выбухне, разляціцца на мноства часцінак…

Ён доўга ляжаў нерухома, спустошаны, уціснуўшыся ў падушку тварам, з роспаччу ўслухоўваючыся, як збягаюць рэшткі хвалі, якая толькі што гайдала іх.

«Не трэба было… Навошта…»

Ён не мог дараваць сабе, што не паслухаўся ўнутранага трывожнага голасу, пераступіў мяжу, якую нельга было пераступаць.

Адчуўшы на сваёй шчацэ дотык яе пальцаў, ён здрыгануўся, павярнуў галаву і ўбачыў твар Ірмы — удзячны, закаханы.

Яму зрабілася невыносна сорамна і брыдка за сябе.

Ірма пяшчотна правяла далонню па яго шчацэ, яшчэ і яшчэ, зноў прыціснулася да яго сваім гарачым целам, атуліла яго вусны сваімі, і ён з бурлівай радасцю адчуў, як вяртаецца, уздымае іх тая жыватворная хваля, якая вяртала з сабой усё тое, што зусім нядаўна адабрала. І, ахоплены верай у новае жыццё, ён з яшчэ большай, чым раней, апантанасцю зліўся з ёй, каб напоўніцу наталіцца салодкім забыццём і велічным усведамленнем сваёй далучанасці да Ірмы, да ўсіх людзей, да ЖЫЦЦЯ.

Гэта паўтаралася не адзін раз, з усё нарастаючай вастрынёй адчуванняў, з усё мацнейшай верай у сваё пазбаўленне, ажно пакуль абое яны, знямоглыя і шчаслівыя, не заснулі ў салодкіх абдымках.

Ужо развіднела. За акном, наколькі можна было бачыць, пералівалася пад сонцам мора. Яго мяккі пошум яшчэ больш супакойваў душу, на якой і без таго было лёгка і супакойна.

Асцярожна, каб не разбудзіць Ірму, ён сеў на ложку, абхапіўшы рукамі калені, глядзеў на мора, глыбока ўдыхаў вільготнае паветра і ўсміхаўся. Усмешка была ціхая, глыбока удзячная, якой можа ўсміхацца чалавек, нечакана і неспадзявана вызвалены ад нечага нядобрага, страшнага.

Перавёў позірк на Ірму: яна спала аголеная, заклаўшы руку пад галаву.

Ён п'янеў ад адной толькі думкі, што варта яму паклікаць, і яна адкрые вочы, апячэ яго сваім горача-перарывістым дыханнем, абаўе яго шыю рукамі, прытуліць да свайго выструненага цела, якое затрымціць у прадчуванні асалоды, і гэтае трымценне перадасца яму, адгукнецца ў кожнай яго клетачцы…

Ён адчуваў сваё адзінства з небам, сонцам, з усім жывым на зямлі, як і тады, у маленстве, калі захоплена глядзеў на лёгкія аблачынкі, душу яго поўніла бурная радасць, вера, што свет гэты — найвялікшы цуд.

Жорсткае расчараванне было яму адплатай за той наіў, за тое, што паверыў у міраж, даверыўся ўяўленню. Зараз не тое. Тут няма падману.

Тут КАХАННЕ.

«Каханне — хітрыкі прыроды, каб звесці двух асобін. Не болей за тое».

У пакоі нікога, апроч іх, не было, але ён добра пачуў нечы голас. Знаёмы голас. Так, гэта сказаў анатам, калі апавядаў пра палавыя функцыі і размнажэнне людзей. «Пры палавой блізказці адбываецца скарачэнне прыдатка яечніка і семяннога прытока, у выніку чаго семянная вадкасць выкідваецца ў мочаспускальны канал, кранаючы нервовыя канчаткі і тым самым выклікаючы асабліва вострую асалоду. Жаданне атрымаць яе ад пэўнай асобы і ўзносіцца як выключнае пачуццё, якое і называецца каханнем».

Цэласнасць свету з яго гарманічнасцю і прыгажосцю зноў пачала чэзнуць, распадацца, зацягвацца шэрым туманам, у якім завісла таўсматая постаць анатама, з сашчэпленымі на жываце рукамі, з кплівай усмешкай на тоўстых вільготных вуснах.

«Прэч! Прэч! — ужо гатова было вырвацца з яго грудзей, але прывід знік гэтак жа раптоўна, як і з'явіўся, пакінуўшы на ўсім свой магільны адбітак. Дзень імгненна пацямнеў, цела Ірмы страціла чароўную прыцягальнасць, пачало дзяліцца на органы, клеткі…

Вострая нянавісць і агіда да сябе душылі яго.

Свядомасць на нейкі час пакінула яго, а калі апамятаўся, убачыў, што ляжыць у ванне і трымае ў руцэ нож. Вострае лязо нібыта магнітам прыцягвала да вен. Заставалася толькі пераадолець страх болю, правесці па іх нажом, і ўсё скончыцца, знікне.

— Радзім, — аднекуль здалёк, нібы з іншай планеты, пачуўся ціхі, паўсонны голас Ірмы, і ён скалануўся ад жаху, што яна ўбачыць нежывое цела ў закрываўленай вадзе.

«Толькі не гэта!»

Ён выйшаў з ванны, асцярожна, каб не разбудзіць яе, пачаў апранацца.

Учора ён спакусіўся поклічам смерці, забыўшыся пра бацькоў, для якіх быў усім на гэтай зямлі. Пазбавіць сябе жыцця — асудзіць іх на бясконцае няўцешнае гора. Гэта недаравальна нават для мёртвага. Перад імі ён яшчэ можа выконваць ролю, якую трывае столькі год, і давядзе яе да канца.

Але Ірма…

Ужо ніколі між ім і ёй не будзе таго, што адбылося.

Ніколі ён не зробіць яе шчаслівай.

Нічога, апроч вінаватасці і жалю да яе, ужо не абудзіцца ў ягонай душы.

«За што?» — сціснуўшы кулакі, узняў ён твар да неба.

За што і навошта?.. Чаму ён не здольны бяздумна даверыцца таму самападману, з якім жывуць усе на зямлі?

Ён доўга ўглядаўся ў твар Ірмы.

— Даруй.

Штосьці перавярнулася ў яго душы. На лісточку з блакнота, цвёрдым почыркам выводзячы кожную літару, напісаў: «Бывай назаўсёды».

Пакінуўшы паперу на стале, яшчэ хвіліну глядзеў на Ірму, цяжка ўздыхнуў і бязгучна зачыніў за сабой дзверы.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Пераступіўшы парог светлага, па-бальнічнаму строгага — нічога лішняга — кабінета, Богуш раптам адчуў прыступ вострай, прыкрай да моташнасці тужлівасці. Яна імгненна перарасла ў раздражненне і пагарду да самога сябе, а потым у неадольнае жаданне павярнуцца і выйсці за дзверы, тым самым пазбавіцца пякучага сораму за сваю наіўнасць, за ўсплеск хваравітага, узгадаванага адчаем спадзявання.

Усё бескарысна.

Апроч хірурга, у медыцыне — адны шарлатаны.

Псіхіятры — больш чым хто.

І гэты не выключэнне.

Рослы, шыракаплечы доктар з густой рыжай шавялюрай, з шырокім касцістым тварам і тоўстымі, крыху вывернутымі вонкі вуснамі ледзь умяшчаўся за невялікім сталом. Ён сядзеў, падпёршы шчаку далонню. Праз тоўстае шкло важкіх, у рагавой аправе, акуляраў апатычна глядзеў у нікуды, нібыта нудзіўся сваёй работай, і толькі па прычыне абсурднай неабходнасці мусіў быць тут, прымаць хворых, выслухоўваць іх, выконваць пэўны махлярскі рытуал, у карысць якога ні ён сам, ні пацыенты ніколі не вераць.

— Сядайце, — кінуўшы беглы позірк на ўвайшоўшага, кіўнуў ён на крэсла збоч стала, працягнуў руку за паперкай, выдадзенай Богушу ў рэгістратуры, і, беручы яе, ужо больш пільна, без ранейшай санлівасці агледзеў яго, прачытаў напісанае.

— На жаль, не змагу выканаць вашы ўмовы, — прамовіў ён, вяртаючы квіток. — Я наконт ананімнасці лекавання.

— Я не зусім разумею, — хаваючы раздражненне, насупіўся Богуш. — Здаецца, у вас заведзена такая форма. У рэгістратуры…

— Усё так, — нахіліў галаву Забаронак. — Заведзена. Але ёсць адзін нюанс: я вас ведаю.

— Ведаеце? — Богуш злёгку пачырванеў. — Я ніколі не звяртаўся да вас раней.

— Нічога дзіўнага. Вы забыліся пра тэлебачанне, прэсу. Каго цікавяць душэўныя анамаліі, не можа не заўважыць такую фенаменальную асобу, як вы. У мяне не было сумніву, што нашы дарогі рана ці позна перасякуцца.

— Нават?

— Гэта натуральна. Калі КОСМАС пасылае нам геніяў, ён мала клапоціцца пра іх матэрыяльную абалонку — цела. Яно заўсёды разлічана на стандарт, сярэдні інтэлект і не здольна без негатыўных для сябе і для душы наступстваў утрымліваць у шматкроць завышаную разумовую і духоўную энергію. З тае нагоды ў душах геніяў заўсёды дыскамфорт.

— Ці, дакладней, наяўнасць вар'яцтва? — гаркава пасміхнуўся Богуш. — Вы ўжо залічылі мяне ў душэўнахворыя?

— У нейкай меры ўсе мы душэўнахворыя. Цалкам псіхічна здаровых, згодна зямному разуменню гэтага тэрміна, тэарэтычна не існуе. Яшчэ ніхто не вызначыў, каго можна ўзяць за эталон. А калі б і вызначылі, то ён быў бы адзіным на ўсё чалавецтва. Не існуе ў прыродзе абсалютна ідэнтычных індывідуумаў. Калі б вы азнаёміліся з маім апошнім артыкулам...

— Пра псіхічную шматмернасць?

— Цікавіцеся псіхіятрыяй? — крыху адхіліўшыся назад, з цікаўнасцю паглядзеў на яго Забаронак.

— Ніколькі. Часопіс з гэтым артыкулам трапіўся мне выпадкова. Праз вашага вучня. Гэта ён параіў звярнуцца да вас.

…Цягнік нібыта выраваўся з-пад усякай над сабой улады — з дзікай апантанасцю імчаў, іраваўся ўперад, шалёна грукацеў коламі, вагон няшчадна кідала з боку ў бок, здавалася, яшчэ момант — і ён не ўтрымаецца, адарвецца ад рэек, пачне куляцца, плюшчыцца, ператварацца ў нешта бясформеннае, жахлівае.

Уціснуўшыся спінай у перагародку купэ, Богуш яшчэ і яшчэ ўяўляў гэту катастрофу, бачыў сваё знявечанае, нежывое цела ў грудзе пакарабачанага металу і сцінаўся ад роспачнасці, калі насланнё праходзіла і даводзілася вяртацца ў рэальнасць. Такая смерць зняла б з яго ўсякую віну перад бацькамі, не была б для іх такой балючай, як самагубства. І ўсё не мог дараваць сабе, што не давершыў там, у моры, свой намер, калі туга і адчай памуцілі розум, сцерлі з душы ўсе пачуцці, апроч жадання пазбавіцца ад жорсткай неабходнасці жыць.

Усю дарогу, калі, пакінуўшы Ірму, ён сеў у цягнік, яго трэсла нервовая дрыготка, горача пульсавала, бесперапынна торгалася шчака. У вачах то цямнела, то праяснялася. Апроч таго, даймала прыкрасць, што сусед па купэ — год трыццаці інтэлігент, чорнавалосы, з разумным тварам — час ад часу з цікаўнасцю, крадком пазіраў на яго. А калі іх позіркі сустракаліся, без знаку збянтэжанасці пераводзіў вочы на старонку медыцынскага часопіса, што ляжаў перад ім на прываконным століку.

— Ды не зводзьце вы сябе, — нарэшце не стрываў той. — Папрасіце ў правадніцы аспірыну, гарачага чаю. Дапаможа, паверце.

— Дзякуй, — праз сілу ўсміхнуўся Богуш. — Гэта не тое... не прастуда.

Тады спадарожнік, пасуравеўшы тварам, больш пільна, з прафесійнай цікаўнасцю паглядзеў на яго, кіўнуў галавой.

— Зразумела. Зрэшты, я так і думаў. Нядобра… з нервамі?

Было ясна, што ён разумее пад «нервамі». Богуш зачырванеўся, акінуў назолу насупленым позіркам, аднак устрымаўся ад непрыязных слоў, адвёў вочы.

— Не ведаю. Магчыма.

— Не ведаеце? — быццам не заўважыўшы ягонай непрыязнасці, уразіўся спадарожнік. — І ніколі не звярталіся да доктара?

— Ніколі. Зрабіце паслугу — не турбуйцеся.

— А вось гэта дарэмна, — асудзіў той. — Звярніцеся абавязкова. Мне думаецца, у вас сур'ёзныя праблемы. Раю наведаць майго настаўніка прафесара Забаронка. У яго прыватная клініка. Унікальны псіхіятр.

Убачыўшы на твары Богуша ўжо непрыхаваную гняўлівасць і іронію, спадарожнік замоўк і ўжо не адрываўся ад часопіса да канца дарогі. Толькі на сваёй станцыі, калі выходзіў з купэ, падаў на развітанне вузкую халодную далонь з доўгімі тонкімі пальцамі і, паціскаючы яму руку, яшчэ раз параіў наведаць прафесара Забаронка.

— Адрас я запісаў у часопісе. Над загалоўкам яго артыкула. Калі надумаеце…

Богуш удзячна нахіліў галаву — рады, што той, нарэшце, пакідае яго ў спакоі.

Аднак адзінота сталася яшчэ цяжэйшай.

Калі раней ён намагаўся не паказаць свайго душэўнага стану, каб больш-менш прыстойна выглядаць перад незнаёмым чалавекам, то зараз яму даводзілася сам-насам заставацца са сваёй пакутай. І гэта было невыносна.

Раптам, нібы злітаваўшыся над ім, вагон тарганула, кінула ўбок з незвычайнай сілай, адарвала ад рэек, узняло высока над зямлёй, закружыла, нібы ліст паперы, у паветры, каб з раз’юшанай лютасцю, штомоцы ўдарыць аб зямлю. Густы ружовы туман заслаў яму вочы, заняло дыханне, і ён прагнуў толькі аднаго: каб усё адбылося хутчэй і без болю.

Пасля нясцерпна доўгага віхурнага кружэння вагон нарэшце сутыкнуўся з зямлёй, але не моцна, а толькі дакрануўся да рэек коламі і зноў шалёна загрукацеў імі, як на скрут галавы панёсся ўперад. Зрабіўшы над сабой намаганне, Богуш адкрыў вочы, убачыў, што па-ранейшаму сядзіць у купэ, уціснуўшыся ў перагародку, а за акном суцэльным белым марывам праносяцца ствалы бяроз. Ён зразумеў, што вар’яцее, і здранцвеў ад жаху: гэта для бацькоў было б намнога страшней і цяжэй за яго самагубства. Ратуючыся, каб хоць нечым заняць хворы, запалены мозг, ён пацягнуўся да часопіса, пакінутага на століку, пачаў бяздумна, амаль не ўнікаючы ў змест, прабягаць вачамі старонкі, ажно пакуль не дабраўся да той, дзе зверху над артыкулам «Шматмернасць псіхікі» прафесара Забаронка дробным выразным почыркам быў занатаваны адрас клінікі гэтага псіхіятра.

Ужо пачатак артыкула прымусіў Богуша засяродзіцца, а неўзабаве і забыцца пра ўсё, адступіла нават роспачнасць, і амаль знікла гарачыня, ад якой, здавалася, узарвецца цемя. Цяжка было паверыць, што прафесар псіхіятрыі прызнае рэальным існаванне хімер, міражоў, галюцынацый, а сны трактуе як часовае вызваленне душы з цела і яе блуканні ў іншых вымярэннях, недаступных чалавеку. Бо яму адведзены толькі трохмерны свет, ён бачыць, успрымае толькі яго і лічыць, што іншых вымярэнняў няма. Аднак быццё ёсць адкрытае пытанне з тае мяжы, дзе заканчваецца поле зроку. І таму, сапраўды, псіхіятр у сваёй практыцы ні ў якім разе не павінен скідваць гэты фактар з рахунку.

Апроч таго, і ў сваёй матэрыяльнай іпастасі душа не абмяжоўваецца трохмернасцю і мае пастаяннае судакрананне з безліччу іншых пpастopавых вымярэнняў. Гэта яе неад’емная і абавязковая для паўнацэннасці чалавека якасць. Але душы кожнага індывідуума вызначана толькі адзінае максімальна эфектыўнае для праяўлення чалавека як асобы судакрананне, якое робіць яго ці не паўбогам. Аддаленні ад гэтага адзінага судакранання адмоўна адбіваюцца на якасці чалавека як асобы па меры павелічэння адлегласці між неабходным судакрананнем і памылковым. Так што выснова, што кожны чалавек геній, але невядома, у якой сферы, — не такая ўжо і наіўная. Чаму Творца не ўказаў душам чалавекаў прадвызначаныя ім вымярэнні — вядома толькі Яму. Душы, якія не вызначылі свайго кода, якім кожная надзяляецца яшчэ ва ўлонні маці, а то і задоўга да таго, з’яўляюцца патэнцыяльнымі пацыентамі псіхіятраў, галоўная задача якіх — вывесці непрыкаяных, калі можна так сказаць, на прадвызначаную ім арбіту.

Ні для каго не сакрэт, што людзей, якім ад нараджэння пашчасціла знайсці сябе, — адзінкі. Астатнія толькі ў той ці іншай меры блізкія да ідэальнага спалучэння свайго духу з матэрыяльным светам. І таму ці не ўсе на гэтай зямлі маюць патрэбу ў псіхіятрычным умяшанні, і нездарма ў той жа Амерыцы ці не кожны, хто гэта можа сабе дазволіць, імкнецца займець асабістага псіхіятра…

…— Мой вучань? — перапытаў Забаронак. — Не Блюк?

— Мы не знаёміліся. Ён назваўся вашым вучнем — і толькі.

— Хударлявы брунет?

— Так. З бародкай.

— Безумоўна, ён пазнаў вас. Таму і параіў, — у роздуме ссунуў бровы Забаронак.

Здавалася, ён нечым азадачаны.

— Само сабой, вы не верыце ў карысць псіхіатрыі? — нечакана спытаў ён, рэзка ўзняўшы галаву. — Прымаеце за шарлатанства?

— Не веру, — адвёў вочы Богуш. — Прабачце… Што ёсць, тое ёсць.

— Не прачытаўшы майго артыкула, вы нізашто не пайшлі б ні да якога псіхіятра.

— Хутчэй за ўсё… Прачытаўшы артыкул, я падумаў: ён альбо вар'ят…

— Альбо геній? У вас ёсць выдатная магчымасць зрабіць канчатковую выснову, калі пажадаеце. Але для гэтага мне патрэбна ваша споведзь — падрабязная і шчырая. Без замоўчванняў і сарамлівасці, падрабязнейшая, да цынізму, споведзь.

— Баюся, гэта немагчыма, — адмоўна варухнуў галавой Богуш. — Вы і самі добра ведаеце і разумееце.

— Ведаю, — пагадзіўся Забаронак. — Чалавек чалавеку не здольны сказаць усёй праўды. Нават хворы доктару. Урэшце, гэта і не трэба. Пройдзем сюды.

Ён узняўся з крэсла, адчыніў дзверы ў сумежны кабінет, невялікі, утульны, з тонкімі жоўтымі шторамі на акне, з журнальным столікам і мяккім скураным крэслам перад ім.

— Сядайце, — кіўнуў ён на крэсла і паклаў на столік дыктафон. — Перад ім у вас не будзе сарамлівасці — пераканаецеся самі. Патрэбныя пытанні задам потым, калі праслухаю запіс. У калідор выйдзеце праз гэтыя дзверы.

Заўважыўшы недаўменны позірк Богуша, патлумачыў:

— Пасля «споведзі» вам не захочацца нікога бачыць. Не раз пацвержана. Заўтра ў мяне выхадны, і каб не губляць часу, зайдзіце да мяне дадому роўна ў дванаццаць дня. Ні раней, ні пазней. Свой дзённы графік я вяду па Канту. Вось мая візітоўка. Пастарайцеся пра ўсё падрабязней...

Веснічкі ў дашчатым, пафарбаваным у ярка-зялёны колер плоце падаліся лёгка і бязгучна, быццам запрашалі пераступіць невысокі парожак, прайсці ў глыбіню прасторнага двара, што патанаў у зеляніне дрэў і кустоў, сярод якіх стаяў высокі аднапавярховы дом з чатырохскатным дахам. Тарцовая сцяна, нібы зялёным кілімам, усцілалася плюшчом. Пад плюшчом хавалася і альтанка збоч дома. У ёй, падпёршы далонямі падбародак, сядзеў над шахматнай дошкай Забаронак і напружана ўзіраўся ў расстаўленую пазіцыю.

Буйная раскоша дрэў пад яркім сонцам перанесла на імгненне Богуша ў далёкае маленства, у ТОЙ ранак, дыхнула на душу пякучай журбой незваротнай страты, і зноў, як учора, сорам за свой наіў, а яшчэ за ўчарашнюю споведзь, пацяў яго нясцерпна. Ён пачаў ужо прыадкрываць веснічкі, каб неўпрыкмет выслізгнуць на вуліцу, але Забаронак, адчуўшы нечую прысутнасць, адарваўся ад шахмат, здзіўлена і, як падалося Богушу, незадаволена паглядзеў на яго, потым на гадзіннік. Калі Богуш наблізіўся да альтанкі, Забаронак паказаў на плеценае крэсла па другі бок століка і далікатна, хоць і з лёгкім дакорам, напомніў:

— Я чакаў вас праз чвэрць гадзіны.

— Мы дамаўляліся на дванаццаць, — запярэчыў Богуш. — На маіх роўна дванаццаць.

— Зараз адзінаццаць сорак пяць, — яшчэ раз зірнуў на свой гадзіннік Забаронак.

— Не можа быць, — не даў веры Богуш.

Тады Забаронак дастаў з кішэні мабільны тэлефон.

— Усё правільна — адзінаццаць сорак пяць.

— Прабачце, — збянтэжыўся Богуш. — Пэўна, я зрушыў стрэлкі пры заводзе.

— Нічога, бывае, — перавёў позірк на дошку і непрыязна зморшчыўся Забаронак. — Тыдзень б'юся, і ўсё марна. А заўтра неабходна адпраўляць адказ.

— Адказ? — нічога не мог зразумець Богуш. — Каму?

— На конкурс шахматнага часопіса.

— Што?

Богуш адчуў, як чэзне павага, якую невядома чаму выклікаў у яго гэты чалавек. Засмучэнне Забаронка з-за такой драбязы і ягонае захапленне шахматамі здаліся няшчырымі, манернымі, апроч таго, гэта нечым нібы абражала тую навуку і прафесію, якім, калі меркаваць па артыкуле, быў фанатычна адданы Забаронак.

Без усялякай цікаўнасці ён зірнуў на пазіцыю.

— Белыя пачынаюць і робяць нічыю?

— Так.

Забаронак уражана, быццам нешта хацеў і ніяк не мог асэнсаваць, глядзеў на яго.

— Вам адкуль вядома?

Замест адказу Богуш хутка, моўчкі пачаў перастаўляць фігуры.

— Вось ваша нічыя…

Ашаломлены Забаронак ніяк не мог адвесці ад шахматнай дошкі захопленага позірку.

— Фантастыка… Усё рашае манеўр Рэці…

Горкае расчараванне набегла на ягоны твар.

— Як жа я не мог здагадацца?.. Але — якая раскоша! Любіце шахматы? — паглядзеў ён з павагай на Богуша і збянтэжыўся. — Недарэчнае пытанне… Як жа інакш…

— Шахматы? — рот Богуша іранічна скрывіўся.

— А гэта? — не мог даць веры Забаронак. — Адразу знайшлі рашэнне! Такое немагчыма.

— Безумоўна. Аднойчы ў цягніку мне трапілася шахматная брашура. Там была старонка эцюдаў. Каб збавіць час, я рашаў іх. Там быў і гэты. Дарэчы, што азначае манеўр Рэці?

Забаронак нават таргануўся, хвіліну ўтрапёна глядзеў на Богуша.

— Гэта неверагодна… Самому, у аднячассе… Вы зусім не знаёмы з тэорыяй?

— Амаль што... — Богуш зірнуў на гадзіннік. — Роўна дванаццаць.

— Так, дванаццаць, — нібы абудзіўся Забаронак і зноў зрабіўся непранікнёна-апатычным, усяведным і недаступным ад гэтай сваёй усяведнасці.

Рабром далоні ён ссунуў з дошкі фігуры, падняў караля, які ўпаў са стала, заклапочана агледзеў фігуру, ці не пашкодзілася, і раптам кароткая сутарга прайшлася па яго твары, сурова сцяўся рот. Ён доўга сядзеў нерухомы, у глыбокім одуме.

Нарэшце, паставіўшы караля пасярод пустой дошкі, адкінуўшыся на спінку крэсла і зафіксаваўшы свой позірк на гэтай фігуры, ён, як падалося Богушу, не без іроніі, з лёгкай насмешлівасцю ці то пацікавіўся, ці то сцвердзіў:

— Несумненна, вы лічыце, што ваша хвароба не толькі невылечная, а нават выключная? Не мае аналагаў?

— Лічу, — суха вымавіў ён.

Яго адольвала зласлівае раздражненне. І тое, што Забаронак колькі хвілін імітаваў сваю адлучанасць ад усяго свету, і бляск ягоных вачэй — сведчанне раптоўнага азарэння — падаліся Богушу танным і брыдкім акцёрствам, жаданнем уразіць пацыента.

— Толькі не спрабуйце мяне пераконваць, што і хваробы ніякай няма, а ёсць толькі вымысел, маё ўяўленне пра яе.

— Не той выпадак, — пасуравеў тварам Забаронак. — Метад унушэння эфектыўны пры лекаванні натур простых і даверлівых, не схільных да самааналізу. Але што хвароба ваша самая распаўсюджаная і банальная — факт неаспрэчны. Яна першая, на якую захварэў чалавек.

— Вось як? Ва ўсякім разе, гэта арыгінальна, — саркастычна зазначыў Богуш.

Забаронак ніяк не адрэагаваў на рэпліку.

— Я пра яблык пазнання, — патлумачыў ён холадна, амаль безуважліва. — Безумоўна, вам вядома гэтая біблейская казачка. Аднак у ёй зашыфраваны вялікі сэнс, перасцярога. Змей-спакуснік, выгнанне з раю — не што іншае, як наказ не зазіраць за мяжу дазволенага. Наказ, якога чалавецтва не пажадала і не жадае ўнікнуць, за што і спасцігла яго расплата. Расплата жорсткая і не заўсёды ўсвядомленая намі.

— І ў чым яе сутнасць?

— За прыкладам хадзіць далёка не трэба. Вы — адна з ахвяр гэтага цяжкага аслушэнства.

— Прадугадваю вашу думку, — паспяшаўся пазбавіць яго ад тлумачэнняў Богуш. — Без пазнання і ведаў не прыдумалі б самалёт. І не было б таго ракавога палёту і яго наступстваў.

— Па сутнасці — так. Але на самалёт асабліва не крыўдуйце. Было б нешта іншае, хоць, можа, без таго шоку і душэўнага цынізму, які выклікае раптоўнае і дачаснае пазнанне.

— Дачаснае пазнанне?

— Як ні парадаксальна, праз яго чалавек страціў свой душэўны спакой, адчуванне поўнай гармоніі і адзінства з асяроддзем, з космасам. І тут чалавецтва нагадвае дзіця, якому падарылі дзівосную цацку. Напачатку дзіця ў захапленні ад падарунка, радуецца і цешыцца, але з часам яго больш і больш цікавіць ужо не сама цацка, а што ў яе ўсярэдзіне. У выніку — глыбокае расчараванне і паламаная цацка. Тое ж спасцігла і чалавецтва. Яму, як і дзіцяці, захацелася зазірнуць у асновы светабудовы. І па меры свайго пранікнення ў таямніцы руйнавалася ілюзія цэласнасці, якая і рабіла людзей шчаслівымі. Адсюль і поўны адчаю ўсклік. У вялікіх ведах шмат самоты. Ды што карысці? Атрута пазнання неадольная. І ніколі ніхто з нас не адчуе сябе часцінкай сусвету, як некалі. І як вынік — страта сэнсу жыцця. І каб хоць неяк адцягнуць увагу ад праклятага пытання — дзеля чаго і ў імя чаго мы жывём, — людзі гатовы на ўсё. Войны, каханне, здрады, рэлігія, прага багацця і камфорту падначалены гэтай мэце. Ды ўсё адно напрыканцы жыцця мала хто ўтрымліваецца, каб не падвесці ўсё пад адну рысу: «Марнасць над марнасцю».

Богуш гаркава ўсміхнуўся.

— Ім можна пазайдросціць. Адно — прыйсці да такой высновы ў апошнія часіны, другое — на пачатку жыцця.

— Што каму выпадае… Розум, талент, высакароднае сэрца і ўсякая перавага над людзьмі — гэта страшны дар прыроды, род праклёну, накладзены лёсам над чалавекам абраным… Кажуць, няшчасцямі і пакутай цэлага жыцця абранец павінен сплачваць за дзёрзкую прывілею быць вышэй за другіх.

— Я выракаюся гэтай прывілеі, — панура вымавіў Богуш. — Я ўжо казаў, што назаўсёды парваў з навукай.

— Позна выракацца, — холадна запярэчыў Забаронак. — Цяпер не ад вас залежыць. Трэба было рашаць ТАМ, калі давалі згоду на гэта. Канечне ж, вы не верыце ў Бога, у бяссмерце душы?

— Не веру.

— У тых, хто верыць, праблем накшталт вашай не існуе. І ўсё ж вы на нешта спадзяваліся, калі ішлі да мяне?

— Магчыма… — Богуш непрыязна паглядзеў на псіхіятра, быццам той злавіў яго на нейкай прыкрасці. — Не магу зразумець і зараз — чаму?

— Гэта натуральна, — падвёў Забаронак. — Спадзяванне не прызнае логікі. Асабліва калі ставіцца на кон жыццё. Ды ўсё не так і змрочна. Думаю, што змагу дапамагчы вам.

— Стандартны прыём. — Богуш з дакорам паглядзеў на Забаронка. — Суцяшаеце безнадзейна хворага?

— Я ведаю, як дапамагчы вам, — апатычна, не зважаючы на сарказм пацыента, паўтарыў Забаронак. — Гэта не хлусня. Некаторыя падзеі і факты вашага жыцця навялі мяне на адну ідэю.

— Цікава ўведаць.

Сарказм усё яшчэ гучаў у голасе Богуша, аднак у ягоных вачах прамільгнуў водбліск надзеі.

— Прыйдзе час — уведаеце, — запэўніў Забаронак. — Мне самому пакуль не ўсё ясна. Што-нішто трэба абдумаць і супаставіць. А пакуль — згуляем у шахматы.

І, ссунуўшы бровы, звыкла пачаў расстаўляць фігуры.

— Што? — уражана, упэўнены, што недачуў, перапытаў Богуш. — У шахматы?

— Так. Адну партыю, — кіўнуў Забаронак і далонню выраўняў пешачны шэраг. — Уступаю вам белыя.

Богуш адчуў, як прылівае да шчок кроў.

— Прабачце, але мне трэба ісці, — адмовіўся ён, узнімаючыся з крэсла. — Бывайце. Быў рады…

— Супакойцеся, — уладна спыніў яго Забаронак. — Вы прыйшлі за дапамогай і яе атрымаеце. Калі поўнасцю даверыцеся мне. Зыход гэтай партыі многае вырашыць. Больш таго, выйграеце — я гарантую вам поўнае пазбаўленне ад вашых пакут. ПОЎНАЕ ПАЗБАЎЛЕННЕ.

— Занадта проста, каб паверыць, — спустошана вымавіў Богуш. — А калі прайграю?

— Зноў-такі — гледзячы як прайграеце…

У голасе Забаронка чулася нешта магічнае, на твары была тая ж загадкавасць і глыбокая засяроджанасць. Але старанні ягоныя прапалі марна. Праўда, апроч пагарды да псіхіятра і новага ўсплёску раздражнення ад самога сябе з-за сваіх наіўных спадзяванняў, у Богушавай душы варухнулася і пачуццё своеасаблівай павагі да гэтага амбіцыйнага і зусім бяздарнага — цяпер ён быў перакананы ў гэтым — прайдзісвета, які выдае сябе за свяціла псіхіятрыі. Такой выкрутлівасці і вынаходлівасці трэба пашукаць. Ён выдатна ведае сваё бяссілле ў гэтай сітуацыі і цяпер думае толькі пра тое, каб пристойна выйсці з ганебнага для сябе становішча, захаваць твар. Несумненна, перамагчы гульца, які толькі і ўмее, што перастаўляць фігуры, для яго справа адной хвіліны. І потым паражэнне пацыента выкарыстае як прычыну сваёй няздольнасці дапамагчы яму. Брыдка і прымітыўна…

— Гэта не хітраванне, — нібыта ўгадаў яго думкі Забаронак. — Ідэя вашага ацалення патрабуе дакладнага ведання некаторых асаблівасцей вашага інтэлекту, псіхікі. Лепш за ўсё пра тое скажуць шахматы. Некалі Гётэ назваў іх пробным каменем інтэлекту. У дадзеным выпадку яго меркаванне спаўна адпавядае сутнасці. Рашайце...

Нейкі час Богуш стаяў у нерашучасці. Адзінае, што трэба было зараз зрабіць, — як мага хутчэй і назаўсёды развітацца з гэтым махляром, а заадно і з ілюзіяй свайго ацалення.

Аднак мімаволі ён апусціўся ў крэсла, пацягнуўся рукой да раскіданых па стале фігур, пачаў выстройваць зыходную пазіцыю. Не здолеўшы адразу справіцца са спакусай самападману і перацярпеўшы столькі прыкрага і ганебнага, пайсці і не пабачыць прыніжанасці Забаронка, краху яго высілкаў схаваць сваё прафесійнае банкруцтва — было б занадта шыкоўным падарункам для апошняга. Але гэта не адзінае і, можа, не самае галоўнае, што прымусіла яго застацца. Ужо ў наступны момант Богуш падлавіў сябе на думцы, што ўсё яшчэ не можа да канца адрынуць сваё спадзяванне на нешта. Расставіўшы фігуры, ён адчуў, як нешта жывое і цёплае палілося ў грудзі і пацішэла неадступная тужлівасць, якая ў апошнюю хвіліну адольвала яго з ненажэрнай, раз’ятранай хіжасцю.

— Віншую.

Голас прагучаў аднекуль здалёку, ціхі і крыху ўсхваляваны. Але гэтага было дастаткова, каб увачавідкі пачало рассейвацца, знікаць блакітна-залацістае ззянне, што ахутвала яго ўвесь гэты час, і разам з тым выпарвалася супакойнае пачуццё душэўнай паўнаты, якое выклікала адчуванне сваёй далучанасці да нечага велічнага, цэласнага і вечнага, пранізанага чароўнай мелодыяй, няўлоўнай для слыху, але якую можна было слухаць душой. Адарваўшы позірк ад дошкі, ён узняў галаву. Паступова перад вачыма, нібы з туману, пачалі вынікаць абрысы дрэў, дома, твар Забаронка, асвечаны сцішанай узнёсласцю, з ганарыста-пераможным бляскам у вачах, быццам чорныя толькі што атрымалі перамогу.

— Унікальна, — усхвалявана вымавіў ён, паціскаючы Богушу далонь і не выпускаючы яе. — Цяжка паверыць, але ўсё так.

Аднак гаварыў ён гэта нібыта не яму, а некаму нябачнаму ў недасягальнай вышыні, куды быў скіраваны ягоны позірк. Потым зноў пачаў узірацца ў пазіцыю на дошцы.

— Бліскучая атака. І заключная камбінацыя… — Ён захоплена пакруціў галавой. — Ды і ўся партыя… Між іншым, у мяне моцны першы разрад, — як нейкі важны факт паведаў ён. — І даволі паспяхова выступаю ў турнірах… Аднак вернемся да галоўнага. Я абяцаў вам пазбаўленне ад вашых пакут…

Богушу раптам зрабілася шкада яго, як было шкада ў дзяцінстве фокусніка, які аднойчы выступаў на іхняй школьнай сцэне і кожны фокус якога выкрываў кемлівы малады хімік, нядаўні выпускнік інстытута. Пасля чарговага выкрыцця фокуснік бянтэжыўся, ніякавеў, гаварыў нейкія ўхваленні кемлівасці і ўвазе хіміка і ўсім сваім выглядам, позіркам, выразам твару прасіў надалей злітавацца, але той не заўважаў яго маленняў, а можа, і не зважаў на іх.

— Не трэба пра гэта, — з грэблівай літасцівасцю перапыніў ён Забаронка. — Уваскрашэнне — не болей чым евангельская казачка.

— Казачка? — не пагадзіўся Забаронак. — Што ж, магчыма. Калі гаварыць пра цела. А вось наконт душы… Ва ўсякім разе, вам яно даравана.

— Нават даравана? Кім жа гэта? Як ведаеце, у Бога я не веру.

— Не ведаю, кім, — бліснуў вачамі Забаронак. — Але даравана праз мяне. Шахматы — ваш паратунак.

— Што?..

Цяжкое расчараванне вымыла з ягонай душы рэшткі ілюзій.

— Што вы хочаце гэтым сказаць? — з нянавісцю і пагардай паглядзеў ён Забаронку ў вочы. — Мне думалася, што вы больш вёрткі… Хітрэйшы.

— Тое, што сказаў: ваша збавенне — шахматы.

Непарушны спакой на твары Забаронка і перакананасць у голасе на хвіліну збянтэжылі Богуша, але ў наступны момант гнеў ад нахабства, за якім хавае сваё прафанства незадачлівы лекар, захліснуў яго. Усё ж ён прымусіў сябе пасміхнуцца.

— Дзякую за панацэю. Абавязкова запішуся ў шахматны клуб.

— Правільна зробіце, — ухвальна кіўнуў Забаронак. — Я добра разумею ваш недавер. Толькі гэта ніякае не шарлатанства. І зараз вы самі пераканаецеся ў тым, што іншага шляху для ацалення, апроч шахмат, для вас не існуе. Вы з'явіліся на свет для шахмат. Яны — тое адзінае псіхічнае вымярэнне, наканаванае вам звыш. Мяне асяніла гэта яшчэ да таго, як мы пачалі партыю. Хоць вам, з вашай абсалютнай атэістычнасцю і гіпертрафіраваным механічным светасузіраннем, развважанні, якія падвялі мяне да гэтай высновы, здадуцца абсурдам, хімерай.

Вочы Забаронка зрабіліся сярдзітымі і калючымі.

— Вы думаеце, проста так трапіла вам у рукі шахматная брашура і проста так менавіта гэты эцюд выпала рашаць мне на конкурс? І тое, што аказаліся з Блюкам у адным купэ? І тое, што гадзіннік спяшаўся на чвэрць гадзіны, — вам ні пра што не гаворыць?

— Ні пра што. Не разумею: што вы бачыце за ўсім гэтым?

— А тое, што гэта ні ў якім разе не супадзенне. Як сказаў адзін вялікі, нішто не адбываецца проста так. І нават хвароба ваша дадзена вам, я цвёрда перакананы, як блакіроўка ад іншых жыццёвых спакус. Каб, у любым выпадку, і сэнсам вашага жыцця, і самім жыццём былі адны яны — ШАХМАТЫ.

— Вашы развагі вельмі арыгінальныя. Толькі наіўна верыць, каб гэтыя драўляныя цацкі нешта змянілі, — Богуш пагардліва глянуў на шахматную дошку, на фігуры, здзіўляючыся, як яны маглі толькі што праменіць залацістае ззянне, гучаць чароўнай мелодыяй.

— Вы несправядлівыя да іх, — дакорліва запярэчыў Забаронак. — Хіба не перапаўняла вас незямное захапленне і ваша душа не шчымела ад няспыннай перамены пачуццяў? У час гульні я ўважліва назіраў за вамі і чытаў кожны рух вашай душы. Я адчуваў, як ліхаманкава б'ецца ваша сэрца, калі віншаваў з перамогай.

— Не адмаўляю, — стомлена ўздыхнуў Богуш. — Я тады забыўся пра гэты свет. Але гэта была ўсяго толькі гульня.

— Думаеце? — скептычна выгнуў вусны Забаронак. — Але што тады не гульня? Мы ўжо гаварылі пра тое. Ды шахматы і ёсць, калі хочаце, квінтэсенцыя жыцця, яго духоўная мадэль. Нездарма ж іх называюць гульнёй багоў. Можна смяяцца, але часам мне думаецца, што яны існавалі задоўга да з'яўлення чалавека, самаго жыцця. А чалавек, жыццё — вынік жадання багоў матэрыялізаваць шахматныя ідэі і законы. Яны і былі спраектаваны на чалавечыя адносіны. Як і ў жыцці, у шахматах уладарыць пакутны пошук ісціны і сэнсу, а гэта значыць — абсалютнай гармоніі. Невыпадкова ўсе вялікія шахматысты абыякава ставіліся да зямных праблем, уцякалі ад іх у шахматы, дзе можна было весці тыя пошукі без бруду, крыві, здрад і зняваг, без якіх немагчыма адшукаць ісціну ў матэрыяльным свеце. А ў шахматах уладарыць дух і толькі дух, у сваім найвышэйшым праяўленні. І кожная згуляная партыя — цэлае пражытае жыццё з яго спадзяваннямі, роспаччу, радасцямі, расчараваннямі і сэнсам. За мяжой шахматнай дошкі для вас не будзе нічога існаваць. У вас будзе свой, асобны свет, без атамаў і электронаў, і ўсё, апроч шахмат, будзе для

вас толькі навязлівым сном. І ўжо не прыземленая мэта навукоўца павядзе вас за сабой, а жаданне ўзносіць свой дух над духам усіх людзей, стаць лепшым шахматыстам свету. І вы ім станеце. Бо ніхто не здольны быць так адданы шахматам, як чалавек, які адмаўляе ўсе іншыя радасці. А шахматы спаўна плацяць за адданасць.

Забаронак адкінуўся на спінку крэсла.

— Я ведаю, — зноў пачаў ён, — мае разважанні не пераканалі вас, але з часам вы ўсвядоміце, што гэты шанц нечага варты. Ва ўсякім разе вы не губляеце нічога…

Богуш доўга маўчаў, унурыўшыся ў сябе, потым пахмурна паглядзеў Забаронку ў вочы, з прыхаванай крыўдлівасцю чалавека, якому так шмат абяцалі і не споўнілі абяцанага, глуха спытаў:

— Іншага выйсця вы не бачыце?

Забаронак адмоўна варухнуў галавой.

— Яго проста не існуе. Аднак гэта маё асабістае меркаванне. Можаце звярнуцца да іншага псіхіятра.

Богуш павольна ўзняўся, кінуў няўважна, зірнуўшы на шахматную дошку:

— Бывайце. Усяго найлепшага. Ваш ганарар?

— Зараз вызначыць яго немагчыма, — Забаронак таксама ўзняўся, працягнуў на развітанне руку. — Заплаціце, калі пераканаецеся, што недарэмна наведаліся, і самі вызначыце кошт маіх паслуг. І яшчэ. Я ўпэўнены: шахматы нясуць у сабе нейкую вялікую таямніцу. КАСМІЧНУЮ. Магчыма, вам яна адкрыецца. Буду ўдзячны, калі паведаеце яе мне.

— Абавязкова, — кіўнуў Богуш. Апынуўшыся за веснічкамі, адчуў неймаверную палёгку ад таго, што скончылася нарэшце гэтае блюзнерства. Але доўга яшчэ ён не мог пазбавіцца прыкрасці і сораму, што шукаў дапамогі ў таго, хто сам мае пільную патрэбу ў сваіх калегах-псіхіятрах.

Ступіўшы на сцэну і ўбачыўшы каля шахматнага століка толькі адно крэсла, ён адчуў у душы тужлівы павеў, і адразу ж туга змянілася лёгкай збянтэжанасцю і здзіўленнем: не чулася гучных воплескаў, якія нязменна ўсчыналіся і доўга не сціхалі, варта яму было апынуцца ў турнірнай зале. Ён нават уразіўся, што гэта маўчанне непрыемна ўшчыкнула яго самалюбства. Не спыняючыся, злёгку павярнуўшы галаву ў бок перапоўненай залы, слізгануў позіркам па маўкліва-трывожных тварах і сеў у крэсла. Колькі хвілін сузіраў светла-жоўтыя і чорныя баявыя шэрагі, потым упэўнена перамясціў каралеўскую пешку на квадрат е4, узняў позірк на вялізны каляровы манітор, дзе імгненна прадубліраваўся ягоны ход. «Дракон» імгненна адказаў ходам пешкі с7 — с5. Богуш адчуў непрыемнае тамленне ў грудзях, якое раптоўна і знікла, як толькі суддзя пераставіў на дошцы чорную пешку. Халодны спакой, усведамленне сваёй моцы і вышэйшасці авалодалі ім, выцеснілі рэшткі сумніву, што тоіўся недзе глыбока ў падсвядомасці. І яшчэ вастрэй адчуў і зразумеў трывожнасць тых, хто назіраў за гульнёй. Падумаў, што праўда за Забаронкам: кожны ў той ці іншай ступені хварэе на ягоную хваробу, хоць і намагаецца не заўважаць яе. Толькі зрэдку, калі ўсведамленне цынічнай успышкай працінае душу думкай, што ўсё — хаос і бессэнсоўнасць, яна скаланаецца ад жаху. Цяпер гэты жах запанаваў ў поўную сілу, бо перамога электроннага монстра будзе доказам, што рана ці позна ХАОС возьме верх над духам і розумам.

У прасторнай утульнай гасцёўні, хоць тэрмометр за акном паказваў за +20, стаяла лёгкая прахалода. Мякка фурчэў вентылятар, свяціўся плоскі экран тэлевізара. Забаронак і Блюк, размясціўшыся ў глыбокіх крэслах, не зводзілі вачэй з экрана

тэлевізара. Перад імі стаяў столік з нізкім пузатым самаварам, парцалянавым, з сіняй разводкай заварнікам і двума парцалянавымі кубкамі.

Першы ход Богуша здзівіў іх абодвух. Здзівіў ён і каментатара — апошняга саперніка Богуша за чэмпіёнскі тытул.

— Як бачым, чэмпіён свету пачаў партыю ходам е2 — е4, — у голасе гросмайстра чулася прыхаваная разгубленасць. — Ходам, які непазбежна і адразу вядзе да вострай, насычанай камбінацыйнымі матывамі барацьбы. Прызнацца, мне не зусім зразумела, чаму Богуш пайшоў на гэта. Безумоўна, ён ведае, што камп’ютэр пралічвае каля мільярда хадоў у секунду, у вострых сітуацыях пачувае сябе, калі так можна сказаць пра машыну, як рыба ў вадзе. Сапернічаць з ім у гэтым амаль немагчыма. Нават такому феномену, як Богуш. Больш лагічным, на маю думку, было хадзіць ферзевай пешкай d2 — d4 — пачатак, які абяцае больш спакойную гульню, дзе з большай выгодай для сябе можна весці барацьбу, абапіраючыся апроч разліку варыянтаў на логіку і шахматную інтуіцыю, якой спаўна надзелены чэмпіён. Але не нам судзіць вялікіх. Хутчэй за ўсё, ён палічыў за ганьбу прызнаць сябе хоць у нечым слабейшым за «Дракона» і таму не стаў вышукваць для сябе нейкіх пераваг, вырашыў змагацца з адкрытым забралам. Хутчэй за ўсё так.

— Наўрад ці так, — у сумніве пакруціў галавой Забаронак. — Тут нешта іншае. Абсалютная ўпэўненасць — не падстава ставіць сябе ў горшае становішча. Гэта супярэчыць шахматам. Што адкажа машына? Сіцыліянка?

— Б’юся аб заклад, што ён абярэ варыянт «Дракона», — Блюк адпіў глыток з кубка. — Не магу пазбавіцца ўражання, што гэты пажэрца гросмайстраў — жывая істота.

— З яго боку гэта было б пацешным выбрыкам, — заўважыў Забаронак. — Многіх бы кінула ў шок.

Але ўжо праз некалькі хадоў нават па тэлевізары было чуваць, як па зале пракаціўся стрыманы гул, гул здзіўлення, і каментатар, таксама не хаваючы сваёй уражанасці, паведаў, што разыграны папулярны ў свой час варыянт «Дракона», надзвычай востры, з мноствам падводных рыфаў.

— Варта некаму зрабіць недакладны ход — і ўсё можа скончыцца для яго імгненнай катастрофай. Можна абвінаваціць мяне, Забаронка, у фантазёрстве, але не магу пазбавіцца ўражання, што з чэмпіёнам гуляе жывы інтэлект. Бо сімвалічнасць навідавоку: «Дракон» абірае варыянт з гэткай жа назвай. Аднак чэмпіён, як заўсёды, бясстрасны, упэўнены. Нібыта пасміхаецца з цуда-камп’ютэра, з яго намеру стаць абсалютным чэмпіёнам як сярод машын, так і сярод людзей.

Забаронак паморшчыўся: не іронію, а праяўленне найвышэйшай напружанасці розуму чытаў ён на твары свайго пацыента. Па тым, як той перастаўляе фігуры, націскае кнопку гадзінніка, беспамылкова вызначыў, што напружанасць гэта ўзрастае з кожным ходам.

— Здаецца, чэмпіён аступіўся, — расчаравана ўздыхнуў Блюк пасля чарговага хода белых. — Губляецца пешка с3.

І калі «Дракон» замест таго, каб забраць яе, пахадзіў канём на f6, раздражнёна крэкнуў:

— Нічога не разумею. Не заўважыў?

— Атручаная пешка, — пільна ўзіраючыся ў пазіцыю на экране, патлумачыў Забаронак. — Як паказала вядомая партыя Карпаў — Гік, чорныя прайграюць амаль фарсіравана. Карпаў тады адшукаў унікальны ход. Камп’ютэр, думаю, таксама знайшоў яго.

Тое ж, амаль слова ў слова, паведаміў і каментатар. Але калі праз пяць-шэсць хадоў ён паспрабаваў даць ацэнку пазіцыі, цвёрдай упэўненасці ў ягоным голасе ўжо не было.

— Вельмі цяжка вызначыць зараз, хто стаіць лепш. Пазіцыя настолькі складаная і заблытаная, што патрэбны глыбокі аналіз, каб больш-менш дакладна вызначыць шанцы бакоў. Як заўсёды, у варыянце «Дракона» белыя вядуць прамую атаку на караля, імкнуцца любым чынам узламаць абарону чорных. Тыя, у сваю чаргу, «хвастом дракона» гатовы нанесці смяротны ўдар па ферзевым флангу белых. У каго болей магчымасцей — сказаць цяжка. Па статыстыцы перамог — мінімальная перавага за белымі, але гэта ўсяго толькі статыстыка. Хоць «Дракон» за секунду пралічвае мільярды хадоў і беспамылкова выбірае найлепшы, аднак існуюць сотні мільёнаў пазіцый, якія чалавеку пралічваць не трэба. Ён бачыць іх вартасці і задачы дзякуючы свайму інтэлекту і інтуіцыі. Гэта галоўны козыр Богуша. Зараз ход Богуша, і ён думае над ім амаль дваццаць хвілін. Ягоная пахмурнасць, здаецца, сведчыць аб тым, што ён не зусім задаволены сваім становішчам, хоць, на маю думку, ніякіх падстаў для таго няма. Белыя стаяць ніколькі не горш за чорных. А магчыма, крыху і лепш. Аднак... Што такое: Богуш просіць суддзю падысці да яго. Нейкае непаразуменне? Як бачым, пасля кароткай перамовы Богуш паварочвае крэсла спіной да шахматнага століка, садзіцца ў яго, адкідваецца на спінку. Няўжо ён збіраецца гуляць «усляпую»? Неверагодна, але гэта так! Чым выклікана такое рашэнне? Жаданнем уразіць гледачоў?

— Думаю, усё скончана, — расчаравана ўздыхнуў Блюк. — Ён, відаць, спасціг, што пазіцыя прайграная, і ідзе на трук, каб спісаць паражэнне на сваю залішнюю саманадзейнасць.

— Магчыма, паражэнне для яго — найлепшы варыянт, — у роздуме заўважыў Забаронак. — Калі не адзіны.

— Што? — зірнуў на яго Блюк. — Гэта чаму?

— Перамога для яго страшней за паразу. Шахматы страцяць для яго ўсякую цікаўнасць. Яму не будзе чым жыць. І старое вернецца зноў. Цяпер ужо назаўсёды.

— Бадай што так… — скрушна пагадзіўся Блюк. — Што ж, паглядзім, чым скончыцца… Ва ўсякім разе, вы зрабілі, што маглі.

…Веснічкі, як і некалі, адчыніліся лёгка, бязгучна, як і тады ў альтанцы, ён убачыў Забаронка. Але на гэты раз з ім быў малады чарнявы мужчына, у якім Богуш пазнаў свайго колішняга суседа па купэ. Абое яны сядзелі за столікам, на якім стаяў вялікі крышталёвы збан з дамашнім віном і міса з буйнымі спелымі чарэшнямі. Забаронак, нахіліўшыся над шахматнай дошкай, разглядваў пазіцыю, а Блюк, паклаўшы нагу на нагу, чытаў газету. Час ад часу ён браў фужэр з віном, рабіў глыток, зацягваўся цыгарэтай і зноў паглыбляўся ў чытанне. Калі Богуш наблізіўся да альтанкі, абодва ўтрапёна паглядзелі на яго, а Блюк нават злёгку трасянуў галавой.

Забаронак імгненна авалодаў сабой.

— Прысаджвайцеся і частуйцеся, — запрасіў ён, паціскаючы Богушу руку. — Рады госцю.

Поціск Блюка быў нашмат далікатней, і збянтэжанасць усё яшчэ не сыходзіла з ягонага твару. Прысеўшы на лаву, Богуш адпіў віна, ухвальна кіўнуў.

— Чароўны водар.

І, паклаўшы ў рот чарэшню, зажмурыўся ад асалоды.

— Вас, вядома, здзіўляе мой візіт, — паглядзеў ён на Забаронка. — Хіба не так?

— Ніколькі, — адказаў Забаронак. — Больш таго — я чакаў вас.

— Нават? — сумеўся Богуш. — З якое нагоды?

— Самі ведаеце. Выйграць у «Дракона» матч з лікам 6:0 усляпую, амаль не задумваючыся над хадамі… Шахматы для вас вычарпаны. Таму і прыйшлі. Але я ўжо нічым не дапамагу. Іншага лекавання я не ведаю.

Богуш паблажліва пасміхнуўся, паклаў у рот чарэшню, гарэзна падміргнуў Забаронку.

— Я не за тым. Я прынёс ганарар.

Забаронак неўразумела насупіўся, паціснуў плячыма.

— Восем год таму мне перадалі ваш чэк на мільён долараў.

— Я прынёс яшчэ адзін чэк. На пяць мільёнаў.

— Не трэба, — адмовіўся Забаронак. — Проста так я ганарары не бяру.

— Шкада. Грошы для мяне ніколі нічога не значылі. Тым больш зараз, калі за матч з «Драконам» мне сплацілі пяцьдзесят мільёнаў. Амаль штодня невядома ад каго на мой рахунак паступаюць вельмі буйныя сумы. Мільён за тое, што вы зрабілі для мяне, — мізэрная плата.

Богуш замаўчаў. Доўга з цеплынёй глядзеў на Забаронка.

— Праўда была за вамі, — загаварыў нарэшце ён. — Шахматы настолькі захапілі мяне, што ўсё іншае нібы сышло ў нябыт. Гэта быў МОЙ СВЕТ. Не дом, не крэпасць, у якой я хаваўся ад хваробы, а менавіта СВЕТ, у якім я жыў паўнацэнным жыццём. Я так часта ўспамінаў вас, але толькі ў матчы з «Драконам» у поўнай меры зазнаў, ШТО вы для мяне зрабілі.

— Вельмі хочацца ведаць — што? — не стаў хаваць сваёй цікаўнасці Забаронак.

— Вы не памыляецеся — я ніколі не буду гуляць у шахматы, — нібы не чуў яго Богуш. — Але праз іх я набыў большае. Непамерна большае.

Забаронак маўчаў, але не мог схаваць палкай цікаўнасці, якую праменіў яго позірк.

— Так, яны сапраўды нясуць у сабе КАСМІЧНУЮ таямніцу. І вы адзіныя, каму я адкрываю яе. З умовай, што нікому ніколі пра яе не раскажаце. Каб не прынялі і мяне, і вас за вар’ятаў.

— Як скажаце, — кіўнуў Забаронак.

— Ваша праўда. Калі я пагадзіўся на матч з робатам, то ў аднолькавай меры прагнуў перамогі і баяўся яе. Сярод людзей, роўных мне, шахматыстаў не было, і ўжо рэдка якая сустрэча прыносіла хоць нейкае духоўнае задавальненне, выклікала адчуванне гармоніі і паўнаты жыцця. Я з жахам заўважаў, што зноў вяртаюся ў пакуты метафізічнага светасузірання. У панаванне хаосу і бяссэнсіцы. Аднак і атрымаць паразу ад машыны, хоць бы ў адной партыі, азначала перавагу бяздушнасці над духам, нежывога над жывым. Урэшце, я вырашыў даверыцца ходу падзей. Няхай будзе, як будзе. Бацькоў маіх ужо не было на свеце, а развітацца з жыццём заўсёды здавалася мне справай нескладанай і заманлівай. І, каб адразу высветліць, хто чаго варты, выбраў адкрыты дэбют. Ніколі ў жыцці я не прагнуў так перамогі: ні ў матчах, ні ў турніры. І ніколі не зведваў такога хвалявання, за што ўжо быў удзячны тым, хто наладзіў гэтую сустрэчу. Аднак дзесьці на дваццатым ходзе я інтуітыўна адчуў, што пазіцыя не на маю карысць. Ніхто гэтага, вядома, не заўважаў, гэта нельга было заўважыць, а можна было толькі адчуць. Для мяне было ясна, што я саступаю яму ў разліках. І шмат саступаю. Так што такая важная для шахматыста-чалавека якасць, як інтуіцыя, тут зводзілася амаль да нуля, лёгка перакрывалася далёкім і хуткім разлікам робата. І ўсё ж у гэтую хвіліну я быў як ніколі шчаслівым. Роспач, нянавісць, нежаданне расчараваць мільярды тых, хто «паставіў» на мяне, віравалі ў душы. Я адчуў сябе ЧАЛАВЕКАМ, я быў як УСЕ! І яшчэ адчуваў, што не ўсё скончана, што ўва мне тоіцца нешта такое, пра што я і сам не ведаю, не здагадваюся. Я мабілізаваў усю сваю волю, да немагчымага напружваў розум, каб «пералічыць» бяздушнага монстра. Такога выпрабавання ні мозг мой, ні цела не зведвалі ніколі. У тым і не было патрэбы. Урэшце мае намаганні далі вынік. Я лічыў варыянты намнога глы-

бей і ў шмат разоў хутчэй, чым калі-небудзь. Аднак гэта несла свае наступствы. Цела маё шалёна вібрыравала, сэрца ліхаманкава калацілася, вырывалася з грудзей. Здавалася, яшчэ момант — і галава разляціцца на дробныя аскепкі. Я з жахам усведамляў, што знаходжуся на мяжы вар'яцтва ці нават нечага больш жудаснага. Аднак спыніцца ўжо не мог. І не хацеў. Як загнаны звер кідаецца на сваіх ворагаў, хоць ведае, што ідзе на немінучую пагібель, так і я — усё больш і больш напружваў свой мозг, гатовы да скачка за страшную мяжу. Фігуры на дошцы пачалі раптам самі сабой перасоўвацца з неймавернай хуткасцю, групавацца ў розныя пазіцыі, згодна тым, якія ўзнікалі ў маёй галаве. Нечакана ў вачах маіх пацямнела, дошка крутнулася і знікла, а я імкліва, бесцялесны і бязважкі, панёсся па доўгім, вузкім, падобным на трубу, тунэлі. Палёт быў пакутны. Здавалася, яшчэ хвіліна — і я задыхнуся. Але вось зноў — святло, сцэна, шахматны столік, крэсла, у якім нерухомее маё цела. Усё гэта далёка-далёка ўнізе, а сам я быццам завіс у паветры, ці, дакладней, у недаступнай розуму касмічнай вышыні. У долю секунды я пралічыў мільярды варыянтаў, а потым зноў вярнуўся ў сваё цела, зрабіў ход, з усіх — самы дакладны. Але палёт па тунэлі высмоктваў усе сілы. Вяртанне было яшчэ цяжэйшым. Урэшце я прыйшоў да думкі, што вяртанне АДТУЛЬ, толькі дзеля таго, каб зрабіць ход, — занадта высокая цана. Мне замянялі дошка і фігуры. Усе варыянты бачыў я ўнутранным зрокам. Гэта вядома кожнаму, хто здольны гуляць «усляпую». Таму я і павярнуўся спінай да робата. Лётаць па тунэлі ўжо не было патрэбы. Я мог з вышыні перадаваць інфармацыю целу. З бязмежжа я сузіраў яго — чужое і мне непатрэбнае. У мяне не было ніякай ахвоты яднацца з ім. І ўсе ж нас нешта звязвала, хоць гэтая повязь была кволай, амаль неадчувальнай. Намнога мацней я адчуваў прысутнасць гэткіх жа бесцялесных, усемагутных істот і прагнуў больш блізкага кантакту з імі. Але гэта было немагчыма. Для гэтага трэба было цалкам адмовіцца ад цела. Тады ўзамен дараваліся ВЕЧНАСЦЬ І КОСМАС. Аднак НЕХТА даваў мне адчуць, што яшчэ не час. І яшчэ я адчуваў, что некалі быў гэткім жа, як яны — магутным і бессмяротным. Затуманена прыпамінаў, як бессмяротнасць стаміла мяне і я маліў у ЯГО, хто быў вышэй за ўсіх бессмяротных, свайго смяротнага існавання. Але яно давалася як найвышэйшая ўзнагарода, атрымаць якую было вельмі няпроста.

Камп'ютэр не валодаў і мільённай доляй тых магчымасцей, якія меў я. Як толькі скончылася партыя, я ўвасобіўся ў сваё цела. Аднак прайшла не адна хвіліна, пакуль я цалкам не зліўся з ім і не пачаў усведамляць сябе зямной істотай.

— А што цяпер? Няўжо?..

На твары Забаронка адбілася трывожнае чаканне, тая ж трывога чулася і ў голасе.

— О не, — зрабіў супакоены жэст Богуш. — Наконт гэтага не трэба турбавацца. Не ўяўляў, што ў вас такая чулая душа… Так, сэнс, якім поўнілі мяне шахматы, вычарпаны мной дарэшты і перастаў быць сэнсам. Але, прынёсшы сябе ў ахвяру, яны надзялілі мяне непараўнальна большым. Ведаючы пра сваю несмяротнасць, я палюбіў зямное жыццё. Дарэчы, вы гаварылі пра Вялікую Таямніцу, якая схавана ў шахматах, цяпер вы яе ведаеце.

— Не зусім, — запярэчыў Забаронак.

— Яны — мост паміж тленнасцю і вечнасцю. Толькі праз іх смяротны можа наведаць ВЕЧНАСЦЬ. Аднак пры адной умове: калі аддасць сябе шахматам да апошняй кроплі. Інакш не пераадолець бар'ер вар'яцтва. Вось чаму столькі вялікіх шахматыстаў дажывалі рэштку свайго жыцця ў… адпаведным псіхічным вымярэнні.

— А зараз, калі… паразумеліся з жыццём, вас не точыць адзінота?

— Адзінота? Я адшукаў Ірму і… сына. Я і не ведаў, што ў мяне сын.

— Таксама геній?

Богуш з лёгкім дакорам паглядзеў на Забаронка.

— Каму, як не вам, ведаць, што прырода геніяў адпачывае на іх дзецях. Ён — спартсмен.

І, адпіўшы віна, пачаставаўся чарэшняй.

— Цудоўныя чарэшні.

Яго пакруглелы, з гладкімі шчокамі твар выказваў глыбокае задавальненне.

— Ну, бывайце.

Богуш узняўся, па чарзе пацiснуў рукі Блюку і Забаронку. Далонь яго была мяккая, поціск нямоцны. Гузікі цёмна-шэрага пінжака былі расшпілены, і няцяжка было заўважыць, што пад кашуляй круглее жывот.

— Я ўдзячны лёсу, што сустрэўся некалі з вамі, — цёпла ўсміхнуўся ён Блюку. — І што адважыўся наведаць вас, — павярнуўся да Забаронка.

— Я таксама рады, — запэўніў Забаронак. — Надзвычай рады. І за сябе, і за вас.

— А што? — паглядзеў ён на Блюка, калі Богуш зачыніў за сабой веснічкі. — Даць свету шахматнага генія, вярнуць да паўнацэннага жыцця, па агульных мерках псіхічна хворага, — такое выпадае не кожнаму псіхіятру.

— І ўсё ж нязвыкла бачыць унікальную асобу ў такой ардынарнай, так і цягне сказаць — мяшчанскай іпастасі, — скрушна ўздыхнуў Блюк.

— Нічога не паробіш. Нам сумна развітвацца з пацыентамі, якім столькі аддадзена сваёй душы. Сумна нават і тады, калі яны знаходзяць, урэшце рэшт, сваё вымярэнне. Але гэта натуральна. А што вы скажаце наконт фантасмагорыі з тунэлем, космасам?

— Не думаю, што гэта ягоная выдумка...

— Ніякай выдумкі, — сцвердзіў Забаронак. — Усё так і было. Ва ўсякім разе, так яму ўяўлялася дзякуючы ягонай унікальнай здольнасці задзейнічаць найвялікшы працэнт магчымасцей свайго мозгу. У сутнасці, гэта і адрознівае здольных ад нядольных, геніяў ад проста таленавітых. А наконт Космасу, Вечнасці, усемагутных істот, на наш зямны погляд — звычайная галюцынацыя. Максімальна напружаны мозг у час найвышэйшай рэалізацыі свайго патэнцыялу патрабуе надзвычай інтэнсіўнага прытоку крыві, якога сэрца, зноў-такі разлічанае на ардынарны інтэлект, забяспечыць не ў стане. У выніку — галюцынацыі. Тое ж самае, што адбываецца і з хворымі ў час клінічнай смерці.

— Як добра, што ён не ведае пра гэта, — заўважыў Блюк. — Інакш…

— Безумоўна. Вось, сапраўды, у вялікіх ведах — шмат смутку.

Блюк запаліў цыгарэту. Зацягнуўся. Потым пільна, спадылба, паглядзеў на Забаронка, спытаў з адценнем сарказму і недаверу:

—Усё, пра што вы зараз гаварылі, — гэта ваша ПЕРАКАНАННЕ ці толькі ВЕРСІЯ?

Цяпер ужо Забаронак пранізваў яго дакорлівым позіркам.

— Перакананне? — з іроніяй перапытаў ён. — Вы расчароўваеце мяне, калега. Псіхіятрыя, як і ўся медыцына, як і ўсё навокал — версія. Не болей за тое. «Быццё ёсць адкрытае пытанне з той мяжы, дзе заканчваецца поле зроку». Помніце?



Яна ЯВІЧ



*Яна Явіч нарадзілася ў 1983 годзе ў Мінску. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка (2006). Працавала ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі «Эўрыка» Фрунзенскага раёна г. Мінска, цяпер — у рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва». Друкавалася ў газеце «Знамя юности», часопісах «Полымя», «Маладосць».*

# ЛІДЭРСТВА ЛІТАРЫ

* * *

Аднойчы — адназначна! — адпрэчыш адзіноту.
Агеньчык адмыслова адорыць асалодай.
Аранжавым алоўкам адзенне афарбуеш —
Адразу адчуваеш: адольвае адліга.

* * *

Ганак. Гучныя галасы.
Горкіх гронак гарэнне...
Гаспадар?.. Госць?.. Глядач?..
Гастралёр!
Грацыёзнасць гітары...

* * *

Камедыйнасць карэляцый.
Канструктыўнасць катэгорый.
Караблі-курсоры крочаць
Краявідамі круізаў...
Крытык кліча канкурэнтаў,
Кандыдаты камплексуюць,
Кіламетрамі катрэнаў
Крыюць кадры кінастужак...
Кропкі... Коскі... Контур казкі —
Коўдра каляровых крылаў...
Край канкрэтыкі капрызаў
Кантралюецца кур'ёзам
Каралеўскае кароны...
Канцэнтрычнасць кругаглядаў?..

* * *

Паўднёвым промнем, птушкай папяровай
Пераживеш прыгоды падарожжаў...
Прычына палымянасці пачуццяў —

Пераварот прывычнае патрэбы...
Прыстасаванка?! Проста прыгажуня!
Палон... Празмернасць прынцыпаў... Пакуты...
Прыхільнік празаічных парадоксаў
Пасуе першы. Правілы — пасля...

* * *

Струны спяваюць санату...
Сонца святлом саграваe...
Сентыментальны сатырык
Сумна сыходзіць са сцэны.
Сэнс сарамлівасці — словы...

* * *

Таемнай тактыкай трагедыі тандэму —
Туманнасць тлумачэння тэарэмы...
Трактоўка тэмы тэксту — толькі талент.
Тыповасць твораў — тэзіс традыцыйны...
Так, творчасць — тыпалогія тэндэнцый.



Фантастычныя апавяданні



Генадзь АНУФРЫЕЎ

# ВОДБЛІСКІ

***Галіне ФАТЫХАВАЙ — з удзячнасцю***

Хворы зварухнуўся. Ягоная рука прыўзнялася і зноў бяссільна лягла на беласнежную прасціну. Доктар узяў гэтую худую, амаль што празрыстую, з сінімі венамі руку, паслухаў пульс. Потым апусціў і пахітаў галавой.

Перада мной ляжаў чалавек, якога я добра ведаў, так, як самога сябе. З ім звязана столькі радасных імгненняў у маім жыцці, колькі, відаць, і непрыемнага — якое я, не задумваючыся, дараваў яму. Гэта мой сябра Антон.

Падпарадкаваўшыся неўсвядомленаму імпульсу, я падышоў да акна. Пераставіць на падаконнік вялікую эмаліраваную міску, якую заўважыў у куце, і наліць у яе вады было справай некалькіх хвілін. У тое ж імгненне нешта асляпляльна яркае ўдарыла ў вочы. Гэта былі сонечныя промні, якія адбіліся ў вадзе. Па сцяне над ложкам хворага прабягалі блікі. Яны бруіліся, мянялі колеры, ствараючы нешта непаўторнае, што варушылася, жыло...

Я схапіў бязважкую руку і прыклаў да сцяны.

— Антон, блікі!

Пальцы сябра зварухнуліся, ён амаль што прыўстаў з ложка.

— Блі-кі... — пачуўся слабы шэпт. — Я змог...

— Так, ты змог, табе гэта ўдалося!

Яго пальцы выслізнулі з маіх і самі па сабе пачалі рухацца па сцяне, быццам хацелі намацаць, схапіць гэтыя няўлоўныя, нерэальныя стварэнні.

Раптам усё згасла. Я не адразу зразумеў, што гэта сонейка схавалася за воблакам. Антон адкінуўся на падушку. Яго грудзі часта ўздымаліся, дыханне было няроўнае. Дзве слязінкі выслізнулі з-пад прыплюснутых павекаў і павольна папаўзлі па бледных шчоках. Я не змог больш заставацца ў палаце. Дастаў з кішэні ключ, паклаў на тумбачку, расчыніў дзверы і выскачыў з палаты.

* * *

— Антон!

Ён доўга не адчыняў, і я ўжо сабраўся сысці, калі ён нарэшце з’явіўся ў дзвярным праёме. У яго быў дзіўны, адчужаны выраз твару. Коратка павітаўся і схаваў рукі за спіну:

— У фарбах.

— Ведаеш, дзве твае карціны купілі. У мастацкім салоне.

— Ведаю. — Ён засмяяўся. — Гэта ўсё не тое.

— Што — не тое? — Я здзіўлена паглядзеў на яго.

— Усё. Усе мае папярэднія работы. Ды ты садзіся. Пайду прыгатую каву.

Пакуль ён мыў рукі і гатаваў духмянае пітво, я агледзеў знаёмую мне кватэру. У глыбіні драўляная лесвіца нібы хавалася ў прыцемку, яна вяла ў майстэрню — быццам пераход у іншы, «яго» свет. Я падняўся наверх.

Паветра тут здавалася халаднейшым, чым у гасцёўні. Скрозь вялізнае акно да самай столі лілося сонечнае святло, дзесьці з гудзеннем білася аб шкло муха. Пахі фарбаў і яшчэ нечага няўлоўна-знаёмага, што хвалявала, — гэтыя пахі знаёмыя мне з дзяцінства. Так пахла ў доме маёй бабулі пасля яе смерці — старымі рэчамі, запыленымі кнігамі і адзіноцтвам...

Пачуліся крокі на лесвіцы. Антон падаў мне кубак гарачай духмянай кавы.

— Ну, як твая работа? — я падышоў да мальберта і скінуў покрыва. Няскончаны партрэт дзяўчыны. Паэтычны сімвал маладосці і чысціні.

— Ды так, патрошкі, — ён пацiснуў плячыма.

У куце я заўважыў вялізнае прыкрытае палатно.

— А гэта што? — наважыўся адхінуць прасціну, але голас Антона спыніў мяне.

— Не, гэта не глядзі.

Ён рашуча сціснуў маю руку. Узнікла няёмкая паўза. Не помню, каб калі-небудзь раней адчуваў сябе з сябрам так няўпэўнена. Бадай, ён вельмі змяніўся, я не ўгледзеў пачатак гэтай перамены. Напружанасць амаль адчувалася, і мяне ахапіла незразумелае прадчуванне бяды. Гэта была не беспрычынная, а абсалютная — і ад гэтага яшчэ больш незразумелая — упэўненасць у блізкасці чагосьці жудаснага і непапраўнага.

Я дакрануўся да рукі сябра, і ён здрыгануўся.

— Антон, апошнім часам ты мала малюеш, не ўдзельнічаеш у выставах. Што здарылася?

На імгненне яго вочы ажывіліся, і ён насмешліва зірнуў на мяне.

— Ты ж ведаеш, я асвойваў тэхніку раздзельнага вытанчанага мазка з захаваннем аб'ёмнага адлюстравання.

— Лухта! Прабач, але гэта не тлумачэнне.

Ён пільна ўгледзеўся ў мяне.

— Добра, так і быць, патлумачу. Як табе ўжо сказаў, усё напісанае мною раней — глупства, — ён падняў руку, спыніўшы мае пярэчанні; у вачах з'явіўся дзіўны, незнаёмы бляск, голас узвысіўся. — Помніш Філонава? Задача мастака — перадаць усю паўнату жыцця, аж да самага руху малекул. «Відушчае вока» перадае толькі контуры; сутнасць жа ў тым, каб перадаць утоеныя працэсы!

— Ты хочаш стварыць цуд! — неасцярожна заўважыў я.

Ён страпянуўся.

— А што такое цуд? Цуд ёсць праява, а дакладней сказаць — прарыў у нашу паўсядзённасць будучай паўсядзённасці. Сёння гэтыя прарывы адзінкавыя і таму здзіўляюць. Але ж яўнай мяжы між нашай і будучай, «цудоўнай», паўсядзённасцю быць не можа. «Цуды» павінны здарацца ўсё часцей, і калі мы да іх прызвычаімся, яны перастануць быць цудамі і пяройдуць у штодзённасць. Як ты ўжо ведаеш, я шмат, вельмі шмат працаваў над тэхнікай. У мяне ёсць адна запаветная ідэя, калі хочаш, — мара. Глядзі!

Антон схапіў вялікі акварыум з вадою, які стаяў на століку, паставіў на падаконнік, некалькі разоў павярнуў, шукаючы патрэбнае становішча.

— Бачыш? — сябра паказаў на блікі, якія бегалі па сцяне. — Вось гэта я і хачу напісаць. Разумееш?

— Здаецца, што так.

Відаць, выгляд у мяне быў ашаломлены, бо нічога падобнага я не чакаў.

Глянуўшы ў кут, дзе стаяла вялікая карціна, спытаў:

— Гэта яна?

— Яна. Цяпер магу паказаць яе, калі хочаш.

Не дачакаўшыся адказу, ён падышоў да карціны і адкінуў пакрывала. Я ўбачыў запоўненае каляровымі плямамі палатно. Здавалася, што школьнік паспрабаваў на ім толькі што купленыя фарбы. Хаваючы расчараванне, я з залішнім энтузіязмам вымавіў:

— У ёй нешта ёсць!

Але Антон мяне перабіў.

— Не трэба, не прыкідвайся. Ведаю, што ты думаеш. Здаецца, у мяне нічога не атрымалася. Але я іх напішу.

Гаворачы гэта, ён зрабіў выразны жэст рукою, вочы яго гарэлі. Такім свайго сябра я ніколі не бачыў.

Адыходзячы, яшчэ раз зірнуў на няскончаны партрэт дзяўчыны.

— Павінна атрымацца ўдала.

— Так. — Голас Антона гучаў абыякава.

* * *

Некалькі дзён я быў вельмі заняты: дапісваў артыкул, працаваў, як апантаны, і забыўся на некаторы час пра нашу размову. Раз-два збіраўся забегчы да Антона, але ўсё ніяк не атрымлівалася. Аднойчы, калі ўжо цвёрда вырашыў наведаць яго, сябра пазваніў сам. Я не адразу пазнаў яго голас, настолькі ўсхваляванна ён гучаў:

— Прыязджай хутчэй! Мне ўдалося! — Антон не стаў слухаць мяне, кінуў трубку.

Яго хваляванне перадалося і мне. Верылася і не верылася ў тое, што пачуў. Аднак не стаў марудзіць, а паехаў да яго. Ужо калі падымаўся па лесвіцы, інтуітыўна адчуў: нешта здарылася. Каля дзвярэй Антона мяне сустрэў ягоны сусед.

— Да мастака? Антона толькі што забрала «хуткая дапамога».

Гэта было поўнай нечаканасцю, я збянтэжыўся.

— Вы знаёмыя?

— Мы сябры. Але што здарылася?

— Па праўдзе кажучы, не ведаю...

У той жа дзень я выправіўся ў бальніцу. Мне паведамілі, што Антон аслеп. Відаць, слепату вызвала нервовае ўзрушанне. На пытанне, ці ўдасца вярнуць зрок сябру, хірург няпэўна пацiснуў плячыма:

— Будзем рабіць аперацыю...

І дадаў:

— У вашага сябра яшчэ і інфаркт...

У двары, калі сыходзіў дахаты, мяне дагнаў доктар.

— Пачакайце хвіліначку, — задыхаючыся, вымавіў ён. — Вось. Калі хворы апрытомнеў, то папрасіў перадаць вам гэта і сказаць, каб вы зайшлі і паглядзелі... вы ведаеце, што...

— Так-так, дзякуй. — Гэта быў ключ ад кватэры Антона.

* * *

Задыханы, я падняўся па драўлянай лесвіцы ў майстэрню. Адна думка неадступна вярэдзіла: «Няўжо яму гэта ўдалося?» Вялізная карціна ўсё гэтак жа стаяла ў куце, але пакрывала з яе было знята. Яшчэ здаля ўбачыў, што ў ёй нешта змянілася. Некалькі секунд стаяў і не мог паварушыцца, потым наблізіўся да карціны.

Гэта было неверагодна. Трапяткія паўцені прабягалі па палатне. Амаль няўлоўныя для вока змены формы зачароўвалі. Я баяўся ўздыхнуць. І раптам усё знікла. Мяне ахапіла паніка. Калі азірнуўся, то зразумеў ісціну.

Я падышоў да акна і зняў з падаконніка вялікі празрысты акварыум з вадою, які Антон забыўся зняць у той сонечны дзень, калі пісаў блікі.

* * *

...Глыбокай ноччу прачнуўся, быццам ад штуршка. Адразу маланкай пранеслася — сёння асаблівы дзень, саракавы дзень з дня смерці Антона. Адчуваючы, што наўрад ці засну, зноў і зноў успамінаў нашу апошнюю сустрэчу.

Па сцяне загадкава перамяшчаліся светлыя плямы — водбліскі фар далёкай машыны. Я машынальна сачыў за імі, пакуль не ўсвядоміў дзіўную рэч — мудрагелістыя плямы са сцяны не знікалі. Больш таго, множыліся, рухаліся ўсё хутчэй і хутчэй, круціліся ў вар'яцкім карагодзе. Адначасова яны набывалі ненатуральную і разам з тым асэнсаваную завершанасць.

Блікі складваліся ў нешта да болю знаёмае; і вось ужо са сцяны на мяне зірнулі в о ч ы, напоўненыя мігатлівым святлом, якое пранікала ў самую глыбіню душы. Я са стогнам сціснуў павекі, баючыся ўбачыць гэты твар, пазнаць яго...



Сяргей БЕЛАЯР

# ЖАЛЕЗНЫ ВОЎК

## ГОД 1314-ы АД НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТОВА

Першым прыйшоў боль — рэзкі, нясцерпны. Ён літаральна разрываў на часткі. Здавалася, усё цела было прасякнута сотнямі вострых распаленых іголак, якія прымушалі сэрца біцца гулка і часта. Боль зашкальваў, біў праз край, ліўся халодным ліпкім потам праз кожную пору змардаванай чалавечай плоці. Хацелася выць і крычаць, але бязвольныя вусны не падпарадкоўваліся, імгненна спыняючы ўсе спробы выціснуць з горла хоць нешта падобнае да асэнсаванай гаворкі.

Янка з цяжкасцю расплюшчыў пацяжэлыя павекі. Крывава-чырвоная заслона, што плыла перад вачыма, паступова знікла, але палонны яшчэ доўга не мог сфакусіраваць погляду, які блукаў па прапахлым крывёю і страхам халодным засценку, нібы позірк юродзівага. Калі зрок прыйшоў у норму, Янка ўбачыў перад сабой апранутага ва ўсё чорнае манаха, які спачувальна глядзеў на яго.

— Ну што, чарнакніжнік, апрытомнеў? — святар усміхнуўся, нібы ўгледзеўшы старога знаёмага, з якім не бачыўся шмат гадоў. Бялёсыя вусны юрліва расцягнуліся, агаляючы два шэрагі гнілых зубоў, што тырчалі няроўнымі пянькамі. Манах прамяніўся лагоднасцю і клопатам, але чорныя як смоль вочы заставаліся халоднымі і змярцвелымі. — Будзеш казаць ці не? — служыцель Хрыста падышоў да Янкі, агарнуўшы яго смуроднай хваляй даўно нямытага цела.

Словы даносіліся да змучанага бясконцым катаваннем чалавека нібыта праз тоўсты слой саломы, губляючы ўкладзены ў іх сэнс ужо напаўдарозе да палоннага. Янка паспрабаваў паварушыцца. Безвынікова. Жалезныя абручы надзейна прыхапілі запясці, намёртва прыкаваўшы палоннага да халоднай кладкі цаглянай сцяны. Вязень вісеў на выцягнутых руках, не дастаючы босымі нагамі да ўтрамбаванай падлогі цямніцы ўсяго на палову далоні.

— Кажы, язычнік! — загадаў манах.

Янка ў адказ толькі незразумела ўтаропіўся на святара. Дзесьці за спінай манаха корпаўся другі чалавек, мяркуючы па ўсім, кат, які дзелавіта варушыў нейкія жалязякі. Цягнула гарачынёй распаленага металу.

Непаслухмянымі вуснамі, з цяжкасцю пракаўтнуўшы ломкі ком смагі, палонны выціснуў: «Піць...»

— Пакайся, грэшнік! — святар паднёс да твару Янкі залаты крыж, заціснуўшы ніжнюю перакладзіну трыма пальцамі. — Пакайся — і будзе вада...

Вязень паўтарыў: «Піць...»

Манах, які прывык да цудоўнага ўплыву крыжа на ведзьмакоў і ўсякую нечысць, спачатку збянтэжыўся. Але паўза доўжылася нядоўга — святар апусціў крыж, бразнуўшы ланцужком, а затым уважліва паглядзеў у вочы Янкі, нібыта імкнучыся пракалоць таго наскрозь.

— Хочаш піць? Тады пакайся...

— У чым? — ледзьве змог вымавіць палонны, з цяжкасцю варочаючы распухлым ад смагі языком.

Янкава пытанне збянтэжыла манаха. Святар нават адкрыў рот і вылупіў вочы, здзіўляючыся нахабству паганца. Здавалася, служыцель царквы вось-вось лопне ад абурэння...

Неяк зладзіўшы з раздражнёнасцю, манах вымавіў:

— Пакайся ў сваіх грахах, чарнакніжнік, і Гасподзь наш Ісус Хрыстос змілуецца над табой! Ён даруе табе, як калісьці дараваў Адаму, падбухторанаму жонкай сваёй Евай да пакаштунку забароненага плода з дрэва пазнання дабра і зла. Ён даруе табе, як многім сотням іншых да цябе і пасля цябе!

Вязень скрывіўся — ці то ад болю, ці то ад агіды — і ў чарговы раз папрасіў: «Піць...»

Святар, зломлены ўпартасцю Янкі, не вытрымаў і падаў знак кату: напаі. Бугай павольна ўзяў коўш, зачарпнуў вады і паднёс да вуснаў палоннага. Янка, душачыся ад агіды, стаў сквапна глытаць цёплую, прапахлую гніллю ваду.

— Дастаткова! — загадаў манах, і кат адвёў коўш, расплюхаўшы рэшткі каламутнай вады сабе на кашулю. — Цяпер ты прызнаешся? — ласкава спытаў святар.

— У чым мяне абвінавачваюць, хрысціянін?

— А ты не ведаеш? — манах здзіўлена ўзняў бровы. Некалькі імгненняў твар святара быў шчыра здзіўленым, а потым рэзка ператварыўся ў выскаленую маску. — Твой воўк, чарнакніжнік, за мінулую сядміцу забіў шасцярых. Ці ты забыўся? Тады я магу дапамагчы табе ўспомніць!

Манах кіўнуў, і мучыцель, абматаўшы руку бруднай анучай, выцягнуў з купкі вуглёў, што палалі ў пакрытым маршчынамі глыбокіх расколін ачагу, распалены дабяла металічны прут.

— Будзеш гаварыць? — служыцель Хрыста ўсміхнуўся, бачачы, як палонны пакрываецца потам. Кат паднёс распаленае жалеза да твару Янкі, з задавальненнем назіраючы, як па целе вязня прабегла сутарга і ён паспрабаваў вырвацца з ланцугоў. Куды там... Кавалі сваю справу ведалі...

І Янка ўспомніў...

Забыццё, выкліканае доўгімі пакутлівымі катаваннямі, саступіла месца малюнкам нядаўняга мінулага, якія ўяўлялі сабой шэраг жорсткіх забойстваў. У памяці ўсплылі раз'юшаныя твары звар'яцелых сялян, якія ўварваліся ў зямлянку; кароткая схватка, якая скончылася тым, што сяляне паднялі яго ваўка на вілы; вогнішча з кніг; і пачуццё безвыходнасці, памножанае на горыч страты адзінага сябра...

Гэта потым ужо сяляне звязалі Янку і пацягнулі да князя Воіна, каб здзейсніць суд над чалавекам, якога падазравалі ў вядзьмарстве. Расправа была кароткай — полацкі князь, прыняўшы пасля хрышчэння імя Васілій, загадаў кінуць паганца ў цямніцу, каб заплечных спраў майстры выцягнулі з Янкі такое патрэбнае валадару прызнанне. Князь не любіў, калі хтосьці забіваў яго падданых...

Успамін быў настолькі яркім, што палонны заскрыгатаў зубамі. Згарэла ўсё — «Старглаў», «Грамоўнік», «Арыстоцелева брама», «Зодзій», «Каледнік»... Мудрасць продкаў згінула ў гарачых абдымках усёпаглынальнага агню, які не ведае жалю ні да бярозы, ні да людзей...

І ніхто не хацеў нічога слухаць. Людзі былі сляпыя, не бачылі відавочнага. Фенрыр вызваліўся з пут, накладзеных на яго багамі, і стаў забіваць. Чараўніцтва светлых Альваў аказалася дарэмным супраць усёпаглынальнай сілы неўпарадкаванага. Прадвызначанае спраўджвалася — набліжаўся Рагнарок... І толькі Янка ведаў праўду, крычаў да той пары, пакуль хтосьці з сялян не саўгануў у рот палоннага брудную смуродную анучу. Праўда была страшнай — воўк небыцця вырваўся на волю, і неўзабаве звычайны Свет павінен быў стаць полем смяротнай бітвы паміж Дабром і Злом, і будучыня не была прадказальнай. Усё пачыналася спачатку: Жывое і Нежывое зноў, як і шмат мільёнаў гадоў таму, усталі адно супраць аднаго, каб са зброяй у руках даказаць сваю правату...

Янку катавалі, па жылах выцягваючы душу распаленым жалезам. Палонны то крычаў ад болю, то паглыбляўся ў вратавальнае забыццё. Але яно было нядоўгім — кат час ад часу выліваў на паўжывога цэбар халоднай вады, прыводзячы вязня ў прытомнасць. Але страшней за катаванні была чалавечая слепата, нежаданне прыняць праўду, якой бы жудаснай яна ні падавалася. І яшчэ словы манаха: прызнайся... прызнайся... прызнайся...

Белае ад нясцерпнай гарачыні жалеза павольна набліжалася да вачэй палоннага. Яшчэ крыху — і лопнуць зрэнкі, выцякуць з вачніц, пакінуўшы пасля сябе толькі вартае жалю шмаццё прыпаленай плоці. Янка паспрабаваў адхінуцца, але кат моцна трымаў палоннага за падбароддзе. І вязень здаўся, не вытрымаў невыносную пакуту. Фізічны боль зламаў яго...

— Пытайся…

— Вось і добра, чарнакніжнік. Пачнём па парадку, калі не пярэчыш... — манах задаволена ўсміхнуўся, але кату загаду прыбіраць жалязяку не даў, засумняваўшыся ў шчырасці палоннага. — Твой воўк?

— Я ўжо казаў: падабраў яго яшчэ маленькім, калі сельскія сабакі хацелі разарваць ваўчаня. Выкарміў, і ён стаў мне сябрам.

— Вось як... Нейкае незразумелае атрымліваецца сяброўства. Зрэшты, для ведзьмака гэта не дзіўна. Слугі Д'ябла часта сыходзяцца з агіднымі Богу стварэннямі... Значыць, ты прызнаеш, што воўк твой?

Янка кіўнуў.

— Вось і слаўна! — манах задаволена пацёр рукі. У рэшце рэшт атрымалася выціснуць з палоннага хоць нешта пэўнае. Кат прыбраў прут і паклаў жалеза ў агонь, як бы намякаючы, што катаванне не скончана і цяпер усё залежыць ад Янкі, дакладней, ад яго слоў...

Святар задуменна закусіў ніжнюю губу, зайграў ланцужком залатога крыжа, збіраючыся сфармуляваць наступнае пытанне.

— Воўк мой, але ён ніколі не нападаў на людзей, — апярэдзіў святара вязень.

— Нават так? — штучна здзівіўся манах. — Тады як ты растлумачыш, што сяляне, пасланыя на пошукі зніклых, знайшлі ў логаве гэтай пачвары абгрызеныя чалавечыя косткі? Маўчыш?.. Ты можаш упірацца і далей, але ўсё сведчыць супраць цябе, чарнакніжнік. Людзі бачылі, як твой воўк шныраў па лесе. Для чаго?

— Воўк невінаваты! — упарта паўтараў Янка, імкнучыся не зважаць на рэзкі боль ва ўсім целе.

Святар перасцерагальна падняў руку. Кат страпянуўся і пацягнуўся да клешчаў, збіраючыся падчапіць прут, які паспеў ужо нагрэцца.

— Зараз табе трэба шкадаваць не ваўка, а самога сябе. Яшчэ не позна выратаваць сваю душу, бо мукі фізічныя — нішто ў параўнанні з пакутамі душэўнымі. Пакайся!

Палонны плюнуў, спрабуючы трапіць у твар святара. Следам за пляўком кінуў:

— Ты памыляешся, манах. Паміж душой і целам няма разрыву. Няхай яны і розныя па сваёй сутнасці, але ўсё ж адзіныя, і цела ёсць выраз душы. Гэта — воля светабудовы, адвечны закон захавання раўнавагі паміж касмічнымі і людскімі сіламі. Чалавечае цела — неабходны складнік Гармоніі, бо ўнутраная і знешняя сутнасць ёсць праява Адзінага. Развіваючы цела, мы развіваем душу...

— Чур мяне... — святар некалькі разоў асяніў сябе крыжам, не забыўшыся пацалаваць распяцце. Спыніў ката, які кінуўся да Янкі, і сказаў: — Не гавары так, агіднае спараджэнне Яхідны! Цела ёсць бруднае жыллё душы, і задача чалавека — вырвацца з ланцугоў грэшнай плоці, каб узвысіцца і набыць выратаванне.

— Выратаванне — гэта падман, — сумна ўсміхнуўся Янка. — Хімера хворага розуму, якой прыкрываюцца тыя, хто аддаецца страху. Табой рухае страх, хрысціянін. Страх перад сутнасцю твайго Бога. Задумайся, хто ты для яго? Усяго толькі раб, безаблічная істота. І твайму Богу няма да цябе ніякай справы. Што можа звязваць гаспадара і раба? Толькі вера апошняга ў боскасць Гаспадара. Вы, хрысціяне, лічыце сябе рабамі аднаго з мноства багоў, які палічыў сябе першапачатковым. А гэты Бог не мае ніякага права называцца адзіным, бо ён толькі частка цэлага, адна з граняў Ісціны. Ты молішся на каленях, а я цвёрда стаю на нагах, з паглядам, скіраваным у неба, і з рукамі, расхінутымі ўверх, як раўнацэнная частка сусветнага парадку, якая захавала пачуццё гонару. Твая вера пазбаўленая розуму. Хіба ты не разумееш, што сутнасць чалавека не мае патрэбы ў пасрэдніках, бо яны толькі скрыўляюць Ісціну, імкнуцца да духоўнага панавання над людзьмі ў сваіх карыслівых мэтах?

— Змоўкні, язычнік! — ускіпеў манах.

— Твая вера хлуслівая і сумніўная. Вера дзеля веры, пустата неразумення вялікай таямніцы Сусвету. Той, хто верыць толькі сэрцам, ніколі не ўвойдзе ў харомы Ісціны. Гэтая дарога даступная выключна розуму... Наш свет — толькі адвечны парадак, у якім як багі, так і людзі маюць сваё месца, свой час і сваю місію.

— Кат, заткні яму рот! — закрычаў святар, закрыўшы вушы рукамі. Бугай выхапіў з вуглёў металічны прут і прыціснуў яго да цела палоннага. Пачулася агіднае шыпенне плоці, якая імгненна пайшла пухірамі. Пранізлівы крык захлынуўся. Янка страціў прытомнасць...

* * *

Палонны павольна адкрыў вочы, намацаўшы размытым паглядам закураную столь. Над Янкам, які ляжаў на падлозе, схіліліся туманныя вялізныя постаці. Кат, манах і таўстун у расшытым сярэбранай ніткай каптане. Расплывістыя сілуэты аб нечым перагаворваліся, але сутнасць іх гаворкі выслізгвала, гублялася ў лабірынце болю.

— Жывы? — прабубніў таўстун, уважліва гледзячы на палоннага.

— Жывы... Што з ім здарыцца?! — голас быў незнаёмы. Хутчэй за ўсё, казаў кат.

— У, ірад, ледзь не замардаваў чалавека! — гнеўна працадзіў сярэбраны каптан.

— Які ж гэта чалавек? Гэта вядзьмак! — паспрабаваў запярэчыць манах. Убачыўшы, што Янка чуе яго, святар прамовіў: — Радуйся, чарнакніжнік. Князь пашкадаваў цябе... Ганец прынёс дрэнныя весткі — воўк загрыз яшчэ дваіх. Так што ласкай Госпада нашага Ісуса Хрыста ты — свабодны...

Сэнс сказанага не адразу дайшоў да ўзбуджанага розуму. Вязень паспрабаваў паварушыць пальцамі і раптам зразумеў, што ляжыць на падлозе. Без кайданоў... Холад брамы Ніфельхейма, якая ўжо маячыла перад вачыма Янкі, імгненна змяніла пачуццё ап'яняльнай радасці — ён вольны...

— Напаіць его, — загадаў таўстун. — Перавязаць і прывесці ў боскі выгляд... А ты, язычнік, павядзеш княжых ратнікаў. Сяляне гавораць, ты добра ведаеш лес. Апошні раз ваўка бачылі на балоце...

Лекар змазаў скалечанае цела палоннага маззю, якая дрэнна пахла. Потым Янку далі вады, пераапранулі ў чыстую кашулю. З'явіліся дружыннікі, якія выцягнулі вязня на двор і акуратна пасадзілі на калёсы.

Сонечны свет балюча ўдарыў па зрэнках, прымусіўшы Янку прыжмурыцца і закрыць твар далонню. Хлынулі слёзы, але цяпер ужо былы палонны не саромеўся іх, бо гэта былі слёзы волі...

Янка плакаў, падстаўляючы бледны твар гарачым промням, наталяючыся сонцам, з якім паспеў развітацца.

Дзесьці побач кашлянулі, і язычнік са шкадаваннем адарваўся ад свайго занятку. Ратнік...

Княжы дружыннік назваўся дзесятнікам Транятай.

— Здароў будзь, чалавеча. Гэта ты нам у дапамогу? — дачакаўшыся кіўка Янкі, воін спытаў: — Дарогу ведаеш? Павядзеш маіх людзей. І глядзі не дурэй — заб'ю!

Язычнік усміхнуўся: што можа зрабіць адзін змучаны чалавек супраць дзесятка воінаў, увешаных зброяй?..

Ратнікі корпаліся вакол калёсаў, збіраючыся ў дарогу. Грымела жалеза, іржалі коні, мітусілася княжая чэлядзь...

Калі з падрыхтоўкай было скончана, Транята па-заліхвацку свіснуў і атрад рушыў у дарогу.

Ехалі доўга, не спыняючыся. Дзесятнік гнаў воінаў, імкнучыся дасягнуць балота да надыходу цемры.

Янка бязвольна прытуліўся да жэрдкі, боўтаючы галавой у такт колам, якія скакалі па калдобінах. Боль адступіў, але пачалася гарачка. Былы палонны то пагружаўся ў багну бяспамяцтва, то зноў выныраў у рэальнасць. Яны ўсё ж такі паверылі... Дурны манах, які раздзьмуўся ад празмернай гордасці; полацкі князь, які грэбаваў уласным народам дзеля золата; сяляне, якія не паверылі словам Янкі. І што дзіўна, ён зусім не адчуваў да іх злосці. Боль прытупіў успрыманне, пакінуўшы на душы толькі горкі асадак расчаравання ў людзях. Ніхто так і не зразумеў, ШТО суп-

рацьстаяла чалавеку. Фенрыр, злоснае спараджэнне шлюбу Локі і волаткі Ангрбодэ, не стане разбіраць, хто перад ім — ён проста заб’е кожнага, хто выступіць супраць Хаосу. Цяпер воўк стане расці з кожным днём, набіраючы сілу для вырашальнай бітвы...

Надыдзе Рагнарок, і напрыканцы свету людзі стануць побач з багамі, каб супрацьстаяць небыццю, бо чалавек — частка разумнага парадку Сусвету, і ягоная задача ў тым, каб змагацца супраць усіх антыбоскіх сіл першапачатковага Хаосу. Свет, у якім мы жывём, — гэта поле бітвы, на якім і расліны, і жывёлы, і людзі павінны вырастаць і саспяваць для самасцвярджэння ў пазачасавай прасторы, поле, дзе пастаянна змагаюцца боская воля да ўпарадкавання ўсяго жывога і антыбоская воля да раскладання, да пашкоджання ўсіх зародкаў. Багі недарэмна паставілі Мідгард у цэнтр Ігдрасіля, ператварыўшы Сярэдзінны свет у сукупнасць разумнага ўзаемадзеяння ўсіх боскіх законаў і ўсяго чалавечага гонару. Мідгард абнаўляецца і захоўваецца толькі дзякуючы адважнай барацьбе чалавека на баку Гармоніі. Таму што людское «Я» мае боскі характар і з’яўляецца часткай сакральнага. Кожнае «Я» бессмяротнае і вечнае. Чалавек — не тупое двухногае стварэнне, мэта жыцця якога зводзіцца да задавальнення сваіх жаданняў і запатрабаванняў, а перш за ўсё памочнік і партнёр багоў. Толькі той варты звацца чалавекам, хто побач з багамі захоўвае ўсеагульную Гармонію, не дае Хаосу знішчыць светабудову...

Сутонела. Транята спыніў атрад.

— Далей не пойдзем. Заначуем тут!

Воіны сталі распрагаць коней і выцягваць з калёсаў няхітры скарб. Запалаў агонь. Насекшы яловых галінак, ратнікі размясціліся вакол вогнішча, працягваючы да полымя задубелыя рукі.

* * *

Фенрыр напаў раптоўна...

Вялізны, ростам з чалавека, чорны воўк з’явіўся з густога туману і кінуўся на дружыннікаў. Ратнікі, відавочна, не чакалі нападу, і гэта каштавала жыцця двум воінам, імгненна разарваным пачварай. Не паспелі яшчэ трупы дакрануцца да прымятай травы, як Фенрыр зноў быў гатовы да нападу. Зыходзячы цягучай ніткай сліны, воўк злосна зарычаў, выскаліўшы вострыя, нібыта клінкі, зубы.

— Трывога! — запознена закрычаў Транята, выцягваючы меч. Ратнікі кінуліся ў розныя бакі.

Фенрыр не стаў марудзіць — вялізная туша кінулася на бліжэйшага дружынніка. Імгненне — і воін упаў, трымаючыся рукамі за разарваны жывот.

Гарачкавае трызненне імгненна знікла, саступіўшы месца страху. Янка пераваліўся праз край калёсаў, паспеўшы прыхапіць з сабой арбалет са звязкай кароткіх металічных балтоў. Упаўшы на зямлю, застагнаў ад болю, але ўсё ж знайшоў у сабе сілы перакаціцца пад калёсы, імкнучыся пры гэтым не рассыпаць стрэл. Дзесьці зусім блізка зайшоўся ў крыку адзін з княжых ратнікаў.

Былы вязень напяў цеціву і ўставіў стралу ў падраны шматразовым ужываннем жалабок. Норны заплялі нітку лёсу ў вузел, даўшы язычніку шанц біцца з неўпарадкаваным, памерыцца сіламі з жывым увасабленнем Хаосу, каб справай даказаць, што Янка заслугоўвае гордага звання Чалавек...

Воўк кідаўся сярод ратнікаў. Падалі разарваныя магутнымі ікламі целы. Крыкі, стогны паміраючых, каманды Траняты — усё злілося ў адну працяжную какафонію.

Забыўшыся пра боль, Янка прыцэліўся і плаўна адпусціў скобу. Звонка праспявала цеціва. Болт сарваўся з арбалета. Акрэсліў прамую лінію, накіраваную ў сэрца адроддзя Ніфельхейма. Дум! Страла ўдарыла ў цела ваўка, але, здзівіўшы паганца, не спыніла звера. Толькі гулкі металічны звон, нібы меч прайграў моцнаму шлему...

— Што за дрэнь! — прашаптаў былы княжы палонны, які не мог паверыць уласным вачам. Да Фенрыра было не больш за сем крокаў...

Янка ледзь не заскуголіў ад прыкрасці. Яркай успышкай прачнуўся забыты боль. Рукі дрыжэлі, і болт ніяк не хацеў класціся ў жалабок, увесь час стараючыся выслізнуць. Язычнік лаяўся, поўнымі жаху вачыма глядзеў на тое, як Фенрыр распраўляецца з атрадам.

Некалькі разоў воям удалося стрэліць з арбалетаў. Аднак металічныя балты, здольныя на адлегласці пяцідзесяці крокаў прабіць наскрозь даспехі цяжкаўзброенага рыцара, проста адляталі ад скуры ваўка, нібы той быў зроблены з жалеза.

Янка нарэшце справіўся са здрадлівым дрыжаннем. Падняў арбалет і навёў на Фенрыра, ледзь паспяваючы за імклівымі рухамі чатырохногай пачвары. На гэты раз язычнік прыцэліўся ў пякельнае рубінавае вока ваўка. Затрымаўшы дыханне, утапіў скобу. Стукнуў метал. Цеціва жвава распрамілася, паслаўшы насустрач Фенрыру заточаную кулю. Але замест крывавага шмацця Янка ўбачыў толькі дробныя празрыстыя пырскі.

Фенрыр на імгненне страціў арыентацыю, а затым адхінуўся ўбок, сыходзячы з лініі агню. Вачніца ваўка зіхацела чорнай пустатой. Звярыны рык быў здольны абудзіць і мёртвага...

Трое ратнікаў, якія засталіся ў жывых, атакавалі ворага. Фенрыр апусціўся на заднія лапы, рыхтуючыся да скачку. Сціснутыя магутнай спружынай, канечнасці рэзка выпрасталіся, і істота магутным кідком кінулася на людзей. Упаў першы воін. Хруснуў пазваночнік другога...

Дзесятнік з перакошаным ад лютасці тварам кінуўся на Фенрыра. Удар... і загартаваны меч Траняты пераламіўся на дзве часткі. Воўк завыў і моцным штуршком адкінуў княжага дружынніка на некалькі метраў...

Здавалася, крываваму кашмару не будзе канца...

Былы княжы палонны выпусціў арбалет: утрымліваць зброю не было сэнсу. Да балтоў не дацягнуцца. Але горш за ўсё тое, што ён застаўся адзін супраць смяротнага ворага...

Фенрыр заўважыў Янку і павольна, нібы адчуваючы жах чалавека, накіраваўся ў ягоны бок. Адзінае вока палала лютай нянавісцю. Крок. Другі...

Язычнік не мог зрушыцца з месца. Цела нібыта прырасло да зямлі...

А ў гэты час да Траняты вярнулася прытомнасць. Вой схапіў сякеру і з гучным крыкам кінуўся на Фенрыра. Апісаўшы кола, зброя ўваткнулася ў цела ваўка. Дум! Жахлівы гул паўтарыўся. У дзірцы, пакінутай сякерай, блісну́ў метал...

Фенрыр развярнуўся на месцы, выскаліўшы акрываўленую ляпу.

— Памры, дэман! — дзесятнік зноў падняў сякеру, але ўдарыць не паспеў — доўгія кіпцюры разарвалі кальчугу. Транята выпусціў зброю і схапіўся за грудзі. Болю дзесятнік не адчуў — толькі здзіўленне, навечна застылае ў вачах ратніка. Яшчэ некалькі імгненняў ён захоўваў раўнавагу, а затым стаў завальвацца набок.

Янка ўскочыў і кінуўся бегчы.

Балота прыняло ўцекача неласкава. Галінкі дрэў, якія тырчэлі ў бруднай вадзе, балюча хвасталі па твары. Чапляліся за вопратку, стараліся затрымаць. Ногі пра-

вальваліся ў дрыгву, і некалькі разоў Янка падаў, але ўсё ж знаходзіў сілы падняцца.

Металічны лязг за спінай не змаўкаў — Фенрыр жвава наганяў уцекача...

Павязкі даўно спаўзлі, і былы княжы палонны сарваў іх. Раны сталі крыватачыць. Сілы раставалі, але Янка бег, распырскваючы вакол сябе фантаны твані і гразі. Страх кідаў бязвольнае цела наперад. Адрэналін перапаўняў вены, ледзь прымушаючы перасоўваць і да таго знямелыя ад стомленасці ногі.

Балота засмоктвала з кожным крокам. Спачатку вада была па шчыкалатку, потым — па калена. Калі дрыгва дайшла да сярэдзіны сцягна, бегчы стала немагчыма. Але палонны князя Васілія не здаваўся, упарта рухаўся да сярэдзіны балота, туды, дзе дрыгва магла вытрымаць вагу чалавечага цела і дзе тонкая скарынка гаці абавязкова праглыне ваўка...

Дапамагаючы сабе рукамі, Янка ўсё далей і далей заходзіў у гразкую пастку, з цяжкасцю выцягваючы ногі, каб зрабіць чарговы крок. Жыжа цягнула, не адпускала...

Нечакана воўк спыніўся, моцна ўвязнуўшы ў гразі. Металічны шум сціхнуў.

Спыніўся і Янка. Цяжка дыхаючы, павярнуўся. Паглядзеў на Фенрыра, які беспаспяхова спрабаваў выбрацца з прыроднай пасткі. Воўк заходзіўся ў лютым скавытанні, але зрабіць нічога не мог. Дрыгва трымала моцна.

Пот, змяшаны з крывёю, заліваў вочы, і былы княжы палонны выцерся рукавом бруднай кашулі. Затым засмяяўся. Вораг быў пераможаны.

Воўк кідаўся з боку ў бок, спрабуючы вызваліць канечнасці, што ўвязлі ў дрыгве. Роў Фенрыра накладваўся на ляск металу. Праз некалькі імгненняў па целе ваўка пачалі скакаць блакітныя іскры. Неўзабаве іх змянілі бледныя бліскавіцы маланак.

Янка перастаў смяяцца, здзіўлена гледзячы на Фенрыра. З ваўком адбывалася нешта дзіўнае — прыхадзень сачыўся рознакаляровымі агнямі, ірваў ікламі скуру, нібы спрабуючы дабрацца да сэрца, якое білася ў магутнай груднай клетцы. Касмылі бруднай, збітай поўсці ляцелі ў розныя бакі. Разлічваючы ўбачыць акрываўленыя вантробы ворага, язычнік знерухомеў у нямым здзіўленні — замест цягліц і жыл цела ваўка пакрывалі дзіўныя гнуткія шнуры, замацаваныя пры дапамозе металічных балтоў. Не менш дзівосныя цыліндры рознай формы бесперапынна рухаліся туды-сюды, нараджаючы паскудны металічны ляск. І што самае дзіўнае — аніводнай кроплі крыві...

І тут з’явіліся ЯНЫ...

Асляпляльная ўспышка — і паміж чалавекам і ваўком адкрыліся дзверы, адкуль зыходзіла мяккае зеленаватае святло. Кола паступова пашыралася, мяняючы колер з зялёнага на сіні, а затым яно ўвогуле стала празрыстым.

З брамы з’явілася чацвёра багоў, апранутых у дзіўныя кароткія кашулі з плямамі зялёнага і жоўтага колеру. Такімі ж аляпаватымі былі і нагавіцы прышэльцаў, увабраныя ў скураныя боты, перахопленыя тоўстымі шнурамі, якія ўтрымлівалі абутак на назе. У руках багі трымалі дзівосную зброю — доўгія трубкі незразумелага металу з паўкруглым адгалінаваннем і дзяржальнам, якое заканчвалася спускавой скобай. Але як ні стараўся Янка, разгледзець цяжкія балты ці іншыя кідальныя снарады так і не змог.

Адзін са светлавалосых прышэльцаў дастаў з-за пазухі чорную каробачку і націснуў на яе. Пачуўся піск, і дзіва ажыло, напоўніўшы паветра шумам перадначальнічнага неба.

— База, адкажыце Тору! Прыём!..

Былы княжы палонны, забыўшыся на ўсё на свеце — на боль, ваўка, свой абавязак, — здзіўлена слухаў звонкі голас прыхадня, які шаптаў у чароўную шкатулку

незнаёмыя словы. Ногі ледзь трымалі. Давялося ўхапіцца за ствол напалову спарахнелага дрэва, што тырчэў з багны.

— Аператар, як мяне чуеце? Прыём!.. Мы на месцы... Так, знайшлі. Небяспекі няма. ЧАЛАВЕК разладзіў Фенрыра, як і спадзяваўся штаб. Праўда на баку Вотана — выкарыстанне чалавечага матэрыялу супраць баявых сістэм праціўніка поўнасцю сябе апраўдала. Локі пралічыўся...

Скрыначка рыкнула нешта незразумелае. Тор перавесіў зброю на спіну і, гледзячы на гатовага праваліцца ў каламутную ваду Янку, прамовіў:

— База! У нас груз 300, прашу тэрміновую эвакуацыю...

* * *

Ядзерны рэактар, знясілены няроўнай барацьбой з багнай, якая ўсё глыбей зацягвала кібернетычны арганізм, пачаў перагравацца, рызыкуючы выбухнуць у любы момант. Цэнтральны працэсар дарэмна шукаў каналы сувязі паміж асобнымі ўзроўнямі шматслойнага мозгу. Пашкоджаныя ўдарам сякеры сервапрывады жаласна стагналі і не маглі выцягнуць монстра з гразі. Храміраваны металічны шкілет быў заляпаны брудам, з-за таго заклінілі гідраўлічныя поршні і эластычныя сучляненні. Фенрыр паміраў...

Пагляд механічнага ваўка па-ранейшаму быў накіраваны туды, дзе некалькі імгненняў таму зачыніўся партал міжпрасторавага пераходу, які паглынуў ворага і прымкнуўшага да асаў чалавека. Адзінае вока кібарга гарэла нянавісцю.

Але захавальнікі Гармоніі пралічыліся...

ПЕРАЗАГРУЗКА...

Праз некалькі секунд уключылася дубліруючая сістэма. Унутраны рэзерв аўтаматычнага забойцы, разлічаны на работу ў аварыйным рэжыме, прыйшоў у дзеянне. Фенрыр ажыў і стаў павольна выбірацца з багны.

Вайна працягвалася...



# *АСТЭРОІД «ЗРОБЛЕНА Ў БЕЛАРУСІ»*

***Т**ак называецца адзін з казачных твораў, якi ўвойдзе ў «Касмічную кнігу ў творах беларускіх пісьменнікаў», якую ў гэтым годзе выдасць рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва». Кніга бачыцца ва ўсіх адносінах унікальнай: ад твораў да мастацкага афармлення. Яна будзе прыгожай кнігай, гэта па-першае! А па-другое, стане працягам той своеасаблівай серыі, якая распачыналася ў нашай установе ўжо рарытэтным выданнем «Чырвоная кніга ў казках і вершах беларускіх пісьменнікаў», дзе назва сама раскрывае змест кнігі. А тут будзе Космас… Тое таемнае і бясконцае неба над намі, якое нас зачароўвае і вабіць безліччу сваіх неразгаданых загадак.*

***У кнізе сваімі творамі будуць прадстаўлены самыя розныя аўтары. Найперш класікі: Максім Танк, Анатоль Грачанікаў ды Уладзімір Шыцік, чые фантастычныя творы захаплялі чытачоў не аднаго пакалення. Вельмі адметна раскрые сябе чытачу літаратурная моладзь: ад Сержа Мінскевіча да Кацярыны Хадасевіч-Лісавой.***

***«Касмічная кніга…» адрасуецца дзецям сярэдняга школьнага ўзросту, таму вельмі актыўны ўдзел у яе стварэнні прымаюць тыя пісьменнікі, хто ўжо даўно паспяхова працуе ў дзіцячай літаратуры. Гэта і Алена Масла, і Уладзімір Ліпскі, і Алесь Бадак, і Валянцін Лукша, і Уладзімір Мазго, і Таццяна Мушынская… і шмат-шмат яшчэ хто.***

***Але не толькі казкі і вершы знойдзе чытач у гэтай кнізе. Змястоўныя, лёгка і даходліва напісаныя артыкулы Алеся Карлюкевіча, Янкі Сіпакова, Віктара Гардзея, Міколы Гіля раскажуць чытачам і пра зоркі, якія свецяць над намі, і пра тых, хто імкнуўся да іх, пракладваючы першыя касмічныя трасы, і, безумоўна ж, працаваў у навуковых лабараторыях, адкрываючы тым самым Космас — праз навуку…***

***У сённяшнім «Фантасце» рэдакцыя змяшчае апавяданне Генадзя Аўласенкі, які з'яўляецца адным з аўтараў «Касмічнай кнігі ў творах беларускіх пісьменнікаў». Учытайцеся ў размову хлопчыка з іншапланецянінам, і вы зразумееце, што мы ўсе сапраўды жывём у XXI стагоддзі!***

Ад рэдакцыі



Генадзь АЎЛАСЕНКА

# ВАСЯ ЛАЙДАЧКІН І ІНШАПЛАНЕЦЯНІН

Аднойчы Вася Лайдачкін іншапланецяніна сустрэў. Дакладней, іншапланецянін сам яго напаткаў, у той час, калі Вася, як звычайна, факультатыў па астраноміі прагульваў. Нанёс яму, так сказаць, сяброўскі міжгалактычны візіт.

А справа ў гарадскім парку адбывалася. Сядзеў Вася на лаўцы ў поўнай адзіноце і рабіў адначасова аж тры карысныя справы. Па-першае, марожаным ласаваўся шакаладным, па-другое, музыку гучную слухаў праз навушнікі... ну, і па-трэцяе, проста ва ўсе магчымыя бакі азіраўся ў пошуках чаго-небудзь для сябе цікавага.

І ведаеце, недарма азіраўся. Бо ўбачыў раптам, як лятаючая талерка зусім непадалёку ад яго на траву апусцілася. Самая сапраўдная талерка, круглая, бліскучая... зусім такая, як яе ў фільмах фантастычных паказваюць...

Тут Вася і вырашыў, што гэта фільм нейкі новы побач здымаецца. І нават калі люк у талерцы немаведама адкуль з’явіўся і зялёны іншапланецянін з яго вылез — Вася і тады ніколькі не сумняваўся, што гэта проста артыст нейкі пераапрануты.

А іншапланецянін падышоў да Васі, паглядзеў на яго ўсімі чатырма сваімі вачыма і кажа:

— О, прывітанне табе, брат па розуму!

Прычым, не словамі гэта сказаў, бо ў яго нават ротавай адтуліны на твары не назіралася. А сказаў, хутчэй, тэлепатычна... думкай, так сказаць. І Вася, нават праз музыку сваю гучную, думку ягоную добра пачуў і зразумеў.

Здзівіўся ён, музыку на ўсялякі выпадак выключыў, рэштկі марожанага хуценька праглынуў, паглядзеў на іншапланецяніна больш уважліва.

«Нічога сабе, спецэфектыкі! — думае. — Ды і касцюмчык гэты... трэба ж такі касцюмчык адбойны змайстраваць!»

А іншапланецянін яго, вядома ж, адразу пачуў тэлепатычна. Агледзеў сябе недаўменна і адказвае (таксама праз тэлепатыю сваю):

— А чым табе, брат па розуму, мой касцюмчык не падабаецца? У нас, між іншым, усе так апранаюцца!

А Вася яму ў адказ:

— А можна мне ў вашых здымках крыху паўдзельнічаць? Хоць у масоўцы якой... і лепш, каб у такім вось касцюмчыку...

Тут іншапланецянін зразумеў нарэшце (тэлепат, як-ніяк), што Вася яго за кагосьці іншага прымае. Пакрыўдзіўся нават.

— Ды не! — кажа. — Прычым тут кіно? Я — самы сапраўдны іншапланецянін! Я да вас аж ад самага сузор’я Дракона ляцеў!

— Ага! — адказвае яму Вася саркастычна. — Ад Дракона, кажаш?! Ну, калі ты ад Дракона, дык я тады — ад Гары Потэра! І наогул, хопіць мне мазгі пудрыць, я па «відыку» і не такіх прыкольных іншапланецян бачыў! Лепш скажы: здымуць мяне ў масоўцы вашай ці не?!

Расхваляваўся іншапланецянін ад такога ўяўнага недаверу да сваёй асобы і ад хвалявання з зялёнага адразу ж чырвоным стаў. А з чырвонага — сінім. А з сіняга — аж шэра-бура-малінавым нейкім...

Толькі на Васю гэта асаблівага ўражання не аказала. Ён у фільмах і не такое бачыў.

— Ну, што гэта за спецэфекты такія, — кажа. — Не памятаю нават, у колькіх фільмах я такое ўжо бачыў. Усё гэта — учарашні дзень кінематаграфіі! Нават пазаўчарашні...

— А што мне зрабіць такое, каб ты, нарэшце, паверыў, што я і сапраўды з сузор'я Дракона? — з надзеяй пытаецца іншапланецянін, у свой першапачатковы зялёны колер вяртаючыся.

— Зноў ты за сваё! — кажа Вася. — Ты мне скажы лепш: гэта проста фантастычны фільм будзе ці мо фільм жахаў які?

— Ды які фільм жахаў? — зноў пачаў чырванець іншапланецянін. — Жахі тут пры чым?

— А пры тым, — кажа Вася, — што фільмы жахаў я нават больш паважаю, чым проста фантастычныя!

Тут іншапланецянін з чырвонага колеру ў сіні пачаў перафарбоўвацца.

— Ты верыш, што я іншапланецянін?! — крычыць тэлепатычна. — Верыш ці не?!

Але Васю так проста не возьмеш.

— Тады паверу, — кажа, — калі ў масоўку мяне возьмеце!

І ўмольна так на іншапланецяніна глядзіць, на тое, як ён зноў шэра-бура-малінавым робіцца...

— Ну, што вам, цяжка? Хоць на зусім малюпасенькую ролю якую!

Узвыў тут іншапланецянін (тэлепатычна, вядома), у паветра ўзляцеў і давай над Васевай галавой мёртвыя петлі выраблять.

— Цяпер верыш? — крычыць. — Няўжо і цяпер не верыш?

Уздыхнуў Вася.

— І гэта, — кажа, — не той эфект, з якім вы вялікія касавыя зборы зрабіць зможаце. А вось у тое, што не хочаце вы мяне ў сваім кіно здымаць... у гэта я веру! Скажы хоць, як яно называцца будзе, кіно ваша фантастычнае?

— Ды я ж думкі твае чытаю! — выдаў свой апошні аргумент іншапланецянін. — І размаўляю з табой таксама праз тэлепатыю!

Але Васю на такі прымітыўны аргумент не зловіш.

— Падумаеш, думкі! — кажа ён. — Знайшоў, чым здзівіць! Ды ў кожным з фільмаў фантастычных іншапланецяне гэта рабіць могуць! А чым ваш фільм лепшы?!

Нічога яму на гэта іншапланецянін не адказаў. Лыпнуў толькі на Васю ўсімі чатырма сваімі вачыма, развярнуўся і да талеркі сваёй паляцеў з усёй магчымай хуткасцю. А потым і талерка ягоная бліскучая ў неба накіравалася. Ды так імгненна, што толькі яе і бачылі.

А Вася зноў музыку сваю ўключыў. І зноў пачаў ва ўсе магчымыя бакі азірацца ў пошуках цікавага. І вельмі шкадаваў, што не ўзялі яго ў масоўку ў фільме гэтым фантастычным і нават назву фільма яму не сказалі…

Ну як, скажыце, потым фільм гэты адшукаць і ў «відык» свой закачаць?!



# НА «ТЫ» З ТАЙНАЙ ТАЙНАЎ

***З Арнольдам Фёдаравічам СМЕЯНОВІЧАМ — заслужаным дзеячам навукі, акадэмікам НАН, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам давялося ўпершыню сустрэцца, калі ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, дакладней, пабачыць яго зводдаль… Чалавек, які валодае такой унікальнай прафесіяй, як прафесія нейрахірурга, не можа не звярнуць на сябе ўвагу. Ды і ці толькі унікальнасць прафесіі тут прывабная?!***

***Найперш — талент, тое прызначэнне ад Прыроды, што даецца не кожнаму. А яшчэ разуменне яго далучанасці да чагосьці вельмі таемнага, што спрадвеку тоіць у сабе шмат загадак, іншымі словамі, кожная яго аперацыя — як своеасаблівая размова на «ты» з тайнай тайнаў.***

***Маю на ўвазе, мозг чалавека — той біялагічны механізм, які інфармацыю зроку і слыху перапрацоўвае ў думку… Мецьсправу з падобным механізмам, пагадзіцеся, справа надзвычай тонкая.***

***Сёння Арнольд Фёдаравіч — шаноўны госць «Маладосці», і мы спрабуем высветліць, калі толькі гэта магчыма, што ж такое наш мозг?***

**— Шаноўны Арнольд Фёдаравіч, паколькі гэтую гутарку з вамі рэдакцыя мяркуе змясціць у нашым «Фантасце», таму, адпаведна, і пытанні да вас будуць амаль фантастычныя. Шмат хто сцвярджае, што арганізм чалавека — магутная энергаінфармацыйная сістэма з вялікімі рэзервнымі магчымасцямі, што ён неад’емна звязаны з Сусветам, а значыцца, і з касмічнымі энергіямі... І вось нядаўна чытаю пра жанчыну кшталту славутай Вангі, якая сілаю думкі, што з’яўляецца прадуктам мозгу, можа перамясціцца ў любую зямную мясцовасць і нават у касмічныя прасцягі. Вы, хто ўсё жыццё мае справу з мозгам чалавека, верыце ў такое?**

— Не веру! Можа быць чалавечае жаданне, каб такое было, і не больш таго. Падобныя сцвярджэнні — чыстая фантазія. Ва ўсе часы чалавеку было ўласціва прыпісваць сабе самыя розныя здольнасці, якія не ўпісваюцца ў рэальнае жыццё, дакладней, знаходзяцца па-за межамі рэальнасці. Ну, а што да рэзервных магчымасцей чалавечага арганізма, — мяркую, што гэты рэзерв вялікі. Праўда, людзі не заўжды яго ўмеюць выкарыстоўваць, а найчасцей проста не ведаюць пра яго ды і не хочуць ведаць. Што-небудзь здараецца — і чалавек даволі часта апускае рукі. Гэта тычыцца і здароўя, а тут бы якраз і ўключыць той рэзерв, іншымі словамі, веру ў абавязковае выздараўленне, у запас сваіх сіл. Напрыклад, я, калі бачу, што чалавек не гатовы да нейкай складанай аперацыі, што ў ім — боязь, сумненні, што ён не верыць у паспяховы вынік, ніколі не аперырую чалавека ў моманты такіх настрояў. Чакаю, пакуль ён псіхалагічна не падрыхтуе сябе, пакуль не адкіне ўсялякі страх, не зарыентуе сам сябе на поспех, вось тады і падключаецца той самы рэзерв магчымасцей чалавечага арганізма. Кажуць жа нярэдка: «Адкуль і сіла ўзялася»? А яна з таго самага рэзерву, калі чалавек і не падазраваў, што ў яго ёсць гэтыя сілы. Многае залежыць ад нашых думак, ад таго, на што яны скіроўваюцца.

**— Дык што ж такое наш мозг? Што ён сабою ўяўляе? І ці праўда, што чалавек карыстаецца толькі невялікім працэнтам таго, што ў ім закладзена Прыродай? А якія ж функцыі, ці што адбываецца ў астатняй частцы мозгу? Няўжо ніяк не задзейнічана?**

— Чаму не задзейнічана? Проста ў кожнага чалавека гэта ўсё адбываецца па-рознаму. Шмат што мы атрымліваем ад бацькоў на генетычным узроўні і шмат што ўдасканальваем у сабе самі. Скажам, адзін чалавек асабліва і не імкнецца нікуды, не ставіць перад сабою нейкай пэўнай задачы, мэты свайго жыцця і не рухаецца да яе — праз веды, праз інтэлект, калі хочаце, нават праз свае паводзіны... Ім кіруюць інстынкты. А другі — усяляк сябе развівае, удасканальвае, арыентуецца на духоўнае жыццё. Ва ўсім гэтым актыўна ўдзельнічае і мозг, у працэс уключаюцца ўсе клеткі... Ну, а калі разглядаць яго як матэрыю, ён у нас складаецца, у прынцыпе, з вады. У ім няма нервовых канчаткаў, якія рэагуюць на боль... Рэчыва і рэчыва, але ўсё ад яго! Спыняецца сэрца ў чалавека — і яго можна прымусіць запрацаваць зноў. А калі адключаецца мозг, яго ўжо ніякім чынам не вернеш да жыцця.

**— Думаю, ніхто не стане абвяргаць, што наша жыццё — гэта ланцужок суцэльных стрэсаў. Нават калі адкінуць штосьці вельмі асабістае, стрэсы можа выклікаць і землятрус у тым жа Гаіці, і нязвыкла марозная зіма, і які-небудзь фільм, дзе ўсё закручана на жорсткасці... У выніку парушаецца імунная сістэма арганізма, і ў першую чаргу гэтае парушэнне б'е па сасудах, тых жа самых капілярах. Вы можаце сказаць, што няўменне кіраваць эмоцыямі, як правіла, прыводзіць да інсульту? І як навучыцца гэтаму кіраванню?**

— Сапраўды, да ўсялякага стрэсу мозг вельмі адчувальны... Накаляюцца эмоцыі, і на гэты стан душы вельмі хваравіта рэагуе мозг. Прычым, на эмоцыі адмоўныя. Яшчэ ніколі ніхто не памёр ад вялікай радасці ці ад вялікага шчасця. Не бывае такога, каб чалавека агарнула ці захліснула радаснае хваляванне — і з ім здарыўся інсульт. А вось ад гора, ад пакутлівых перажыванняў, ад балючых крыўд — колькі заўгодна! Разрываецца мазгавы сасуд, і само сабою ўзнікае пытанне: «Што папярэднічала гэтаму?» Адсюль і выснова: трэба жыць па законах дабра і любові, не насіць у сабе злосці, не зайздросціць, не крыўдзіць слабейшага... У Бібліі як напісана: «Усё тваё вяртаецца да цябе». Ты зрабіў камусьці нешта дрэннае, а нехта зробіць тое ж у адносінах да цябе самога. Нельга супрацьстаяць землятрусу, тут чалавек яшчэ бяссільны. А вось жыць у суладдзі з іншымі, імкнуцца да гармоніі ў сабе і ва ўсім свеце ўвогуле — гэта можна.

**— А цяпер зноў амаль фантастыка... Нярэдка кажуць, што Ісціну ведалі ў старажытнасці. Цывілізацыя аддаліла чалавека ад нечага галоўнага. Той жа Геракліт, філосаф старажытнасці, сцвярджаў, што «сіла мыслення знаходзіцца па-за целам». Ці не ад яго — шматлікія тэорыі, што наш мозг — своеасаблівы біялагічны камп'ютэр, у які пры нараджэнні чалавека закладваецца праграма ўсяго яго жыцця. Скажам, той жа лёс, якога ніхто не абмінае. Хіба гэта не тая самая праграма? Але вядома, што ў кожнай праграмы ёсць Праграміст... Даводзілася чуць, што некаторыя навукоўцы, людзі вашай прафесіі, сцвярджалі, што падчас складаных аперацый на мозг у нейкі момант на ўзроўні падсвядомасці гучала каманда: «Стоп! Далей не лезь... Туды нельга чалавеку». Вы ніколі не адчувалі чагосьці падобнага?**

— Ну, як сказаць... Цікавыя моманты на мяжы загадкі здараліся і ў маёй практыцы. Былі аперацыі, якія здаваліся вельмі складанымі, амаль з нулявым варыянтам, і нечакана ўсё абыходзілася. Адбывалася як бы само сабой, нібыта ўжо загадзя чалавеку было забяспечана поўнае выздараўленне. Ён хутка ішоў на папраўку, і працягвалася яго звыклае жыццё. І наадварот, самая простая аперацыя — і раптам... трагічны вынік. А быць такога ну ніяк не магло... тэарэтычна. І ўсё як след рабілася. Ніякі вопыт хірурга нічога ўжо змяніць не мог. Быццам усё кімсьці было прадвызначана.

Ну, а наконт таго, што мозг наш — біялагічны камп'ютэр, тут я дадаў бы яшчэ адно слова: звышдасканалы! Гэта дазваляе бачыць узровень сучаснай навукі.

Думаю я, што ў гэтага камп'ютэра сапраўды ёсць і свой Праграміст... І гэта пакуль загадка для чалавецтва. А прырода!.. Як, што і адкуль? Само па сабе нічога не бывае.

**— Кажуць, што шмат таго фантастычнага, пра што пісаў Жуль Верн, ужо даўно стала жыццёвай рэальнасцю. Яшчэ ў шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя фантастыкай быў і мабільны тэлефон. Нашым часам шмат хто з пісьменнікаў-фантастаў карыстаецца прыёмам, калі думка перадаецца на адлегласць, ад аднаго чалавека — другому, што называецца, адразу з мозгу ў мозг. Як Вы мяркуеце, праз паўстагоддзя ці стагоддзе чалавецтва зможа абыходзіцца без моў? Не толькі ж тэхналогіі развіваюцца, чалавек таксама сам сябе ўдасканальвае, нейкім чынам трэніруе свой арганізм, маю на ўвазе, на духоўным узроўні.**

— Без моў пры любым раскладзе чалавецтва ніяк не абыдзецца. Гэта магчымасць жывога кантакту... А наконт перадачы думкі на адлегласці — не такая гэта ўжо і фантастыка. Падобнае існавала спрадвеку... Хіба з вамі не здаралася калі-небудзь, што варта было вам падумаць пра некага, як тут жа — тэлефонны званок... І звоніць якраз той самы чалавек. Ваша думка перадалася яму, ва ўсялякім выпадку, нейкі імпульс... Навука ўжо працуе над падобнай з'явай, як гэта ўсё адбываецца. І хаця гэта пакуль на ўзроўні выпадковасці, ва ўсялякім выпадку ўспрымаецца як выпадковасць, мне думаецца, што праз не такі ўжо і доўгі час многае адкрыецца чалавецтву ў гэтым напрамку.

**— Арнольд Фёдаравіч, а што вы можаце сказаць пра свядомасць і падсвядомасць? І тое і другое — прадукт мозгу, але ролі, напэўна, розныя. Свядомасць — рэальнае жыццё, а падсвядомасць? Ці не адводзіцца менавіта ёй нейкая галоўная роля? Адным словам, моманты азарэння, а ў нейкай ступені і талент — родам з падсвядомасці. Ці я памыляюся?**

— Вы не памыляецеся. Вось такі просты прыклад... Здараецца, чалавек дзень б'ецца над вырашэннем нейкай праблемы, і так пракручвае, і гэтак, і ўсё — няўдача! І раптам раніцай, на свежую галаву прыходзіць правільнае вырашэнне. Гэта спрацавала падсвядомасць. Пакуль чалавек спаў, спала і свядомае мысленне. А падсвядомасць тым часам працавала, яна прыкідвала варыянты, нешта адпрэчвала, штосьці зводзіла ў адно, а потым выдавала свядомасці вынік сваёй працы. А возьмем студэнта падчас сесіі... Колькі старонак ён перачытвае, часам ужо і не ўсведамляючы, пра што чытае. Потым сам здзіўляецца, як і ўдалося здаць «на выдатна»! Уратавала падсвядомасць, яна ўсё зафіксавала і перадала свядомасці. З падсвядомасцю звязана і інтуіцыя... І гэта ўсё — наш мозг са сваёй індывідуальнай праграмай.

**— А цяпер апошняе пытанне, Арнольд Фёдаравіч... У вас вялікая практыка. Да вас па дапамогу звярталіся самыя розныя людзі, чый мозг вы аперыравалі. Розныя чалавечыя лёсы, жыццё да аперацыі і пасля... Дык ці здараліся калі-небудзь выпадкі, пра якія можна сказаць «цуд, дый годзе!»**

— У прынцыпе, аднойчы ў мяне быў такі выпадак... І гэта сапраўды як цуд, якому і тлумачэння няма. Мы ўсе прывыклі бачыць гэтыя два паўшар'і чалавечага мозгу, якія нагадваюць грэцкі арэх. І вось маладзенькая студэнтка кансерваторыі, у якой выяўлена пухліна мозгу, аказваецца маёй пацыенткай. Яе трэба аперыраваць. Я таксама ўдзельнічаю ў гэтай аперацыі і вось бачу, што ў дзяўчыны цалкам адсутнічае правае паўшар'е мозгу. Ёсць толькі адно — левае, з якім яна і жыла. Пухліну ёй выдалілі, усё астатняе застаецца і да гэтага часу загадкай. Дзяўчына закончыла кансерваторыю, стала выдатным музыкантам. Лёс яе закінуў у Амерыку, там яна ўзяла шчаслівы шлюб з вельмі багатым амерыканцам, нарадзіла дзіцяц... Цалкам нармальнае жыццё выключна здаровага чалавека. Дык няўжо ўсе функцыі можа выконваць і адно паўшар'е? Для чаго тады наш мозг запраграміраваны на два?

**— Вялікі дзякуй за гутарку, шаноўны Арнольд Фёдаравіч.**

***Гутарыла Р. БАРАВІКОВА.***

Ірына КЛІМКОВІЧ

# АХВЯРЫ ЖАХЛІВЫХ АБРАДАЎ


Рэканструкцыя Крэўскага замка.

***Шмат у якіх народаў свету, у тым ліку і ў беларусаў, існуюць легенды і паданні пра замураваных людзей. Нібыта апошнім прытулкам для небаракаў сталіся вежы і падмуркі сярэднявечных замкаў, сцены гарадскіх умацаванняў, а то і храмаў. У такіх гісторыях безліч вельмі рэалістычных падрабязнасцей. А як вядома, праўда заўсёды схаваная ў дэталях. Мо і сапраўды ў далёкім мінулым пры ўзвядзенні гмахаў прыносіліся чалавечыя ахвяры? І толькі потым людзей замянілі на жывёлаў, на грошы? Нават сёння цеслі кладуць манеты па кутах новага зруба, інакш, кажуць, хата стаяць не будзе — разваліцца.***

***Існаванне будаўнічых ахвяр у мінулым пацвярджаецца фальклорнымі крыніцамі і дадзенымі этнаграфіі, а таксама матэрыяламі археалагічных раскопак.***

### АДЗІНАЕ ДЗІЦЯ Ў АХВЯРУ

На працягу ўсяго Сярэднявечча ў Заходняй Еўропе складаліся легенды і сагі пра замураваных людзей, якіх закладалі цэглай ці камянямі ў падмурках дамоў, у сутарэннях замкаў, кляштараў, касцёлаў. Ахвярамі часцей за ўсё станавіліся дзеці-бязбацькавічы, адзіныя сыны будаўнікоў, часам і самі будаўнікі. Чаму такое адбывалася? Адказ даюць самі паданні і легенды. Ахвяры рабіліся, каб забяспечыць трываласць і даўгавечнасць новабудоўлі. Замкі і муры дзякуючы бязвіннай будаўнічай ахвяры нібыта рабіліся непрыступнымі для ворагаў, растрэсканыя сцены цудоўным чынам умацоўваліся. Душа ж замураванага чалавека ў выглядзе здані рабілася верным ахоўнікам будынка, ратавала яго ад зруйнавання, землятрусу, патопу і нападу ворагаў.

Так, легенда пра будаўніцтва абарончых муроў Магдэбурга распавядае пра тое, як гарадская брама адразу ж пасля яе ўзвядзення пачала развальвацца. Нягледзячы на ўсе намаганні будаўнікоў умацаваць яе, зробленае рассыпалася. Пасля трэцяй спробы ўратаваць браму будаўнікі звярнуліся да мясцовага астролага. Ён падказаў: каб гарадскія сцены выстаялі, трэба замураваць у іх хлопчыка, якога без усялякага прымусу ахвяруе яго маці. У той час, калі вялося будаўніцтва, адна з фрэйлін каралеўскага двара Маргарыта чымсьці правінілася і павінна была пакінуць горад. Тады ж у Маргарыты загінуў каханы, а яе маёмасць разрабавалі. Каб не застацца без пасагу, бо спадзявалася зноў выйсці замуж, яна за вялікія грошы пагадзілася ахвяраваць гораду свайго маленькага сына. У браме муляры зрабілі адмысловую нішу з маленькай адтулінай уверсе, каб дзіцёнку было чым дыхаць. У тую нішу і пасадзілі няшчаснага хлопчыка, у рукі яму далі кавалак хлеба. Даведаўшыся пра гэта, новы жаніх Маргарыты выракся сваёй бязлітаснай нявесты, і яна мусіла з’ехаць на чужыну. Праз пяцьдзесят гадоў Маргарыта вярнулася ў Магдэбург лядашчай старой — прасіць дазволу пахаваць свайго загубленага сына па хрысціянскаму звычаю. Малады муляр пашкадаваў яе і падняўся па высокіх драбінах на самы верх гарадской сцяны. Калі ён адсунуў некалькі



*На будоўлі старога горада.*

камянёў і зазірнуў у нішу, то крыкнуў тым, хто стаяў унізе, што бачыць чалавека з бліскучымі вачыма. Яшчэ малады муляр паведаміў, што перад ім маленькі сівы стары, доўгая белая барада якога цягнецца долу і глыбока ўрасла ў камяні. А над галавою пакутніка, паміж каменнымі плітамі, акурат над адтулінай, птушкі ўладкавалі сабе гняздо. Нібыта яны і прыносілі замураванаму ежу. Калі сівога чалавечка выцягвалі з нішы, усім, хто стаяў унізе, здавалася, што яны чуюць енкі і стогны. Але ў дзённым святле стала зразумела, што выцягнулі не старога карліка, а скамянелага няшчаснага дзіцёнка. Вось такая гісторыя.

Падобную легенду расказваюць і пра заснаванне сённяшняй дацкай сталіцы, горада Капенгагена. Рабілі насып на месцы будучага горада, але, колькі разоў ні распачыналі, зямля правальвалася. І тады нехта падказаў, што патрэбна жывая ахвяра. Будаўнікі адкупілі ў маці-валацугі маленькую дзяўчынку, далі ёй у рукі булку. Малая думала, што маці з ёю гуляе, жартуе. Калі дзіця замуроўвалі, дзяўчынка яшчэ бачыла людзей і крычала: «Мама, мама, я бачу цябе!» Камяні клаліся адзін на адзін, і дзяўчынка пачала прасіць майстра: «Дзядзечка, пакіньце мне хаця б маленькую дзірачку, каб я магла праз яе глядзець». Муляр расчуліўся, кінуў кельму і адмовіўся рабіць сваю жудасную працу. І тады завяршыў яе малады вучань. Нарэшце лёг апошні камень... На працягу сямі гадоў яшчэ чуліся па начах крыкі замураванага дзіцяці. І на гэтыя крыкі з усіх бакоў зляталіся галкі. Гараджане лічылі, што гэтыя птушкі — душы нелюдзяў-будаўнікоў, якім наканавана лётаць вакол замка да тых часоў, пакуль ён не зруйнуецца. А непрыкаяны цень маці нібыта яшчэ і сёння блукае на гары ў суседнім з Капенгагенам лесе.

Паданні сведчаць, што чалавечыя ахвяры складалі нават пры пабудове хрысціянскіх храмаў...

І падобныя легенды расказваюць не толькі пра сярэднявечныя будоўлі. Так, у Саксоніі распавядаюць пра будаўніцтва чыгуначнага моста праз даліну Гольч. Нібыта ўсё, што за дзень паспявалі зрабіць рабочыя, за ноч і развальвалася. Нарэшце будаўнікі ўзгадалі старажытны звычай і таемна некага замуравалі ў апору моста. Мост той стаіць і сёння.

## «...ДЗЕЛЯ ЦУДУ І ДЗЕЛЯ ВЫРАТАВАННЯ ЖАНОК...»

Прыклады можна доўжыць і доўжыць. Іх шмат па ўсім свеце. З заходнееўрапейскіх легендаў і саг зразумела, што пры ўзвядзенні сярэднявечных пабудоў нярэдка будаўнічай ахвярай былі дзеці. Паводле ж славянскіх легендаў, у пабудовах замуроўвалі не дзяцей, а выпадковых людзей, якія праходзілі непадалёк. Часцей за ўсё маладых жанчын.

Пра гэта гавораць балгарскія і сербскія паданні. Абрад прынясення будаўнічай ахвяры падрабязна апісаны ў сербскай народнай песні «Пабудова Скадра», насамрэч прысвечанай узвядзенню старажытнага горада Сербіі Скутар (Скадр). Нібыта трое легендарных братоў з трыма сотнямі майстроў тры гады ўзапар будавалі крэпасць Скадр на рацэ Баян. Але яны не здолелі нават закончыць падмурак. Усё, што яны рабілі за дзень, уначы разбурала мясцовая Віла (жаночы міфічны персанаж). Нарэшце Віла запатрабавала, каб у ахвяру прынеслі жонку аднаго з трох братоў-будаўнікоў, маўляў, тады яна кіне перашкаджаць, дазволіць збудаваць замак. Браты пагадзіліся. Пацярпела жонка малодшага — Гойка. Жанчына спачатку думала, што з ёй жартуюць, смяялася, калі яе абкладалі камянямі і бярвёнамі. А калі зразумела, што адбываецца, пачала маліць муляраў пакінуць хаця б адтуліну для грудзей, каб яна магла карміць свайго

адзінаццацімесячнага сына. І адтуліну для вачэй — каб магла бачыць дзіця. Просьбу выканалі, і небарака цэлы год карміла немаўлятка. «Як было тады, — канчаецца сербская песня, — так засталося і па сёння — дае яна жыццядайную вадкасць дзеля цуду і выратавання жанок, у якіх няма малака».

У іншых паўднёваславянскіх сагах таксама згадваюцца замураваныя жанчыны, якія кормяць сваіх немаўлят. Дзеля гэтага ў мурах нібыта пакідалі адмысловыя адтуліны. Быццам бы малако і сёння цячэ праз іх са сцяны. Цяперашнімі фалькларыстамі зафіксаваны цікавы звычай. Так, баснійскія жанчыны непадалёк ад горада Цяшаня і балгаркі Кадзінава Моста выкалупліваюць даўні вапнавы рошчын з пабудоў, дзе нібыта ў старыя часы былі замураваныя маладыя маці. Вапну разбоўтваюць у малацэ і п’юць. Жанчыны вераць, што ад гэтага цудадзейнага сродку ў іх пабольшае груднога малака.

## БЕЛАЯ ПАННА

Пра замураваных жанчын распавядаюць і айчынныя легенды. Узгадаем знакаміты прывід з Гальшан — Белую Панну. Упершыню яе вобраз выкарыстаў у мастацтве Уладзімір Караткевіч у рамане «Чорны замак Альшанскі». Праўда, там аўтар называе яе Чорная Дама. Тым не менш Чорнай Дамай апошнім часам традыцыйна называюць прывід Нясвіжскага замка. А да будаўнічых ахвяр каралева Барбара з Радзівілаў адносін не мае. З гальшанскім жа прывідам — тая самая старадаўняя гісторыя.

Легенда распавядае пра будаўніцтва францысканскага кляштара ў Гальшанах. Фундатар Павал Стэфан Сапега прымеркаваў скончыць будаўніцтва на вялікае касцельнае свята. Амаль усё ўжо было гатова. Але ў час агляду будынка адна са сцен нечакана абвалілася. Магнат загадаў тэрмінова аднавіць яе. Але і ў другі раз сцяна абвалілася ў яго прысутнасці. Сапега раз’юшыўся. «Калі ў вызначаны тэрмін не скончыце будынак, то не атрымаеце за працу ані шэлега» — так нібыта сказаў ён. Будаўнікі сабраліся на нараду. Самі ж ведалі, што працавалі сумленна і мур мусіць стаяць. А таму яны вырашылі, што будоўля патрабуе ад іх ахвяры. І аддаць трэба самае дарагое. Параіліся і дамовіліся, што замуруюць жонку, якая першай прынясе на будоўлю палудзень свайму гаспадару. Пачуўшы гэта, захваляваўся малады цесля, стаў маліць Бога, каб яго прыгожая жонка забавілася дома і не прынесла яму палудзень першай. Але яго малітвы, відаць, не былі пачуты. Менавіта яе, маладую і прыгожую, замуравалі ў сцяну... Прайшлі стагоддзі, разбурыўся Гальшанскі замак, колькі разоў перабудоўваўся касцёл, а кляштар стаіць нязрушна. Душа маладой жанчыны трымае яго...

Гісторыя мае працяг. У сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя пры рэстаўрацыі кляштара, які захаваўся амаль у першапачатковым выглядзе з часу пабудовы — пачатку XVII ст., у сутарэннях выявілі замураваны ў нішы шкілет. Гэта не было звычайнае пахаванне. Косткі ляжалі даволі дзіўна. Ногі — пад сцяною, чэрап — бліжэй да цэнтра пабудовы, рукі раскінутыя крыжам... Быццам некалі чалавек стаяў на каленях і «трымаў» будынак. Калі парэшткі дасталі на паверхню і паказалі медыкам, тыя адзначылі, што шкілет належаў маладой жанчыне. А неўзабаве ад таго самага месца, адкуль забралі парэшткі, праз увесь будынак прайшла расколіна. Косткі вырашылі пахаваць на мясцовых могілках. Гэта даручылі двум жыхарам Гальшан. Невядома, ці выканалі яны абяцанае. Па хуткім часе абое неспадзявана памерлі. Мясцовыя людзі кажуць, гэта помста нябожчыцы, бо насамрэч мужчыны косткі не пахавалі, а проста выкінулі. З таго часу ў кутняй келлі кляштара, што на першым паверсе, пачаў з’яўляцца прывід Белай Дамы — паўпразрысты сілуэт жанчыны з зачасанымі назад доўгімі валасамі. Вядома ж, пайшла пагалоска, пра здань напісалі ў газетах. Госці і турысты, якія адважваліся застацца ў былым кляштары нанач, потым распавядалі з жахам, як рухаліся сцены, круцілася столь. На цікаўных навальвалася, прыціскала да ложка нейкая цёмная сіла, чуліся крокі, рыпела падлога. Здаралася, шукальнікі прыгод страчвалі прытомнасць, а вярталіся да свядомасці ўжо на падлозе — далёка ад ложка. Узброеныя прыборамі «паляўнічыя на прывідаў» фіксавалі ў будынку моцныя лакальныя электрамагнітныя палі. Выдае на тое, што душа будаўнічай ахвяры помсціць людзям за парушаны спакой.



*Узвядзенне сярэднявечных муроў.*

**ПРЫВІД З САБАЧКАМ І ІНШЫЯ...**

Ёсць свая здань і ў Крэве. Распавядаюць, нібыта прывідная Дама па начах ходзіць па замкавым двары, ды не адна, а з сабачкам. Паводле мясцовай легенды, некалі ў замку жылі два князі. Абодва закахаліся ў прыгажуню. На двубоі адзін князь забіў другога. Пераможца прапанаваў дзяўчыне руку і сэрца. Але яна адмовіла. Раззлаваны князь наклаў на яе закляцце і загадаў замураваць. Разам з прыгажуняй замуравалі і яе маленькага сабачку… З таго часу і пачалі заўважаць прывідаў — красуню з сабачкам. Здані няспешна ішлі ўздоўж муроў, а потым раптоўна знікалі. Знаходзіліся адчайныя юнакі, якім карцела сустрэцца з прывіднай прыгажуняй. Паненка нібыта таксама не абмінала іх увагай. Яна раскідала для абдымкаў рукі, глядзела на хлопца затуманенымі вачыма і голасам, поўным жарсці, клікала да сябе. Некаторыя ішлі да яе. Уранні іх знаходзілі нежывымі...

Легенда кажа — гэта было даўно. А калі верыць жыхарам Крэва, то «прыгажуня»-прывід з’яўляецца ў замку і сёння. Але час не пашкадаваў нават здань. У нашы дні па замкавым двары шпацыруе ўжо не маладая паненка з сабачкам, а старая пані, яе суправаджае сабачы шкілет.

З беларускіх легенд вынікае, што ў нашай краіне ў часы сярэднявечча таксама існаваў старажытны еўрапейскі абрад прынясення будаўнічай ахвяры. Пазней замест чалавека сталі прыносіць у ахвяру жывёлаў або іх часткі. Так, жыхары мястэчка Мір распавядаюць пра замураваную ў паўднёвай сцяне замка галаву барана. Калі яе адтуль дастаць, замак нібыта рассыплецца.

Некаторыя легенды трансфармуюцца пры пераказах. Так, у легендзе Крэўскага замка гаворка пра будаўнічую ахвяру наўпрост не вядзецца. Дзяўчыну замуравалі, нібыта на тое, каб пакараць, бо яна была занадта пераборлівай у каханні. Тым не менш ясна, што першапачаткова мелася на ўвазе менавіта бязвінная будаўнічая ахвяра. І ўвогуле, прааналізаваўшы старажытныя беларускія легенды, якія тычацца манументальных будоўляў, можна ў некаторых з іх знайсці водгаласы жудаснага абраду. У некаторых легендах згадваюцца быццам бы выпадковыя няшчасныя здарэнні — гіне адзін з будаўнікоў. Так, паданне пра ўзвядзенне віленскага касцёла Святой Ганны распавядае пра маладога і старога майстроў. Калі стары, настаўнік маладога, убачыў, што вучань пераўзышоў яго ў майстэрстве, то ад зайздрасці і злосці скінуў яго з рыштаванняў. Маладога будаўніка нібыта пахавалі ў адной са сцен храма. Захавалася паданне яшчэ пра адзін падобны падазроны выпадак: быццам бы падчас узвядзення будслаўскага касцёла сарваўся з рыштаванняў сын аднаго з галоўных будаўнікоў, і яго пахавалі перад галоўным уваходам у касцёл. Але ж і ў гэтым даволі познім паданні прасочваецца тэма будаўнічай ахвяры — замураваны ў новабудоўлі юнак.

**НАВОШТА?**

І ўсё ж, што вымагала будаўнікоў рабіць «будаўнічыя ахвяры»? Які сэнс бачылі ў іх нашы продкі?

Адны даследчыкі лічаць, што гэты рытуал — сімвалічны паўтор на зямным узроўні акта стварэння свету. У старажытных культурах жытло чалавека параўноўвалася з Сусветам і чалавечым целам. Так, нібыта з розных частак міфалагічнага волата былі створаны розныя зямныя ландшафты. Іншыя навукоўцы сцвярджаюць, што ахвяра — плата духам за права будаваць на тэрыторыі, якой яны валадараць. Каб

вызваліць пляц пад будаўніцтва, звычайна даводзілася высякаць і выкарчоўваць дрэвы. А значыць — знішчаць іх! У старажытнасці ж існаваў культ дрэў, іх лічылі жывымі істотамі, ушаноўвалі. Таму, каб душы загубленых дрэў не помсцілі людзям, ім і прыносілі ахвяру. А яшчэ ў кожнай мясцовасці ёсць свае духі-гаспадары. Узгадаем Вілу з сербскай легенды... Калі будавалі мост або вадзяны млын, даводзілася ўлагоджваць вадзяных духаў.

І нарэшце, людзі раней верылі ў тое, што душа ахвяры робіцца ахоўнікам будынка. Каб дом, храм, мост стаялі трывала і доўга, яны павінны атрымаць душу. А перасяленне душы, па старадаўніх вераваннях, магчыма толькі шляхам ахвяры. Замураваны чалавек ператвараўся ў духа-ахоўніка, бо лічылася, што душы тых, хто пайшоў з жыцця заўчасна і гвалтоўна, застаюцца на зямлі — на месцы сваёй пагібелі ці пахавання. Такім чынам, гаворка ідзе пра людзей, якія не дажылі свайго тэрміну, не вычарпалі адмеранай ім жыццёвай энергіі. Такое тлумачэнне ўзнікнення прывідаў даецца ў шматлікіх паданнях. Так, здані князёўны або рыцара, заўчасна забітых ворагамі і пахаваных на гары, робяцца духамі-гаспадарамі гэтай гары. Дзяўчаты ператвараюцца ў русалак і ахоўваюць вадаёмы, дзе патанулі. Манахпустэльнік, які заблукаў і не выйшаў з пячорных лабірынтаў, робіцца пазней прывідам і духам-ахоўнікам падзямелля.

Такім чынам, рабіць будаўнічыя ахвяры нашых продкаў вымагалі іх вераванні і ўяўленні пра той свет, у якім яны жылі. І нельга меркаваць пра іх з пункта гледжання сённяшняга дня. Магчыма, нашым нашчадкам некаторыя сённяшнія жыццёвыя правілы і маральныя абгрунтаванні таксама будуць здавацца дзіўнымі, недарэчнымі і залішне жорсткімі. Чалавечыя ўяўленні пра свет і яго законы мяняюцца.

Народы ўдасканальваюцца і ў тэхнічным плане, і ў маральным. Ёсць легенда і пра тое, як нашы продкі адмовіліся рабіць чалавечыя ахвяры.

**ЛЕГЕНДА ПРА ВІЛЕНСКІ ЗАМАК**

Князь Гедымін, калі перанёс сталіцу з Трокаў у Вільню, вырашыў збудаваць на Тур'яй гары магутны замак. І каб замак гэты быў непрыступным для ворагаў, і каб слава пра яго пайшла па ўсім свеце. Склікаў ён жрацоў з чараўнікамі і спытаў: што для гэтага трэба? Вярхоўны жрэц адказаў, што замак будзе трывалым, калі пры закладцы першага каменя ў падмурак будзе прынесена ў ахвяру жыццё адзінага любімага сына. Ды так, каб сама маці штурхнула яго ў яміну і заваліла вялікім каменем.

Паскакалі княжацкія ганцы па ўсёй Літве, адшукалі, нарэшце, самотную жанчыну, якая так горача любіла радзіму, што дзеля яе пагадзілася ахвяраваць сваім адзіным сынам. З'явіліся маці з сынам на тое месца, дзе збіраліся будаваць замак, для падмурку якога ўжо была выкапаная яміна. Маці гатовая была штурхнуць туды свайго сына. Але сам юнак сумняваўся, што багі Літвы такія крыважэрныя і вымагаюць яго смерці. І папрасіў ён князя перад смерцю задаць жрацам тры пытанні. Калі адкажуць правільна, тады ён паверыць у волю багоў і развітаецца з жыццём без ваганняў.

Князь пагадзіўся. Юнак спытаў у жрацоў: што ў свеце самае лёгкае, што самае цвёрдае і што самае салодкае? Жрацы параіліся і адказалі: самае лёгкае — пух, самае цвёрдае — сталь, а самае салодкае — мёд. Пачуўшы адказы, юнак прамовіў: «Самае лёгкае ў свеце — дзіця на руках у маці, самае салодкае — малако маці для дзіцёнка, а самае цвёрдае ў свеце — сэрца маёй маці, якая сама прывяла мяне сюды, каб я загінуў на вашых вачах».



*Рэканструкцыя Верхняга замка ў Вільні.*



*«Калі выцягнуць галаву барана — замак рассыплецца».*

Князь задумаўся: «Не, не дазволю забіць гэтага юнака. Жывы ён прынясе Літве больш карысці, чым мёртвы!»

Але ж замак трэба будаваць. Жрацы пачалі раіцца, варажыць і, нарэшце, вызначылі, што багі патрабуюць ахвяры нявіннай дзяўчыны, якая памрэ добраахвотна. Зноў пра волю багоў было абвешчана па ўсёй Літве. І на Тур'ю гару паднялася нявінная дзяўчына. Яна прыбралася, як на вялікае свята: на галаве вянок з руты, а ў руках букецік палявых кветак. Дзяўчына ўкленчыла перад князем і жрацамі, а потым сама скочыла ў яміну. Ёй было зусім не шкада на карысць радзімы аддаць сваё маладое жыццё. Вярхоўны жрэц з дапамогай чараўнікоў і святароў саштурхнуў у яміну агромністы камень. Але тут адбыўся цуд — камень не закрануў дзяўчыну, а толькі выбіў з яе рукі кветкі. І тут не вытрымалі сэрцы адважных рыцараў з княжацкай дружыны. Пачалі яны прасіць Гедыміна злітавацца над дзяўчынай. Бо памыліліся варажбіты, багі самі выявілі сваю волю — ім дастаткова букеціка палявых кветак. А жыццё дзяўчыны, якая так горача і аддана любіць сваю радзіму, патрэбна Літве.

«Добра, — сказаў Гедымін, — шкада мне людскіх жыццяў. Багам жа хопіць і кветак. На іх і паўстане той замак, пра які я мару».

***Сучаснаму чалавеку складанне будаўнічай ахвяры справядліва падаецца сярэднявечным цемрашальствам. Аднак ці не большасць з нас несвядома працягвае падобныя традыцыі. Некаторыя прымхі і забабоны настолькі трывала ўвайшлі ў жыццё, што ў змененым выглядзе дзейнічаюць і дагэтуль. Да прыкладу, людзі і сёння, калі засяляюцца ў новую кватэру, наперад сябе пускаюць котку. Відаць, мы патаемна спадзяёмся, што менавіта на яе і пяройдуць няшчасці, якія чакаюць гаспадароў на новым месцы. А пры ўзвядзенні мастоў, віядукаў будаўнікі і дагэтуль нярэдка трымаюцца старадаўняй традыцыі. Пры здачы гатовага аб'екта, калі яго выпрабоўваюць на максімальную нагрузку праходам цяжкой тэхнікі, пад мастом становяцца інжынер-праекціроўшчык і прараб. Гэта не прапісана ані ў якіх правілах, але ж прафесійны гонар абавязвае будаўнікоў расплаціцца жыццём за ўласныя памылкі, калі такія здарацца. Старадаўні жахлівы абрад адгукаецца рэхам і ў XXI стагоддзі. Несупакоеныя душы сярэднявечных ахвяр дагэтуль блукаюць па нашых камяніцах.***



# НОВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ: НАД ЧЫМ ПРАЦУЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ НАВУКОЎЦЫ

***Навукоўцы НАН Беларусі ў 2009 годзе стварылі больш за 2,6 тысячы навуковых распрацовак. У тым ліку мадэлі машын, абсталявання, прыбораў, новыя матэрыялы, рэчывы, інструменты, тэхналагічныя працэсы, сістэмы і комплексы, аўтаматызаваныя сістэмы кіравання. Плён леташняй працы навукоўцаў: больш за 170 новых гатункаў раслін, парод жывёл і прэпаратаў.***

***Арганізацыі НАН распрацавалі 620 арыгінальных метадаў і методык даследаванняў, 240 тэхналогій у розных галінах, у прыватнасці, у матэрыялазнаўстве, перапрацоўцы адкідаў, падрыхтоўцы вады, геннай інжынерыі.***

* * *

Летась створаны тры цэнтры: біятэхналагічны, светадыёднай тэхнікі і ДНК-тэхналогій. Найвялікшыя поспехі дасягнуты ў галіне медыцынскіх навуковых распрацовак. Інстытуты НАН актыўна стваралі і працягваюць ствараць айчынныя аналагі замежных лекаў. Прыярытэтнымі з'яўляюцца навуковыя распрацоўкі для лячэння анкалагічных захворванняў, а таксама кардыялагічных хвароб у немаўлят і інш.

* * *

У навукова-практычным цэнтры па матэрыялазнаўству распрацаваны шматслойныя плёначныя экраны для аховы ад электрамагнітнага ўздзеяння. Яны выкарыстоўваюцца пры стварэнні бартавой касмічнай апаратуры. Навукоўцы цэнтра таксама стварылі і танкаплёначныя фотатрансфарматары. Яны патрэбныя для фарміравання лёгкіх, устойлівых да радыяцыі, элементаў сонечных батарэй, ад якіх сілкуюцца касмічныя апараты.

* * *

Інстытут цепла- і масаабмену працягвае працу па аптымізацыі энергазабеспячэння. Навукоўцы завяршылі даследаванні ў галіне выкарыстання плазмы для пераапрацоўкі пестыцыдаў і іншых шкодных рэчываў. У краіне назапашваецца да 1,5 тысяч тон такіх рэчываў у год, і іх неабходна утылізаваць. Значнасць даследаванняў вялікая. Яны будуць запатрабаваны і за межамі краіны. Інстытут агульнай і неарганічнай хіміі сумесна з «Беларуськаліем» распрацавалі тэхналогію па вытворчасці новых комплексных угнаенняў, якая цяпер праходзіць выпрабаванні.

* * *

У Інстытуце фізікі імя Б. І. Сцяпанава створаны метад аховы інфармацыі ад несанкцыяніраванага доступу ў камунікацыйныя сеткі. Ён забяспечвае ананімнасць іх удзельнікаў.

* * *

Навукоўцы Інстытута матэматыкі распрацавалі дэтальны алгарытм разліку распаўсюджвання полымя пры пажарах у памяшканнях. Гэтая праца будзе выкарыстоўвацца пры праектаванні эвакуацыйных шляхоў у будынках.

## ЛАЗЕРЫ

Выкарыстанне адмысловых хірургічных лазераў пры правядзенні аперацый дазваляе, па-першае, павялічыць дакладнасць, а па-другое — зніжае верагоднасць таго, што ў арганізм пацыента

трапяць мікробы. У 2010 годзе ў беларускіх бальніцах з’явяцца унікальныя троххвалевыя медыцынскія хірургічныя лазеры. Яны не маюць аналагаў і могуць выкарыстоўвацца пры аперацыях на ўсіх відах біялагічных тканак. Галоўнай перавагаю такіх лазераў з’яўляецца спалучэнне шырокага спектра магчымасцей у адным апараце. Пры ўжыванні гэтых прыбораў урачы змогуць значна палегчыць пакуты хворых, да прыкладу, пры лячэнні варыкозу. Плануецца разгарнуць гэтую унікальную вытворчасць у Беларусі такім чынам, каб пастаўляць прыборы і за мяжу.

* * *

Зусім нядаўна завершана распрацоўка яшчэ аднаго унікальнага медыцынскага апарата лазернага ўнутрывеннага апраменьвання крыві «Айбаліт». Гэта своеасаблівая «лазерная кропельніца», пры дапамозе якой мажліва запампаваць энергію лазера ў кроў чалавека. Ужыванне апарата павышае імунітэт, стымулюе і дапамагае мабілізаваць сілы для барацьбы з захворваннямі і стрэсам. Прыбор вельмі кампактны.

* * *

Новыя лазерныя тэхналогіі і прыборы ствараюцца і для прамысловасці. У тым ліку — спецыяльная ўстаноўка для маркіроўкі дыяментаў. Яна дазваляе пры агранцы каштоўных камянёў рабіць незаўважныя воку надпісы. Да прыкладу, наносіць нумар каменя або іншую інфармацыю вытворцы. Памер надпісу — 20—40 мікрон. З дапамогаю такой тэхналогіі вядзецца ўлік і ідэнтыфікацыя ювелірных вырабаў.

* * *

Пачынаючы з 1966 года беларускі навуковец Міхаіл Цяўлоўскі займаецца праблемай баявых атрутных рэчываў (БАР), затопленых у акіяне пасля Другой сусветнай вайны. Ім упершыню ў свеце выкананы унікальныя фундаментальныя даследаванні, выкладзеныя ў праекце «Vita Aeterna». Навуковец давёў: калі БАР трапляюць у марскую ваду, яны распадаюцца і ствараюць новыя, яшчэ больш атрутныя рэчывы, якія здольны знішчыць біясферу Зямлі. Даследаванні даказваюць памылковасць Лонданскай і Хельсінскай канвенцый, прынятых 78 марскімі дзяржавамі свету, на падставе якіх было вырашана не чапаць затопленыя БАР. Абедзве гэтыя канвенцыі ўзяла на ўзбраенне Міжнародная Марская Арганізацыя (ММА), у склад якой уваходзяць 150 дзяржаў свету.

Прафесар Цяўлоўскі давёў, што атрутныя рэчывы ў марской вадзе распадаюцца на больш простыя, але вельмі трывалыя атрутныя рэчывы. У выніку руху марскіх плыняў яны хутка распаўсюджваюцца і наносяць непапраўную шкоду ўсяму жывому. Апроч таго, затопленыя БАР могуць выкарыстаць тэрарысты. Атрута можа трапіць у ваду ці ў паветра ў выніку тэктанічных працэсаў. А землятрусаў у акіянах за адны суткі адбываецца больш за 220.

* * *

Археолагі з Інстытута гісторыі выявілі ў Талачынскім раёне Віцебскай вобласці старажытнае пахаванне. Вучоныя адносяць унікальную знаходку да XI—XII стагоддзяў — у адным месцы адразу 38 пахаванняў паводле паганскага абраду, у цэнтры — каменны саркафаг, у якім знайшлі чалавечы чэрап. Археолагі не выключаюць, што гэта пахаванне ваяроў з военачальнікам, якія загінулі ў бітве. Што гэта была за падзея — тэма для далейшых даследаванняў. Друцкі курган — адзіны ва Усходняй Еўропе, дзе ёсць пахаванні паводле паганскага абраду і разам з тым каменны саркафаг.

Даследчыкі гэтага ж інстытута знайшлі на тэрыторыі Шклоўскага замка невядомую раней пабудову — падмурак вежы XVI—XVII стагоддзяў.

* * *

Беларускія фізікі ўзялі ўдзел у стварэнні новага абсталявання для Міжнароднай касмічнай станцыі (МКС). Супрацоўнікі Навукова-даследчага інстытута прыкладных фізічных праблем імя А. Н. Сеўчанка Белдзяржуніверсітэта сумесна з Інстытутам геаграфіі Расійскай акадэміі навук распрацавалі фотаспектральную сістэму для прагнозу і маніторынгу прыродных і тэхнагенных катастроф. Інавацыйнае абсталяванне будзе зманціравана на МКС. Цяпер сістэма на завяршальным этапе выпрабоўваецца ў ракетна-касмічнай карпарацыі «Энергія». Плануецца, што ўжо на пачатку лета гэтага года яна будзе дастаўлена на МКС грузавым караблём «Прагрэс» і ўсталявана там на расійскім сегменце для правядзення касмічнага эксперымента «Ураган».

З дапамогаю інавацыі навукоўцы атрымаюць дадатковыя магчымасці прагназіраваць, адсочваць прыродныя і тэхнагенныя катастрофы. Новая сістэма дазволіць вызначыць арэал распаўсюджвання пылавых віхраў, выяўляць маштабы забруджванняў пры аварыях на прамысловых аб’ектах і нафтаправодах, рэгістраваць тэмпы праходжання і фронты вясновага раставання снегу. Такая распрацоўка дапаможа вырашаць экалагічныя праблемы. У тым ліку даследаваць дынаміку зарастання ворыўнай зямлі, адсочваць тэхнагеннае ўздзеянне на прыродны асяродак, вывучаць буйныя масівы лясоў, вызначаць пароды дрэў, якія іх складаюць, знаходзіць неабароненыя ўчасткі з рэдкімі відамі флоры.

Касмічныя тэхналогіі дазваляюць арганізаваць рэгулярныя назіранні за развіццём небяспечных працэсаў і з’яў у навакольным асяродку і на падставе сабранай інфармацыі прымаць аптымальныя рашэнні па іх прадухіленню і мінімізаваць наступствы. Дадзены маніторынг дае магчымасць не толькі фіксаваць прыродныя і антрапагенныя катастрофы, але і прагназіраваць іх развіццё.

*Падрыхтавала*
*Ірына ЗАНЕЎСКАЯ*





*Уладзімір Марук (1954—2010) нарадзіўся ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1972) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1980). Працаваў у газетах «Звязда»,«Літаратура і мастацтва», у выдавецтвах «Юнацтва», «Белфакс», «Мастацкая літаратура», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». Аўтар кніг паэзіі «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне» і іншых.*

Уладзімір МАРУК

# ПОЗНЯЯ КВЕЦЕНЬ

* * *

Задумаўся.
Расчуліўся да страху.
Бы не магу дарогу перайсці,
Як захацеў свае грахі на плаху
У самы позні вечар аднясці,

Калі няма каму глядзець у вочы,
Каб сполах свой у прыцемак схаваць...
Задумаўся...
Ці хопіць гэтай ночы,
Каб ёй жыццё сваё наканаваць.

* * *

Бэжавы колер змяркання,
Здзеклівы вецер сустрэчы.
Хмарка,
нібы абяцанне,
Цень свой накіне на плечы.

Шэраю хусткай туману,
Толькі каб ты не трымцела,
Бы ў прадчуванні падману
Безабароннае цела.

Толькі каб ты не шукала
У кроках маіх спадзявання
Стаць улюбёнкай квартала
Хоць ненадоўга —
да рання,

Дзе той жа бэжавы колер,
Зведаны здзеклівы вецер...
Ды зіхаціць,
як ніколі,
Самая позняя квецень.

* * *

Ізноў світае.
Корпаешся ў снах
І не знаходзіш з высненага выйсця,
Нібы не можаш падзяліць праснак
Паміж сабой і старцам,
што ў калысцы

Глядзіць з дакорам,
быццам немаўля,
Бы на цябе ніколі больш не гляне
Ні самая бяссонная зямля,
Ні самае чаканае світанне.

* * *

У стомленых вачах даўно няма спакою,
І ранняй сівізной усланы іх блакіт.
Даверу ўсё вачам,
як святасць —
аналою
З маркотнай цішынёю надмагільных пліт.

І спыніцца пагляд каля загойнай свечкі,
З-за трапятання дум забыўшыся спытаць
У стомленай душы:
хто вечны,
хто не вечны
У свеце,
дзе вачам нічога не відаць.

* * *

Гляджу бы з-за тысячы дрэў,
Якія спакой сцерагуць,
На тую,
што ўчора сустрэў,
Што сёння сказала:
«Забудзь...»

Так проста,
бы ў мора ўвайсці,
Дзе дрэваў маіх не відно...
І нейкі прагал у жыцці —
Засвечаны кадр у кіно.

* * *

Доўга ментарыць дождж за акном,
Мой настаўнік —
яшчэ не дарадца.
Ад яго адзіноты суздром
Аніяк не магу адцурацца.

Хоць не бачыць мяне —
не маўчыць,
Нібы просіць прыслухацца слёзна,
Калі позна чамусьці вучыць...
Не вучыць —
аніколі не позна.

* * *

За светлаю сцяной наплакаўся раяль,
Пераслязіўшы ўсё,
што можна,
пра маркоту,
Якая на душы нястомны ладзіць баль,
Змаркоціўшы маю няхітрую істоту.

І хочацца ізноў пагладзіць абразы,
Паглядам,
што ў крыві запеніць,
быццам хвалю,
Найміласэрны спеў апошняе слязы,
Бясконцае слязы нясканчанага балю.

* * *

Я слухаю дождж,
хоць і еду ў метро.
Я сумныя вочы яму пакажу.
Ну,
вось і мінаем зямное ядро,
Падобнае —
дзіва! —
на кроплю дажджу.

Выходжу з метро,
каб сустрэцца з дажджом,
Які не сціхае не вечнасць,
а дзве...

І сонца прамень зіхаткім міражом
Падасца і мне,
і прымятай траве.

* * *

На голас з-за гары абернецца жаўрук,
Што з даўняе пары спявае над гарою.
Ступаючы праз час на старасвецкі брук,
Я голас з-за гары не сёння,
ды намрою,

Калі жаўрук яго не здолее пачуць,
А я перад зімой ізноў пайду па бруку,
Нібыта з першых дзён,
як шчыра жыць хачу,
Бо так і не спасціг жыццёвую навуку.

* * *

Забываю,
як восень назвалі.
Наплывае з падумак-абрысаў,
Як сціхалі заморскія хвалі
Каля ног у тваіх кіпарысаў.

Як стаялі і мы паміж імі
І глядзелі на блізкія горы,
І бяздумна лічылі сваімі,
Хоць шукалі спакой свой у моры.

А цяпер не шукаем,
не просім,
Доўга едзем у сонным трамваі,
І сапраўдная мінская восень
З намі іншую забывае.

* * *

Нясмела ў парку размаўляюць дрэвы.
Па ім іду,
не лепшы за кагосьці,
Пасля такое доўгае залевы,
Калі ў душы не выпрасіш мілосці,

Яе,
мілосць,
я падару тапалі,
Якой здавён пяе жаўрук асанну,
Бо дастае да неба,
як да столі,
Яна.
А я ніколі не дастану.

Іду,
і з вышыні яна шапоча,
Нібы сваёй нядаўняй маладосці,
І ёй даверыць хоць крывінку хоча
Маёй,
такой цнатлівае,
мілосці.



Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА*

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»




## ГОД ГАСПОДНІ 1405

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ І МАГІСТР ПРУСІІ З'ЯЗДЖАЮЦЦА Ў ГНЕЎКАВЕ, БО КРЫЖАКІ ВЫКАЗВАЮЦЬ ПАЖАДАННЕ, КАБ КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ НЕ ЎЖЫВАЎ НІ Ў ТЫТУЛЕ, НІ НА ПЯЧАТКАХ НАЗВЫ «ПАМЕРАНІЯ». АБОДВА БАКІ РАЗ'ЯЗДЖАЮЦЦА, НЕ ЗДЗЕЙСНІЎШЫ СПРАВЫ, БЕЗ ЗАКЛЮЧЭННЯ МІРУ.**

Да свята Сёмухі кароль польскі Уладзіслаў з саветнікамі і магістр Прусіі Конрад фон Юнгінген з кіраўнікамі Ордэна[1] з'ехаліся ў горадзе Гнеўкаве для пісьмовага пацвярджэння рашэнняў аб міры, выпрацаваных у папярэднім годзе ў Рацёнжы. Аднак магістр і Ордэн вылучылі новую перашкоду і пачалі спрэчку аб прыкладанні пячатак дагаворнымі бакамі, бо яны прад'явілі грамату Казіміра Другога[2], караля польскага, напісаную ў Калішы ў дзень святога Кіліяна ў годзе тысяча трыста сорак трэцім[3], у якой кароль адмаўляўся ад права на Памеранскую зямлю і ад яе тытула, абяцаючы больш не карыстацца апошнім і загадаць сцерці яго з дзяржаўнай пячаткі. Адпаведна гэтай грамаце крыжакі патрабавалі, каб кароль польскі Уладзіслаў не карыстаўся гэтым тытулам і загадаў зняць яго са сваёй дзяржаўнай пячаткі; бо, гаварылі яны, ніякім чынам нельга дапусціць, каб уручаная іх боку дамова, якая патрабавала заключэння з імі, была змацавана каралеўскай пячаткай з тытулам, які ўключаў назву «Памеранія»; бо самае прыкладанне такой пячаткі адназначна прымяншала б іх права і ставіла б пад сумненне адмову караля Казіміра ад Памеранскай зямлі. Яны дадавалі, што іх мэта ў тым, каб Памеранія як на справе, так і па назве прызнавалася зямлёй Ордэна і каб ніхто не мог прад'яўляць на яе ніякіх правоў або дадаваць яе назву да тытула.

Але кароль польскі Уладзіслаў і яго саветнікі настойліва аспрэчвалі патрабаванне магістра і Ордэна[4]. Яны раз'ехаліся, не вырашыўшы справы.

---

* *Працяг. Пачатак у нумарах 1, 2, 3 за 2010 г.*

[1] У Длугаша «praeceptores» — «настаўнікі»; відавочна, члены рады Ордэна.

[2] Завучы тут і далей караля Казіміра III Казімірам Другім, Длугаш, мабыць, не прымае да ўвагі Казіміра II Справядлівага (1177—1194) як гасудара не ўсёй Польшчы, а толькі князя сандамірскага і кракаўскага (вялікага князя ў перыяд феадальнай раздробненасці).

[3] Гаворка ідзе аб акце мірнай дамовы, заключанай у Калішы ў 1343 г. паміж Казімірам III і Ордэнам.

[4] Палякі непахісна трымаліся таго погляду, што ўсе польскія землі, якія адышлі ад «адзінага цела Польскай дзяржавы» з прычыны захопу іх суседзямі або дарэння польскіх каралёў, належаць, па сутнасці, Польшчы і павінны быць раней або пазней уз'яднаны з Польшчай.

**ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ ВІТАЎТ СКЛАДАЕ З КРЫЖАКАМІ МІР СА ЗГОДЫ КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА І АДДАЕ ІМ У ВАЛОДАННЕ САМАГІЦЮ, А ТАКСАМА ПРЫМУШАЕ САМАГІТАЎ СУПРАЦЬ ВОЛІ АДДАЦЬ СВАІХ СЫНОЎ У ЗАЛОЖНІКІ.**

Значна горшым быў зыход другой сустрэчы, якую правёў Аляксандр-Вітаўт, вялікі князь літоўскі, са згаданым магістрам Конрадам і крыжакамі Прусіі на рацэ Нёман у мястэчку, якое завецца Салін і размяшчаецца ніжэй Коўна, напярэдадні дня святых Пятра і Паўла. На гэтыя перамовы Уладзіслаў, кароль польскі, паслаў дваіх саветнікаў, менавіта Клеменса з Машкажова, каштэляна вісліцкага, і Мікалая з Бжэзя, маршалка каралеўства Польскага[1], каб крыжакі не абышлі князя Вітаўта сваімі хітрасцямі. Пасля доўгіх перамоў аб міры і аб саступленні князем Вітаўтам Самагіцкай зямлі Ордэну абодва бакі разышліся не без раздражнення. Некаторыя крыжакі, асабліва Марквард фон Зальцбах, камандор Брандэнбурга, і Шымборг[2], лаялі князя Вітаўта за злачынную вераломнасць і ганьбілі як князя, так і яго маці[3] рознымі крыўднымі словамі і лаянкамі. Аднак Вітаўт перанёс гэтую абразу спакойна: ён вырашыў стрываць і гэтыя, і іншыя ганебныя ўчынкі, чым сіламі адных літоўцаў пачаць вайну з крыжакамі або адбіваць пачатую імі вайну, бо ў папярэднія гады такія спробы заканчваліся няўдачай.

Затым, наладжваючы ў другі раз сустрэчу з магістрам і Ордэнам крыжакоў, князь літоўскі Аляксандр-Вітаўт, саступаючы неадступным патрабаванням крыжакоў і стаміўшыся ад іх, заключае мір хутчэй неабходны, чым ганаровы. Ён згаджаецца адмовіцца ад Самагіцкай зямлі і сілай прымусіць самагітаў да падначалення магістру і Ордэну, прычым кароль польскі Уладзіслаў дарэмна пярэчыў гэтаму. Князь даруе і запісвае згаданую Самагіцкую зямлю магістру і Ордэну прускаму ў вечны дарунак адкрытай граматай, напісанай на дзвюх мовах, менавіта лацінскай і нямецкай, якая па хадайніцтву князя Аляксандра была пацверджана яшчэ і каралём польскім Уладзіславам.

Але паколькі самагіты адрынулі ўладу магістра і Ордэна крыжакоў, Аляксандр-Вітаўт у сілу дамовы, заключанай з магістрам і Ордэнам, уступае са сваім войскам у Самагіцкую зямлю, дзе ўжо стаялі магістр і крыжакі з іх войскам, і прымушае самагітаў падпарадкавацца ярму магістра і Ордэна. Аднак самагіты па меры сваіх сіл супраціўляліся і, моцна трывожачы прускае войска начнымі нападамі і засадамі, прычынілі яму вялікія страты, а яшчэ больш страху, так што яму прыйшлося падвоіць начную варту. А да князя Аляксандра і яго войска самагіты звярталіся з лясоў з жаласнымі маленнямі і плачам, каб той не дапускаў іх падпарадкавання крыжакам і аддзялення ад свайго княства і ад літоўцаў, з якімі яны складаюць адзінае племя і адзіны народ як па тоеснасці мовы, так і па падабенству звычаяў (бо Самагіція на іх мове азначае «ніжняя» зямля, атрымаўшы гэтую назву ў адрозненне ад Літвы, якую адно і другое плямёны завуць «верхняй»). Бо, гаварылі яны, будучы яго ўласнымі і вернымі падданымі і сябрамі, яны ніякім чынам не жадаюць падпарадкоўвацца Vakkis Ahridlis[4], г. зн. тэўтонскім крыжакам, і падвяргацца і надалей спусташэнням і прыгнёту з іх боку.

Хоць гэтыя жаласныя прамовы ўзбуджалі ў князю літоўскім Вітаўту добрае спачуванне, аднак, прызнаючы за лепшае пакінуць дамову ў сіле, ён падпарадкоўвае Самагіцкую зямлю магістру і Ордэну Прусіі і прымушае самагітаў даць крыжакам

---

[1] Імя маршалка было не Мікалай, а Збігнеў. Займаў гэтую пасаду ў 1399—1425 гг.

[2] Шымборг (Шэнбург, Шаумбург) — фогт Ордэна ў Самбіі.

[3] Маці Вітаўта, Бірута, жонка Кейстута.

[4] «Vakkis Ahridlis» — скажоныя старажытналітоўскія словы. Паводле даведкі праф. Б. А. Ларына, азначаюць, мабыць, «немцы крыжакі».

сваіх сыноў у заложнікі. А каб валоданне ёю было для крыжакоў больш спакойным і даўгачасным, ён збудаваў на рацэ Невяжы два замкі і трэці на рацэ Нёман, пры ўпадзенні ракі Дубешы. Для кіравання апошнім замкам магістр і Ордэн пакінулі крыжака Міхаэля Кухмейстэра ў якасці фогта і начальніка, бо ён ведаў літоўскую і самагіцкую мовы […]

## ГОД ГАСПОДНІ 1406

**ТОМАШ З ВЕНГЛЕШЫНА ПА ЗАГАДУ КАРАЛЯ АДВАЁЎВАЕ ЗАХОПЛЕНЫ КРЫЖАКАМІ ЗАМАК ДРАХІМ.**

Жадаючы, каб несправядліва заняты крыжакамі-іаанітамі[1] замак Драхім з цягам часу яны не звярнулі ва ўласнасць (як гэта здарылася з замкам Сантокам, які падобным чынам быў адрынуты ад Польскага каралеўства тымі ж крыжакамі-іаанітамі[2]) і каб гэтае ўладанне замкам не аказалася даўгачасным, Уладзіслаў, кароль польскі, накіроўвае паслоў да магістра згаданага Ордэна з патрабаваннем або аддаць замак Польскаму каралеўству і каралю Уладзіславу, або ператварыць яго ў леннае валоданне караля і каралеўства. Калі ж магістр адпрэчвае абедзве прапановы, кароль пасылае Томаша з Венглешына па мянушцы Казлярогі, герба Яліта, каштэляна сандомежскага і старосту Вялікай Польшчы, узяць яго сілай. Апошні, выконваючы наказ караля, на працягу чатырох дзён разаёўвае яго дзякуючы мужнасці рыцараў (бо абарона замка крыжакамі была беспаспяховай). З гэтага часу ён застаецца ў падначаленні і пад уладай польскага караля [...]

## ГОД ГАСПОДНІ 1408

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ І МАГІСТР ПРУСІІ З'ЯЗДЖАЮЦЦА Ў КОЎНА ДЛЯ ЗАКЛЮЧЭННЯ МІРУ ПАМІЖ ЗЕМЛЯМІ ЛІТВЫ І ПРУСІІ. НЕ ВЫРАШЫЎШЫ СПРАВЫ, ЯНЫ РАЗЫХОДЗЯЦЦА Ў РАЗДРАЖНЕННІ, АБМЯНЯЎШЫСЯ, АДНАК, УЗАЕМНЫМІ ПАДАРУНКАМІ.**

Крыўды і разлад паміж Літвой і Прусіяй паступова разрасталіся, і Уладзіслаў, кароль польскі, клапоцячыся аб спакоі сваёй літоўскай радзімы, правёў напярэдадні свята Багаяўлення перамовы з Ульрыхам фон Юнгінгенам, магістрам Прусіі, у літоўскім горадзе Коўна. З Уладзіславам, каралём польскім, туды адправіліся прэлаты і першыя польскія вяльможы і выдаткавалі шмат дзён на перамовы з магістрам прускім Ульрыхам фон Юнгінгенам і яго камандорамі (якія размясціліся на адным востраве каля Коўна) аб выпраўленні і ўхіленні несправядлівасцей і разладаў. Паколькі магістр Прусіі ўжо тады выяўляў дух апантаны, ганарлівы і далёкі ад мірных прапаноў, што вынікала з грубасці яго паводзін і прамоў, якія ён напышліва вёў, абодва бакі, не прыняўшы ніякага разумнага рашэння, раз'ехаліся яшчэ больш

[1] Іааніты — адзін з найстаражытных рыцарска-манаскіх ордэнаў, узніклых у эпоху крыжовых паходаў.

[2] Санток — старажытны польскі замак ля ўпадзення р. Нотэці ў Варту (прыток Одры), на мяжы паміж Вялікай Польшчай і Новай Маркай. У 1365 г. разам з іншымі памежнымі замкамі быў аддадзены Казімірам III у леннае валоданне Ордэну іаанітаў у асобе рыцарскага роду Фон дэр Ост. Калі Тэўтонскі ордэн у 1402 г. атрымаў Новую Марку ў заклад ад караля венгерскага Жыгімонта, якому яна належала, ён стаў разглядаць Санток як сваю ўласнасць, у чым Жыгімонт яго падтрымліваў.

узлаванымі і раздражнёнымі, чым раней, аднак не настолькі варожа, каб паводзіць сябе як ворагі; бо кароль Уладзіслаў паслаў магістру Прусіі вартыя караля падарункі і прыняў, у сваю чаргу, дарункі, дасланыя магістрам; таму абодва бакі на нейкі час затушылі лютасць і баявы запал […]

**КАРОЛЬ ПОЛЬСКІ, КАБ ДАПАМАГЧЫ ЛІТОЎЦАМ, ЯКІЯ ПАКУТУЮЦЬ АД ГОЛАДУ, ПАСЫЛАЕ ВІТАЎТУ ДВАЦЦАЦЬ КАРАБЛЁЎ З ХЛЕБАМ, ЯКІЯ ПА ЗАГАДУ МАГІСТРА ПРУСІІ ПЕРАХОПЛЕНЫ ЛЯ РАГНЕТЫ І НЕ ВЕРНУТЫ. ГЭТЫМ ДАДЗЕНА ПАДСТАВА ДЛЯ НАСТУПНАЙ ВАЙНЫ ПАЛЯКАЎ З КРЫЖАКАМІ. ВІТАЎТ ЖА ПАМІЖ ТЫМ ЗА РАБАВАННЕ ЯГО КУПЦОЎ МАГІСТРАМ АДБІРАЕ НАЗАД АДДАДЗЕНУЮ КРЫЖАКАМ САМАГІЦКУЮ ЗЯМЛЮ.**

Уладзіслаў, кароль польскі, ведаючы, што літоўская краіна гіне ад цяжкага і згубнага голаду, бо пасевы як азімых, так і ярыны былі знішчаны празмернымі дажджамі, падганяемы праз ганцоў просьбамі Аляксандра-Вітаўта, вялікага князя літоўскага, загадвае абмалаціць хлеб з усіх каралеўскіх маёнткаў і сушняў у Куяўскай зямлі. Хлеб гэты за некалькі гадоў быў сабраны дзейнымі клопатамі старост куяўскіх: Заклікі з Мендзыгожа, канцлера каралеўства Польскага, герба Тапор, і Яна, інакш Іана, з Абіхова, каштэляна срэмскага. Затым кароль пасылае ў Літву дваццаць вялікіх караблёў з хлебам па рацэ Вісле да Рагнеты, з тым, каб адтуль судны ішлі ўверх па рацэ Нёман. Даведзеныя ў Рагнету, гэтыя караблі былі перахоплены па распараджэнню магістра прускага Ульрыха фон Юнгінгена. Для апраўдання і абельвання здзейсненага ім учынку магістр заявіў, быццам бы на тых караблях везлі зброю для варвараў і язычнікаў супраць хрысціян і вернікаў; на самой жа справе магістр распарадзіўся так з зайздрасці і раздражнення тым, што літоўцы адмовяцца купляць па дарагой цане хлеб, які належаў яму і Ордэну і захоўваўся з даўніх часоў у свірнах. Гэты-то незаконны захоп хлеба і паслужыў падставай і прычынай для вайны, якая вялася ў наступныя гады паміж каралеўствам Польскім і Вялікім княствам Літоўскім, з аднаго боку, і Ордэнам крыжакоў — з другога. Гэтае вялікае беззаконне закранула Уладзіслава, караля польскага, і ён пачаў усімі сіламі рыхтавацца да вайны супраць крыжакоў. Аднак саветнікі каралеўства Польскага пераканалі яго, што лепш перанесці крыўду, чым спяшацца з вайной. Кароль накіроўвае да Ульрыха фон Юнгінгена, магістра Прусіі, архібіскупа гнезненскага Мікалая Кураўскага і каштэлянаў — сандамежскага Мікалая з Міхалова[1], калішскага Януша з Тулізкова[2] і наклоўскага Вінцэнта з Гранова[3], настойліва патрабуючы, каб яму было прадстаўлена поўнае пакрыццё ўзятага хлеба. Але Ульрых, магістр Прусіі, муж напышлівы і хуткі на спрэчкі і звады, нікольки не змякчаны гэтым знатным і сціплым пасольствам, адказвае, што ім перахоплены не хлеб, а зброя, пасланая язычнікам супраць яго, яго Ордэна і іншых хрысціян, і ён ніякім чынам яго не верне. Кароль жа і палякі паступаюць нібыта несумленна, дапамагаючы варварам зброяй і патрабуючы вяртання, калі яе перахопліваюць. Пасля гэтага Ульрых фон Юнгінген, магістр Прусіі, нанёс у дадатак яшчэ адну крыўду Аляксандру, вялікаму князю літоўскаму, калі загадаў напасці на літоўскіх купцоў, якія гандлявалі ў Рагнеце, і захапіць іх, а маёмасць і рознага роду тавары разрабаваць. Не вынес Аляксандр-Вітаўт, князь літоўскі, гэтай абразы і не злічыў патрэбным весці перамовы праз паслоў аб вяртанні захопленага. Абражаны як ранейшым беззаконнем — захопам хлеба, — так і апошнім, ён выра-

[1] Мікалай з Міхалова каштэлянам сандомежскім ніколі не быў. У 1399—1410 гг. займаў пост каштэляна войніцкага, а з 1410 па 1430 г. — ваяводы сандомежскага.

[2] Януш з Тулiскова быў каштэлянам калішскім у 1408—1426 гг.

[3] Вінцэнт з Гранова — каштэлян наклоўскі ў 1398—1408 гг., затым староста Вялікай Польшчы.

шыў з таемнай згоды караля польскага Уладзіслава адабраць і ўтрымаць за сабой Самагіцію, падараваную і запісаную магістру і Ордэну крыжакоў.

Такім чынам, паслаўшы маршалка літоўскага Румбольда[1] з ваярамі, ён бярэ ў палон і выганяе Міхаэля Кухмейстэра, фогта Самагіціі, і іншых крыжакоў і ўсе іх атрады, размешчаныя ў нядаўна ўзведзеных замках; і паколькі самагіты па сваёй адданасці князю Вітаўту імкнуліся быць яго вернымі падданымі, ён вярнуў Самагіцкую зямлю ў ранейшае падначаленне сабе […]

## ГОД ГАСПОДНІ 1409

### ТАК ЯК КРЫЖАКІ ПАСЛЯ СТРАТЫ САМАГІЦІІ НЕ МОГУЦЬ ВЫВЕДАЦЬ ПРАЗ ПАСЛОЎ У КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА, ЦІ ПРЫЙДЗЕ ЁН НА ДАПАМОГУ ВІТАЎТУ, ЯНЫ АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ ВАЙНУ ПОЛЬСКАМУ КАРАЛЕЎСТВУ.

Калі кароль польскі Уладзіслаў, праязджаючы праз зямлю Вялікай Польшчы, знаходзіўся з вельмі вялікай колькасцю рыцараў у горадзе Аборнікі, да яго ў чацвер перад святам святога Іаана Хрысціцеля з'явіліся паслы Ульрыха фон Юнгінгена, магістра прускага, а менавіта камандоры торуньскі і старагардскі[2], якіх прускі магістр Ульрых з намерам паслаў больш для таго, каб палякі выказалі свае намеры (як гэта ў выніку і адбылося), чым у надзеі дамагчыся выканання сваіх патрабаванняў.

Паслы з глыбокім смуткам жаліліся на тое, што Аляксандр-Вітаўт, вялікі князь літоўскі, адабраў у іх зямлю самагітаў, нягледзячы на тое, што адкрытай граматай запісаў яе ў вечны дарунак магістру і Ордэну і адрокся ад усякага права дамагацца яе, а начальнікаў і намеснікаў яго і Ордэна перабіў або захапіў у палон з ганьбай і сорамам. І хоць магістр і Ордэн пасылалі шмат пасольстваў да згаданага Аляксандра-Вітаўта і шматразовымі просьбамі і патрабаваннямі дамагаліся вяртання захопленай зямлі і звароту палонных, аднак іх старанні і просьбы не аказалі ніякага дзеяння, бо Аляксандр, князь літоўскі, насмяяўся з іх патрабаванняў. І паколькі, казалі яны, магістр і Ордэн адчуваюць сябе незаслужана пакрыўджанымі і вымушаны будуць па неабходнасці вярнуць сілай зброі аднятую ў іх зямлю і адпомсціць за прычыненыя шкоды і беззаконне, то яны з вялікай настойлівасцю просяць караля паведаміць, ці пажадае ён дапамагаць у гэтай справе брату свайму Аляксандру, князю літоўскаму, каб магістр і Ордэн, высветліўшы яго намеры, маглі своечасова прыняць меры.

Уладзіслаў жа, кароль польскі, не ведаючы добра, што адразу адказаць, але разумеючы, што ў самім пасольстве заключаны абразлівы і пагрозлівы намер, адказвае на гэтую двухсэнсоўную заяву, што не можа гэтым разам нічога сказаць з прычыны важнасці і значнасці справы і малога ліку сваіх саветнікаў. Ён скліча агульны сойм у Ленчыцы ў дзень святога Алексія і па рашэнню сойма дасць адказ магістру і Ордэну праз уласных паслоў. Незадаволеныя гэтым адказам, камандоры сталі адкрыта выяўляць абурэнне ў прысутнасці рыцарства, шляхты і народа каралеўства Польскага, заяўляючы, што магістр і Ордэн гатовыя захаваць дамову аб вечным міры з каралеўствам Польскім, якая была складзена паміж Казімірам Другім, каралём польскім, і магістрам і Ордэнам[3]; але калі Уладзіслаў, кароль польскі, не жадае пакі-

---

[1] Румбольд вядомы на пасадзе маршалка літоўскага толькі з 1412 г.

[2] Комтурам у Торуні быў у той час Альбрэхт Шварцбург (1407—1410), у Старгардзе — Эбергард фон Іпінбург (1409—1410).

[3] Маецца на ўвазе Калішскі мір 1343 г.

нуць брата свайго Аляксандра, князя літоўскага, і хоча дапамагаць яму ў несправядлівай справе, хай рыцары і вяльможы каралеўства Польскага не гневаюцца на магістра і Ордэн, калі, абражаны глыбокай несправядлівасцю, ён пачне вайну супраць Польскага каралеўства. Пасля такой адкрытай заявы паслы з'ехалі ў раздражненні і гневе, нават не выслухаўшы адказу. З іх занадта нястрыманых для паслоў паводзін і раздражнення і выяўленай імі напышлівай ганарыстасці стала цалкам ясна, што, як толькі наступіць зручны час, крыжакі пачнуць вайну супраць каралеўства Польскага. Такім чынам, магістр і Ордэн, як стала вядома, настолькі моцна былі абражаны вяртаннем Самагіціі ў склад Літвы, здзейсненым Аляксандрам-Вітаўтам, вялікім князем літоўскім, і няпэўным адказам Уладзіслава, караля польскага, што хоць яны не надумаліся адкрыта пайсці на вайну з палякамі, але затаілі злосць і перапоўніліся кіпячым гневам і абуранасцю. Усё гэта паказвала, што вайна блізка і пачнецца, як толькі прадставіцца зручны выпадак.

Уладзіслаў, кароль польскі, калі пасольства магістра і Ордэна задало яму пытанне, стаяў як бы на небяспечным раздарожжы, не ведаючы, куды павярнуцца і які адказ даць на такую заяву. Кароль не жадаў пакідаць князя Вітаўта і літоўцаў у іх цяжкім і небяспечным становішчы, але ён таксама не жадаў уцягнуць у жорсткую вайну сваё каралеўства; бо саветнікі з палякаў асабліва страшыліся, як бы вайна не пачалася, а пачаўшыся, не разраслася, і больш за ўсе прыкладалі старанні і клопаты, каб пазбегнуць яе.

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ПРАЗ ПАСЛОЎ АДКАЗВАЕ МАГІСТРУ ПРУСІІ, ШТО НЕ НАЛЕЖЫЦЬ ЯМУ ПАКІНУЦЬ БРАТА ВІТАЎТА, АЛЕ ШТО ЁН ПРАПАНОЎВАЕ НА СПРАВЯДЛІВЫХ УМОВАХ ЗАГЛАДЗІЦЬ КРЫЎДЫ, НАНЕСЕНЫЯ КНЯЗЕМ ОРДЭНУ. КАЛІ Ж МАГІСТР СТАЎ ПАГРАЖАЦЬ ВАЙНОЙ, КАРАЛЕЎСКІЯ ПАСЛЫ НЕАБДУМАНЫМІ СЛОВАМІ ЗААХВОЦІЛІ ЯГО ПАЧАЦЬ ВАЙНУ СУПРАЦЬ ПОЛЬСКАГА КАРАЛЕЎСТВА. НЕЎЗАБАВЕ МАГІСТР ЗАВАЛОДВАЕ ЗАМКАМІ ДАБЖАНАМ, БАБРОЎНІКАМІ, ЗЛАТОРЫЯЙ, БЫДГАШЧАМ І ІНШЫМІ ГАРАДАМІ ПОЛЬСКАГА КАРАЛЕЎСТВА.**

З надыходам дня святога Алексія, калі многія прэлаты і вяльможы Польскага каралеўства з'ехаліся ў Ленчыцу, дзе адбыўся агульны сойм, каб даць адказ магістру і Ордэну прускаму, ад сойма былі накіраваны пасламі да магістра Ульрыха фон Юнгінгена і прускага Ордэна архібіскуп гнезненскі Мікалай Куроўскі, ваявода сандомежскі Мікалай з Міхалова і каштэлян калішскі Януш з Тулішкова[1].

Паслы з'явіліся да магістра ў Марыенбургу і далі адказ у такіх словах: «Кароль польскі Уладзіслаў, — сказалі яны, — лічыць, што табе і Ордэну твайму вядома, што Аляксандр-Вітаўт, вялікі князь літоўскі, на якога ты прынёс скаргу з нагоды адабрання Самагіцкай зямлі і іншых крыўд, хоць і знатнейшы гасудар і звязаны з каралём амаль братэрскай крэўнай сувяззю, аднак з'яўляецца падданым Польскага каралеўства і караля, і зямлю Літоўскую і княства атрымаў толькі ў сілу каралеўскага падаравання і жадання і толькі пажыццёва. Таму не належыць каралю і ў сапраўднай вайне, якую вы будзеце весці супраць князя Аляксандра і зямлі Літоўскай, і ў любой іншай бядзе пакідаць яго, але, наадварот, варта дапамагаць яму ўсімі сіламі і сродкамі. Такім чынам, хай магістр зробіць ласку ўстрымацца ад усякай вайны і ў адпаведным месцы і ў адпаведны час прыме ўдзел у нарадзе. На гэтай нарадзе Уладзіслаў, кароль польскі, абяцае паклапаціцца аб уладжванні і ўстараненні ўсяго

[1] Па іншых крыніцах, у склад пасольства ўвайшлі вышэйзгаданы архібіскуп гнезненскі Мікалай Куроўскі, а акрамя яго ваявода калішскі Мацей з Лабышына (гл. ніжэй, стар. 79, заўв. 3) і каштэлян наклоўскі Вінцэнт з Гранова.

таго, што было зроблена супраць права і справядлівасці, і аб умацаванні брата свайго Аляксандра, вялікага князя літоўскага, як гасудара, падпарадкаванага яму і каралеўству Польскаму ва ўсім, што тычыцца міру і справядлівасці».

Аднак на магістра Прусіі зусім не зрабіў уражання гэты сціплы адказ; выказваючы і нагрувашчваючы ў напышлівых словах перад пасламі бесперапынныя скаргі на князя Аляксандра, магістр заявіў, што не будзе болей трываць крыўды ў адносінах да сябе і Ордэна і неадкладна з усімі сіламі пойдзе вайной на Літву. Мікалай жа Куроўскі, архібіскуп гнезненскі, адзін з каралеўскіх паслоў, не вытрымаўшы гэткіх моцных пагроз магістра, вымавіў, насуперак забароне караля і саветнікаў, неабдуманыя і неасцярожныя словы: «Перастань, — сказаў ён, — магістр, страшыць нас, што пойдзеш вайной на Літву, бо калі ты вырашыш гэта зрабіць, то не сумнявайся, што, як толькі ты нападзеш на Літву, наш кароль уварвецца ў Прусію». Ці сказаў архібіскуп па сваім асабістым пачыне неабдуманыя свае словы або, як сцвярджаюць, таму што яму было так загадана, — невядома. Узрадаваны гэтай прамовай, магістр сказаў: «Дзякую табе, высокашаноўны ойча, за тое, што ты не ўтаіў намеры твайго караля. Бо я, даведаўшыся аб іх і пераканаўшыся ў іх з тваёй прамовы, лепш нападу на галаву, чым на чэлесы, лепш на населеную зямлю, чым на пакінутую, і лепш на гарады і сёлы, чым на лясы, звярнуўшы зброю, прызначаную супраць Літвы, на Польскае каралеўства. Бо больш карысці мне і майму Ордэну ўдарыць па галаве, чым па нагах, больш карысці пайсці на апрацаваныя землі, а не на палі, лясы і гушчары». Сказаўшы так, ён не стаў марудзіць, бо як толькі каралеўскія паслы выдаліліся, магістр бярэцца за зброю і рыхтуе войска. Затым, адправіўшы Уладзіславу, каралю польскаму, які знаходзіўся ў Новым горадзе Корчыне, пасланне аб разрыве, напярэдадні Успення найсвяцейшай панны Марыі, абкладае аблогай замак Дабжан[1] і з дапамогай бесперапынных udараў бамбард і частага кідання запальных стрэл заваёўвае і спальвае яго, а польскіх рыцараў, што абараняюць яго, карае смерцю. Пасля гэтага ён спусташае гарады Рыпін, Ліпна, Дабжан і забівае шмат дзяўчат і жанчын, якія аказаліся там. Такім чынам, няўмела і неасцярожна вымаўленая прамова гнезненскага архібіскупа Мікалая паскорыла вайну, наступ якой дагэтуль затрымоўваўся; і ён, быўшы пасрэднікам і ўпаўнаважаным у справах міру, недарэчнай прамовай распаліў вайну.

Пасля ўзяцця Дабжанскага замка магістр адсек галаву захопленаму ў палон старосту дабжанскаму Яну з Пломеня, шляхціцу герба Прус, і ўчыніў шмат жорсткасцей у адносінах да польскіх рыцараў і сялян. Затым, прайшоўшы да замка Баброўнікі, ён падобным жа чынам пасля доўгай аблогі прымусіў яго здацца; бо шляхетныя польскія рыцары, пасланыя Уладзіславам, каралём Польшчы, для абароны згаданага замка (старостам якога быў Варціслаў з Гатартовіц, роду і герба Ліс), здалі замак магістру, хоць становішча іх нельга было назваць цяжкім, бо харчоў у іх хапала, а сцены замка, акрамя адной часткі, і ўмацаванні былі цэлыя[2]. За гэта згаданы Варціслаў павінен

---

[1] «Хроніка» Посільге датуе адпраўку магістрам паслання Уладзіславу пра разрыў адносін днём 6 жніўня, а пераход мяжы — днём 16 жніўня (Possilge. Chronik, стар. 301).

[2] Іншыя крыніцы інакш выкладаюць гісторыю здачы замка Баброўнікі. Паводле «Хронікі» Посільге, крыжакі настолькі разбурылі замак сваімі бамбардамі, што ён быў вымушаны на чацвёрты дзень аблогі здацца. «Pamiętnik» Ордэна распавядае, што падчас аблогі Баброўнікаў да вялікага магістра прыбыў з прапановай пра перамір’е архібіскуп гнезненскі Мікалай Куроўскі. Магістр пагадзіўся на перамір’е пад умовай аддаць яму замкі Баброўнікі і Златорыю. Архібіскуп прасіў яго пра перамір’е на суткі, пакуль ён знясецца з гарнізонам замка і каралеўскай радай і дасць яму адказ на яго ўмовы. Магістр перапыніў ваенныя дзеянні, але калі па заканчэнні сутак адказу ад архібіскупа не было, ён прапанаваў гарнізону замка Баброўнікі здацца, пагражаючы ў адваротным выпадку разбурыць замак. Не дачакаўшыся абяцанай архібіскупам дапамогі, гарнізон, вымаліўшы сабе права вольнага сыходу ў Польшчу, здаў замак. Між іншым, пра ўдзел архібіскупа Куроўскага ў справе са здачай замка Баброўнікі кажа і Длугаш (гл. стар. 84).

быў пасля доўгага паланення зведаць яшчэ і ў Польшчы цяжар турэмнага зняволення ў цёмнай вежы. Астатнія ж рыцары, а менавіта Барташ Пламікоўскі, герба Памян, Мікалай Рагашовіч і іншыя, якія здалі згаданы замак, усе былі пазбаўлены каралём Уладзіславам добрай славы і гонару. З-за гэтага згаданы Барташ Пламікоўскі, які пакутаваў ад сораму і мук сумлення, запаў з таго часу ў вар'яцтва. Аднак пасля ў вялікай бітве[1], якая адбылася ў дзень рассейвання апосталаў, ён выявіў высокую мужнасць, але ніколі ўжо не вылечыўся ад свайго вар'яцтва. Сапраўды, праз шмат гадоў, у Кракаве, ён захацеў, седзячы на кані, пераскочыць праз ланцуг, які агароджваў пляц[2]. Зваліўшыся пры гэтым з каня, ён атрымаў рану ад мяча, якім быў падпяразаны і які выскачыў з ножан ад штуршка пры скачку, і памёр ад гэтай раны. І не толькі ён сам, але і яго нашчадкі запалі ў такое вар'яцтва.

Заваяваўшы замак Бабраўнікі, магістр прускі Ульрых абкладае аблогай замак Златорыю і стаіць перад ім восем дзён. На працягу гэтых дзён з Торуня выводзілі жанчын і дзяўчат, і ў іх прысутнасці адбываліся напады і прыступ замка. На восьмы ж дзень аблогі замак здаецца магістру, бо большая частка рыцараў, якія яго абаранялі, была забіта ядрамі бамбард, і далей нельга было трымацца. Таму ўсе ацалелыя былі ўзяты ў палон крыжакамі. Сярод іх былі Дабеслаў Алевінскі, Гебермут, Ян з Гары і іншыя, якіх крыжакі доўгі час трымалі ў палоне. І хоць Аляксандр-Вітаўт, князь літоўскі, дзеля вызвалення рыцараў, узятых у Златорыі, адпусціў крыжакам некаторых з іх палонных, крыжакі, аднак, не стрымалі абяцанняў і затрымалі палонных польскіх рыцараў. Завалодаўшы такім чынам замкам Златорыяй і бачачы, што замак Быдгашч, які ахоўваўся Томашам з Венглешына, старастам Вялікай Польшчы, ім ніяк не ўзяць (з-за непрыступнасці, узмоцненай яго натуральным знаходжаннем), крыжакі, падкупіўшы бурграфа замка, схілілі яго да здачы. Пачуўшы аб гэтым, Томаш з Венглешына памёр ад бязмернай скрухі. Пасля яго скону кароль Уладзіслаў аддаў староства Вялікай Польшчы пад уладу Вінцэнта з Гранова, каштэляна наклоўскага.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, АБВЯСЦІЎШЫ ПАХОД І НАКІРОЎВАЮЧЫСЯ Ў ПРУСІЮ, АДВАЁЎВАЕ БЫДГАШЧ.

Уладзіслаў, кароль польскі, з горыччу і цяжкім сэрцам пераносячы столькі цяжкіх крыўд, прычыненых яму крыжакамі, і захоп некалькіх замкаў, неўзабаве падымае ў паход усё сваё каралеўства. Падданым свайго каралеўства ён загадвае сабрацца войскам у Вальбожы праз восем дзён пасля Раства святой Марыі, каб адтуль ісці ў Прусію. Вялікаму ж князю Літвы Аляксандру-Вітаўту ён пісьмова і праз ганцоў неаднаразова прапаноўвае з усёй сілай сваіх людзей сустрэцца з ім ля меж Прусіі. Такім чынам, паводле каралеўскага наказу ў прызначаны дзень у Вальбожы збіраецца вялікае войска з усіх зямель каралеўства Польскага, а менавіта: Кракаўскай, Сандомежскай, Люблінскай, з Русі і Падоліі[3], з якім кароль Уладзіслаў праходзіць да Ленчыцы і каля яе ў пералесках[4] стаіць чатыры дні ў чаканні астатняга войска. Адправіўшыся адтуль, першы прывал ён робіць на палях паселішча Седлец, другі — на палях паселішча Кочавы, трэці — каля Радзеёва, над возерам, і там раздзяляе сваё войска на харугвы, чацвёрты — на палях паселішча Шарлей, пяты — ля Тучна над возерам, у адлегласці адной мілі ад Юніўладзіславіі,

---

[1] Г. зн. у Грунвальдскай бітве.

[2] У сярэднявечных гарадах вуліцы нанач замыкаліся на ланцуг.

[3] Пералічаныя Длугашам землі ўяўлялі сабой не ўсё каралеўства, як ён піша, а толькі яго паўднёвую частку.

[4] У Длугаша «in gaiis» (польск.) — «у гаях».



*Зброя ахоўная і баявая ў XII—XIII стст. на Новагародскай зямлі: 1— панцыр з металічных пласткоў на скураной падаснове (спроба рэканструкцыі), 2 — шалом, 3 — тарча нарманскага тыпу, 4 — меч і похва, 5 — сякера-чакан, 6 — булава, 7 — лук і стрэлы, 8 — дзіды розных тыпаў.*

*Малюнак В. Сташчанюка*

шосты — у Быдгашчы. І ў дзень святога Міхала абкладае вялікай воінскай сілай замак Быдгашч і агароджвае яго вакол шчытамі або тынамі, як сценамі над валам, і граміць бамбардамі. Бесперапыннай стральбой з іх быў забіты камандор і староста замка. Магістр жа Прусіі, прадбачачы, што замак Быдгашч будзе ўзяты, пасылае да Уладзіслава князя Конрада Алясніцкага. Магістр патрабуе, каб кароль зняў аблогу, і прапаноўвае перадаць замак Быдгашч у рукі Венцаслава, караля Чэхіі, пагадзіўшыся на яго пасрэдніцтва[1]. Калі пасланец выказаў змест свайго даручэння ў суботу, назаўтра пасля дня святога Францыска, яму быў дадзены адказ: «Калі магістр паабяцае здзейсніць такую ж перадачу Дабжанскай зямлі і яе замкаў у рукі караля Венцаслава, то кароль не адмаўляецца зняць аблогу».

Ведучы аблогу гэтага замка, кароль са сваім войскам на працягу васьмі дзён стаяў у бары[2], а на восьмы дзень ён užваёўвае замак сілай зброі і, аднавіўшы разбуранае, аддае яго ў трыманне Мацею з Лабышына, ваяводу брэсцкаму[3].

[1] Як распавядае Посільге (Possilge. Chronik, стар. 304), Конрад Белы прыбыў у лагер Уладзіслава-Ягайлы ў складзе пасольства, накіраванага Вацлавам IV, каралём чэшскім, з прапановай перадаць увесь польска-тэўтонскі канфлікт на вырашэнне трацейскага суддзі ў асобе самога Вацлава. Папярэдне паслы сустрэліся з магістрам Ордэна.

[2] У Длугаша «in borra». «Borra» — славянскае запазычанне, прынятае ў польска-лацінскай сярэднявечнай літаратуры для пазначэння хваёвага лесу.

[3] Мацей з Лабышына займаў пасаду брэсцка-куяўскага ваяводы паміж 1409 і 1424 гг. Некаторыя крыніцы называюць яго адначасова, у 1408—1421 гг., як ваяводу калішскага.

Паміж тым у дні аблогі прускі магістр загадаў сваім людзям сабрацца ў наваколлях Свеця. Даведаўшыся пра гэта, кароль Уладзіслаў паслаў туды некалькі сваіх харугваў. Калі прусакі даведаліся аб іх набліжэнні, то кінуліся наўцёкі, а каралеўскае войска захапіла ўсе пакінутыя шатры і шмат зброі.

У раздражненні ад шматлікіх і жорсткіх крыўд з боку крыжакоў Уладзіслаў, кароль польскі, піша розным каталіцкім каралям і гасударам знарочыстыя пасланні наконт сваіх крыўд (прыклад гэтых пасланняў мы прыводзім трошкі ніжэй[1]).

Паміж тым князь літоўскі Аляксандр-Вітаўт у гэтыя дні пасылае да караля Польшчы Уладзіслава Якава Глінянага з Любліна, свайго натарыя, таемна паведамляючы Яго Светласці, што зараз ён ніяк не можа прыйсці са сваім войскам на дапамогу каралю. Князь просіць і моліць не гневацца на яго за гэта і раіць заключыць замірэнне з ворагам да будучага лета, каб ён (князь), скарыстаўшыся тым часам, змог падрыхтавацца да вайны і прыйсці на дапамогу каралю з большай сілай, а таксама больш падрыхтаваным у тым, што тычыцца вайсковага рыштунку.

### УЛАДЗІСЛАЎ, КАРОЛЬ ПОЛЬШЧЫ, ПАДДАЎШЫСЯ ЎГАВОРАМ ПАСЛОЎ ВЕНЦАСЛАВА, КАРАЛЯ РЫМЛЯН І ЧЭХІІ, А ТАКСАМА СВАІМ САВЕТНІКАМ, ЗАКЛЮЧАЕ ЗАМІРЭННЕ З КРЫЖАКАМІ ДА ДНЯ СВЯТОГА ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ І ПАГАДЖАЕЦЦА НА ТРАЦЕЙСКАЕ РАШЭННЕ КАРАЛЯ ЧЭХІІ.

Пасля заваявання замка Быдгашча Уладзіслаў, кароль польскі, пачаў абмяркоўваць са сваімі дарадцамі, што яму лепей зрабіць. Большасць саветнікаў меркавала, што трэба зрабіць так: няхай кароль Уладзіслаў, сабраўшы моцнае войска, рушыць у Памеранскую зямлю і спустошыць яе агнём і мячом. Другія лічылі больш карысным, заключыўшы замірэнне, аднавіць вайну будучым летам, маючы на ўвазе, што такое вялізнае войска не зможа вытрымаць суровай зімы ў паходзе. Паміж тым прыехалі паслы Венцаслава, караля рымлян і Чэхіі[2], а іменна Конрад Стары, князь Алясніцкі[3], і Енка, староста свідніцкі і врацілаўскі[4], і ад яго імя пачалі прасіць караля Уладзіслава скончыць вайну, пагадзіўшыся на захаванне міру да дня святога Іаана Хрысціцеля. У якасці трацейскага суддзі паслы прапаноўваюць самога караля Венцаслава, быццам бы ён па справядлівасці вырашыць усе спрэчкі паміж каралём і магістрам. Затым яны просяць караля накіраваць да нядзелі на першым тыдні Вялікага посту ў Прагу сваіх паслоў з поўным наказам для атрымання трацейскага рашэння. Такім чынам, пагадзіўшыся на просьбы згаданых паслоў караля рымлян і паддаўшыся на парады сваіх саветнікаў, Уладзіслаў, кароль польскі, падпісвае і зацвярджае перамір'е з крыжакамі тэрмінам да заходу сонца ў дзень святога Іаана

[1] Гэта пасланне датавана днём св. Лаўрэнція (10 жніўня) і, такім чынам, было напісана і разаслана да нападу крыжакоў на польскія землі.

[2] У апісваемы час Венцаслаў — чэшскі кароль Вацлаў IV — ужо не быў германскім імператарам (каралём рымлян), быўшы адхілены ў 1400 г. ад прастола. Аднак ён працягваў лічыць сябе імператарам, у чым знаходзіў падтрымку ў некаторых гасудароў (як Уладзіслава-Ягайлы) і ў аднаго з пап. (У перыяд так званага вялікага расколу, у якім знаходзілася рымска-каталіцкая царква ў 1378—1417 гг., знаходжанне двух пап на прастоле было з'явай звычайнай. Кожны з прэтэндэнтаў на папскі пасад вылучаўся рознымі гасударамі Еўропы, якія складалі ў далейшым апору яго прастола і карысталіся ўзамен заступніцтвам папы).

[3] Конрад Белы завецца тут Старым у проціпастаўленне брату свайму, таксама Конраду, князю концкаму (Сілезія).

[4] Свідніца, Врацілавія (Вроцлаў) — гарады ў Чэхіі, дакладней у Сілезіі, якія тады ўваходзілі ў склад Чэхіі.

Хрысціцеля[1] і згаджаецца прыняць нядзелю першага тыдня Вялікага посту як тэрмін для абмеркавання і заключэння вечнага міру пры пасрэдніцтве караля рымлян. Прымаючы да ўвагі сілы войска, якое ўзначальваў кароль, заключэнне гэтага перамір'я здавалася ганебным, але яно адпавядала акалічнасцям. Аднак каралеўскія дарадчыкі не маглі пазбегнуць цяжкіх абраз і лаянкі ад простага люду за тое, што заключылі гэтае перамір'е, быццам бы падкупленыя золатам крыжакоў. Яны схіліліся, аднак, да ўмеранасці не са страху і не ў сілу подкупу, а з асцярогі, хоць некаторыя і ганілі іх рашэнне як баязлівае і выкліканае подкупам.

**СКАРГА УЛАДЗІСЛАВА, КАРАЛЯ ПОЛЬСКАГА, НА КРЫЖАКОЎ ПРУСІІ, АБНАРОДАВАНАЯ ПРАЗ ЯГО ПАСЛАННІ ДА ЎСЕАГУЛЬНАГА ВЕДАМА.**

«Уладзіслаў, Божай міласцю кароль Польшчы, вярхоўны князь Літвы, наследны валадар Памор'я і гасудар і спадчынны валадар Русі[2] і інш. Праведны Божа, моцны суддзя, дабрадзейны сэрцавед, заклікаю і малю цябе, не папусці мяне паграшыць у абвяшчэнні напаткаўшых мяне бедстваў або выкрыць штосьці насуперак ісціне! Такім чынам, пазнайце, слухайце і ўспрымайце ўсе і кожны, каралі і гасудары як духоўныя, так і свецкія, графы, бароны, вяльможы, рыцары, гарадскія абшчыны і іншыя, і ўсе, хто засяляе зямлю і спавядае святую каталіцкую веру. Падобна таму як у акалічнасцях, якія ўзнікаюць і здараюцца паміж намі і братамі-крыжакамі Прусіі, няма ў іх ніякага пачуцця павагі да нас, у сілу чаго яны раздзіраюць і падвяргаюць абразам цярпенне наша, якое мы павінны былі міралюбна захоўваць па запавету цара нашага Ісуса Хрыста, затуляючыся сцвярджэннямі, што і самі мы пазбаўлены яго. Хаця яны былі звязаны з намі трывалай мірнай дамовай і моцнымі граматамі і была надзея, што, прынамсі, дамова ні ў якім разе не будзе парушацца, усё ж яны, насуперак гэтай змацаванай такім чынам дамове, пад бачнасцю няшчырага сяброўства несправядлівымі абвінавачваннямі і складзенымі выдумкамі аганьбавалі нашу нявіннасць перад асобамі некаторых гасудароў і шматлікіх шаноўных людзей. Яны па-здрадніцку сцвярджалі, быццам у наш час і пры князю літоўскім Аляксандру-Вітаўту вера каталіцкая нібыта мала ўмацавалася хрышчэннем нашага літоўскага народа, бо ніхто, быццам, з нашага народа не быў намі звернуты і прыцягнуты да веры хрыстовай. Людзі ж рускай веры, хрышчоныя намі, пад бачнасцю веры каталіцкай таемна і ўтойліва трымаюцца свайго веравучэння. Але таму, што царква не судзіць аб утоеным, то для нас досыць стараннасці чыстай набожнасці, якую мы прыкладаем для ўзвышэння каталіцкай веры; бо калі б мы ведалі такіх, хто трымаецца таемнай веры, то мы ніколі б не адпусцілі іх, не падвергнуўшы строгаму пакаранню. І калі б святая любоў знаходзілася ў сэрцах крыжакоў або калі б яны жадалі заставацца вернымі складзенай з намі дамове, то яны павінны былі б адкрыта паказаць нам тых з нашых, аб кім яны ведалі або ведаюць як аб вераадступніках. Калі б мы не выправілі такіх, то, па Евангеллі, няўжо не павінны былі яны заклікаць сведак і заахвоціць нас да выпраўлення гэтых вераадступнікаў? І ўжо затым, калі б мы не прынялі меры, каб заахвоціць іх выправіцца, тады толькі яны павінны былі рас-

[1] «Хроніка» Посільге датуе заключэнне гэтага перамір'я днём 8 кастрычніка і падрабязна выкладае яго ўмовы. Усе гарады, вёскі і землі, заваяваныя тым і іншым бакамі ў гэтай вайне, заставаліся за імі; кароль польскі абавязваўся не дапамагаць Жмудзі і тым, хто яе падтрымлівае, ні радай, ні справай; у выпадку, калі б які-небудзь з бакоў парушыў якую-небудзь з умоў, кароль чэшскі атрымліваў права ўзяць пацярпелы бок пад сваю абарону і дапамагаць яму супраць другога боку (Possilge. Chronik, стар. 305).

[2] Завучы сябе гасударом і спадчынным валадаром Русі, Уладзіслаў-Ягайла меў на ўвазе Галіцкую Русь, аднятую Польшчай у Венгрыі ў 1387 г.

павесці аб гэтым царкве. Але яны самі, перавярнуўшы парадак і забыўшы пачатак, пачынаюць з канца: яны сталі звяртаць несправядлівыя скаргі супраць нас і нашага найдаражэйшага брата, князя Вітаўта. І нельга спадзявацца, каб самі яны трымаліся веры чыстай і незаплямленай. А таму, распусціўшы языкі для пустаслоўя, яны не захацелі казаць праўды і, спадзеючыся на волю прамоў, упадабалі нагаворваць на нас хлусню і несправядлівасць. Мы не хочам шматслоўна даказваць правату нашу, але жадаем сапраўднымі поспехамі ўславіць плён спраў нашых. Мы жадаем прадставіць увачавідкі, явіць на справе і паказаць, што абрады хрысціянскай веры выпраўляліся нашымі навазвернутымі на літоўскіх землях пад кіраваннем Хрыстовым дастахвальна. Бо па Божай літасці мы ўзвялі там кафедральныя саборы і шмат іншых, прыхадскіх і манастырскіх касцёлаў, надарыўшы і надзяліўшы іх навечна і ў дастатковай ступені з нашых спадчынных маёмасцей. У гэтым кожны можа пераканацца, калі захоча наведаць для атрымання звестак гэтыя самыя часткі Літвы, якія мы вывелі з памылкі паганства, і ўбачыць уласнымі вачамі, што тое, што мы пішам, ёсць у рэчаіснасці. Але яны — о сорам! — прыкрываюць сваю брудную ганьбу выдуманай імі чужой ганьбай, перакладаючы ўласную віну на іншых. Яны б добра зрабілі, калі б, перш чым спяшацца вымаць саломінку з чужога вока, выцягнулі б бервяно са свайго. Бо, ведаючы і бачачы праўду, яны сцвярджаюць адваротнае, менавіта — што за дваццаць чатыры гады, якія прайшлі з часоў хрышчэння нашага, каталіцкая вера мала вырасла. Дык вось, хай жа яны скажуць, як і наколькі каталіцкая вера ўзрасла ў землях Прусіі, занятых імі ўжо, можа быць, дзвесце гадоў або больш. Мусіць, у параўнанні з тым, што зроблена ў літоўскіх землях, здзейсненае імі можна лічыць за нішто; бо і тыя прусы, якіх яны хрысцілі, пры іх папушчальніцтве і як бы пад маскай строгасці, як гэта добра вядома, зусім не пакінулі паганскіх абрадаў. І на справе крыжакі нікога з гэтых язычнікаў не звяртаюць сапраўды ў каталіцкую веру, паколькі вопыт з самагітамі, якіх яны павінны былі схіліць да хрышчэння, сведчыць, што яны за пяцігоддзе нікога не звярнулі ў каталіцкую веру, хоць большасць імкнулася прыняць боскую ласку хрышчэння. Бо адно толькі цешыць крыжакоў на гэтым шляху — любы захоп чужых зямель так або інакш. Адгэтуль мы прыходзім да праўдападобнай высновы: калі яны будуць паступаць з іншымі гасударамі гэтак жа несправядліва, як яны зараз паступаюць з намі, то, пэўна, з цяжкасцю хтонебудзь зможа гэта вытрымаць. І без сумневу, калі іх з Божай дапамогай не ўтаймаваць, то ў наступным яны ўсе дзяржавы і валоданні падпарадкуюць такім чынам свайму валадарству. Ёсць і яшчэ ў іх дзеяннях нешта вельмі сумнае, агіднае і годнае шкадавання, менавіта — кірунак іх заўсёды процілеглы належнаму, бо яны цалкам не жадаюць узгадніць яго з якімі-небудзь усталяваннямі грамадзянскага закона або царкоўнымі пастановамі. Таму што сам гэты іх накірунак не дапушчае, каб воля ішла за розумам, але азначае наймоцным чынам тое, што розум у іх саступае і заўсёды падпарадкоўваецца загаду волі. Усё іх імкненне і воля складаюцца выключна ў тым, каб утрымліваць сваё, чужое ж прысвойваць або дамагацца яго. Яны жадаюць заўсёды карыстацца чужымі выгодамі, абараняючы сваё ад кожнага; пры захопе ж чужога яны не звяртаюць увагі ні на правапарадак, ні на загад справядлівасці, калі толькі яны ў стане сілай завалодаць чужым. Ад захопленага ж яны ні ў якім разе не жадаюць адступацца і не падпарадкоўваюцца ніякаму праву або суду, калі справа ідзе аб іх захопах. І чым больш хтонебудзь з любові да міру і ў імя дабрадзейнасці будзе зневажацца перад імі, тым больш яны, пагрэбаваўшы такой пакорнасцю, стануць напышліва папіраць такіх людзей нагамі. І паколькі мы жадалі б такім чынам з найвялікшай пакорай дабрадзейнасці выказаць перад самім Богам-творцам нашу набожнасць і пакорліва прасіць яго літасці для падтрымання і ўмацавання найлепшага міру, стала захоўваю-

чы ў намерах тое становішча, што толькі ў міры можа быць належным чынам ушанаваны падаўца міру, мы склалі таму з братамі-крыжакамі вечны і трывалы мір. А гэтым мірам мы спадзяваліся здзейсніць для самога Спаса дзве дабрадзейныя дзеі: адна з іх складалася ў тым, што спынілася б барацьба з блізкімі і роднаснымі адзінаверцамі і знікла б прычына для ўсіх сварак. Другая ж, мы лічылі, складаецца ў тым, што за час дзеяння мірнай дамовы мы маглі б распаўсюджваць хрысціянскую веру і прывесці ўсіх няверных хрышчэннем да каталіцкага яднання. З прычыны гэтага, адкінуўшы і выгнаўшы з сэрцаў старыя крыўды, мы далі ў ім месца чыстай любові, загасіўшы ўсякае полымя крыўд набожнай пакорнасцю. Для ўзнаўлення больш трывалай дамовы і дзеля выгоды міру мы нават зямлю Дабжанскую, якая належала кароне польскай, але была несправядліва адабрана ў нас і ў нашай кароны гэтымі ж крыжакамі і на працягу некалькіх гадоў, у парушэнне дамовы, заключанай з каралеўствам Польскім пры блажэннай памяці Казіміра, некалі караля Польшчы, занятую Ордэнам гэтых братоў, выкупілі за вялікую суму грошай. Але мы і ад гэтага не атрымалі карысці і падчас міру не маглі знайсці міру, бо неўзабаве пасля сцвярджэння мірнай дамовы яны сталі трывожыць нас і прычыняць шкоду яшчэ больш цяжкімі, чым раней, джаламі крыўд. Пры гэтым, акрамя мноства іншых абраз, нанесеных нам, яны дзёрзка захапілі нашы замкі, менавіта Дрэздэнка[1] і Санток, разам з некаторымі землямі, якія належаць нам і брату нашаму Яну, князю Мазовіі, і з іншымі нашымі артыкуламі прыбытку, занядбаўшы ўсякім правам і правіламі справядлівасці. Мы перанеслі такія абразы з вялікім цярпеннем, быўшы моцна звязаныя і скаваныя путамі дамовы, якая, як мы зразумелі, была для нас цяжэйшай за ўсякую вайну. І хоць мы ў шматлікіх пасланнях з прыязнасцю падахвочвалі іх пісьмова і пры пасрэдніцтве надзвычайных паслоў, каб яны паводле артыкулаў усталяванай з намі дамовы прыцішылі крыўды вузамі справядлівасці, яны, ператвараючы нас з-за гэтага ў пасмешышча, ніякім чынам не захацелі гэтага зрабіць. Паміж тым, аднак, яны як бы здзекліва паведамлялі нам, што жадаюць прыцішыць гэтыя крыўды строга па справядлівасці; але толькі, як і ў іншых выпадках, яны адмовіліся давесці свой намер да канца. Таму нам прыходзіцца прынесці скаргу на іх і са збянтэжанай душой выказаць цяжар нашых крыўд, якія мы апісваем Вашай Светласці паасобку ў адмысловым пераліку. Мы настойліва просім Вашу Светласць, каб вы вырашылі пазбавіць добразычлівай веры слова, паведамленні і нават абвінавачванні тых жа крыжакоў, калі яны накіруюць такіх супраць нас і нашага брата, князя Вітаўта, карыстаючыся хуткасцю языка; бо сваімі несправядлівымі і каварнымі абвінавачваннямі яны ганяць нас, тады як толькі яны адны загразлі ў загане сапсаванасці. Спрыяйце таксама, просім вас, адвярнуць ваш розум ад іх несправядлівых падбухторванняў. Калі ж яны будуць заклікаць і патрабаваць якіх-небудзь людзей з вашых уладанняў прыйсці на дапамогу супраць нас і згаданага брата нашага князя Вітаўта, то забараніце пераход туды вашых людзей, бо крыжакі сапраўды ўзбройваюцца і патрабуюць дапамогі ўзброенай сілы супраць верных спавядальнікаў каталіцкай веры і супраць тых, якія даўно ўжо імкнуцца быць прылучанымі да каталіцкай веры.

Дадзена ў Апатаве ў самы дзень святога хвалебнага пакутніка Лаўрэнція ў год Гасподні тысяча чатырыста дзевяты».

[1] Дрэздэнка, як і Санток, — старажытны польскі замак на мяжы Вялікай Польшчы і Новай Маркі. У 1365 г. разам з Сантокам быў саступлены Казімірам III у леннае валоданне нямецкаму рыцарскаму роду Фон дэр Ост, а той аддаў яго ў заклад Ордэну ў 1402 г. Калі ў 1408 г. Уладзіслаў-Ягайла пачаў дамагацца ў Ордэна вяртання Дрэздэнка, крыжакі купілі яго ў рыцараў Фон дэр Ост.

**ВІТАЎТ, НЕ ВЕДАЮЧЫ АБ ЗАМІРЭННІ, ЗАКЛЮЧАНЫМ КАРАЛЁМ З КРЫЖАКАМІ, СПУСТАШАЕ ПРУСІЮ І, У СВАЮ ЧАРГУ, СА СТРАХАМ СУСТРАКАЕ Ў СВАІХ ЗЕМЛЯХ РАЗДРАЖНЁНАГА ВОРАГА.**

Яшчэ да атрымання вялікім князем літоўскім Аляксандрам ад караля Уладзіслава весткі аб заключэнні гэтага замірэння або прыпыненні ваенных дзеянняў, князь Аляксандр таемна адправіў свайго брата, князя Жыгімонта[1], са значным войскам літоўцаў у прускія землі. Уступіўшы на іх і аддаўшы агню і рабаванню мноства паселішчаў, Сігізмунд спусташае і спальвае гарады Дзядлаў, Тамаў і Няверке і зводзіць у Літву мноства палонных. Гэты паход вялікі князь Літвы Аляксандр зрабіў, не ведаючы аб замірэнні, аднак гэтыя абставіны не перашкодзілі крыжакам абвінаваціць вялікага князя Вітаўта ў несправядлівасці і злакозненасці. Таму яны чакалі толькі зручнага моманту, каб, па свайму звычаю, у сваю чаргу адплаціць яму.

Таму, таемна сабраўшы войска, яны пасылаюць яго праз бязлюдныя месцы паміж Гародняй і Бельскам, праз мястэчкі Жэбна, Стокі, Яскер і раку Нетупу. Заспеўшы і перабіўшы каля Яскера людзей князя, якія ў бязлюдным месцы неслі каравульную службу, бо іх знаходжанне выдаў дым, крыжакі ўрываюцца ў нядзелю на Вербным тыдні ў Ваўкавыск, дзе сабралася шмат літоўцаў паслухаць богаслужэнне, затым нападаюць і захопліваюць у палон усіх жыхароў абодвух полаў, літоўцаў і рускіх, пасля чаго, разрабаваўшы і спаліўшы гэта мястэчка, вяртаюцца назад той жа дарогай, па якой прыйшлі. Усхваляваны гэтай нечаканай весткай і ахоплены моцным страхам, вялікі князь Аляксандр, які знаходзіўся ў Слоніме, на адлегласці сямі міль ад гэтага месца, зараз жа, узяўшы з сабой толькі жонку сваю Ганну, хаваецца ў густыя лясы, у акружаныя вадой і балотамі схованкі каля Здзітава. Там ён знаходзіўся, пакуль не пераканаўся, што крыжакі сышлі[2]. Месца ж, па якім ішло ў Ваўкавыск і вярталася назад войска крыжакоў, ператварылася ў гэтай глушы ў вялікую дарогу, і як помнік гэтай падзеі дарога яшчэ прыкметная і захоўваецца да нашага часу. З тае пары было прынята сачыць, каб каравульныя, каб не быць заўважанымі, клалі ў вогнішчы толькі дубовыя дровы, якія не даюць дыму […]

**ПАЛЯКІ РАСПУСКАЮЦЬ ВОЙСКА І ЗБІРАЮЦЬ СОЙМ У НЕПАЛОМІЦАХ. НА ГЭТЫМ СОЙМЕ ВАРЦІСЛАВА З ГАТАРТОВІЦ ПРЫСУДЖАЮЦЬ ДА ВЕЧНАГА ЗНЯВОЛЕННЯ І ВЫБІРАЮЦЬ ПАСЛОЎ ДА ЧЭШСКАГА КАРАЛЯ, ТРАЦЕЙСКАГА СУДДЗІ.**

Пасля заключэння замірэння (якое ўсё ж выклікала вялікае незадаволенне і засмучэнне простага люду і недасведчаных людзей, якія паклёпнічалі на саветнікаў, быццам бы тыя склалі пагадненне, будучы падкупленымі) Уладзіслаў, кароль польскі, распусціўшы войска, выязджае з Быдгашча і праз Жнін накіроўваецца ў Познань. Адтуль ён аб'яўляе аб скліканні агульнага сойма ў мястэчку Непаломіцы і накіроўваецца ў Кракаў, і ў дзень святога Марціна праводзіць агульны сойм у Непаломіцах. Перад зборам біскупаў і вяльможаў каралеўства праводзіцца грозны суд над Варціславам з Гатартовіц, які, паступаючы як здраднік, не быўшы вымушаны да гэтага ніякай крайнасцю, здаў замак Баброўнікі крыжакам. Варціслаў у апраўданне свайго злачынства спасылаўся на тое, што перадачу згаданага замка ён зрабіў з ведама Мікалая Куроўскага, архібіскупа гнезненскага, і па яго даручэнню.

[1] Язычніцкае імя Жыгімонта, не ў прыклад імёнам іншых літоўскіх князёў, да нас не дайшло.

[2] У гэтым урыўку ад слоў «такім чынам, таемна сабраўшы» да канца яго Длугаш выкладае падзеі, якія мелі месца ўжо ўвесну 1410 г.

Быў прадстаўлены для стараннага разгляду ліст па гэтым прадмеце; урэшце, аднак, адкрылася, што гэты Варціслаў дзейнічаў несумленным чынам і абвінавачаны па заслугах. У сілу гэтага як вінаваты і злачынец, які заслугоўваў пакарання, ён быў перададзены каралю Уладзіславу, які распарадзіўся адправіць яго на вечнае зняволенне ў замак Хенцыны; у наступным жа годзе, калі была здабыта перамога над крыжакамі, кароль вызваліў яго, як і ўсіх іншых зняволеных. Гэты Варціслаў пражыў, аднак, нядоўга пасля вызвалення.

На гэтым жа сойме былі вызначаны і абраны знатныя паслы, біскупы і вяльможы, для паездкі ў Прагу да нядзелі першага тыдня Вялікага посту, каб заслухаць трацейскае рашэнне пра спрэчку паміж Уладзіславам, каралём Польшчы, і крыжакамі; і ім былі дадзены тады ўсе ўказанні па гэтай справе [...]

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ПАРАІЎШЫСЯ [З КНЯЗЕМ ВІТАЎТАМ] АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ ВАЙНЫ СУПРАЦЬ КРЫЖАКОЎ І АБ ЗБУДАВАННІ МОСТА НА ЛОДКАХ, РАЗАМ З ТЫМ АДПРАЎЛЯЕ Ў ПЛОЦК, ЗАСАЛІЎШЫ, ЗЛОЎЛЕНЫХ НА ПАЛЯВАННІ ДЗІКІХ ЖЫВЁЛ ЯК ХАРЧОВЫЯ ПРЫПАСЫ ДЛЯ БУДУЧАЙ ВАЙНЫ. ЗА АДЗІН ДЗЕНЬ ЁН УЗВОДЗІЦЬ ХРАМ У ЛЮБОМЛІ.**

Пакінуўшы Непаломіцы, Уладзіслаў, кароль польскі, спяшаецца ў Літву, каб правесці спатканне ў Брэсце-Рускім[1] з Аляксандрам, вялікім князем літоўскім, пра якое кароль апавясціў князя загадзя. Адзначыўшы свята святой Кацярыны ў Любліне, кароль прыбыў да дня святога Андрэя ў Брэст, дзе літоўскі князь Аляксандр прыняў Яго Вялікасць з належнай павагай, выехаўшы насустрач за мілю. Там кароль Польшчы Уладзіслаў з Аляксандрам, вялікім князем Літвы, у найстражэйшай тайне вызначаюць увесь ход будучай вайны супраць крыжакоў пры ўдзеле аднаго толькі Мікалая Тромбы, падканцлера каралеўства Польскага. На дапамогу сабе ў хуткай вайне яны прыцягваюць нават татарскага хана[2] з татарскім племем, якога Аляксандр, князь літоўскі, прывёў у Брэст. Тут жа яны, акрамя таго, усталёўваюць, у які дзень і ў якім месцы польскім і літоўскім войскам злучыцца і якім спосабам перайсці Віслу. Акрамя таго, яны вырашаюць пабудаваць ніколі яшчэ не бачаны навясны мост на лодках. Збудаванне гэтага моста было даручана каралём Уладзіславам Дабрагосту Чорнаму з Аджывол, старосту радомскаму, шляхціцу герба Наленч. Будаваўся ж гэты мост у Казеніцах на каралеўскія сродкі таемна нейкім умелым майстрам Яраславам, які патраціў на яго пабудову ўсю зіму. Распарадзіўшыся аб усім патрэбным для вядзення будучай прускай вайны, Уладзіслаў, кароль польскі, накіроўваецца з Брэста ў Камянец-Рускі[3] ў суправаджэнні вялікага князя літоўскага Аляксандра [...] З Камянца кароль Уладзіслаў адпраўляецца на паляванне ў Белавеж, на другі бок ракі Льсны. Тым часам Аляксандр, вялікі князь Літвы, ад'язджае ў Літву з татарскім ханам, якога ўсю зіму і амаль да свята святога Іаана Хрысціцеля ўтрымліваў у сваёй краіне з усімі яго людзьмі і жонкамі. Уладзіслаў жа, кароль Польшчы, займаючыся паляваннем і знаходзячыся ў Белавежы на

[1] Брэст-Рускі — пазней Брэст-Літоўскі.

[2] У Длугаша: імператара. Гаворка ідзе пра Джэлал-ад-Дзіна, сына Тахтамыша. У лёсе апошняга Вітаўт прымаў актыўны ўдзел. Выцеснены з Залатой Арды сваім сапернікам Цімур-Кутлугам, Тахтамыш збег у Літву, і Вітаўт здзейсніў два паходы (у 1397 і ў 1399 гг.) супраць татараў, спрабуючы вярнуць яму прастол, — абодва безвынікова. Пасля смерці Тахтамыша ў 1406 г. сыны яго засталіся ў Вітаўта. Джэлал-ад-Дзін браў удзел у Грунвальдскай бітве. У 1411 г. Вітаўту ўдалося пасадзіць Джэлал-ад-Дзіна на прастол у Залатой Ардзе (С. Лэн-Пуль. Мусульманские династии. Спб., 1899, стар. 189—193; Б. Д. Греков і А. Ю. Якубовский. Золотая Орда и ее падение. М.-Л., 1950, стар. 318—385, 400).

[3] Камянец-Рускі — пазней Камянец-Літоўскі.

працягу васьмі дзён, здабывае шмат лясных звяроў і, засаліўшы ў бочках, перасылае іх па Нараву і Вісле ў Плоцк як запас для будучай вайны.

Прыбыўшы праз Камянец, Кобрын і Ляскі ў Холмскую зямлю свайго каралеўства, дзень Раства Хрыстова ён праводзіць у Любомлі, дзе ўзводзіць усяго за адзін дзень драўляную прыходскую царкву для каталікоў, якія пражываюць там, забяспечвае яе ўтрыманнем і даручае асвяціць яе Грыгорыю, біскупу ўладзімірскаму, інакш луцкаму[1], брату Ордэна прапаведнікаў. Таму-то ў тую зіму Уладзіслаў, кароль Польшчы, і адклаў сваю звычайную паездку ў Літву, бо Аляксандру, вялікаму князю Літвы, было б цяжка клапаціцца аб знаходжанні і ўладкаванні памяшканняў для караля і адначасова распараджацца адпраўкай усяго неабходнага для вайны; але і каралю Польшчы Уладзіславу трэба было паклапаціцца ў сваім Польскім каралеўстве пра многае, і гэта не дазволіла яму, як звычайна, накіравацца ў Літву [...]

## ГОД ГАСПОДНІ 1410

### УЛАДЗІСЛАЎ, КАРОЛЬ ПОЛЬСКІ, АКАЗВАЕ ГЕРМАНУ, ГРАФУ КІЛІЙСКАМУ, ЛАСКАВЫ ПРЫЁМ.

Зладзіўшы свята Раства Хрыстова ў Любомлі, Уладзіслаў, кароль польскі, ад'язджае ў Любохню, Тур, Шацка і Ратна і аднаўляе заняткі паляваннем, запасячы мяса ўпаляваных звяроў для прускай вайны. З Холмскай зямлі кароль паехаў у Парчоў, затым у Люблін, Казімеж, Сецехаў і ў чацвер перад Мясапустам прыбыў у Казеніцы, каб сустрэць каралеву Ганну[2], якая прыехала туды з Кракава, а з Казеніц да Мясапуста кароль з'ехаў у Едльню. Туды да яго прыбыў стрыечны (па бацьку) брат каралевы Ганны, Герман, граф кілійскі[3], каб наведаць караля Уладзіслава і сястру сваю, каралеву Ганну. У яго прысутнасць, адпаведна сваёй годнасці і годнасці каралеўства, Уладзіслаў зрабіў прыдворнае свята і распарадзіўся наладзіць розныя рыцарскія змаганні, забаўкі і скокі. Згаданага ж Германа, графа кілійскага, Уладзіслаў, кароль польскі, прымаў пры сваім двары, багата забяспечыўшы яго ўсім неабходным. Пры ад'ездзе ж з Едльні ў Ільжу, Апатаў і Сандомеж адпусціў графа, абласкаўшы і надарыўшы ў Сандомежы па-каралеўску падарункамі вялікай каштоўнасці. Пры гэтым пасрэдніцтва і ўгаворы гэтага графа пераканалі і заахвоцілі караля правесці разам са сваім стрыечным братам, вялікім князем літоўскім Аляксандрам, асабістае спатканне з Жыгімонтам, каралём Венгрыі[4], у Кежмарцы.

### ПАСЛЫ КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА, КНЯЗЁЎ МАЗОВІІ І АЛЯКСАНДРА, ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЛІТОЎСКАГА, ВЫСМЕЯЎШЫ НЕСПРАВЯДЛІВАЕ ТРАЦЕЙСКАЕ РАШЭННЕ КАРАЛЯ ВЕНЦАСЛАВА, ПАКІДАЮЦЬ ПРАГУ.

З набліжэннем тэрміну, калі Венцаслаў, кароль рымлян і Чэхіі, сваім трацейскім рашэннем павінен быў спыніць рознагалоссі караля Уладзіслава з магістрам і Ордэнам крыжакоў, у Прагу накіроўваюцца з вялікай пышнасцю пазнанскі біскуп

---

[1] Грыгорый быў біскупам у 1413—1425 гг.; да яго, у 1404—1413 гг., біскупам луцкім быў Свараслаў.

[2] Пасля смерці Ядвігі ў 1399 г. Уладзіслаў-Ягайла ажаніўся з Ганнай (пам. у 1416 г.), дачкой Вільгельма, графа кілійскага, і Ганны, дачкі польскага караля Казіміра III.

[3] Кілія — зараз горад на поўдні Малдавіі. Герман быў стрыечным братам не Ганны, а яе бацькі.

[4] Жыгімонт, кароль Венгрыі, кіраваў у 1378—1437 гг.

Альберт Ястшэмбец, маршалак Польскага каралеўства Збігнеў з Бжэзя, каштэлян наклоўскі Вінцент з Гранова, ваявода Вялікай Польшчы Енджэй з Брахоціц і каралеўскі натарый Дунін са Скшына[1] — ад асобы караля Уладзіслава і ад імя каралеўства Польскага, а таксама літоўскі рыцар Бутрым і вялікакняжацкі натарый Мікалай Цэбулка[2] ад імя вялікага князя Літвы Аляксандра, ад асоб і ад імя князёў Мазовіі — Сцыборый Рогаля з Санкоцына, маршалак Януша, і Пліхта, маршалак Земавіта. Прыбыўшы туды, каралеўскія і княжыя паслы, гэтак жа як і паслы крыжакоў, прадставілі свае прапановы, артыкулы і наказы Венцаславу, каралю рымлян і Чэхіі, як агульнаму пасрэдніку і абранаму суддзі. Яны спадзяваліся, што Венцаслаў разбярэ гэтую справу адпаведна ўласнай сваёй добрай якасці і важнасці спрэчкі. Кароль жа, маючы агіду да спраў і рэдка бываючы цвярозым, заняты быў сваімі забаўкамі і не клапаціўся пра даверанаю яго сумленню справе, якая патрабавала справядлівага рашэння, і ўхіляўся ад яе разгляду. Аднак, каб сам кароль рымлян сваёй відавочнай легкадумнасцю не наклікаў на сябе асуджэння перад гэтулькімі пасламі і каб, акрамя таго, паслы каралеўскія, княжыя і крыжакоў не раз’ехаліся, не дасягнуўшы мэты (тым больш што паслы крыжакоў схілялі на свой бок як просьбамі, так і подкупам яго самога і яго саветнікаў), Ёдак, маркграф мараўскі, глыбока варожы каралю польскаму Уладзіславу і яго прыхільнікам (за тое, што той часта аказваў дапамогу зброяй і войскам яго саперніку, другому мараўскаму маркграфу Пракопу[3]), умяшаўся разам з некалькімі чэхамі і немцамі ў рашэнне гэтай справы. Ёдак склаў вызначаныя і прытым грубыя і відавочна несправядлівыя артыкулы для вынясення папярэдняга трацейскага рашэння і заахвоціў згаданага Венцаслава, караля рымлян і Чэхіі, абвясціць рашэнне паводле зместу гэтых артыкулаў[4]. Папярэджаныя пра гэта, пасланцы польскага караля Уладзіслава, а таксама князёў Літвы і Мазовіі, прадставілі абмежаваную і няпоўную дамову, захоўваючы за сабой права на поўную дамову, з умовай, а менавіта — каб аб’ява несправядлівага рашэння не магла закрануць і абмежаваць у чым-небудзь караля і князёў. Такім чынам, праз шмат дзён прызначаецца дзень таму і іншаму боку для абвяшчэння трацейскага рашэння[5]. З надыходам гэтага дня абодва бакі збіраюцца ў каралеўскім палацы для слухання рашэння. І вось, пасля заклiку захоўваць цішыню, прычым кароль Венцаслаў стоячы заняўся вырэзваннем нейкай дзеравякі, натарый, узышоўшы на ўзвышэнне, пачаў абвяшчаць рашэнне па-нямецку. Як толькі ён пачаў чытанне, пасланцы Уладзіслава, караля польскага, і князёў Літвы і Мазовіі, не папытаўшы ніякага дазволу, сталі сыходзіць з палаты, хоць некаторыя з іх гэтак жа добра разумелі па-нямецку, як і ўмелі размаўляць на ім. Венцаслаў, кароль рымлян і Чэхіі, спытаў іх, чаму яны сыходзяць, і атрымаў адказ: «Таму, што тут чытанне адбываецца па-нямецку, мы ж — палякі і не разумеем нямецкай мовы і сыходзім адгэтуль у другое месца, каб пачуць чытанне на польскай мове». На яго прапанову пачакаць трохі, каб спакойна выслухаць тую ж аб’яву на чэшскай мове, яны сказалі: «А мы і чэшскай не ведаем». Тады кароль Венцаслаў заўважыў: «Абедзве мовы гучаць аднолькава, і

1 Натарый (сакратар) Дунін — Енджэй Дунін (Донін), пасля падканцлер Польскага каралеўства.

2 Мікалай Цэбулка займаў пасаду вялікакняжацкага натарыя ў 1409—1429 гг.

3 Атрымаўшы ў спадчыну маркграфства мараўскае пасля смерці свайго бацькі ў 1375 г., Ёдак (гл. 1390 г., № 2/2010, стар. 71, заўв. 2) малодшым братам сваім, Пракопу і Яну-Сабеславу, вылучыў толькі асобныя гарады ў Маравіі. Пракоп да самай смерці (1405 г.) вёў з ім барацьбу за маркграфства. Уладзіслаў-Ягайла сапраўды аказаў Пракопу дапамогу ў 1394 г.

4 Ёдак быў членам каралеўскай рады пры Вацлаву IV і апошнія гады свайго жыцця карыстаўся вялікім уплывам на караля.

5 Тэрмін вынясення трацейскага прысуду быў вызначаны пры заключэнні перамір’я ў кастрычніку 1409 г. на 9 лютага 1410 г. Вацлаў абвясціў яго 15 лютага.

хто гаворыць на адной, разумее і другую». — «Але, святлейшы кароль, — запярэчылі яны, — пры аднолькавым гучанні яны не маюць аднолькавага значэння, бо дзе чэшская мова словам syedlak азначае земляроба і селяніна, па-польску пад гэтым словам разумеюць рымара і рамізніка». Даўшы гэты дасціпны і поўны насмешкі адказ каралю Венцаславу, яны выдаліліся з палаты і не пажадалі слухаць аб'яўленне рашэння на якой бы там ні было мове, упэўненыя ў яе незаконнасці і несправядлівасці. Аднак Венцаслаў, кароль рымлян і Чэхіі, пераслаў рашэнне каралеўскім і княжым паслам надрукаваным. Яно, між іншым, утрымоўвала два смяхотныя артыкулы, бо сам кароль рымлян Венцаслаў, ці, дакладней, Ёдак, маркграф мараўскі, вызначаў, што зямля Дабжанская, занятая крыжакамі, падлягае з усімі замкамі і ўладаннямі перадачы ў яго ж (Венцаслава) рукі; а ён, маючы яе ў сваім валоданні, павінен на працягу года абдумаць і, абдумаўшы, вырашыць, каму павінна належаць права валодання гэтай зямлёй. Гэткім жа смяхотным быў артыкул пра тое, што Польскае каралеўства больш ніколі надалей не павінна абіраць сабе караля з Літвы ці з усходніх краін, але толькі аднаго з заходніх гасудароў[1]. З гэтага аднаго ясна выяўляецца неабдуманасць і несправядлівасць рашэння, бо яно распаўсюджвалася на прадмет, чужы спрэчцы і зусім не патрэбны. Не атрымалі пасланцы польскага караля Уладзіслава і князёў Літвы і Мазовіі ў Венцаслава, караля рымлян і Чэхіі, і ніякай іншай ветласці, акрамя таго, што ён запрасіў іх да стала і распарадзіўся наладзіць пасля балявання скокі, у якіх яго жонка, каралева, у кароне танчыла разам з дзяўчатамі і жанчынамі, трымаючы сябе з вялікім бляскам [...]

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Працяг будзе.***

---

[1] Змест трацейскага прысуду падрабязней выкладзены ў іншых крыніцах. Акрамя пункта пра Дабжанскую зямлю ў іх запісана, што кожны з бакоў захоўвае за сабой права на ўладанні, якія належалі ёй да вайны, што ніводнаму з бакоў нельга ні карыстацца дапамогай няверных, ні дапамагаць ім супраць іншага боку (пад «нявернымі» разумелася насельніцтва Жмудзі і Літвы). «Хроніка» Посільге дадае яшчэ пункты, якія тычацца замка Дрэздэнка і згадвання Памор'я ў тытуле польскага караля (Possilge. Chronik, стар. 312). Пункт аб Дабжанскай зямлі выкладзены ў гэтых крыніцах інакш, чым у Длугаша: Ордэн павінен вярнуць Дабжанскую зямлю, але затое Польшча (г. зн. Польска-Літоўская дзяржава) пазбаўляецца на вечныя часы права на Жмудзь. Усталяваць сапраўдны змест тэксту прысуду не ўяўляецца магчымым таму, што арыгінал яго ўжо ў 1412 г. быў згублены, і згублены, як не без падстаў мяркуе С. Кучыньскі, наўмысна (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 284).

Уладзімір МАРХЕЛЬ



# МАЁ ЧАКАННЕ СТАЛА КУЛЬТАМ

## МОЖА, НЕ ПОЗНА...

Хоць і сачыў за табою Купала,
хоць ты расла пад ягонай апекаю,
папараць-кветку ні з кім не шукала,
нават не трызніла папараць-кветкаю,

можа, не позна, але ўжо не рана
кветку сарваць на Купалу, да Яна?!

светлаю ночаю разам улетку
мы паспрабуем з табой здзейсніць подзівы:
пойдзем шукаць нашу папараць-кветку,
пойдзем і знойдзем, і нойдзем мы — ой, дзе мы?..

## ДЗЕ?

Не ўявіць было
мне, дзе,
на пяску
ці на вадзе,
ці, магчыма, там,
дзе плёс,
прадчуваннем шчодры лёс
на каханне навядзе
нас
пад шчырасцю нябёс.

## ЗАНЯТЫЯ ЧАКАННЕМ

Калі нябесная апека
Адухаўляе вокал рэчы,
Дзень доўжыцца не болей века
Маім чаканнем нашай стрэчы.

Паліца кніг і стол пісьмовы,
Папера, ноўтбук, нават крэсла —
Усё гатова для размовы,
Усё для гутаркі ўваскрэсла.

*Уладзімір Мархель нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Жыгалкі Стаўбцоўскага раёна. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта выкладаў беларускую і рускую мову і літаратуру ў школах Беларусі. З 1978 г. — у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Аўтар літаратуразнаўчых кніг «Лірнік вясковы», «Вяшчун славы і волі», «Крыніцы памяці» і інш., а таксама кнігі перакладаў «Водгулле», укладальнік гістарычна-літаратурных зборнікаў «Шляхам гадоў» і інш. Лаўрэат прэміі Polcul і прэзідэнтаў акадэмій навук Украіны, Беларусі, Малдовы.*

І рэха іх гучыць падказам,
Што век не болей дня, дарэчы,
Таму й занятыя ўсе разам
Маім чаканнем нашай стрэчы.

Маё чаканне стала культам
І перайшло на ўсе прадметы,
Я за сталом, нібы за пультам,
Дзе рэчы ўсе — нібы паэты.

## ПА-ЗА ЧАСАМКНЕННЕМ

Ніхто не засцярог
І не сказаў мне: «Стоп!» —
А я інакш не мог,
Ступіўшы на парог
Зямнога часамкнення
Без вопыту, без спроб,
Без адчування строп:
Ніякі парашут
Не трэба ў мой маршрут,
Дзе вольнасць летуцення
З табой без прызямлення.

## ЧАСУ АДНАЎЛЕННЕ

Ні разу я тваіх не слухаў лекцый,
Не бачыў скарбаў і архэ-калекцый,
Але прыходжу да цябе не ўлегцы:

Нясу з сабою ў заўтра час мінёны,
Лучбою ўзяўшы нашыя імёны,
Якія ў сёння з прошласці памкнёны.

Спаміж сабой адчуўшы прыцягненне,
Цяпер мы падаўжаем не імгненне,
Не прошласць — толькі часу
адначленне.
Супольствам нашых часавых праекцый
З табой жарсліва мы натхнёны
На любасці ўзаемнае здзяйсненне.

## НЯЎЦЯМ

Знаёмай
незнаёмасцю разлукі
не выйсці
з асалоднага палону,
запомнена
чакаюць рукі,
пяшчотаю сумуе лона…
і мне тады
зусім няўцям:
але ці выйдзем жа хаця
за межы нашага быцця?

## ЗДАЛЯ

Ледзь-ледзь адчуць яшчэ здаля
Тваё памкненне да мяне —
І доўга ўсведамляць пасля,
Што час памкненнем праміне.

А час памкненнем праміне —
І з рытму выб'ецца Зямля,
І буду я адзін ў вакне
Памкненне адчуваць здаля.

## І ТЫ АДНА, І Я АДЗІН

Хоць не адзін мільён гадзін
і ты адна, і я адзін;

Хоць пошук наш вядзём даўно,
але пакуль мы не адно;

І застаешся ты адна,
бо мне дагэтуль не відна;

Хто перарве наш каранцін —
бо ты адна, бо я адзін;

Ці аднаго нам хопіць дня,
каб зразумеліся да дна;

Ці застанемся мы адны,
калі мы й блізка не відны?



Генадзь ПАЦЫЕНКА

# ПАКУЛЬ КУЛЯ ЛЯЦІЦЬ*

### *Аповесць*

**Окружи счастием душу достойную…**
*М. Ю. Лермонтов*

## Частка восьмая

## ЗАГАД НА КЛУБЕ. НЯМЫ ПАСТУХ

*Кожны сучок на вязе,* на якія ставіў нагу ці чапляўся рукамі, быў знаёмы, вывучаны, праверaны, даследаваны. Сёння я, не дабраўшыся да верхавіны, убачыў матацыклістаў, якія імчалі па дарозе. Не памятаючы сябе, я сігануў уніз. Але матацыклісты ўжо прамільгнулі, пранесліся міма.

Я, аднак, паспеў разгледзець іх. І здагадаўся, што гэта немцы. Не разабрацца было проста немагчыма: на грудзях у кожнага — па кароткім аўтамаце. Мільганулі і паўкруглыя бляхі з нейкімі адзнакамі. Папружкі на цяжкіх з выгляду касках былі апушчаны пад самы падбародак.

Я чакаў матацыклістаў яшчэ, але больш яны чамусьці не з'явіліся. Дзве каляскі, па трое ў кожнай, такім чынам, шасцёра. Пранесліся з той хуткасцю, якую ледзь паспяваеш паглядам засячы. Падкацілі яны напрамую да калгаснага клуба, нібы ў ім кватаравалі. Рэзка затармазіўшы, салдаты накіраваліся з вядзерцам у руцэ на ганак і пачалі ляпіць на дзверы паперу. Яны ўважліва паглядалі па баках, відавочна падстрахоўваючы сябе.

Затым расселіся па матацыклах і з трэскам панесліся па вуліцах, але ў іншы бок, да суседняй вёскі. Наезд доўжыўся некалькі мінут. Абавязак матацыклістаў, верагодна, складаўся толькі ў расклейванні загадаў. Траскатня аддалілася і неўзабаве сціхла, адначасова з асядаючым дарожным пылам.

Я шкадаваў, што нікога не паспеў пра матацыклістаў папярэдзіць.

Цікаўнасць распальвала бегчы да клуба хутчэй. У ім з пачаткам вайны практычна не збіраліся. Следам за мной пацягнуліся бабы і дзеці. Загад быў пра рэгістрацыю кожнага ў мясцовай управе, за восем кіламетраў. Параненых і здаровых чырвонаармейцаў прадпісвалася неадкладна выдаць. За аднаго схаванага дваім мясцовым пагражаў расстрэл.

Лепей было загад не зрываць: хай кожны прачытае і зарыентуецца.

Прыдатных да страявой службы ў вёсцы заклікалі ў першы ж дзень вайны, акрамя бацькі і Косціка, мужыкоў практычна не засталося. Вялікі наезд немцы, падобна, адкладалі, адсоўвалі. І толькі наіўны мог спадзявацца, што ўслед за загадам яны не з'явяцца.

Але ўжо вось гэтых я прагледзець не павінен. Наступных-то я ўбачу...

---

* Працяг. Пачатак у № 2, 3 за 2010 г.

Дарогі, як знарок, станавіліся сухімі. Хоць уначы, хоць днём прабірайся. Жнівень — самы з усіх месяцаў сухі.

Матацыклісты, якія наляцелі, выклікалі ажыўленне і трывогу. Ператрус і аблавы немінучыя. Дзядзька Косцік лічыў, што немцы скрупулёзна паслядоўныя і абавязковыя.

На выгане ў пасляабедзенны час само сабой узнікла абмеркаванне таго, што адбылося. Дні зараз меншалі, і трэба было вырашаць: ці ганяць статак на дойку апоўдні, ці пасвіць увесь дзень на сенажацях.

Заставацца ў полі сам-насам з каровамі ў ваеннае лета ніхто не рваўся пасля страты пастухоў. Лепш бы знайсці пастуха пастаяннага, ды дзе ўзяць? Знайсці б мажнога, цягавітага мужыка, якому і каровы падпарадкоўваліся б, і гаспадыні заставаліся задаволенымі. Перабіралі, меркавалі і схіліліся да таго, што мужыка хвацкага і паваротлівага трэба шукаць дзесьці на баку.

Бацька маўчаў, па чарзе пакручваючы вусы. Збянтэжаныя гаспадыні вырашылі распытаць пра пастуха ў суседзяў у Заазер'і.

Пасля іх, аднак, загаварыў бацька, калі ўжо дадаць і прапанаваць не было чаго. Па яго перакананні, ён такога чалавека ведае. І гатовы прапанаваць зараз жа, калі вяскоўцы не супраць.

Пастух, праўда, нямко і да таго ж з уцекачоў, але статак пасвіць умее, як тлумачыў бацька. І гэтага ўцекача, які чамусьці зайшоў да Косцікаў, ён гатовы тут жа і паказаць. Неабходнасць ламаць галаву адпадала.

Бацька адразу прывёў высокага мужыка ў паношанай кашулі і прасцяцкіх портках, падпяразаных вузенькай зашмальцаванай папружкай.

Незнаёмец выглядаў разам з тым ахайна.

У вонкава безуважным, блукаючым паглядзе праступала да ўсяго пакорлівая абыякавасць. Пастух пакідаў уражанне жыццёвай сабранасці і акуратнасці. Некалькі разоў ён праводзіў пальцамі па густой светлай барадзе, да якой нібы прывыкаў.

Вось такому і трэба давяраць статак. І дагледзіць, і накорміць. Нямка быў рэзон наймаць, яго, да ўсяго іншага, ведаў і бацька.

— Ён жыць у каго будзе? — але спыталі як пра вырашаную справу.

— Пакуль у мяне, а далей — паглядзім, — растлумачыў спакойна бацька. Першы рэкамендаваў, першаму і на пастой браць. Харч і плата ад кожнага, чыя карова ў статку.

Пра грошы не размаўлялі, яны нічога не значылі. Купляць не было дзе і няма чаго.

Паступова памаленьку разышліся, даабмеркаваўшы вывешаны на клубе загад новых улад.

Дома бацька паказаў нямку сяннік, дзе яму мелася жыць, і той прынёс неўзабаве брызентавы плашч і палатняны мяшок на шлейках з вяроўкі. Трымаў і паводзіў сябе пастух на здзіўленне разумна, быццам выконваючы бацькаў наказ.

Я рваўся тут жа запрасіць нямка ў хату і сказаў маці.

— Вошай-то ў яго няма? — спытала яна.

— Не пляціце глупства, — строга заўважыў бацька. — А ты, — сказаў ён мне, — не совай нос куды не трэба. Прынясі лепш свежых агурочкаў.

Я ахвотна кінуўся да градак за хлявом. Яны прапахлі кропам. Агуркі былі шурпатыя, з пупышкамі і самі прасіліся ў рот. Маленькія мы прыкмячалі з Федзькам загадзя. У гэтую пару іх было ўдосталь.

У старых валёнках на печы захоўвалася некалькі загадзя сарваных памідораў, пакладзеных, каб паспелі хутчэй. Пра іх мы з Федзькам і ўспомнілі, жадаючы патрафіць нямку.

З клунка ён выняў старую целагрэйку і павесіў на цвік у прыбудове. Маці тым часам адварвала бульбу. Мы паклалі на стол агуркі з памідорамі, і нямко ўдзячна кіўнуў нам. Складанчыкам ён разразаў агуркі на долькі і пасыпаў соллю, робячы гэта марудліва і з задавальненнем. Мы стаялі побач.

Паеўшы ж, з палёгкай уздыхнуў, нібы чалавек пасля доўгага шляху ці цяжкай для яго працы.

Пасвіць жывёлу нямко падымаўся рана, пацепваючыся ад світальнага холаду. У прыбудову да сябе прыходзіў з першай вячэрняй зоркай, не ведаючы ні нядзель, ні свят. Спякота і дажджы не былі яму перашкодай. Ежу ў поле насілі яму па чарзе. Я вырашыў спытаць бацьку, як нямога пастуха клікаць.

— А нашто табе?

Федзька здзівіўся:

— Сабака з каровай і тыя імя маюць.

— Правільна, але ён усё адно не чуе! Я і сам не ведаю. — І сапраўды, пра што б ні гаварылася, пастух заставаўся безуважным і маўклівым, не ўнікаючы, не рэагуючы. Нішто не парушала яго абыякавасці.

Яго заставалі заўсёды абапёршымся на доўгую палку. Гаспадыні дзякавалі бацьку за ўдала знойдзенага чалавека. Прыкмецілі за пастухом і іншае: ён не карыстаўся плеценай пугай, якой звычайна пастухі фарсіста гучна выстрэльвалі, запалохваючы статак. Пстрыкаць пугай ён, відаць, проста не ўмеў. Ад пугі на баках кароў парой заставаліся палосы. Нямко аддаваў перавагу пасвіць статак па адкрытых месцах. Засівераныя яго шчокі неўзабаве зарумяніліся, вочы ж як бы свяціліся прастатой і дзіцячай адкрытасцю, насуперак яго дужай, да нягод непераборлівай натуры. Раней нямко, відаць, рыбаліў, паколькі міла ўсміхаўся, гледзячы на возера. І калі б выдаўся вольны дзень, мы маглі б з ім і палавіць рыбу.

Лета між тым што ні дзень скарачалася. Яснейшымі, больш зорнымі і сырэйшымі станавіліся ночы. А нагуляныя карасі і сазаны паласкаліся і плюхаліся пад месяцам усё смялей.

Рыба быццам глядзелася ў начную зорнасць. Возера і неба, здавалася, журыліся ад немагчымасці зблізіцца.

Стомлены ж за дзень пастух моцна спаў.

## Частка дзевятая

## ГУТАРКА З БАЦЬКАМ. ЖАБРАК ПЭ-ТЭ-ТЭ. АБЕД У ПОЛІ. ЧАЛАВЕК У СЛУХАЎКАХ. ЖНІВО. СВЕДКА ТАЯМНІЦЫ

Клопатаў і спраў з набліжэннем восені дабаўлялася. Бацька памкнуўся перавозіць сена і запрог Віцязя ў калёсы. Сена па прыкідках набіралася на некалькі вазоў. Мы з Федзькам спадзяваліся, што нас возьмуць. Хацелася зірнуць на Снегірыны лес. Заадно ж і падварочваўся выпадак пагаварыць з бацькам пра чалавека за возерам.

Вусы бацькі распушыліся і былі не падрэзаны, твар не выгалены, а ад усёй постаці ішоў пах смалы і ветру. Да яго міжвольна хацелася туліцца і быць побач. Ён не ўзяў з сабой ні мяне, ні Федзьку, сказаўшы, што воз накладваць дапаможа пастух, які нібы пасвіў у той дзень непадалёк ад лесу. З ім ён паедзе па копы, а дзядзька Косцік часова пабудзе са статкам.

У лес жа нас адвязуць як-небудзь пасля, асобна. Сёння на возе і месца няма, і Віцязя, які даўно не ведаў цяжкіх грузаў, пашкадаваць трэба. Нам жа лепш дапамагаць маці жаць саспелае жыта.

Мы не пакрыўдзіліся. Усё выглядала слушна і пераканаўча. І пакуль мы хадзілі па Віцязя, пакуль накідвалі аброць, вялі да хаты і затым запрагалі ў калёсы, я часу не губляў, вырашыўшы пагаварыць з бацькам пра чалавека за возерам.

Першае, што я адчуў, была імгненна ўзніклая ў бацькі насцярожанасць, якую ён у першыя хвіліны і не хаваў. Хамут, які ён накідваў на галаву Віцязя, ледзь не выпаў з бацькавых рук. Ён завaждаўся са збруяй павольней, і я ўжо быў не рады, што сказаў пра ўбачанага. Мая ўсюдыіснасць уразіла яго.

Усюды вось я сoваю нос... І здавалася, што з-за гэтага бацька і хмурыцца, абдумваючы, як больш пераканальна адказаць. Так разважаў я.

— Сынок, — загаварыў ён як мага больш добра і стрымана, — акрамя цябе хто-небудзь яшчэ ведае?

— Ніхто, тата.

— А дзяўчынка, ну, гэта... Інга?

— Паняцця не мае.

— Як жа не мае? Вы ж разам былі?

— Так, удваіх. Але я вырашыў перш адзін у хлеў зазірнуць.

— Сапраўды?

— Далібог, тата.

З непрытоенай палёгкай бацька ўздыхнуў і запрасіў на хвілінку прысесці. Я быў упэўнены, што ён пачне выгаворваць за пакінутага аднаго Федзьку.

— А іншым ты пра гэтага чалавека ў хляве не расказваў?

— Ды не ж, тата! — адказаў я, не разумеючы яго настойлівасці.

— Гэта дакладна?

— Можа, паклясціся?

— Як хочаш.

— Клянуся!

— Добра, добра, — паклаў бацька на маё плячо руку, па ўсім відаць, супакойваючыся. — Не казаў дык не казаў. Такім чынам, малайчына!

Занепакоенасць і строгая суровасць змяніліся цяплом і ласкай. І зусім ужо адкрыта бацька перасцярог:

— Ці свой гэты чалавек, ці чужы, нікому не кажы пра яго. Зразумеў?

— Ды як не зразумець. Я адразу так і падумаў таксама.

— Малайчына, — усміхнуўся бацька, згладжваючы напругу. Ён прыцягнуў мяне, не саромеючыся, да сябе, як бы просячы прабачэння, што ў яго няма часу казаць аб усім, гутарыць часцей, як вадзілася перад вайной.

Верагодна, ведаў бацька больш за мяне.

— А ты не запомніў, як ён быў апрануты?

— Я, тата, баяўся. Ён з пісталетам быў, трымаў яго вось гэтак, лежачы на бэльцы. — Я выцягнуў наперад правую руку. — Памятаю, што з барадой і быццам бы без кепкі... У хляве ж цемнавата...

— Я разумею... — пагадзіўся бацька і сеў на воз, што пакаціўся затым да хаты Косцікаў.

Я праводзіў яго позіркам, не без шкадавання, што, насуперак чаканням, застаюся дома.

Сёння катанне Інгі верхам на Віцязю адпадала. Не доўга думаючы, я звыкла ўзлез на вяз: на возеры пакорліва зліваліся зялёныя чараты і асот, пуставалі дарогі, за выключэннем падводы, якая самотна рухалася ўдалечыні, па гародах жа стомлена жоўкла, пераспела схілялася каласамі жыта...

Жыта нашага агарода спела першым, бо расло на адкрытым адусюль грудзе. Поплеч яго цямнелі астаткі камбайна і трактара, раскурожаных з пачаткам вайны.

Літары «ХТЗ» на радыятары трактара азначалі Харкаўскі трактарны завод. Камбайн і трактар ператварыліся ў месца дзіцячых забаў і гульняў. Мне падабалася, што жыта ў нас расло па суседству з калгаснай тэхнікай і што яна цалкам належала нам, дзятве. Засцерагаючы сваё поле ад курыных набегаў, мы не засцерагалі яго ад дзяцей, якія, гуляючы паблізу, тут хаваліся. Пазней, адыходзячы, немцы падпаляць і камбайн і трактар. Але гэта здарыцца яшчэ не хутка.

Жніво нам абяцала клопат і радасць.

Спачатку маці абавязкова выпрабуе серп, як бы размінаючыся. Хуткае жніво нагадвала яшчэ і пра блізкую восень, і пра школьную пару. Але цяпер-то вучоба, падобна, не прадбачылася. З настаўнікаў, якія адбылі ў летнія адпачынкі, дагэтуль ніхто не вярнуўся.

Жніво нібы рассоўвала свет, робячы яго прасторнейшым і вальнейшым. Палямі і агародамі авалодвала ранняя восеньская неабсяжнасць.

Жыта па гародах сеялася штогод. У позднюю пару, калі вакол усё пусцела і станавілася панурым, яно адно рунела яркімі латамі, падобна траве ў разгар лета. Зялёнай яна і замярзала, засынаючы пад снегам да цёплых дзён.

За партай я не раз разважаў пра тое, што слова «жыта», верагодна, паходзіць ад слова «жыць». Калі ёсць жыта, значыць, можна і жыць. Са мной пагаджаўся настаўнік.

Шчыра прызнацца, я думаю так і дагэтуль.

У цёплыя ж ліпеньскія ночы поле з жытам асвятлялася грымотнымі навальніцамі. У сухі дзённы час яно струменіла водар воску і суглінкавай сцежкі...

Жалася жыта толькі сярпамі.

У дзень жніва маці станавілася клапатлівай і мітуслівай. Яна, відавочна, хвалявалася, прымярала, меркавала, як пойдзе праца і ці не давядзецца выпростваць сярпом паламаныя, патаптаныя намі сцябліны. На агародзе неўзабаве ўзнікалі покатам снапы, якіх да канца дня станавілася ўсё больш. Яны чакалі нас з Федзькам.

Мы зносілі і ставілі іх у крыжы, верхавінай да верхавіны.

Але яшчэ да жніва мы з Федзькам употай збегалі да возера і выкупаліся ў амаль астылай ужо вадзе. Праз два дні маці цалкам жыта зжала. Зняўшы лёгкую ад сонца хустку, завяла пасму за вушы і агледзелася. Прыселі заадно і мы, любуючыся палявой жаўцізной. З гэтага часу нам пільнаваць курэй няма чаго.

Бацька ўзяўся пераносіць снапы ў двор, на разасланы прасторны брызент, на які змясціў абчасанае сухое бервяно. Нас жа ён папрасіў адкрыць брамку, праносячы апошнюю, самую вялікую ношу снапоў.

Для Інгі жніво і малацьба былі ў навіну. Я загадзя папярэдзіў пра дні малацьбы і пра тое, што верхам на кані катацца ў гэты дзень не давядзецца. Дзядзька Косцік, пачухваючы дужкамі акуляраў пераноссе, параіў нам дапамагаць дарослым.

Бацька падняў за перавясла сноп і злёгеньку стукнуў верхавінай аб гладка абчасанае да бляску бервяно. Са снапа пырснула, пасыпалася зерне. Валілася яно не куды патрапіла, а вакол бервяна. І ўсё ж маці папракнула, сказаўшы, што сноп вымалачаны не да канца, не чыста. Бацька, смеючыся над яе прыдзіркамі, падняў бровы і кінуў сноп мне:

— Трымай, Ягор! Знайдзі хоць зярнятка.

Я злавіў, падхапіў на ляту сноп, і мы закорпаліся ў ім. Зярняткі пры жаданні адшукаліся б, але мы ў адзін голас пацвердзілі бацькаву правату.

— А блыху? — перапытаў, усміхаючыся, бацька. — Яе вы можаце адшукаць?

Грымнуў смех, і маці, махнуўшы на нас, схавалася ў хаце — збіраць абед для нямога пастуха ў поле. Мы ж у ахвоту падносілі і падавалі сноп за снапом.

Абед нямку павінен быў несці я. Статак пасвіўся ў параўнальнай блізкасці ад

хаты. Ён нават быў відаць з вяза, хадзіў у выкашанай лукавіне, у тым баку, адкуль з возера выцякала рэчка. Нямко, мабыць, не жадаў стамляць кароў далёкімі перагонамі... Трэба было аддаць яму належнае: скошаная пустуючая лагчына і выраслая на ёй атава былі нядрэнным кормам.

Маці пазвала нас у хату і пасадзіла за стол, частуючы ячменнай кашай і кісялём са сліў. Інга аддала перавагу агуркам са смятанай. «Сірацінцы» Інзе маці наліла ў дадатак і смятанкі. За сталом Інга шапнула, што таксама пойдзе са мной. Федзька разгадаў яе намер:

— І мяне вазьміце.

— Нікуды ты не пойдзеш, — адказала маці. — Ты мне дапаможаш яблыкі здымаць.

Федзька прамаўчаў, валтузня ў садзе яму звычайна падабалася. Абед нямку часцей насіў бацька, часам і дзядзька Косцік. Сёння ж статак пасвіўся навідавоку. Я не ведаў, як паступіць з Інгай. Па мне, хай бы ішла, але пасля плавання за ягадамі і трывожнай ночы я даў слова, што нікуды без дазволу старэйшых не павяду яе. Інга, вядома, дапетрыла, пра што я думаў. Пахваліўшы пачастунак, дапамагла вымыць посуд. Маці расчулілася, шкадуючы, што Бог не паслаў ёй дачку. Пасля чаго Інга спытала ў маці, ці можна ёй пайсці са мной.

І маці дазволіла.

І зноў жа дзівілася, якая разумненькая ды здагадлівая гэтая маленькая масквічка і якой талковай, добрай гаспадыняй стане, калі вырасце! Толькі вайна хутчэй бы канчалася...

— Бяры, Ягор, — сказала маці, падаючы кошык. — Пакінеце яго потым пастуху. Увечар прынясе. Самі хуценька вяртайцеся.

Я ўзяў важкі, злёгку пляскаты кошык і пераступіў парог, несучы так, каб нічога не расплюхалася з расстаўленага ўсярэдзіне.

— Ну ты і непаседа, — сказаў я Інзе, калі мы апынуліся адны.

— А што?

— Ды нічога. Пачакала б дома.

У адказ Інга толькі засмяялася.

Дзень у канцы лета выдаўся пагодлівым, сухім і ледзь гарачым.

Нямога ўцекача мне, прызнацца, было шкода. Бадзяцца па чужых кутах — мала прыемнага. Жэстамі ён надоечы тлумачыў мне, як параніў плячо. Накшталт выганяў з ельніку нечую карову, якая забрыла туды, і напароўся на сухі сучок. У прыбудове ён заляпляў якраз плечавую рану, прыкметна зацягнутую. Ён змяняў на ёй ліст трыпутніку, прыціскаючы яго і замотваючы анучынай. Палатняную ільняную анучыну перад гэтым мыў і высушваў на загарадзі сам, і яна была заўсёды свежай...

З-за хворага пляча ў полі ён абапіраўся на палку. З целагрэйкай жа ён амаль не расставаўся, носячы паўсюль пад пахай.

Пры вонкавай дабрыні і прыхільнасці да дзятвы, ён заставаўся разам з тым і непранікальны. Здавалася, што ён разумее значна больш, чым звычайны глуханямы. У такія хвіліны карцела спытаць: ці сапраўды ён глухі і нямы, ці сапраўды ўцякач?

Неўзабаве мы апынуліся на пясчаным беразняковым узлеску, адкуль падзьмула знаёмай ціхамірнасцю і азёрным разлогам.

— Ягорчык, ты пачакай тут, — папрасіла Інга, беручы з кошыка свае сандалікі і спускаючыся па схіле да вады мыць ногі. Я ўжо які раз падзівіўся яе жаданню хадзіць усюды абутай і змяняць, што ні дзень, шкарпэтачкі і кофтачкі. Толькі сандалікі заставаліся незаменнымі, разлічанымі на хуткае вяртанне да сябе ў Маскву. Я не адважыўся сказаць, што ногі можна б памыць і пасля. Сваёй акуратнасцю Інга дзівіла.

— Фу! — прагаварыла яна стомлена, здымаючы з ілба наліплыя валасы.

Вось паказаўся статак, што ляжаў у лагчыне. Але каля яго пастуха я не ўбачыў. Мог ён і задрамаць ці прысесці ад напружанай за дзень бегатні. Крычаць, клікаць нямка — бессэнсоўна. Аднак і не падобна, каб адпачываў ён каля кароў. Можа, вырашыў выкупацца? Можа, прылёг у цяню хмызнякоў? Купацца з ранай, што не зажывала, таксама не рэзон.

Пакінуўшы на беразе Інгу, я пайшоў на пошукі. Край арэшніку ўжо прасвечваўся, за ім віднеўся размораны статак, да якога я і набліжаўся. І тут-то слых мой неспадзявана ўлавіў незразумела-піскліявыя гукі... Быццам дзесьці паблізу, а можа, і зусім побач, былі птушаняты. І гэтаму нельга было не падзівіцца: да канца жніўня птушаняты не толькі павырасталі, але шмат якія і паляцелі. Гучала нешта іншае... Але што?

Я насцярожана замёр. Гук нагадваў і голас злоўленай палявой мышкі. Палёўка, якая быццам ціха і часта папісквала ў безнадзейнай роспачы.

Я задраў галаву і ўважліва агледзеў галіны хмызнякоў. Потым пачаў услухоўвацца і ўзірацца з кукішак.

Ад напружанасці вушы мае быццам распрасталіся, падаўжэлі.

Сагнуўшыся, я прабіраўся да незнаёмага гуку, які ўзмацняўся. Ён раздаваўся больш рэзка, нагадваючы пастукванне па стале пальцамі. Пастукаюць, падумаюць, працягнуць...

Амаль на карачках я паступова дапоўз да краю хмызнякоў.

Пад абкошаным лазовым кустом спінай да мяне сядзеў чалавек.

На галаве яго былі слухаўкі, а між выцягнутых ног — невялікая цёмная скрыначка, з якой тырчаў штыр. Цягнула разглядзець чалавека лепей. Маленькім рычажком ён дзёўб штосьці па скрыначцы. І ў той момант, калі пальцы апускаліся, і ўзнікаў пісклявы кропкавы гук.

Каторы раз я станавіўся сведкам новай і незвычайнай таямніцы, пра якую і сам не здагадваўся.

І таямніца гэтая магла абысціся мне дорага, несумненна з’яўляючыся неймаверна важнай і рэдкай.

Чалавек выстукваў тыя самыя гукі, якія я спачатку прыняў за піск палёўкі. Сігналы пад пальцамі ўзнікалі ад імгнення націснутага рычажка. Чалавек у слухаўках быццам з кімсьці змаўляўся. Паторгваючы адной рукой рычажок, ён другой пазначаў нешта на паперцы. Замяшанне не дазваляла мне ўстаць і тут жа пусціцца наўцёкі. Я стрымліваў сябе, каб наблізіцца і разгледзець чалавека як след, я замахваўся на яго таямніцу і рызыкаваў быць заўважаным. І ўстаць, і бегчы, і набліжацца аднолькава было рызыкоўна. Лепш і правільней паволі адпаўзці.

Рэзкі рух выклікаў бы неспадзяваны шум, вымусіў бы абярнуцца. Тады не вынесці мне ног. Чалавек мог дагнаць, нагнаць мяне, а мог і застрэліць сведку сваёй важнай тайны. Што-што іншае, а гэта-то я разумеў. Хавацца трэба было неўзаметку, ціха.

З якой ахвотай распазнаваўся мной невядомы піск, з такой хацелася зараз хутчэй знікнуць. Непатрэбна-бессэнсоўнай выглядала мая цікаўнасць.

З амаль прыціснутым да травы тварам я на карачках адыходзіў назад у хмызнякі. Устаўшы затым і распрастаўшыся, пабег да пакінутай ля азёрнага каменя Інгі.

— Ды што з табой? — першае, што спытала яна, паказваючы на выпацканыя порткі і вымазаную на жываце кашулю.

— Зваліўся, вось... — развёў я выпацканыя зямлёй і зялянінай рукі.

— Памыйся хутчэй.

— Няма часу.

Я трохі супакоіўся, як бы ачуўся і раптам узгадаў, што чалавек у слухаўках сядзеў у такой жа целагрэйцы, якую насіў нямко... Я гатовы быў не толькі ручацца, але паклясціся, што твар яго быў, як у нямка, рудым, з барадой.

І аднаго толькі не разумеў я, не мог узяць да галавы — якім такім чынам чуў ён? Нам-то ўвесь час унушалі, што пастух нямы, глухі і трэба крануць рукой, перш чым штосьці зразумее ён.

Схаваць тое, што здарылася, ад бацькоў было немагчыма: у кустах я пакінуў напоўнены ежай кошык. Увечар, калі вернецца пастух, пра кошык так ці інакш быць гаворцы. Яго знікненне выявіцца адразу. Мне давядзецца тлумачыць, а можа, і ісці за ім.

Запозненае наша з Інгай вяртанне таксама выклікала непрытоеную занепакоенасць, як і зялёныя плямы на кашулі і портках, нібы хто наўмысна цягаў мяне па траве.

Як толькі мы падышлі да брызента са збожжам, бацька здагадліва адклікаў мяне ўбок:

— Штосьці здарылася?

— Ды не...

— А калі сумленна?

І я ў падрабязнасцях распавёў яму пра чалавека ў слухаўках, які напалохаў мяне, і пра забыты ў кустах кошык з абедам. Твар бацькі пасураеў, насцярожыўся. Ён выдаваў дрэнна схаваную трывогу. Мне было гаротна і прыкра, што ў бацькі псаваўся настрой ад маіх аповедаў. Але нельга было і прамаўчаць.

— Памятай, Ягор, — сказаў ён пасля некаторага маўчання, — нікому не трэба казаць пра ўбачанае. Ясна?

— Ясна, тата.

Як было не разумець цяпер-то!

Бацькавы перасцярогі відавочна наводзілі на думку пра выключнасць убачанага — і ў хляве за возерам, і сёння ў полі. І няма чаго, навошта больш распытваць бацьку пра не абы-якія і сур’ёзныя справы ў нашых, знешне спакойных, спусцелых наваколлях. І чым выглядалі яны непрыкметней, тым небяспечней заварваліся ў іх падзеі...

Гэтым разам бацька не дакараў, не страшыў мяне за тое, што апынуўся я па неспадзяванасці сведкам нейкіх патайных спраў.

Неўзабаве ён пайшоў да пастуха ў поле сам, пылячы ботамі па сухой, выпаленай сонцам дарозе.

А мне ўзгадалася іншае, гэткае ж незвычайнае, прыкмечанае гэтак жа выпадкова і надоўга запалае. З Федзькам адбылася гісторыя.

Неяк, загуляўшыся з дзесяцікапеечнай белай манетай, ён неспадзявана праглынуў яе і да смерці напалохаўся. Яму запомніліся тубыльцы з Інгінай кніжкі, якія спрытна хавалі за шчокі грошы, што перападалі ад вандроўцаў. Федзька забаўляўся, падрабляючыся пад іх, пакуль манета неспадзявана не пакацілася ўнутр. З жудасным ровам брат кінуўся да мяне.

Вочы спалохана акругліліся, і ён роў, барвавеючы тварам. Я кінуўся па дарослых, але побач нікога не было, і я ўспомніў пра нямога, які ляжаў у сенцавай прыбудове. Ухапіўшы яго за руку, я жэстамі растлумачыў, што патрабуецца дапамога.

Апусціўшы Федзьку на калена, нямко паспрабаваў выклікаць у брата ваніты. Але не атрымлівалася, і на святле лямпы ён зазірнуў тады Федзьку ў рот, пасля чаго рэзка пляснуў па ягадзіцы, даўшы зразумець, што нічога страшнага і што манета выйдзе сама…

Пасля грунтоўнай лупцоўкі Федзьку цалкам забаранілі тубыльныя перайманні.

І толькі цяпер я ўразіўся тагачаснай здагадлівасці нямога. Ён, несумненна, меў медыцынскія навыкі. Але адкуль бы ўзяцца ім у глуханямога?

Да ўсяго зараз дадаваўся і выпадак са слухаўкамі. Сцвярджаць з поўнай упэўненасцю, што гэта быў менавіта пастух, я б не рызыкнуў. Аднак жа вельмі шмат супадала, каб прымаць тое, што адбылося, за выпадковасць. Здагадкі нейкім чынам патрабавалі пацвярджэння, праверыць і пераканацца ў іх было нялішне.

Другі выпадак выглядаў і яшчэ больш дзіўна. Аднойчы, калі толькі-толькі статак вярнуўся і пастух вячэраў, каб крыху раней легчы спаць, да нас зайшоў кульгавы жабрак з недалёкай вёскі. І таксама нямко, з такой жа светла-рудой бародкай. Але твар у гэтага быў кірпаносым, а вочкі — маленькімі.

Глуханямога жабрака ўсяляк шанавалі, паважалі за дабрыню і спагадалі, што ў дзяцінстве адбылося з ім няшчасце, якое пацягнула кульгавасць і немату. Ён змушаны быў перабівацца адной міласцінай, насілу выціскаючы з сябе некалькі адных і тых жа сталых слоў: «Пэ-тэ-тэ...»

Бадзяўся ён з ледзь ліпеўшым клункам, накшталт рэчавага мяшка з вяроўкамі замест шлеек. Адзін і той жа склад ён прамаўляў з немалым высілкам, усмешліва ці, наадварот, гняўліва. Гэтым мычаннем «Пэ-тэ-тэ» і назвалі яго. Нічога іншага колькі-небудзь зразумелага ён не вымаўляў. Да мянушкі прывыклі. Жабрак-вандроўнік наўрад ці і ведаў сваю мянушку, а калі і здагадваўся, то толькі па вуснах. Яго, як маглі, віталі. Мне ж прыход Пэ-тэ-тэ прыносіў не толькі звычайнае неспадзяванае здзіўленне, але і радасць.

У адрозненне ад нашага спакойнага, вонкава абыякавага пастаяльца, твар нямка звычайна выяўляў унутраны стан. Ён рэагаваў на тое, што акружала яго, з нейкай падвышанай уражлівасцю.

Ад дабрыні да яго і спагадлівасці вочы вандроўцы цяплелі і пашыраліся, як бы свецячыся здзіўленнем. Пэ-тэ-тэ нібы ператвараўся ў падлетка. Ён часам далучаўся да нас і «тэтэкаў», з задаволенай радасцю тлумачачы свае дзівацтвы і прыгоды.

Ад ліхога і благога жабрак хмурнеў, соп, у ім быццам прачынаўся невымоўны боль, і ён падціскаў вусны, а рукой сціскаў на канцы загнутую жалезную палку.

У такіх выпадках ён не затрымліваўся, уставаў і клыпаў разгублена кудынебудзь далей. Крыўдзіць нямка лічылася грахом.

Прыход яго на самым заходзе быў нечаканым. Пастух на той час вячэраў за вынесеным у двор столікам. Маці працягнула жабраку акраец свежага хлеба і некалькі свежых сырых яек, якія ён ашчадна рассунуў па кішэнях. Ён марудзіў пакідаць двор, бачачы хлапечую цікаўнасць да яго і, магчыма, здагадваючыся, што нам з Федзькам хацелася б, каб ён затрымаўся, а то і застаўся б начаваць, як часам здаралася.

Ён, падобна, адгадваў, што брат і я прызапасілі яму нейкую навіну і выбіраем момант, калі зручней падзяліцца ёю.

Калі б быў свабодны ложак, нямка пакінулі б і начаваць, але маці з бацькам не прапанавалі, а мы не адважыліся. Навіна ж у нас была тая, што не цярпелася даць зразумець жабраку-сябру, што ў нас жыве зараз як бы сабрат яго. Таксама нямко, таксама амаль жабрак. Мы не ведалі, як гэта зрабіць, і чакалі, спадзяваліся, што Пэ-тэ-тэ загаворыць з пастухом сам. Павінны ж нямкі між сабой мець зносіны. Было вельмі цікава даведацца і ўбачыць, як пачнуць яны размаўляць.

Вандроўны нямко, падобна, меркаваў не затрымлівацца, занепакоены, мабыць, магчымым начлегам, а можа, і не жадаў нікога ў хаце бянтэжыць сваёй нечаканай прысутнасцю. Я паслужліва дапамог яму начапіць на плечы вяроўкі ад мяшка, адчуваючы пры гэтым, як ад апраткі зыходзіць качэўны пах пыльных навакольных дарог, саламяных прэлых сціртаў, зацененых раўчукоў і іншых прыстанкаў, дзе нямко спыняўся. І перш чым развітацца, я заткнуў пальцамі вушы і паказаў на пастуха. Пэ-тэ-тэ разгадаў мае знакі і па-гусінаму пакульгаў да пастаяльца, які спакойна вячэраў. Некаторы час ён не без цікаўнасці глядзеў на пастуха, узгадваючы, ці сустракаў дзе?

Але так, падобна, і не ўзгадаў.

І як ні імкнуўся нямко мукаць, паказваць на пальцах — бежанец не зважаў. Ён ці не верыў мясцоваму жабраку-вандроўцу, ці не разбіраўся ў жэстах глуханямых наогул.

Кульгавы Пэ-тэ-тэ здзіўлена пакруціў галавой... Затым уздыхнуў і працягнуў нам з Федзькам па чарзе руку. Я быў не ў сілах зразумець, чаму пастух не ўзрадаваўся такому ж, як і ён, глуханямому? Хіба не цікава пагаварыць ім на сваёй, незразумелай іншым, мове? Не верылася, каб пастух не ведаў ніводнага жэста. Проста не магло быць такога.

Усё злілося ў міжвольную выснову: пастух і чалавек у аўчыне, падобна, адна і тая ж асоба... І зніклы ў навальніцу кадаўб знайшоўся не дзесьці ў аддаленні, а якраз насупраць клуняў, заазёрных гумнаў...

Дзівілі гутаркі і пра двух кімсьці забітых немцаў, якія нібы шукалі параненага парашутыста...

Знешне ў стаўленні да пастуха я вырашыў заставацца ранейшым. Лепш бы неяк праверыць, канчаткова пераканацца. Калі ўцякач-пастух і ўбачаны чалавек у хляве — адзін і той жа, то якім чынам у яго павінен быць пісталет? І дзе ён яго трымае? Сумневы адразу адпадуць, як толькі я пераканаюся ў наяўнасці магчымай зброі.

Пакуль бацька хадзіў па кошык, жаданне праверкі канчаткова ўва мне саспела.

Узгадалася мне і назва скрыні са штыром. Гэта ж рацыя, з дапамогай якой людзі маюць зносіны на адлегласці — без правадоў. А тое, што ў полі, поруч статка кароў, увачавідкі ўбачу гэту рацыю — на гэта я і не разлічваў.

Дзівацтваў і нявысветленых акалічнасцей набіралася празмерна шмат. Сёе-тое, здавалася, я разгадваў дакладна, па-свойму абгрунтавана. Асабліва з перавязкай раны, якой бежанец-пастух затлуміў мне галаву, тлумачачы, што напароўся на хваёвы сухастой, выганяючы скаціну. Зараз-то я дапускаў іншае: старанна памытая на нямку кашуля і засцерагала рану ад заражэння. У першы ж дзень знаёмства целагрэйка, па ўсёй бачнасці, маскіравала кроў, якая праступала скрозь кашулю.

Пра сваю здагадку я не гаварыў бацьку, перакананы, што ён скажа мне тое ж, што і раней: маўчаць, не прагаварыцца, пра што і папярэджваць не трэба. Гэта правіла я засвойваў хутчэй, чым школьныя ўрокі.

Хвалявала зараз іншае: што рабілі ў Снегірыным лесе бацька і пастух у сапраўднасці? Ці толькі сена перавозілі? Ці не хавалі па лясных урочышчах падабраную зброю? І ці заўсёды на сенажаці знікаў бацька? Тутэйшы лес лепш за яго наўрад ці ведалі ў вёсцы: на ўзлеску яго да калгасаў стаяла калісьці дзедава хата...

Ніхто ўжо не верыў, каб да канца лета вайна завяршылася, яна, хутчэй, набірала сілу, яна яшчэ толькі разгаралася...

Зрэшты, час зноў вярнуцца да перапыненай малацьбы. Намалот першага дня пакінулі на ноч, захіліўшы краі брызента і прыціснуўшы зверху камянямі.

Уначы ў зорнай цішы раптам забрахаў Цімка. Разбуджаны бацька на дыбачках выйшаў у сенцы. З падмеценага двара чуўся загадкавы тупат. Бацька адкінуў дзвярную засаўку і выйшаў у двор. Сабака неяк імгненна супакоіўся…

Раніцай перад Інгіным з’яўленнем мы спыталі бацьку пра шум і брэх уначы.

— А вы ў хлеў схадзіце. Паглядзіце, хто ў бочцы. Ідзіце, ідзіце, — параіў ён з хітрынкай.

Нас, напэўна, чакала штосьці цікавае, і, перакульваючы зэдлічкі, мы падхапіліся і пабеглі ў хлеў. У ім пахла ляжалым курыным памётам, свежаскошанай досвіткам канюшынай і яшчэ трымалася з ночы цёплае каровіна дыханне.

У невялікае ваконца ад агарода працякала святло, трапляючы якраз на бочку ў куце. Дно яе было выслана свежай саломай. Спачатку мы нічога не ўбачылі, пакуль не нагнуліся і не прывыклі да прыцемку ўсярэдзіне. Я здагадліва перасцярог Федзьку не лезці, заўважыўшы на дне згорнуты камячок з іголкамі і здагадаўся — у бочцы вожык. З нас хлынулі захапленне і радасць. Гэта быў першы за лета ўбачаны вожык. Бацька падышоў да нас:

— Жыта зжалі, яму і няма дзе схавацца. А можа, мышэй вырашыў палавіць у намалочаным збожжы?

Хутчэй, яно так і было. Мы прынеслі вожыку талерку з малаком.

— Ну, зараз ім будзе клопатаў, — прабурчала маці. — Зараз яны не супакояцца. Вось і Інга ідзе...

Інга адразу ж пашкадавала вожыка, пачаўшы прасіць і патрабаваць, каб выпусцілі.

— Ён у хляве мышэй будзе лавіць, — сказаў Федзька. — Хай паловіць, а там выпусцім.

Інга настойвала аднесці вожыка ў лапухі, на волю. Мы паслухаліся і змясцілі калючы камячок у маю кепку. З цемрай вожык з-пад лапухоў збег.

У двары да таго часу правеялі намалочанае зерне. З накрытых пад павеццю жорнаў знялі мешкавіну, падышоў і дзядзька Косцік. Са скуранога пашараванага футарала выняў спецыяльныя акуляры і ўзяўся рабіць на каменных жорнах насечкі. Круглыя камяні заскрыгаталі, набіраючы роўны і манатонны гуд, а затым забруілася і мучная белая мяккасць...

Увечар маці ўжо мясіла ў ліпавай кадушцы цеста. Як ніколі рана паліла ў печы і, уся радасная, расчырванелая, засоўвала на драўлянай лапаце хлябы ў накалены под печы, вымецены ад вуглёў асабліва старанна. На першым караваі спрытна накрэсліла крыж, прамовячы: «У Бога дзён шмат».

Яна зачыніла печ бляшанай засланкай. Мы, не змаўляючыся, не адыходзілі ад хаты. З расчыненых вокнаў плылі настойлівыя і вабныя пахі маладога хлеба, які пёкся. Яны выклікалі сліну, даймалі, цвялілі і перарывалі час ад часу нашы гульні. Маці, безумоўна, здагадвалася пра наша нецярпенне. Мы-то з Федзькам ведалі, якая гэта выключная штука — хлеб з маладой мукі. Не ведала Інга. Але і яна паварочвала свой счырванелы ад сонца носік да расчыненых вокнаў.

Да поўдня гарачыя караваі папырскалі халоднай вадой і расклалі на лавах. Густы хлебны дух забруіўся разчэй. Ён нібы ўзбунтаваўся. Федзька прабраўся праз расчыненае акно і адкалупнуў невялікую гарачую скарыначку з дубовым лістом і рэшткамі вугольчыка. Скарыначка здалася небывалым ласункам.

Пра Федзькаву выхадку маці хутка здагадалася, але дакараць не стала.

— Паслухайце, — раптам спахапіўся я, — да хлеба ж патрэбны ягады!

— Сапраўды!

— Вось будзе выдатна! А дзе ўзяць?

— А ты мёд з агуркамі спрабавала? — спытаў Федзька Інгу.

— Не.

— А з яблыкамі?

— Выдумшчык.

— Ягор, пацвердзі!

— Вось што, — звярнуўся я да Інгі з Федькам, — вы тут пачакаеце, а я сёе-тое прыдумаю...

— Адзін?

— Няўжо кампаніяй? Схадзі, Фёдар, за конаўкай у хату. А ўвяжацеся — усіх вернуць, зразумела?

— Як не зразумець.

З прынесенай хуценька конаўкай я трушком паспяшаўся да аднаго з хваёвых узгоркаў па брусніцы. Паблізу яго апошнім часам пасвіўся і статак.

Я не ведаў месца зручнейшага і бліжэйшага, дзе можна б ягад набраць так хутка. І нікога не сустрэць. Нікога... Я хутка перасек прыбярэжную лугавіну, абмінуў берагавы хмызняк і хвілін праз дваццаць ужо апынуўся на пустуючым узгорку.

З аднаго боку веяла возерам і чулася залагоджанае плюсканне хваляў, з другога ж, вышэй, шумелі разлапістыя старыя хвоі. А ў метрах пяцістах, як ні ў чым не бывала, хадзіў статак нямога бежанца... Я не паказваўся на вяршыні ўзгорка, каб ён не падумаў пра маё наўмыснае назіранне. Як-ніяк, а я заставаўся сведкам яго таямніцы.

Брусніц было ў дастатку, і я неўзабаве выбраўся наверх з ледзь не поўнай конаўкай.

Статак здалёк гультаявата і сыта абмахваўся хвастамі. Да вёскі назад мне хацелася пабегчы напрамую, праз адкрытае поле. Але спачатку трэба было абмінуць негусты арэшік. У глыбіні яго чуліся галасы дзікіх галубоў, якія буркаталі, вехіроў, якія змоўклі, як толькі я з'явіўся. Цямнелі натаптаныя каровіны сцежкі, між імі на скразняковым ветрыку блакітнелі кубачкі позніх званочкаў. Я на хвіліну спыніўся, са смутным намерам нарваць Інзе кветак. І адразу замёр ад нечаканага піску, які прымусіў насцярожыцца. Ён раздаваўся, як неадступнае насланнё, якое ўзнікала ад чалавека ў слухаўках...

Я асцерагаўся азірацца і затрымлівацца. З конаўкай у руцэ і сарванымі для бачнасці кветкамі неўзаметку пакінуў хмызнякі, нікога так і не ўбачыўшы.

Падзеі гусцелі, як паветра перад навальніцай. Яны ўзнікалі, збіраліся нездарма. Грому з маланкай ад іх чакаць вынікала з кожнай хвілінай...

Федзька з Інгай заскакалі і закруцілі мяне, як у рытуальных скоках тубыльцы. Усё зараз у нас было, і заставалася прымацца за ласунак. Мы нашпігоўвалі, абтыкалі хлеб ягадамі.

Ні ў Маскве, ні ў чужых краінах не сустракала Інга падобнага ласунку. А калі хто ўсумніцца, пераконваў я яе, хай вырасціць і сажне жыта сам, хай павяжа яго ў снапы, абмалоціць і спячэ хлеб.

— Не шмат-то ўмельцаў адшукаецца, — пагаджалася яна.

## Частка дзесятая

## ПАД ДНОМ ЛОДКІ. АБЛАВА. ЗДАРЭННЕ НА КАСАГОРАВАЙ ДАРОЗЕ. НЯМЕЦКІ ПЕРАКЛАДЧЫК. ЧАЛАВЕК НА ВІЦЯЗЮ. ХВАРОБА ІНГІ

Падзей, што тлелі, наспявалі дзень за днём, Інга, пэўна, не разумела. Зрэшты, як яны паўсталі, не меркаваў і я. Раніцай мы не выявілі Віцязя на звыклым месцы. Мы пабеглі дахаты, баючыся, як бы не забралі каня выпадковыя людзі... Маці, важдаючыся ля печы, патлумачыла, што на ім раніцай з'ехаў кудысьці бацька. Накшталт, па справе. І нам заставалася змірыцца і знайсці іншы занятак.

Вырашана было выцягнуць на бераг для прасушкі камягу. Федзька ж вымусіў Інгу прынесці кнігу, даўно не чытаную. У якую краіну вандроўцы прыплылі, каго сустракалі і як наогул сябе адчувалі, было невядома.

Лодка стаяла там жа, дзе мы з Інгай яе пакінулі. Мы дружна перакантавалі яе набок, а потым і перавярнулі дном дагары.

Шчыліны мы раскалупалі для лепшай прасушкі і вентыляцыі, абламаўшы гнілыя краі. І, каб прасыхала лодка ўнутры і зверху, вырашылі барты паставіць на рагулькі.

Федзьку імгненна захацелася пасядзець на прахалодным дне. Мы працерлі яго і заслалі зялёным аерам. Так рабілася часам у хатах пасля мыцця падлог, для надання свежасці.

Я і Федзька расселіся па краях дна, а Інга — пасярэдзіне, паклаўшы рукі на худыя каленкі, за лета падрапаныя і пакрытыя ранкамі.

Нам было наказана заставацца навідавоку, і, як старэйшаму, мне належала адказваць за Федзьку і Інгу.

Аер пад Федзькам саслізгваў, і брат папраўляў і прыладжваў яго, кешкаючыся, як курыца. Нягледзячы на канец лета, сонца яшчэ грэла добра. Вяз ля хаты злёгку калыхаўся на ветры, як, бывае, у роздуме варушыць плаўнікамі буйная рыба, лашчачыся ў празрыстай вадзе.

— Вось пусцяць цягнікі, і ведаеце што... — па-змоўніцку прагаварыла Інга, — паедзем усе разам да мяне ў Маскву. Згодны?

— Нам і дома-то добра, — як бы абыякава адказаў Федзька.

— А я, Федзечка, адна не паеду, — заявіла Інга. — І без цябе, Ягор, таксама.

Мы не ведалі, што ёй адказаць. З аднаго боку, у Маскве б нам пабываць нядрэнна. Але і слаба верылася ў такую магчымасць: калі яны пойдуць, цягнікі?

Інга сказала, што яна пакажа нам заапарк, дзе птушкі і звяры з усяго свету. Пад яе летуценні непадалёк апусцілася пара павольных буслоў, якія жылі каля школы, на старой ліпе. Яны хадзілі, не звяртаючы на нас увагі, нібы прыляцелі ў госці.

Буслы не тое каб зусім не баяліся, а як бы наравілі чамусьці трымацца бліжэй да нас, як бы хацелі пачуць пра чужыя краіны, куды ім трэба было ў хуткім часе адлятаць.

Ці не ад іх суседства і ўспомніла Інга са смуткам пра свой горад?

Запрашэнне яе асабліва не запаліла нас з Федзькам, мы неяк не ўяўлялі, з-за чаго варта б нам падавацца ў сталіцу, калі б вайна раптам і спынілася. Крэмль дастаткова адлюстроўваўся ў школьных падручніках і нават быў знутры на веку куфра бабкі Войціхі. Пра заморскіх звяроў і птушак можна прачытаць. Але смуткавалі мы, вядома ж, з-за іншага — лета, як-ніяк, канчалася... Да яго мы так прызвычаіліся, здавалася, яно будзе заўсёды. Буслы нагадалі нам пра яго хуткае заканчэнне. Яны быццам спагадліва паглядалі на нас. Восень з зімой былі не за гарамі.

Але буслы нібы жадалі і штосьці распавесці нам, пра сёе-тое папярэдзіць, акрамя іх, быццам бы і няма каму гэта зрабіць...

Мне было крыўдна, што бацька забраў Віцязя і нават не растлумачыў, як звычайна: навошта і куды? Ужо каму-каму, а маці мог бы сказаць... Усё вакол змушала нас бесперапынна думаць. Я ўлавіў стрымана-ціхі ўздых Федзькі. Інга хоць і заставалася знеше спакойнай, але адчувалася, таксама журыцца.

Абаіх іх было шкода.

Я пачаў перагортваць кнігу і па малюнках вызначаць найболей загадкавыя прыгоды.

— Вось паслухайце, — адцягваў увагу я. — Хочаце — прачытаю цікавае? Ты, Фёдар, пытаўся, куды вандроўнікі прыплылі? Дык вось, прыплылі яны на Галапагоскі архіпелаг. Ёсць такі ў Ціхім акіяне, а што робяць, цяпер даведаецеся...

Я пачаў чытанне, захапляючы Федзьку і Інгу апісаннем невядомых месцаў:

— «Галапагоскія астравы былі адкрыты ў 1536 годзе іспанцамі. У другой палове шаснаццатага стагоддзя іспанцы некалькі разоў пабывалі на гэтых астравах і далі ім назву Чарапашыны астравы. У семнаццатым стагоддзі астравы гэтыя становяцца адной з баз марскіх піратаў, гэта значыць флібусцьераў, якія таксама пакінулі шэраг запісаў пра іх прыроду і жывёльны свет. У канцы васемнаццатага стагоддзя астравы ўзмоцнена пачынаюць наведваць кіталовы, галоўным чынам з мэтай палявання на гіганцкіх чарапах, якія служылі ім ежай падчас плавання. Пасля гэтага колькасць чарапах пачала хутка змяншацца, і ў наш час яны сустракаюцца на астравах вельмі рэдка...»

— Як шкода іх, — прамовіла Інга. — Яны добрыя.

— Вядома, — падтрымаў я. — «Дваццаць трэцяга верасня наш фрэгат накіраваўся да вострава Чарлз. Насельнікаў тут чалавек ад двухсот да трохсот, амаль усе яны каляровыя, выгнаныя за палітычныя злачынствы з рэспублікі Эквадор».

— Гітлера б да іх паслаць, — сказала Інга. — Хай пажыў бы там.

Брат не згаджаўся, сцвярджаючы, што Гітлер будзе сілкавацца чарапахамі і выжыве.

— Пачакайце вы з вашым Гітлерам, — перапыніў я спрэчку, — паслухайце далей. — «У лясах водзіцца мноства дзікіх свіней і коз, але галоўны від жывёльнай ежы — чарапахі».

— Ага! А ты туды Гітлера высылаць хацела, — не сцішаўся Федзька.

— Ды я проста так сказала! Ну, не падумала!

Я паспешліва працягваў чытанне, нібы перад важнай неадкладнай справай, сам не ведаючы, перад якой.

— «Колькасць чарапах, вядома ж, моцна паменшылася, але народ тут усё ж лічыць, што два дні палявання на іх даюць запас ежы на ўвесь астатні тыдзень. У мінулым, кажуць, адно судна везла іх па семсот штук, а некалькі гадоў назад каманда аднаго фрэгата знесла да берага за адзін дзень дзвесце чарапах».

— Спрабавала ты іх? — спытаў брат Інгу.

— Ніколі.

— А ёсць яны на малюнку?

Малюнкаў чарапах, як назло, у кніжцы не адшукалася, і я чытаў далей:

— «Аднойчы мы суправаджалі іспанцаў да саліны — возера, з якога здабываюць соль. Возера круглае і абрамлена ярка-зялёнымі раслінамі. Амаль стромкія сцены кратэра апрануты лесам, і ўсё разам уяўляла карціну маляўнічую і разам з тым цікаўную. Некалькі гадоў назад матросы цюленепромыславага судна забілі ў гэтым глухім месцы свайго капітана, і мы бачылі яго чэрап, які валяўся ў кустах».

— Завошта ж яны яго? — здзівілася Інга.

— Не гаворыцца.

— Ты чытай. Можа, потым даведаемся, — папрасіў Федзька.

— Добра, слухайце.

Я прапусціў некалькі старонак са згадваннем шкілетаў і чэрапаў і адшукаў тую, дзе апісвалася жыццё і паводзіны чарапах.

— «Гэтыя жывёлы сустракаюцца на ўсіх астравах архіпелага. Яны аддаюць перавагу высокім вільготным месцам, але жывуць таксама і ў нізінных бязводных раёнах. Я ўжо ўказваў, наколькі шматлікімі павінны быць яны, мяркуючы па тым, колькі ловяць іх за адзін толькі дзень. Некаторыя з іх дасягаюць досыць велізарных памераў. Віцэ-губернатар тутэйшай крэпасці бачыў, як ён распавядаў нам, некалькі такіх буйных чарапах, што толькі шэсць-восем мужчын маглі прыпадняць іх з зямлі, а некаторыя чарапахі давалі да двухсот фунтаў мяса».

— Мядзведзі, а не чарапахі! — захапляўся Федзька.

— Ты далей, далей вось паслухай, — раіла Інга, якая чытала кніжку раней.

Далей і сапраўды пачыналася дэталёвае і незвычайна падрабязнае апісанне.

— «Чарапахі, якія жывуць на тых астравах, дзе няма прэснай вады, ці ў нізінных і бязводных месцах на іншых астравах, сілкуюцца галоўным чынам сакавітым кактусам».

— Ну і ласухі! — здзівіўся брат.

— «Чарапахі вельмі любяць ваду, п'юць яе ў вялікай колькасці і валяюцца ў брудзе. Чарапахі для наталення смагі змушаны здзяйсняць доўгія вандраванні, дзякуючы гэтаму ўтварыліся шырокія ўтаптаныя сцяжынкі...»

— Чарапашыя сцежкі.

— А ў нас па такіх каровы ходзяць, — дадаў брат.

— «Сцяжынкі разыходзяцца ва ўсіх кірунках ад крыніц да берага мора, і іспанцы, ідучы па іх, адкрывалі крыніцы прэснай вады. Калі я высадзіўся на выспу Чэтам, я не мог сабе ўявіць, што за жывёла праходзіць так метадычна па вызначаных сцяжынках. Забаўнае гледзішча ўяўлялі гэтыя велізарныя стварэнні...»

— Я ж казаў, мядзведзі. Толькі на маленькіх ножках, — прамовіў Федзька з цікаўнасцю, якая разгаралася.

Твары Інгі і Федзькі станавіліся больш усмешлівымі і цікаўнымі. Ад падрабязнасцей пазнавання чарапашага жыцця абодва яны амаль смяяліся. Яны быццам бачылі іх побач, выпаўзаючымі з аеру да перавернутай лодкі. Я з паспешнасцю працягваў чытанне.

— «Лічу дакладна ўстаноўленым, што пузыр жабы служыць рэзервуарам для вільгаці, якая неабходна для яе існавання, гэтак жа, па ўсім відаць, і ў чарапахі. На працягу некаторага часу пасля наведвання крыніц іх мачавы пузыр напоўнены вадкасцю, якая, кажуць, паступова меншае ў аб'ёме і становіцца чыстай. Жыхары, пакутуючы ад смагі, падчас вандраванняў па нізінных раёнах і выпіваюць змесціва пузыра, калі той аказваецца поўны...»

— Фі-і-і-і! — паморшчылася, скрывілася Інга.

Брат жа, наадварот, засмяяўся.

А тым часам я адарваўся ад кнігі і зірнуў, падняўшы галаву, на вёску.

Я і сам не ведаў, што штурхнула мяне падняць галаву і паглядзець на выган з хатамі па абодва бакі, на свой і Косцікаў. І адразу выпусціў кнігу. Федзька з Інгай павярнулі галовы таксама.

Высокі немец, аўтаматам падштурхоўваючы, адводзіў Косціка і Косціху ад іх хаты. Некалькі мінут мы проста вачам не верылі. Другі немец з вінтоўкай на рамяні па-гаспадарску ішоў да нашай хаты. Салдаты былі ў фрэнчах, з закасанымі рукавамі, у ботах з кароткімі халявамі і з кругляшкамі-процігазамі, што боўталіся на баку.

Гэта было незразумела і невытлумачальна. Іх ні ўчора, ні сёння не бачылі. Немцы апынуліся ў вёсцы нейкім іншым шляхам. Як і адкуль яны ўзяліся?

Маці замахала нам рукой, даючы зразумець, каб хутчэй хаваліся, пабачыўшы, верагодна, немцаў у акно, калі адводзілі Косцікаў.

З'яўленне ў вёсцы салдат падзейнічала ашаламляльна. Вось табе і вяз з пастом, і чаго каштавалі мае запэўненні Косцісе, што нічога пакуль не пагражае, што немцаў не відаць і не пыляць бязлюдныя навакольныя дарогі?

Бегчы нізам ад хаты да хаты, каб апавяшчаць, — позна ўжо. Салдаты апярэдзілі мяне, зваліліся як снег на галаву. Важней было іншае — выратаваць Федзьку з Інгай! Пакінуць іх у спалоху адных я не мог. Немец тым часам адкрываў брамку ў двор. Я перасіліў замяшанне і рэзка саскочыў з дна камягі. Федзька з Інгай ад разгубленасці пабляднелі, быў рэзон схаваць іх пакуль пад нахіленую для прасушкі лодку. Іншага выйсця я не бачыў, асцерагаючыся, што немец вось-вось убачыць і накіруецца да нас. Я наказваў Інзе і Федзьку ісці, калі што якое, да Снегірынага лесу.

— Там вас знойдуць, — паўтараў я, — можа, не адразу, але абавязкова знойдуць.

— А хто? — пытаў палахліва брат.

— Свае. А калі ніхто не сустрэнецца — да пастуха ідзіце...

— Да нямка? — здзівіўся Федзька.

— Да яго самога.

— А як жа з ім размаўляць? — устрывожылася Інга.

— Ён усё зразумее. Здагадаецца. Ваша справа адшукаць.

Інга здзіўлялася і стаяла ў разгубленасці.

— Залазьце хутка пад лодку, пакуль нас не ўбачылі. Ну, хутчэй! — прыспешваў я. — Калі не вярнуся, вылезеце толькі ўвечар, калі добра сцямнее. Па цемры затым ідзіце да Снегірынага лесу. Я раскалупаю вам дзірку, каб назіраць. Лезьце, не бойцеся. Вы ж разумнікі! Сядзіце там ціха.

Інга з Федзькам хутка паслухаліся. Я прыбраў падпоркі, і лодка шчыльна лягла на траву.

Я пабег дахаты.

Спяшаўся і думаў, што нехаця адкрыў Федзьку з Інгай таямніцу «нямога» пастуха-бежанца, жыццё якога залежала ад іх здагадлівага маўчання. Сам таго не жадаючы, я парушыў сур'ёзнае бацькава папярэджанне — нідзе нікому не балбатаць пра загадкавага пастуха.

Да першапачатковага жаху прымяшалася і раптоўная разгубленасць. З чаго гэта ўзяў я раптам, што Федзьку з Інгай трэба ісці менавіта да пастуха і што ён абавязкова выратуе іх? Нічога падобнага бацька мне не казаў. Спасылацца на адны здагадкі ды на суцэльныя прыгоды было неразумна. Я не мог толкам разабрацца ні ў адной з іх. Недарэчная, выпадковая назіральнасць — і толькі.

Задыханы, я дабег да агароднай брамкі і ўбачыў у двары з вінтоўкай наперавес немца. Ён прыспешваў ля ганка разгубленую маці, якая шукала палку, каб падперці дзверы. Салдат незадаволена заківаў галавой, даючы зразумець, што рабіць гэта лішне, зусім не трэба.

Першым парывам было кінуцца і вырваць вінтоўку, але тут жа я імгненна сцяміў, што зручней і надзейней аглушыць немца па галаве чымсьці цяжкім, наблізячыся ззаду. Бацькава сякера якраз стаяла прыслоненая пад сцяной хаты.

Але немец, быццам адчуўшы небяспеку, раптам абярнуўся і павёў на мяне ствалом, паўтараючы скорагаворкай:

— Шнель! Шнель!!!

— Я ж махала не прыходзіць! — збянтэжылася маці.

Салдат кляцнуў затворам, і мы, падпарадкоўваючыся, пайшлі наперадзе яго з двара.

Мы цягнуліся па вёсцы і бачылі, што такім жа чынам зганяюць і многіх іншых. Вёска апынулася заспетай знянацку нечаканай аблавай. На кожны двор ці хату было па салдаце. Усё ўлічана загадзя. Пасярод дарогі ў цэнтры вёскі маячыў грузавік з адкрытым бортам.

Акрамя дзядзькі Косціка, іншых мужчын як быццам не бачылася. Жанчыны, дзятва, старыя. Падагнаныя салдатамі з аўтаматамі і вінтоўкамі, яны згрудзіліся на схіле касагора.

Грузавік, які маячыў пасярод дарогі, стаяў нездарма. Вёску прадбачліва і прадумана акружылі, абклалі кальцом. Раней пра гэта чулі толькі па расказах. Каля кантавога борта грузавіка чакаў афіцэр з пісталетам у кабуры на левым баку, у фуражцы з неймаверна высокім, як бы задзірыстым знарочыста верхам, быццам брыво хвацкага чалавека.

Афіцэр размаўляў з мужчынам у цывільным, з выгляду сярэдніх гадоў, з нейкім як бы свойскім мясцовым тварам, з зачэсанымі назад валасамі. Па кашулі ў гарошынку, па гальштуку, які збіўся набок, угадваўся раённы ці сельсавецкі чалавек, якімі бывалі бухгалтары, інспектары, сакратары, інструктары.

Гутарылі яны з тым жа спакоем і непасрэднасцю, з якой размаўляюць даўнія знаёмыя з добра наладжанымі адносінамі.

Часам яны кідалі пагляды на сагнаных і нечаму дзівіліся — верагодна, таму, што, акрамя адзінага акулярыстага дзядзькі Косціка, мужчын так і не прыбаўлялася. Афіцэр цёмнай пальчаткай нервова паляпваў па сцягну, у той час як цывільны апраўдальна разводзіў рукамі: больш, маўляў, у вёсцы і чакаць няма каго.

Апошнімі прыбылі бабы з дзецьмі. Салдаты з аўтаматамі напагатове разгрупаваліся па баках. Яны нагадвалі натрэніраваных сабак, якія пільнуюць статак.

Пагляды вяскоўцаў напружана скіраваліся на машыну. З яе, з боку адкінутага борта, на іх, што стаялі ў пакорлівым, трывожна прысуджаным маўчанні, быў наведзены кулямёт, на дзвюх растапыраных невысокіх падпорках. За кулямётам амаль на кукішках прымасціўся немец без каскі. Летні вецер кудлаціў яго ўспацелую галаву.

Неахоўнымі заставаліся адзін тыльны бок машыны ды яшчэ агародныя праслы, да якіх сагнаныя вяскоўцы нехаця ціснуліся. Загарадзь з жэрдак у пэўным сэнсе ўяўляла сцяну. За ёй на агародах бела-чырванаватымі плямамі адцвітала бульба. Далей за бульбянымі клінамі зноў былі вуліцы з хатамі, дзе жыла і бабка Войціха, якая чамусьці не апынулася разам з усімі. Падобна, яна паспела схавацца.

Маці сутаргава трымала маю руку.

— Дзе Фёдар з Інгай? — спытала яна ціха.

— Пад камягай пахаваліся.

— О госпадзі, як жа яны выберуцца адтуль?

— Выберуцца, — адказаў я таксама ціха. — Яны ведаюць як.

— Ты, сынок, вось што. Ты не стой тут, не чакай. Праціскайся паволі да загарадзі. І кладзіся за ёй. Кладзіся ў разору. У выпадку, калі бяда паўстане, чакай, пакуль немцы з’едуць. Толькі не спяшайся. Ляжы і чакай, і пасля непрыкметна падавайся бацьку шукаць... Ідзі!

Маці выпусціла маю руку.

— Я застануся.

— Рабі, як загадваю. Бацьку распавядзеш потым...

Я моўчкі марудзіў. Маці прыгнула мне галаву і падпіхнула ў спіну. Між босых, у большасці абадраных, засіверaных ног вяскоўцаў я паволі пасунуўся да загарадзі. Я як бы вышукваў зручнае месца, адкуль можна было чуць і бачыць тое, што адбывалася. Я сапраўды чуў і бачыў, прыўздымаючыся, падобна выпрастанаму на дыбачках сусліку. Звыклая дапытлівасць, якая разгарэлася з вайной, прымушала мяне не-не ды выцягваць галаву.

Перакладчык з афіцэрам тым часам лёгка забраліся ў кузаў. Нягучныя словы афіцэра з удумлівай марудлівасцю перакладаліся цывільным.

— Той, хто пакажа, дзе хаваюцца партызаны з парашутыстамі, будзе неадкладна памілаваны.

Сагнаныя панура, панікла маўчалі. Афіцэр зняў другую пальчатку і ўжо паляпваў ёю па левай далоні. Перакладчык жа, ледзь памарудзіўшы, прадоўжыў:

— Вы абавязаны паказаць бандытаў. Імі падарваны чыгуначны мост, забіты двое салдат вермахта. Здзейснены напад на вадакачку, пушчаны пад адхон састаў... Яны будуць злоўлены без вас, але камандаванне нямецкага войска жадала б гэта паскорыць... Яно не сумняваецца, што вёска ваша падтрымлівала бандытаў. Менавіта ля яе ўначы быў скінуты парашутны дэсант. Калі парашутысты не будуць выдадзены, вас расстраляюць. Спачатку — кожны трэці, потым — другі. Уцячы ніхто не зможа...

Перакладчык асекся, а ў натоўпе пачуліся ўсхліпы, варушэнні. Дзядзька Косцік паціснуўся да машыны. Зняўшы акуляры, ён тут жа і начапіў іх.

— Пан обер-лейтэнант, магчыма, не ведае, што мы чакалі яго прыезду і жадалі запэўніць, што ніколі не патрывалі б у сябе бандытаў. Можа, обер-лейтэнант растлумачыць, чаму так непрыязна, нядобра ён да нас ставіцца?

Пра дзядзьку Косціка аднойчы распавядалі, што ў імперыялістычную вайну ён трапіў у нямецкі палон і там навучыўся размаўляць па-нямецку, асобныя словы помніў і дагэтуль.

Цяпер якраз дзядзька Косцік і чакаў адказу і перакладу.

— Непадалёк ад вас забілі салдат вермахта!

— Доблесных нямецкіх салдат, як мы чулі, знайшлі ў суседняй вёсцы, — запярэчыў дзядзька Косцік. — І, як распавядаюць, яны загінулі ў перастрэлцы з акружэнцамі, мужна ваюючы за Нямеччыну. Акружэнцаў жа, як кажуць, тая вёска вымусіла сысці.

Паміж афіцэрам і дзядзькам Косцікам пачыналася адкрытая перапалка.

— Па-першае, сярод вас, мясцовых жыхароў, амаль не відаць мужчын... Дзе яны?

— Пан обер-лейтэнант, верагодна, не ведае, што ў нас іх і да вайны нягуста было...

— Куды ж яны дзеліся? — спытаў афіцэр не без іроніі.

— Разбегліся. Хто куды мог, і хто не паспеў — па турмах адправілі, у калектывізацыю...

Бабы падтрымалі дзядзьку Косціка гудлівым шумам.

— Каго канкрэтна вы маглі б назваць? — спытаў афіцэр, скрыжоўваючы на грудзях рукі.

Для пераканаўчасці загінаючы пальцы, перакладчык, на здзіўленне сагнаных, з неймавернай дакладнасцю пералічваў прозвішчы ворагаў ладу: раскулачаных і іншага люду, хто па розных прычынах быў нязгодны з савецкай уладай, асуджанага, высланага.

— Выходзіць, нямецкія салдаты забіты жанчынамі? — з’едліва сказаў афіцэр, не спяшаючыся прымаць довады.

Дзядзька ў знак запэўнення малітоўна ўзняў рукі:

— Калі б мы хавалі бандытаў, хіба было б у доблесных ваяроў, воінаў вермахта, гэтулькі пераможных поспехаў?Ён казаў пераканаўча і, скончыўшы, з напружанасцю чакаў адказу, як бы асцерагаючыся за дакладнасць перакладу. Цывільны, як здалося, ахвотна пераказаў афіцэру пачутае. Акружэнцы і сапраўды да гэтага часу ні ў кога не жылі. Па маўклівых меркаваннях і здагадках, яны падлячыліся, акрэплі і ў большасці падаліся ў лясы на партызанскія стаянкі і базы, што ўжо ўзніклі. Але куды сапраўды, — як ні дзіўна, ніхто не ведаў. І немцы з аблавай, падобна, здорава спазніліся. Пра парашутыстаў-дэсантнікаў у вёсцы амаль не чулі. Толкам-то іх ніхто і ў вочы не бачыў...

Я непрыкметна праціснуўся назад да маці, бо далей ладзілася нешта такое, якое ніводнаму б хлапчуку не прапусціць.

А мне і пагатоў.

— Пан обер-лейтэнант запэўнівае, — данёсся голас з машыны, — што ў вас рэгулярна вядуцца перадачы на Маскву...

Моцная магнітная сіла трымала мяне на месцы. Маці штурхала, прыгінала і праганяла паўзці і хавацца ззаду натоўпу ў агародных бульбяных разорах. Але я ўпарта працягваў заставацца, не верачы пачутаму. Ці не жарт, з маёй з выгляду ціхай вёскі вядуцца перадачы ў самую Маскву?.. Ад такой навіны любая небяспека забудзецца, тым больш што і ты маеш дачыненне да таго, што неверагодным чынам толькі што прагучала...

— Хай паверыць мне пан обер-лейтэнант, — працягваў дзядзька Косцік даверліва, — хай паверыць як палоннаму калісьці кайзераўскага войска і таму ведаючаму цану слова германскага афіцэра, што, акрамя акружэнцаў, ніхто на падобнае не здатны. Ніхто з нас не адважыцца. І яшчэ я скажу пану обер-лейтэнанту, што ў лясах у нас калі заблудзішся, то незнаёмцу з іх не выбрацца. І чалавек губляецца, псіхуе, а там і памрэ, калі своечасова не набрыдуць на яго. Радыст, я думаю, і ёсць такі звар’яцелы акружэнец...

І зноў зацягнулася нарада паміж афіцэрам і перакладчыкам. Маці ж так прыгнула і пхнула мяне, што нічога не заставалася, як неадкладна падпарадкоўвацца. Аднак перш чым я аднавіў сваё працісканне да загарадзі, я ўбачыў: на ўпараным кані хтосьці імчыцца штосілы да машыны. Здзіўленне разгарэлася пасля таго, як я пазнаў свайго Віцязя. Але сядзеў на ім не бацька, а хтосьці іншы, незнаёмы. Сціснуты людзьмі, я ўсё ж рызыкнуў падцягнуцца і зірнуць, хоць бы на дыбачках, адчуваючы, што прасторы паміж нагамі дарослых быццам дабавілася і, прысеўшы, я буду зноў рухацца затым да загарадзі.

Вершнік асадзіў каня ля самай машыны і саскочыў долу.

Як потым даведаўся я, ім быў стараста адной з блізкіх да нас вёсак.

Маці прыспешвала, і, карыстаючыся агульным замяшаннем, я лёгка праціснуўся назад да загарадзі, да самага яе нізу, і паднырнуў, пералез пад ёй у бульбоўнік чужога агарода.

Я зрабіў гэта яшчэ і таму, што баяўся, як бы Віцязь, чаго добрага, не пачуў мяне і не заржаў. Яго любоў да мяне і прыхільнасць я, магчыма, пераацэньваю, але ў той момант я думаў менавіта так. У спешнай гарачнасці я яшчэ не асэнсоўваў, як і чаму на Віцязю апынуўся іншы чалавек, ужо ці не благое што з бацькам здарылася?

Тым часам салдат-кулямётчык ад нуды выняў з каскі яйка, выцадзіў і, бавячыся, кінуў шкарлупіну на галовы вяскоўцаў. Ён разбіваў яйка аб глянцавата-бліскучы кулямёт, выпіваў і шпурляў, чакаючы загаду пачаць стральбу. Для яго яна была такой жа звыклай справай, як мужчынам касьба, жніво, малацьба, нарыхтоўка і рубка дроў ці іншая патрэбная справа.

Перапалка тым часам паўстала ўжо паміж трыма: обер-лейтэнантам, старастам і перакладчыкам. Людзі між сабой шапталіся, нягучна перагаворваліся.

Тое, што вёску паволі абклалі, выглядала сама меней і наіўна, і недаравальна. Пра статак з пастухом паклапаціліся, а пра сябе — забыліся. Забыліся з-за спаконвечных гаспадарскіх клопатаў. Вось і адплата, якая насцігла самым нечаканым чынам.

Тым часам стараста, які прыскакаў на ўпараным кані, штосьці ярасна і пераканаўча даказваў афіцэру. Кулямётчык жа ўсё гэтак жа метадычна выцэджваў яйкі і на пацеху працягваў шпурляць шкарлупіны ў людзей. Часам ён прыслухоўваўся да голасу пеўня, які па-дурному крычаў на нечым двары, расспяваўшыся на сваю пагібель. Немец кідаў у натоўп апроч яечных шкарлупін і агрызкі жнівеньскіх яблыкаў, і костачкі сліў, якімі ён дзесьці назапасіўся.

Старастам у суседняй вёсцы немцы прызначылі ранейшага калгаснага старшыню, які ведаў справы, па перакананні новых улад, лепш чым хто іншы. Сваім прыездам ён выклікаў здзіўленне. Толькі самая спешная навіна магла загнаць Віцязя да ўзмыленасці. Стараста трымаў каня за аброць, як бы гатовы гэтак жа хутка, калі што якое, ускочыць і памчацца.

Спалоханым тонам ён спяшаўся выкласці обер-лейтэнанту прычыну прыезду:

— Пан перакладчык, неадкладна далажыце! На шашы ад станцыі толькі што падарваны мост. Па ім яшчэ можна праехаць, але мост могуць падарваць другі раз. Тады партызаны навяжуць бой. Я ледзь праскочыў. Трэба спяшацца, чаго б гэта ні каштавала. Я ведаю іншую, некранутую імі пакуль дарогу. Не губляйце час. Як стараста, запэўніваю: у тутэйшай вёсцы бандытаў няма. Тут іх падтрымліваць няма каму, адно кулаччо. Галавой за гэта ручаюся!

Такую адкрытую, упэўненую перакананасць наўрад ці хто і падвергнуў бы сумненню. Яна здавалася шчырай нават сагнаным, якія напружана чакалі свайго лёсу. Унушальны быў і выгляд старасты: статнага, сівагрыва-віхрастага, падпяразанага па-над расшпіленай кашуляй не зразумееш чым: ці рамянём, ці хатнім поясам,

які ствараў ураженне, што толькі сур’ёзная, небывала важная прычына не дала магчымасці чалавеку апрануцца як след.

— Вось і я таксама казаў, — умяшаўся дзядзька Косцік, на якога цяпер увагі не звярталі. — Не было і няма сярод нас бандытаў.

Салдаты па абодва бакі, з нізка насунутымі каскамі, насцярожана прыслухоўваючыся, назіралі за тым, што адбывалася. Позіркі іх былі незвычайна пільныя. Яны быццам слізгалі па кожным і па ўсіх разам. Дзесьці яны і сапраўды выглядалі дзіўнымі істотамі: з шырока расстаўленымі нагамі, са знарочыста закасанымі рукавамі фрэнчаў, з пакладзенымі на ствалы аўтаматаў далонямі. Яны чакалі найхутчэйшага заканчэння аперацыі — загаду страляць — і неадкладнага адбыцця ў звыклае размяшчэнне гарнізона, з кухняй і магчымым у канцы дня адпачынкам пасля «баявых» дзеянняў.

На гэты раз я ўжо ўціснута ляжаў у зацененай бульбяной разоры. Я дастаткова паспеў адпаўзці, аддаліцца ад загарадзі ў глыб агарода. Сёе-тое скрозь зазелянелы бульбоўнік мне ўсё ж бачылася: частка кузава з афіцэрам і перакладчыкам і нават кулямёт, калі галовы тых, хто стаяў, хіліліся направа і налева, як верхавіны дрэў качаліся на ветры. Прыладзіўшыся, я аглядаў і дарогу, не рызыкуючы асабліва высоўвацца. З вопытным хлапечым умельствам я асцярожна адводзіў галінкі бацвіння і сачыў за тым, што адбывалася, саманадзейна ўпэўнены, што ў выпадку стральбы паспею прыхіліцца і прыціснуцца раней за кулю.

Я апярэджу кулю, пакуль будзе яна ляцець, схаваюся, прыціснуся да зямлі, і куля праляціць міма... Я хацеў быць хутчэй за кулю.

Гэта, безумоўна, было наіўным, але менавіта так мне тады думалася. Я бачыў, як обер-лейтэнанту салдаты падалі ракетніцу і з кузава грузавіка ён тройчы смальнуў з яе ў яснае жнівеньскае неба, што служыла сігналам здымаць ачапленне. І следам за згаслымі над вёскай агнямі да машыны, збіраючыся, пацягнуліся з розных канцоў вёскі салдаты, расстаўленыя на выпадак неспадзяваных акалічнасцей. Сухарлявы обер-лейтэнант вопытна падстрахоўваўся.

Затым ён нахіліўся да кулямётчыка і аддаў нейкае распараджэнне. Перакладчык жа тым часам абвясціў:

— Нямецкае камандаванне гэтым разам вам паверыла і даруе. Калі яно даведаецца, што вы спрыяеце бандытам, вас чакае расстрэл. А цяпер можаце разыходзіцца.

Мне не-не ды думалася пра адно і тое ж: ці былі салдаты ля возера? Натоўп яшчэ марудзіў, не спяшаўся да хат, ён цягнуўся, асцерагаючыся кулямётнай чаргі ў спіну, і толькі калі ўбачыў, што кулямётчык з аўтаматам і каскай саскочыў з грузавіка і абыякава накіраваўся да агародных праслаў, пачаў расцякацца.

Сэрца маё сышло ў пяткі. Першым парывам было падняцца і ўцякаць з усім спрытам. Але потым, наколькі можна, я ўціснуўся ў зямлю, гатовы, як той крот, закапацца ў яе.

Мільганула думка, што афіцэр угледзеў мяне, калі я падазрона назіраў з агарода, і паслаў кулямётчыка на расправу.

Я прыціснуўся тварам да зямлі паміж выцягнутымі рукамі і замёр, стаіў дыханне. Слых лавіў шоргаты бацвіння, натужнае сапенне і крокі немца, што паступова аддаляліся.

Мяне як быццам шукалі, і, нічым не выдаючы, не выяўляючы сябе, я распластана і маўкліва ляжаў. Удалечыні неўзабаве раздаўся адзіночны стрэл, у тым баку, куды сыходзіў салдат. Сэрца маё нібыта стукала аб зямлю, на імгненне спынялася, і тады я правальваўся, упадаў у забыццё...

Калі, ачнуўшыся, я асцярожна высунуўся, касагор пуставаў, а за загараддзю нікога не было. Па вуліцы аддалялася маці і раз-пораз аглядвалася.

І тут жа да спалоху, што цалкам не знік, дадаўся новы. На мяне прама па гародзе рухаўся кулямётчык. Ён, вядома ж, палічыць мяне разведчыкам: інакш навошта ж хавацца ў разоры?

Салдат набліжаўся шумнай пачварай, што вырастала, прымінаючы бульбоўнік і несучы ў адной руцэ застрэленага, скрываўленага пеўня, верагодна, афіцэру на вячэру, а другой трымаючы пчаліныя соты, задаволена адкусваў іх і выплёўваў воск па баках. Ён цешыўся, што пакідаў вёску са здабычай. Рукавы яго былі закасаны, аўтамат закінуты за спіну, а каска, верагодна, з курынымі яйкамі прыціснута пад пахай.

Я зноў уткнуў твар у зямлю і абхапіў галаву рукамі ў чаканні стрэлу. Крокі прашамацелі, здавалася, над галавой, а пляўкі з вашчынай патрапілі мне на спіну і патыліцу.

Немец, я зразумеў, не разгледзеў мяне.

Салдаты шумна паселі ў кузаве грузавіка. На верх кабіны яны паставілі кулямёт, обер-лейтэнант сеў да шафёра, а стараста на Віцязю паехаў наперадзе. На якую з дарог выводзіў ён, я не ведаў.

З сэрцам, што яшчэ не супакоілася, я абтрасаў з рук і адзежы зямлю.

Не пакідала ванітавае адчуванне. Забываючы пра яго, я пабег штосілы да возера, да Федзькі з Інгай.

Ці жывыя, ці цэлыя?

Яшчэ здалёк, з груда жытняга поля я вызначыў, што лодка не кранута, яе, падобна, не пераварочвалі. І сэрца загрукала спакайней, раўней. Усё знешне выглядала такім, якім пакідалася.

Аднак раскалупаная ў дне шчыліна была заткнута зелянінай, праз шчыліну-то і павінна было прасочвацца, пранікаць паветра.

— Гэй, вы!

Ніхто з-пад лодкі не адклікаўся: ні голасу, ні гуку, ні варушэння... Я быў не пазнаны. Ухапіўшыся, учапіўшыся знізу пальцамі за край борта, я з натугай перавярнуў лодку дном на зямлю.

На прыазёрнай вільготнай траве ляжала Інга. Яна ўткнулася ў скрыжаваныя перад сабой рукі. Худзенькая, лядашчая фігурка яе здрыганулася ад майго дотыку, і я адчуў, што Інга плача. Яна, падобна, баялася ўставаць, а можа, і не хацела, я не адразу і сцяміў — з ёй чамусьці не аказалася брата. Ужо ці не з-за Федзькі Інга плакала?

— Ды гэта ж я, Ягор!

Інга быццам сарамацілася слёз, нічога не заставалася, як узяцца раскатурхваць. Яна закрыла твар далонькамі і нарэшце села на кукішкі.

— Федзька? Дзе ён?

— Сказаў, замярзае. Выпаўз і кудысьці сышоў, — прамовіла яна з дрыжыкамі ў голасе і з ссінелымі вуснамі.

Трэсла яе, верагодна, не ад аднаго холаду, а ў дадатак і ад страху. У вільготнай цемры пад трухлявай лодкай ёй давялося быць упершыню. Яна нібы не верыла ў сваю ацалеласць, нечаканае ўратаванне.

Я зняў з сябе кашулю і накінуў зверху лёгкай, заўсёды фарсістай Інгінай кофтачкі. Яна зірнула на мяне скрозь слёзы і, чымсьці здзіўленая, з асцярогай спытала:

— Ягор, што гэта з табой?

— Са мной-то нічога, а ты вось дрыжыш...

— Валасы? — дзівячыся, перапытала яна.

Я правёў па сваіх валасах рукой і нічога не выявіў, уражаны Інгіным здзіўленнем. Дома, напэўна, не толькі хваляваліся за Інгу, а і шукалі.

Федзька, вырашыў я, хаваецца дзесьці паблізу. Калі б Інга ад холаду не трэслася, мы шукалі б яго разам.

— Фё-ё-ё-дар! — пракрычаў я на ўсякі выпадак і не пачуў водгуку. Пошукі я вырашыў працягнуць пасля таго, як адвяду Інгу дахаты, перадам, як кажуць, з рук у рукі.

Я ўзяў яе падатлівую, халодную наскрозь далоньку і павёў да Косцікаў. Інга слаба пярэчыла і саромелася. Сцежкай па жытнім прыазёрным полі я прывёў яе да хаты Косцікаў. Далонька нагадвала лядзяк.

Цётка Косціха даўно кідалася ў паніцы па вёсцы. Ды і было з-за чаго! Дзядзька Косцік пасля аблавы ляжаў на лаве каля насцеж адкрытага акна ў кветнік з сардэчным прыступам.

Цётка кінулася абдымаць пляменніцу і зацалоўваць. Яна адразу адчула дрыжыкі, якія кінулі Косціху ў замяшанне і засмучэнне.

Я пабег адшукваць брата.

Але на ўсякі выпадак заскочыў перш дахаты. І не дарэмна. На маю радасць, брат быў дома. Нейкім чынам апынуўся з ім разам і бацька. Седзячы ў яго на каленях, Федзька распавядаў пра нашы прыгоды, кранаючы прапыленыя бацькавы вусы.

Аказалася, Федзька, змерзнуўшы, выбраўся з-пад лодкі і грэўся затым на маленечкім, знаёмым яму лужку, акружаным альховым палеткам, якія ссякаліся звычайна на жэрдкі для агароджы. Адтуль брат пабег галодны дахаты, дзе і схаваўся на вышках.

— І дурань жа ты, Фёдар, — казаў бацька, — уначы ў агародзе хаваешся, а днём у сена залазіш.

— А куды ж яшчэ?

— Згарэў бы, калі што якое.

Страшныя словы казаў бацька і тут жа, кудлацячы галаву, прыцiскаў Федзьку да сябе, быццам баяўся адпускаць. Па бацькавым выглядзе і настроі я зразумеў, што быў ён у добрым гуморы, як здараецца толькі з чалавекам, у якога ўсё абышлося, як ён хацеў. Вёска выратавалася, ацалела. Занятыя пастаянна неадкладнай працай, бацькі нас ніколі так не шкадавалі і не лашчылі, як гэтым летам.

З гэтага часу я не сумняваўся ў тым, што раней лічыў выпадковым. Я запэўніўся, што і падарваныя цыстэрны, і забітыя ў Заазер’і нямецкія салдаты, і дзіўнае бацькава знаходжанне ў Снегірыным лесе рабіліся нездарма, усё, падобна, мела свой сэнс.

Гэта былі сакрэты і таямніцы дарослых, ведаць якія дзецям да пары да часу не належала. І хто з іх каго першым папярэджваў пра небяспеку: ці пастух бацьку, ці бацька пастуха — па сутнасці не мела значэння.

З тым жа здзіўленнем, што і Інга, сямейнікі чамусьці чапалі мае валасы, пакуль я не зірнуў у люстэрка. І ўразіўся больш за ўсіх: жмут маіх валасоў над ілбом быў пасівелым.

Як ні дзіўна, але я зусім не перажываў. Для мяне важнейшым было іншае: адкуль было апынуцца Віцязю пад рукой у старасты, які прыскакаў на ім?

*З рускай мовы пераклаў Глеб ВАСІЛЬЧАНКА.*

***Заканчэнне ў наступным нумары.***




# КРАСАВІК

**1**

*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Басалыгі Уладзіміра Самойлавіча, беларускага графіка.*

**6**

*55 гадоў таму (1955) была створана газета Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой «Голас Радзімы». З 2007 г. выдаецца як укладыш да газеты «СБ. Беларусь сегодня» («Советская Белоруссия»).*

**10**

*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Крэпака Барыса Аляксеевіча, беларускага мастацтвазнаўца, мастацкага крытыка, журналіста, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.*

**12**

*120 гадоў з дня нараджэння Нёманскага Янкі (сапр. Пятровіч Іван Андрэевіч; 1890—1937), беларускага празаіка, публіцыста, грамадскага дзеяча.*

**12**

*60 гадоў з дня нараджэння (1950) Савічава Алега Ігаравіча, беларускага графіка.*

**14**

*130 гадоў з дня нараджэння Дылы Язэпа (Восіпа Лявонавіча; 1880—1973), беларускага празаіка, драматурга і грамадскага дзеяча.*

**14**

*125 гадоў з дня нараджэння Рак-Міхайлоўскага Сымона Аляксандравіча (1885—1938), беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, публіцыста, педагога, перакладчыка, паэта.*

**14**

*100 гадоў з дня нараджэння Пруднікава Алеся (Аляксандра Трафімавіча; 1910—1941), беларускага паэта.*

**14**

*90 гадоў з дня нараджэння Карпюка Аляксея Нічыпаравіча (1920—1992), беларускага празаіка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.*

**15**

*90 гадоў з дня нараджэння Ракітнага Міколы (сапр. Новікаў Мікалай Ісакавіч; 1920—2000), беларускага празаіка.*

**16**

*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Клышкі Анатоля Канстанцінавіча, беларускага празаіка, крытыка, перакладчыка, педагога.*

**20**

*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Мархеля Уладзіміра Іосіфавіча, беларускага літаратуразнаўца, перакладчыка.*

**21**

*175 гадоў з дня нараджэння Вуля Ялегі Пранціша (сапр. Карафа-Корбут Элігій-Францішак Маўрыкіевіч; 1835—1880-я), беларускага паэта.*

**23**

*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Казько Віктара Апанасавіча, беларускага празаіка.*

**27**

*80 гадоў з дня нараджэння (1930) Данцыга Мая Вольфавіча, беларускага жывапісца, народнага мастака Беларусі.*



# Ігар БУЗОЎСКІ: «ВЕЛЬМІ ШМАТ ДОБРЫХ МАЛАДЫХ ЛЮДЗЕЙ ВАКОЛ НАС»

***У грамадскай арганізацыі «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» з'явіўся новы кіраўнік. На V Пленуме маладзёжнага саюза ім быў абраны Ігар Бузоўскі. Спецыяльна для нашых чытачоў ён распавёў пра асноўныя накірункі дзейнасці арганізацыі ў бягучым годзе і самыя амбіцыёзныя планы на будучыню. А таксама прыгадаў найбольш паспяховыя мерапрыемствы і акцыі на працягу існавання БРСМ.***

**— Ігар, сёння вы займаеце досыць высокую кіраўнічую пасаду. Ці марылі пра такое ў дзяцінстве альбо, як большасць хлапчукоў, захапляліся ідэяй стаць касманаўтам?**

— У дзяцінстве я марыў стаць ваенным. Спрабаваў паступіць у Сувораўскае вучылішча, але не вытрымаў іспыты. Першапачаткова навучаўся я ў Новасібірскім вышэйшым ваенна-палітычным вучылішчы. Пасля распаду СССР прыйшлося пераводзіцца ў Мінскае палітвучылішча. Гэта таксама было няпроста, быў вельмі высокі конкурс. Але паколькі я быў чэмпіёнам Сібіры па стральбе, гэта ўлічылі як станоўчы фактар пры залічэнні.

**— У ГА «БРСМ» вы з першых дзён яе існавання. Ці можаце прыгадаць, з чаго ўсё пачыналася? І наколькі дынамічна ідзе развіццё арганізацыі сёння?**

— Сапраўды, у арганізацыю я прыйшоў на самым пачатку яе стварэння. Тады яна яшчэ называлася «Беларускі патрыятычны саюз моладзі». У той час я працаваў сацыяльным педагогам-псіхолагам у школе ў Навагрудскім раёне. Мне прапанавалі паспрабаваць сябе ў маладзёжным руху. Арганізацыя толькі ствbaралася, калі я пагадзіўся стаць другім сакратаром раённага камітэта. Трэба сказаць, што пачыналі мы з нуля. Атрымлівалі першыя памяшканні, спрабавалі ладзіць першыя дыскатэкі, шукалі спонсараў і дамаўляліся з імі, падбіралі першы актыў. Вядома ж, мы былі поўныя энергіі і энтузіязму. Гэта быў вельмі пазітыўны і карысны досвед. Трэба было сабраць людзей, навучыцца з імі размаўляць, пачуць ідэі адзін аднаго і здолець насамрэч аб'яднацца. На мой погляд, у той час у Беларусі фактычна не было такой вялікай арганізацыі — на ўсю рэспубліку. Арганізацыі, дзе людзі аб'яднаныя агульнай ідэяй. І вельмі шмат людзей насамрэч нас падтрымала, як бацькі, так і самі дзеці. Сёння членамі нашай арганізацыі з'яўляецца паўмільёна чалавек — гэта прыкладна трэць усёй моладзі нашай краіны. Я лічу гэта вельмі станоўчым і паспяховым сведчаннем дзейнасці арганізацыі. Напэўна, сёння няма чалавека, які не ведаў бы пра нас. У кожнай школе, у кожным універсітэце, на прадпрыемствах ёсць нашыя актывісты. І я з упэўненасцю магу сказаць, што кожны дзень у краіне адбываюцца мерапрыемствы нашай арганізацыі, па ўсіх куточках Беларусі.

**— А якія найбольш яркія мерапрыемствы і акцыі вы можаце прыгадаць?**

— Паўтаруся, што акцый і мерапрыемстваў мы праводзім насамрэч шмат. І пералічваць можна бясконца. Хочацца адзначыць, што найбольш рэзультатыўныя тыя мерапрыемствы, дзе ініцыятыва ідзе непасрэдна ад моладзі, калі адбываецца гэта

нефармальна. Калі казаць пра тое, што для мяне засталося вельмі значным, то хочацца прыгадаць акцыю «Ліст Прэзідэнту». Ідэя з’явілася спантанна. Да нас прыйшоў ліст такога характару ад дзяўчыны. І мы падумалі: «А што калі абвясціць агульнарэспубліканскую акцыю, каб моладзь напісала кіраўніку краіны пра свае думкі, мары, жаданні?» І мы сапраўды распаўсюдзілі такую інфармацыю. Нам самім было цікава, чым насамрэч жыве моладзь, якія ў людзей імкненні. Вядома ж, былі карыслівыя лісты — «падарыце мне ровар» ці «купіце мне камп’ютэр». Але мы былі прыемна здзіўленыя, што такіх лістоў было няшмат. Большасць людзей пісала пра свае пачуцці, мроі, задавалі актуальныя пытанні. Мы пасля гэтага пераканаліся, што дарэмна кажуць: «Моладзь цяпер не такая, дрэнная моладзь». Я з гэтым не згодны. Вельмі шмат добрых маладых людзей вакол нас. Дык вось, аўтары найлепшых лістоў сустрэліся з Аляксандрам Рыгоравічам, паразмаўлялі з ім. Гэта вельмі станоўча і запамінальна было для моладзі.

Таксама хачу прыгадаць акцыю, якую прапанавалі актывісты з Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта. Падчас буйной кампаніі «За Беларусь» яны запалілі святло ў інтэрнаце такім чынам, што былі бачныя літары «ЗА». Гэта была цалкам ініцыятыва і прапанова студэнтаў, арганізоўвалі яны ўсё самастойна. Памятаю, што вялікі ажыятаж гэта выклікала і сярод гараджан, і сярод прэсы.

Так што мы стараемся працаваць ва ўсіх накірунках, цікавых для моладзі.

**— Кіраўніцтва арганізацыі часта падкрэслівае, што БРСМ станоўча паўплываў сваёй дзейнасцю на фарміраванне пазітыўнага іміджу службы ў войску. Зараз у краіне ўсё больш гавораць пра альтэрнатыўную грамадзянскую службу, плануецца распрацоўка адмысловага закона. Ці будзе ў гэтай працы задзейнічаны саюз моладзі?**

— Мы насамрэч шмат увагі надзяляем патрыятычнаму выхаванню маладых людзей. І сёння, я лічу, служыць у арміі стала модным. У элітных войсках — спецназ, памежныя войскі, рота ганаровай варты і іншыя, — склаўся конкурс на прызыўнікоў. То бок не кожны можа туды патрапіць. Мы стараемся працаваць з будучымі прызыўнікамі ў ідэалагічным накірунку, а таксама даём ім магчымасць фізічнай падрыхтоўкі — гэта наведванні спартыўных залаў, комплексаў. Нашыя хлопцы працуюць дружыннікамі, ахоўнікамі на мерапрыемствах. У будучым ім гэта абавязкова спатрэбіцца. Маё асабістае перакананне: мужчына мусіць абараняць сваю Айчыну — гэта загартоўвае яго, робіць больш дарослым. І ў будучым яму будзе прасцей вырашаць пытанні. Што датычыцца альтэрнатыўнай грамадзянскай службы, то мы не выключаем магчымасці супрацоўнічаць з Міністэрствам абароны. Напрыклад, у падборы месцаў, дзе салдат можа праходзіць альтэрнатыўную службу. Але больш канкрэтна гэта будзе вырашацца пасля прыняцця закона.

**— Міністр культуры Павел Латушка выступіў з ініцыятывай шырокамаштабнай акцыі па ўсёй краіне «Беларусь — гэта мы». ГА «БРСМ» калісьці актыўна праявіла сябе ў кампаніі «За Беларусь». Ці будуць члены арганізацыі праца-ваць у новым праекце сумесна з Мінкультам?**

— Зараз мы распрацоўваем план мерапрыемстваў. І не выключана, што будзем працаваць і дапамагаць па гэтым праекце. Для нас самае істотнае — тое, каб гэта было цікава моладзі. Каб яна актыўна ўключалася ў працу, каб з’яўляліся ідэі, якія могуць рэалізавацца. Думаю, што праект «Беларусь — гэта мы» зацікавіць членаў нашай арганізацыі.

**— Бягучы год абвешчаны годам якасці. Ці праўда, што ў «БРСМ» з’явіцца свая лабараторыя якасці?**

— Мы разглядаем верагоднасць такога праекта і зараз разлічваем яго мэтазгоднасць. Але ідэя можа спраўдзіцца, бо яна і цікавая, і запатрабаваная. Нашыя маладыя навукоўцы могуць рабіць экспертныя заключэнні па якасці на тавары.

**— А ці ёсць у планах арганізацыі мерапрыемствы для творчай моладзі ў галіне мастацкай літаратуры і публіцыстыкі?**

— У гэтым годзе з новай сілай запрацуе праект «Школа маладога журналіста». Мы створым экспертную камісію і прапануем усім творчым маладым людзям паспрабаваць свае сілы. Пад патранажам нашай арганізацыі выходзіць некалькі друкаваных выданняў («Зорька», «Знамя юности», «Переходный возраст»), таксама радыёстанцыя «Пилот-FM», мы маем свой сайт, у нас добрыя сувязі з раённай прэсай. Так што поле для дзейнасці ёсць. Магчыма, мы зможам нават выдаваць кнігі перспектыўных аўтараў, калі яны пішуць у буйным жанры. Мы плануем, што гэты праект зацікавіць шмат моладзі і набудзе новае дыханне.

**— Мы зараз загаварылі пра планы… Перад арганізацыяй пастаўлена задача ў 2015 годзе выйсці на самафінансаванне. Якой вы бачыце дзейнасць у будучым?**

— Перад намі стаіць задача. І мы будзем яе выконваць. Поўнае самафінансаванне магчыма, але трэба ўлічваць, што самафінансаванне — гэта ідэя, якая можа існаваць у розных плоскасцях. Напрыклад, мы разглядаем варыянты атрымання фінансавання як праз беларускія гранты, так і праз міжнародныя праекты. Па такім шляху пайшлі нашыя калегі ў Расіі, Украіне. У Беларусі праходзіць шмат мерапрыемстваў, на правядзенне якіх выдзяляюцца сродкі. Напрыклад «Скураны мяч» ці «Залатая шайба», фінансаванне якіх ажыццяўляецца праз выдзяленне грантаў. Мы таксама разглядаем праекты камерцыйнага накірунку.

**— А якія самыя амбіцыёзныя планы на гэты год?**

— Не хочацца пакуль раскрываць усе таямніцы. Але магу сказаць, што мы плануем выйсці на іншы ўзровень узаемадзеяння з мас-медыямі. Таксама будуць новыя цікавыя праекты, арыентаваныя на клубнае жыццё ў нашай краіне.

**— Па ўсім бачна, што вы вельмі заняты чалавек, але калі надараецца вольны час, то дзе любіце яго праводзіць?**

— Гэта праўда, вольнага часу бывае няшмат… Я раней захапляўся жывапісам, а таксама выразаў з дрэва. Але на такія заняткі цяпер знайсці час усё больш складана. Стараюся як мага болей часу праводзіць з сынам.

А яшчэ я вельмі люблю тэлебачанне. Тэлевізар у мяне ўключаны пастаянна. Я пэўны час працаваў у гэтай сферы, з тых часоў засталася звычка запамінаць рэкламу, звяртаць увагу на пытанні, меркаванні экспертаў і герояў перадач. Нават калі за мяжой бываю, стараюся прагледзець іх тэлеканалы. Там рэклама на вышэйшым узроўні. Можна ўбачыць шмат ідэй і на гэтай глебе прыдумаць і вынайсці нешта сваё.

**— Ведаю, што пэўны час вы працавалі ў турыстычным накірунку пад патранажам БРСМ. Ці ёсць улюбёныя мясціны ў Беларусі, куды рэкамендуеце абавязкова адправіцца?**

— У Беларусі ўвогуле багата прыгожых мясцін. Звычайна ўсе мы пра іх чулі, але трэба не ленавацца і абавязкова ўбачыць іх: Браслаўскія азёры, Брэсцкую крэпасць, Белавежскую пушчу… Гэтыя мясціны маюць своеасаблівую атмасферу, якую варта адчуць. Але для мяне месца нумар адзін у Беларусі — гэта Навагрудак. Гэта мая радзіма. І я дакладна ведаю, што лепшае месца проста адшукаць немагчыма. Гэта гістарычны і духоўны цэнтр, гэта сэрца нашай Беларусі. Так што ўсім беларусам раю вандраваць па краіне і часцей заязджаць на Навагрудчыну.

**— Дзякую за размову. Поспехаў у вашай дзейнасці!**

— Дзякуй вялікі.

***Гутарыла Дар'я ГУШТЫН.***

Фота www.brsm.by



# ЗАГІПНАТЫЗАВАНЫ ПРАЛЕТАРСКАЙ КУЛЬТУРАЙ…

Шукаючы землякоў у свеце, сутыкнуўся з прозвішчам Лейтэс. Так, украінскі і расійскі літаратуразнаўца Аляксандр Міхайлавіч Лейтэс нарадзіўся 3 (15) снежня 1899 года ў Брэст-Літоўску. Ведаючы, што літаратурнае краязнаўства Берасцейшчыны распрацавана на высокім узроўні, звяртаюся да кнігі «Літаратурная Берасцейшчына» В. Я. Ляшук і Г. М. Снітко. Спярша праглядаю імянны паказальнік. Лебедзеў, Лейка, Лёсік, Леслоў… Лейтэса няма. На ўсялякі выпадак зазіраю і ў раздзел, які ў гэтай увогуле унікальнай і наўздзіў фактаграфічна насычанай літаратурна-краязнаўчай манаграфіі прысвечаны наўмысна ўкраінскім пісьменнікам. Так і называецца – «Украінамоўныя пісьменнікі». Згадваюцца паэт Дзмітрый Фалькоўскі, паэт і празаік Аляксандр Гаўрылюк, паэт Уладзімір Кітаеўскі, якія жылі на Берасцейшчыне напрыканцы XIX — у першай палове XX стагоддзя. Праўда, усе яны звязаны з рэгіёнам на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Пра Лейтэса ж у стасунках з Брэстам, Берасцейшчынай вядома зусім мала. Калі не сказаць, што амаль зусім нічога не вядома. Адно толькі ясна, што літаратуразнаўца нарадзіўся ў Брэсце…

Ды ўсё ж, што гэта за асоба, якім быў яго шлях у прыгожым пісьменстве суседніх народаў, суседніх краін у няпростым дваццатым стагоддзі?

У 1922 годзе наш зямляк заканчвае Харкаўскі інстытут народнай асветы. Самы час, калі пачынае разгортвацца новае, пралетарскае літаратурнае жыццё. У Беларусі ствараецца літаратурнае аб’яднанне «Маладняк». Ва Украіне — «Гарт». Заснаваны ў Харкаве ў 1923 годзе Саюз пралетарскіх пісьменнікаў Украіны «Гарт» аб’яднаў многіх яркіх творцаў, якія ўжо на самым пачатку сваіх літаратурных, мастацкіх вышукаў засведчылі сябе як асобы таленавітыя. Гэта — В. Блакітны, А. Даўжэнка, П. Тычына, М. Хвілёвы, К. Гардзіенка, І. Мікіценка, В. Палішчук… Працавала выдавецтва з такой жа назвай. У 1924 годзе ў Харкаве выйшаў альманах «Гарт», дзе быў змешчаны і спіс усіх гартаўцаў на той час.

Ужо зараз шкадую, што ў свой час не праявіў большую зацікаўленасць… І вось у сувязі з чым. Праглядаючы тры выдадзеныя тамы з задуманага і спланаванага да выдання пяцітомніка «Украінская літаратурная энцыклапедыя», бачу, што аўтарам многіх артыкулаў з гісторыі ўкраінскай літаратуры 1920-х гг. з’яўляецца Сцяпан Андрэевіч Крыжаноўскі. У 1990 годзе ў нас было з ім кароткае ліставанне. Тады мяне цікавілі стасункі аўтарытэтнага вучонага і перакладчыка з беларускай літаратурай. Доктар філалагічных навук, адзін з аўтараў «Гісторыі ўкраінскай літаратуры» у 8-мі тамах пачынаў, між іншым, як паэт яшчэ ў 1920-я гады. Быў членам украінскай літаратурнай арганізацыі «Маладняк», якая, дарэчы, таксама ўзнікла ў Харкаве. І працавала ў 1926—1932 гадах. Значыць, быў знаёмы Сцяпан Андрэевіч і з нашым земляком… Але зараз ужо не запытаешся…

Аляксандр Міхайлавіч Лейтэс ужо да сярэдзіны 1920-х гадоў фарміруецца як актыўны крытык. У другой палове 1920-х — на пачатку 1930-х гг. выходзяць у свет яго грунтоўныя артыкулы — «Шляхі да раману», «Наш літаратурны урбанізм»,

«Шаўчэнка і сучаснасць», «Максім Рыльскі», «Паўло Тычына». Разам з М. Яшакам Лейтэс падрыхтаваў і выдаў біябібліяграфічны даведнік «Дзесяць год украінскай літаратуры» у 2-х тамах (1928). Другі том гэтай працы быў перавыдадзены яшчэ і ў 1930 годзе. Даведнік у 1928 годзе адзначаюць прэміяй імя Івана Франка. У 1924 годзе ў Харкаве на рускай мове выходзіць кніга А. Лейтэса «Кастрычнік і заходняя літаратура». Відавочна, жаданне параўноўваць, імкненне разглядаць нацыянальную літаратуру ў кантэксце сусветных мастацкіх працэсаў спрыяла адукацыі маладога даследчыка, выводзіла яго на болей шырокія шляхі. Іначай невядома яшчэ куды б яго завялі ўнутрынацыянальныя «корпанні». Пісаў жа часам А. Лейтэс і такое: сацыялістычную культуру ва Украіне лепей будаваць, абапіраючыся на ўкраінскую літаратурную мову, «не загіпнатызаваную мёртвай культурай мінулага». І далей задаваўся пытаннем: «Што можа нашкодзіць яснасці развіцця пралетарскай літаратуры ў Расіі — яе своеасабліваму росквіту?» Адказ быў да неверагоднага просты: «Гэтаму мяшаюць вялікія традыцыі старой рускай літаратуры. Пралетарскі паэт, які стварае ўчарашняй мовай паноў і буржуазнай культуры, несвядома (і псіхалагічна непазбежна) заражаецца мовай гэтай культуры, эмацыянальнымі нагрувашчваннямі, якія пакінула старая культура ў рускай мове». Цікавыя высновы…

У 1925 годзе пабачыла свет кніга А. Лейтэса «Рэнесанс украінскай літаратуры». Ізноў жа — у Харкаве. А ў 1934 годзе — новая кніга «Літаратура двух светаў». Цяпер ужо — у Маскве. Аляксандр Міхайлавіч шмат піша пра творчасць У. Маякоўскага, С. Ясеніна, М. Горкага, М. Алігер, іншых рускіх пісьменнікаў. Відаць, у 1930-я гады наш зямляк пераязджае ў Маскву… Сведчыць на тое і згадка, што знайшлася ва ўспамінах Лідзіі Чукоўскай: дачка Карнея Чукоўскага расказвае, як у эвакуацыі сустрэлася з жонкай маскоўскага літаратара Флорай Лейтэс.

У 1955 годзе ў Маскве пабачыла свет кніга Аляксандра Міхайлавіча «Мастацкі пераклад як з'ява роднай літаратуры». Літаратуразнаўца звяртаецца ў пасляваенныя гады да творчасці Дж. Байрана, С. Цвейга, П. Ж. Беранжэ, О'Генры, Л. Фейхтвангера, А. Барбюса і іншых замежных пісьменнікаў. У 1973 годзе «Новый мир» друкуе ўспаміны А. Лейтэса пра Веліміра Хлебнікава. Памёр Аляксандр Міхайлавіч 3 мая 1976 года ў Маскве.

Як высветлілася, у Расійскім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Маскве ёсць асобны фонд Аляксандра Лейтэса, які змяшчае болей за 300 рукапісаў. Сярод іх — і рукапісы згаданых успамінаў пра Хлебнікава. А таксама — згадкі пра Йогансена. Дарэчы, вельмі цікавая, каларытная асоба — Міхайла (Майк) Гервасійвавіч Йогансен. Паэт, перакладчык, журналіст, крытык. Ствараў «Гарт», іншыя літаратурныя арганізацыі. Быў праціўнікам якіх бы там ні было эстэтычных рэгламентацый. Эксперыментаваў са словам, мастацкімі ідэямі так, што ў традыцый швы трашчалі. Эвалюцыяніраваў ад авантурных сюжэтаў да так званай «хімернай прозы». Касмізм, урбанізм, рамантыка «астравоў і хваляў» — усё гэта Міхайла Йогансен, сябра і паплечнік нашага земляка.

Расійскі архіў, відавочна, шмат чаго цікавага «хавае» з біяграфіі Аляксандра Міхайлавіча Лейтэса. Засталося толькі дабрацца туды. Мо знойдуцца ў фондзе Лейтэса і берасцейскія слядочкі?..

***Кастусь ЛАДУЦЬКА***



Анатоль КЛЫШКА

# ЦВЯТОК РАДЗІМЫ ВАСІЛЬКА

## ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

...Пры ложку ў яго знайшлі «Вянок», і на ім выведзенае ўжо зусім аслабелаю рукою як пасланне туды, на бацькаўшчыну, каб не вельмі ўбівалася, сумавала яна аб сваім сыне, па гэтай хуткай яго развязцы:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Ён многа пражыў у гэтыя, адпушчаныя яму жыццём, кароткія маладыя вёсны і шмат зрабіў, палка, шчыра, аддана. І не яго віна, што не змог болей. Але як самае важнае, пра што няможна забыцца і перад сконам, успамінаў паэт пра чалавека, які памог ягоным вершам адужаць кнігаю.

У Еўропе, у XX стагоддзі, толькі адсюль, з Беларусі, паэт мог так непасрэдна адчуць усю веліч старой вынаходкі — друкарскага станка, а праца наборшчыка магла мець значэнне ніяк не меншае, чым творчасць. Калі ў народа кожны твор быў на ўліку, ён — друкар — рабіў цуд: пад яго рукамі верш ажываў новымі сотнямі, паэт рабіўся шматтысячны, кабісці ў мільёны. Цяпер твор мог ратавацца ад няпамяці, забыцця.

Бо тут, на самым неспакойным гасцінцы Еўропы, заўсёды хадзілі войны, пажары. Шматмільённы народ з самабытнай культурай амаль не змог перадаць дзецям сваіх выдатных твораў у дойлідстве, у малярстве — у тых мастацтвах, дзе творы жывуць толькі ў арыгіналах і дзе кожны другі адбітак ужо не твор, а копія. Ды нават у літаратуры, мастацтва якой не баіцца множання, з сотняў, тысячаў адбіткаў толькі адзінкам і то нялёгка было дайсці да сучасных дзён. Гісторыя краю цалела часта хіба што за краем, у Маскве, у Кракаве, за тысячы кіламетраў ад дому, а то зусім за паўсветам — у Італіі, Швецыі, у бібліятэках Лондана, Берліна, Парыжа.

У іншых краінах народная памяць аставалася ў камені, дрэве, на паперы: яе баяліся даручаць чалавечай памяці, якая немінуча памірае па частках, з кожным пакаленнем, а тут, у Беларусі, толькі яна і аставалася амаль адзінай хавальніцай, бо спальваліся папера, дрэва, камень. Хто пералічыць тыя вогнішчы XVI, XVII, XVIII, XIX стагоддзяў, на якіх гарэлі нашы старыя кірыліцкія кнігі і рукапісы! І не дзіва, што памяць народа бяднела, мізарнела часам да памяці аднаго пакалення. Сусветная слава — слуцкія паясы паліліся, каб здабыць з іх золата, серабро.

Гісторыю народа калечылі, нявечылі, руйнавалі і адбіралі. Езуіты прыходзілі ў край, каб будаваць школы, у якіх навучалі дзяцей забываць бацькоў:

Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

Максім Багдановіч марыць скласці буквар. Родная школа... Вечны, несуняты боль. Праз дваццаць гадоў пасля, у Заходняй Беларусі, Валянцін Таўлай засумуе тым жа багдановічаўскім сумам аб беларускім буквары:

Будзе Купала вучыць на печы
Дзетак без роднае школы...

Нечуваны здзек — сацыяльны і нацыянальны — трываў гэты народ. Яго не толькі прыгняталі, а горш — бо прыгнёт параджае пратэст, — яго адмаўлялі, кідаючы ў самыя яго глыбіні цяжкую здраду нявер’я. І хоць у забароненай бацькаўшчыне прыходзілася толькі марыць аб родным дзяржаўным

слове, Максім Багдановіч пісаў. Праз гушчыню нявер'я з глыбіні стагоддзяў глядзелі на яго мудрыя вочы Дантэ, які таксама некалі адважыўся адкінуць латынь і прамовіць на матчынай мове, па-італьянску, гучна, на ўвесь свет, абуджаючы «мужыцкія» мовы ўсяе Еўропы — французскую, іспанскую, нямецкую, англійскую... Яшчэ цэлыя стагоддзі будуць хапацца ўлады і дагматыкі-духоўнікі за інтэрнацыяналізм латыні. Яшчэ і ў XVI веку і пазней будуць складацца на ёй доўгія, псеўдаэпічныя «Іліяды». Але шэдэўры будуць ствараца толькі на народных мовах.

Максім Багдановіч адзін з першых сярод новай беларускай інтэлігенцыі свядома жыў абуджэннем народа, быў у клопаце аб яго нацыянальнай памяці. І хоць пісаць яму — ён ведаў — усяго колькі год, але задумваў шырока, на гады, на ўсю бацькаўшчыну. Чысты і беласнежны быў яго подзвіг на карысць краю.

Ён ведаў многія еўрапейскія мовы — і паэты з розных зямель і з розных стагоддзяў далучаліся праз яго да гэтай тутэйшай мовы і прыходзілі ў край, каб будзіць народ, і гаварылі з ім па-беларуску не цураючыся. І міжволі, як бы самі сабою, адпадалі парослыя векавым мохам нагаворы аб нашай мове. І мова наша станавілася роўнай, не горшай за іншыя «міжнародныя» мовы — на ёй таксама не саромеліся гаварыць цяпер паэты розных нацыянальнасцей. І як шчыра гучала беларускае слова, сагрэтае натхненнем двух паэтаў — замежнага і беларускага!

Ён першым грунтоўна закладваў асновы беларускай крытыкі. Ведаў — беларускі паэт, мабыць, больш, чым іншы, не мае права на слабыя вершы. Бо ім трэба выжыць, бо ім трэба такое вынесці!.. Па гэтым вершы будуць меркаваць аб тваім народзе. Тут кожны добры твор як падмога народу, як упэўненасць у таленавітасці, а кожны слабы — не проста твая няўдача, а можа і кампраметацыя вялікай народнай справы. Бо ён будзе брацца ліхімі людзьмі ў сведкі, як няздатнасць твайго народа, як непрыдатнасць твае мовы да высокай літаратуры. «Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей сэрцы цвёрдыя, быццам з камення... Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш...»

Наша літаратура — гэта літаратура, у якой астаюцца творы, а няма падчас аўтараў. Ананімныя паэмы... Або — калі ад вялікага таленту даходзіць адзіны твор — «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». Толькі мо багатыя літаратуры могуць дазволіць сабе раскошу і на слабыя творы.

Ён быў умелы майстар верша — і перад чытачом упершыню разгарнуліся беларускія папірусы пентаметраў і ярка зазвінелі не чутыя раней на гэтай мове беларускія тэрцыны, трыялеты, актавы...

Ён ведаў, што такое мінуўшчына для народаў, якія выходзяць на шлях самаўсведамлення, ведаў, што значыць даць народу глыбей адчуць, што мы, народ, тут, на гэтай зямлі, не ад учора...

Бо калі і яго сэрца агортваў жах за родную краіну, за яе жыццё на зямлі, веру яму давала гісторыя. І ён у думках, разгарачаных 38-градусным сухотным агнём, ішоў туды, дзе несліся ваякі мінуўшчыны, — на пярэдні край барацьбы. Ён глядзеў у мінулае, а бачыў будучыню.

> А **за** вамі, **прад** вамі — гады...

Ён адчуваў сябе жывым лучвом гэтых мінулай і заўтрашніх эпох, жыў адказнасцю гэтага моманту ў жыцці краіны. «Бо што не возьмеце сягоння, таго і заўтра вам не ўзяць!» (Купала).

> Маці родная, Маці-Краіна!
> Не усцішыцца гэтакі боль...
> Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
> За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Святы быў твой грэх, Вацлаў Ганка, калі ты, ратуючы свой народ ад анямечвання, ствараў у XIX стагоддзі «старажытначэшскія» летапісы. Ты не хлусіў перад гісторыяй: ён меў бы, народ твой, гэткія, а мо і лепшыя скарбы, калі б яму не перашкаджалі стварыць іх. Ты не хлусіў — і хай гісторыя абвінавачвае тых, хто прымушаў цябе лгаць, каб гаварыць праўду. У тваіх грудзях, Ганка, білася вялікае сэрца, ты не спакусіўся ганаровай магчымасцю зрабіцца з чэха немцам — прадстаўніком вялікай і высокакультурнай нацыі.

...А бацькаўшчына выязджае ў эміграцыю — амаль кожны шосты чалавек. Паэт чуў гэтую жудасную трагедыю:

> Не рассталіся б мы з нашым краем,
> Каб было дзеля нас у ім хлеба.
> І на вулцы пад грукат, пад гоман,

Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.
А тут, здавалася б,
Так многа ёсць паўсюль багацтва і красы,
А людзі нішчацца у голадзе, у зморы
Ад беднаты, ад цемнаты,
Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы.

Уставаў новы дзень. Сачылася зарывам паўстанняў і рэвалюцый XX стагоддзе. Заўтра абудзіцца Індыя. І насустрач гэтым дням, з тугою аб сапраўднай дружбе народаў піша паэт рэцэнзію на «Гітанджалі» Рабіндраната Тагора, перакладае «Паўстанне» Верхарна.

І яго паняволеная, шматпакутная бацькаўшчына, дзе ўсё, дзе кожны камень, здаецца, —

Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь! —

шукае будучыню. І трэба хутчэй вяртаць краю гісторыю, вяртаць загубленыя стагоддзі. Ён ведаў: мінулыя пакаленні толькі тады паміраюць у гісторыі, калі ў чалавецтва не астаецца іх памяці, іх мастацтва. Хай прыходзяць Матэйкі, але перш літаратура павінна брацца за гэта. І Багдановіч першы пачаў паэтычныя старонкі беларускай энцыклапедыі. Ён адзін з першых у нашай паэзіі нагадаў народу пра тую вялікую ролю, якую адыграў ён у сярэднявечча ў культурнай гісторыі ўсяго ўсходняга славянства. І ўставала «Старая Беларусь» з яго «Летапісцам», «Перапісчыкам», са Скарынаю, што ў доўгай вопратцы «на вежы сочыць зоры», з дзівоснымі «Слуцкімі ткачыхамі»...

Гісторыя гэтага краю была вартая гэтага народа. Яна сведчыла:

Мы, беларусы, не бясхатнікі ў гісторыі.

Яна заклікала: будзь тым, каго Беларусі нестае.

## І ТЧЭ, ЗАБЫЎШЫСЯ, РУКА...

Можа, ніводзін іншы твор Максіма Багдановіча не зліўся ў нашым уяўленні з вобразам самога паэта, як верш «Слуцкія ткачыхі». Тут кожны радок, здаецца, быў для паэта жывым, сваім болем. Гэта была і яго трагедыя — быць гэтаксама адарваным «ад родных ніў, ад роднай хаты», а сэрцам, вершамі жыць там, у родным краі, на бацькаўшчыне.

Кожны з нашых паэтаў, якія зачыналі новую беларускую літаратуру, быў жадзён друкаванаму роднаму слову. Яго, як і хлеба, заўжды нéставала. І пачыналі яны з вершаў на польскай, на рускай мовах, але змалку пры іх было жывое беларускае слова. А ў Багдановіча з дзяцінства не хапала і яго — малака матчынай мовы.

Як ірваўся ён у Пецярбург, ва універсітэт — на добры поклік акадэміка Шахматава! Як ён хацеў паспрыяць новай помаладзі тваёй, родная мова, як хацеў дакрануцца да пажаўцелых старонак тваіх старадрукаў! Чытаць прыбітыя адтуль, з далёкага жыццёвага акіяна, да сённяшняга берага весткі ад сваіх прадзедаў.

...Ў моры гдзесьці
Загінулі яны, і, можа, соткі год
З тых часаў працяклі, і згінуў іх народ,
І ўсё змянілася, і ўжо пра іх забылі.
Вы, літары, цяпер нанова ўсе збудзілі!
І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх, —
Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,
Каму маліліся, чаго яны шукалі,
Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі.

Не выпаў лёс... Хвароба... Цяжкія непаразуменні з бацькам. Замест роднае мовы — доўгія гады вывучэння юрыспрудэнцыі, да якой не гарнулася душа.

Беспрытульна, самотна было яму ў далёкім ад бацькаўшчыны горадзе, без сяброўскае ласкі і паразумення.

Замкнуўшыся ў маленькай бакоўцы, адгароджаны ад свету, марыў ён пра прышлае краю.

Сёння лінгвісты адзначаюць у творах паэта ўплыў гаворкі Магілёўшчыны. Адкуль ён — гэты дыялект — у паэта, які ніколі не быў на Магілёўшчыне, а гадаваўся далёка на Волзе? І разумееш: ты, слоўнік Насовіча, быў яго зялёным, мурожным кавалачкам Беларусі ў Ніжнім Ноўгарадзе, у Яраслаўлі.

Паэт, чыё імя яшчэ пры жыцці крытыка ставіла побач з імёнамі Купалы і Коласа, так і не ўмеў вымаўляць некаторых беларускіх гукаў — **дз**, **дж**, і дзіўна гучала ў ягоных вуснах: адра**дж**энне.

Але што ні рабіў бы — думкаю ён на бацькаўшчыне, там ён «днюе і начуе». Піша тэарэтычны нарыс пра санет, а здаецца, забыўся і пра санеты Дантэ, Шэкспіра, Міцкевіча і бачыў яе, беларускую народную песню, дзе ў пары ідзе прырода і чалавек,

адлюстроўваючыся кожным радком адно ў адным, і дзе прырода жыве такім жа цяжкім чалавечым лёсам.

І рука паэта выводзіла: «...пэўна напісаны санет, быццам арэх-спарыш, павінен хаваць пад адною скарлупай два асобныя, хоць і шчыльна сціснутыя між сабою ядры... Павэдлуг гэтага ў першых васьмі строчках развіваецца тэма санета, а ў астатнім — заключэнне да яе: ставіцца пытанне і даецца адказ; малюецца абразок і выкладаецца паясненне да яго». Гэта быў санет на ўзор беларускай песні, магчыма, вось гэтай, якая, здаецца, нясе ў сабе няўтольную, безвыходную скаргу на лёс нашага краю:

Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная?
Чаму ж ты няпоўная, з беражком няроўная?..

...Яму заўсёды летуценіўся васілёк. Ён чуў шэпт гэтай кветкі там, далёка ад родных загонаў:

Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае
Наш родны, забыты ў цяні васілёк.
«Здароў будзь, зямляча!» Чуць бачны ў даліне,
Панура, нявесела шэпча ён мне:
«Успамянем, мой дружа, ў багатай чужыне
Аб беднай, далёкай сваёй старане».

*(На чужыне, 1908)*

Ён увайшоў у яго творы яшчэ задоўга да лета 1911 года, калі паэт упершыню прыязджаў у Беларусь і цэлыя ночы, з вечара да раніцы, праводзіў у размовах у рэдакцыі «Нашае нівы», разглядаў старажытныя друкі, дзівіўся майстэрству слуцкіх ткачоў. Цяпер жа вобраз васілька, убачаны ва ўзоры пояса, назаўсёды астанецца ў Багдановіча як вобраз народнага мастацтва, як вобраз прыгажосці, якая абавязкова карысная людзям («Бо нашто каласы, калі няма васількоў», «Апокрыф»), як вобраз неўміручасці роднага краю:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бору…
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узору,
Цвяток радзімы васілька.

Нас мала абыходзіць сёння, што верш «Слуцкія ткачыхі» не зусім адпавядае гістарычным звесткам, аб чым гісторык беларускага мастацтва М. Шчакаціхін піша наступнае: «Вядомыя слуцкія тканіны, у тым ліку славутыя залаталітыя і шаўковыя слуцкія паясы, ніколі не выраблялiся, як гэта малюе Багдановіч, прыгоннымі сялянкамі ў панскім двары; для вырабу іх існавала ў Слуцку спецыяльная, досыць вялікая фабрыка (у 24 варштаты), заснаваная Міхалам Радзівілам у 1758 г. (зачынілася ў 1844 г.). Як сведчаць захаваныя ў Нясвіжскім архіве дакументы, ніякіх ткачых на гэтай фабрыцы не было, а працавалі там выключна мужчыны, пераважна мяшчане з Слуцка і Нясвіжа і часткова шляхціцы, што асобна зазначана ў спісе майстроў. Яны не былі прыгоннымі і працавалі за плату (гл. дакументы, апублікаваныя Ельскім: Wiadomość historyczna o pasiarni Radziwiłłowskiej w Slucku, w Krakowie. Nakładem Akademii umiejętności, 1894, стар. 9, 20—21, 22, 28—29).

Паэт, напэўна, несвядома адыходзіў ад фактаў, ён, відаць, не ведаў пра іх. Але невыпадкова ў яго ўяўленні слуцкія ткачыхі былі прыгоннымі. Бо былі яны — тысячы іншых, невядомых, нязнаных цяпер, забытых гісторыяй, якіх гвалтам забіралі ў панскі двор, і яны слеплі там за работаю. І пра іх напісаны гэты твор. Верш пра слуцкіх ткачых гучаў гімнам беларускай жанчыне, якая праз стагоддзі была хавальніцаю нашай мовы, звычаяў, культуры. «Паэзія філасафічней за гісторыю», — адзначаў Арыстоцель. Пазбаўлены прыватнай дакладнасці, верш «Слуцкія ткачыхі» як бы ўвабраў у сябе шматвяковую гісторыю нашага мастацтва, якое адрывалі так часта ад яго жывых каранёў, не давалі яму быць беларускім.

З першых радкоў непрымірыма сутыкнулася ў творы **роднае**, сваё, з чужым, **панскім**.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы...

Чуеш жывы боль развітання ў гэтым звароце яшчэ і яшчэ раз да слова «родны», якое,

абдаўшы шырынёю ніў, у астатні раз ажывае перад вачыма вобразам «роднай хаты», каб тут жа бязлітасна змяніцца на «панскі двор»... І як падкрэслена супрацьстаіць усяму «панскі двор» — выдзелены паўзай, метрычна ён як роўны, як падрадкоўе з падрадкоўямі, суадносіцца з «роднымі нівамі», «роднай хатай», ды і слова «родны» здаецца вывернутым навыварат у слове «двор» — настолькі моцнае, амаль поўнае гукавое супадзенне гэтых слоў. («Двор», падмацаваны прынацiскным **н** у слове «панскі», так і чытаецца як «р-о-д-ны» ў адваротным напрамку). Самі гукі загаварылі тут і звязалі тое, што не можа звязацца.

Тут адразу адчуваеш, як уваходзіш у напружанае эмацыянальнае поле паэзіі, дзе дзейнічаюць свае сілы прыцягнення і адштурхоўвання. Размежаванне «роднага» і «чужога», якое выступіла з першых радкоў, пройдзе далей праз увесь верш, арганізуе ўсю будову, расстаноўку сэнсава-эмацыянальных, рытмічных «сіл», апораў твора.

Кінем толькі агульны позірк на выстройванне гэтай пазіцыі. Чатыры страфы, якія ідуць перад заключнай, пятай, выразна падзяліліся на дзве роўныя часткі — па дзве страфы, сэнсава супрацьпаставіўшыся, канфліктуючы паміж сабою. У першай частцы перамагае «чужая» тэма. Яна праходзіць, адольваючы ўсё, што лучыць, вяжа з родным, сваім («дзявочыя забыўшы сны»). І як вынік гэтага — другая страфа канчаецца такімі радкамі:

Свае шырокія тканіны
**На лад персідскі ткуць яны, —**

дзе ў цэнтры ўвагі — ён, цяперашні пераможца — персідскі ўзор.

Другая частка верша звязваецца з папярэдняй (а па сутнасці разрываецца) праз супраціўны злучнік і новую тэму — «**А** за сцяной смяецца поле...» Думкі ткачых плывуць на волю. І як апафеоз роднай прыроды, тэмы роднага краю ўзнікае матыў васількоў. У так званай «апошняй аўтарскай рэдакцыі» чацвёртая страфа заканчваецца:

І ў зялёных хвалях збожжа
**Закрасавалі васількі.**

Тут бачым як бы першы паважны наступ роднае тэмы, якая ўжо зраўнялася ў сваёй моцы, адчула сваю перавагу над «чужой». Каб затым у пятай, заключнай страфе — як перамога — закрасаваў жывы **«цвяток радзімы васілька»** над мёртвым, персідскім (нават не кветкай, а проста абстрактным) узорам.

Гэта, зразумела, толькі асноўныя вузлы, толькі схема верша. А твор уплывае на чытача ўсім шматгалоссем сваіх інтэлектуальных, эмацыянальных матываў. У вершы заўсёды чуеш выключнае багацце сувязей, «перагукаў» слоў, радкоў, строф. І словы на вачах мяняюць свой настрой, яны то шэпчуць, то крычаць, праходзяць у радку — мяккія, цвёрдыя, сакавітыя, сухія, па-свойму паводзяць сябе ў сказе. Яны збягаюцца і разбягаюцца, дружаць і канфліктуюць. І не толькі праз свой адкрыты, «відавочны» сэнс, але і «патаемна» — праз метр, гук, паўзу. Гэта адразу адчуваеш, хоць не адразу ўсведамляеш — сувязі настолькі тонкія, зменлівыя, то ўзнікаюць, то знікаюць, што не заўсёды лёгка паддаюцца аналізу, яго «ўзважванню». Як казаў І. Р. Бэхер, «мы, вершы, тоім у сабе загадку». Але пакуль загадка існуе, жыве жаданне разгадаць яе. І таму з такой асалодай паглыбляешся ў верш, хоць тут жа як бы чуеш нараканне: «А ці думаў аб усім гэтым паэт? Ці не занадта вышукваем мы тое, чаго і няма ў вершы? Бо ці ўсё ўжо так мог прадумаць паэт?»

Зразумела, пры аналізе ўсё тое, што часта выспявае міжвольна, неўсвядомлена, можа здацца ўсвядомленым. Логіка аналізу кідае свой водсвет на верш, яна сама як бы ў першую чаргу шукае свае «аналітычнай» логікі твора. Але як далёка ад той «лагічнай высновы» верша да жывой плыні паэтычнай думкі, якая вызвоньвае ў радках і цалкам захоплівае цябе, і твор не проста чытаецца, а як бы сам нараджаецца ў табе.

Паглядзіце, як прытоена спачатку прыходзіць у першай страфе гэтае размежаванне «роднай» і «чужой» тэм — больш у адчуванні, чым у сэнсавых значэннях слоў. Сувязі між імі толькі зараджаюцца і тояцца больш у інтанацыйнай суаднесенасці. Выразна, адкрыта чуваць адно — туга па родным. «Панскі двор» сутыкнуўся, заканфліктаваў з «роднай хатай» інтанацыйна. Адкрытай, выразна асэнсаванай для чытача варожасці між імі яшчэ як бы не сталася. І толькі наступныя радкі пачынаюць выказваць гэта не толькі «між словамі», але і ў словах:

Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.

«У панскі двор... бяздольныя, узяты» — тут ужо гучыць думка пра гвалт, тым больш што слова «ўзяты» інтанацыйна ўзмацняецца як канцавое слова радка: у ім выразна відаць яго «залежны стан», у ім ажываюць як бы значэнні слоў таго ж сэнсу, але большай экспрэсіі — **забраны, захоплены**. «Варожая» тэма выступае варожа. Але ў той жа час у слове «ўзяты» прыглушана жыве і другое, «будзённае» значэнне — «узяты ткаць залатыя паясы». Па радку прабягаюць сполахі, водсветы трывожнай асацыяцыі, якія то ўзнікаюць, то знікаюць у свядомасці чытача. У адным слове свецяцца пачаргова як бы два словы, бо два розныя кантэксты асвятляюць, кідаюць святло на яго. Слова перастае быць проста словам «са слоўніка», у ім пачынае люстравацца, жыць сваімі супярэчнасцямі рэальны свет — вось гэты, дзе высокае мастацтва здабываецца так не па-чалавечы, гвалтам, прымусам.

І як чыста, вырываючыся сваім «лёгкім» гучаннем ад іншых, не так галосных радкоў, нібы ўспамін аб рыфме «дзеля **красы**», гонка разбегліся ўдалеч, галосячы гэтыя а-а-а-ы(й)а-а-(й)а-ы ў радку:

Ткаць залатыя паясы, —

як недасяглая мара забраных у двор — аб вольным, дзеля сапраўднай, чалавечай красы мастацтве...

Мы ўжо казалі, як арганічна развівае Максім Багдановіч свой твор. Верш сам прарастае ў нас, прарастае па арганічным законе — законе адзінства цэлага і яго частак. Вучоныя і мастакі неаднойчы біліся над сакрэтам выключнай арганічнасці частак і цэлага ў жывым свеце, над прыгажосцю іх прапорцыі. Адкрыты закон, які сцвярджае, што толькі падзел цэлага на такія дзве няроўныя часткі, пры якім большая частка адносіцца да меншай, як цэлае адносіцца да большай, — стварае тое адзінства, пры якім жывуць часткі і не рассыпаецца цэлае. Гэта — закон «залатога сячэння». Не можаш не здзівіцца таму выключнаму чуццю паэта, якое ставіць радок:

На лад персідскі ткуць яны, —

найбольш значны ў сэнсавым значэнні першай часткі, якраз у «залатое сячэнне» твора — найбольш важкае, найбольш «успрымальнае» для чытача — гэта восьмы радок дваццаціралковага верша. І што асабліва цікава: матыў васількоў у варыянце «Вянка» таксама прыпадае на другое «залатое сячэнне» — ужо ад канца верша. Як бачым, формула рога, загнутай ракавіны, формула, якой уражваюць нас лепшыя помнікі старажытнай Грэцыі і Рэнесансу, памастацку жыве ў «Слуцкіх ткачыхах». Гэты твор — вышэйшай, арганічнай будовы.

Але паслухаем далей верш. Як вольна, як бы вырваўшыся з-за сцен панскага палаца, імкнуць на волю радасныя думкі! Ізноў як працяг тэмы родных **загонаў**, «роднай хаты» ажывае ў думках **поле**:

А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бору...

Гэтыя строфы — трэцяя і чацвёртая — як бы вынесены на адзіным дыханні. Падхопленыя адным парывам захаплення, марай аб родных мясцінах, калі ўнутраны позірк як бы разгортвае перад вачыма ўсё новыя і новыя малюнкі, гэтыя строфы, звязаныя ў адзін разгорнуты складаны сказ, ад перапоўненасці пачуцця аж пераплёскваюцца цераз край — у пятую страфу.

І як дынамічна, упэўненым маршам — адзін у адзін — ідуць гэтыя радкі на фоне апавядальных, фабульных першай і другой строф. У іх рытме — падсвядома для нас — ужо чуваць хада перамогі. Хай яшчэ не наяве, але ўжо ў думках гэтых ткачых. І вось яны — васількі на родных сялянскіх загонах, ад якіх дзяўчаты навечна адарваны сягоння...

Прыгожа, раздольна разаслаўся ў марах пейзаж слуцкім поясам, зайграўшы ўсімі колерамі: прашумеўшы жытам, абдаўшы халодным срэбрам ракі, мільгнуўшы зубчастым арнаментам беларускага бору:

Дзе **блішча** збожжа ў яснай далі,
**Сінеюць** міла васількі,
Халодным **срэбрам** ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі...

І пры апошніх радках аб хвалях «ліючайся ракі», здаецца, пояс сам сплывае з рукі.

І вось — як заключны акорд верша — выхапленая з агульнага малюнка буйным планам рука, якая не здольна на здраду «і тчэ, забыўшыся». Цяпер ужо забыўшыся і на забарону роднага, сваіх дзявочых сноў — міжвольна і неадольна, бадай, як і ўсё наша мастацтва, праз нягоды стагоддзяў — тчэ ўзор свае бацькаўшчыны:

Замест персідскага узору
Цвяток радзімы васілька.

## ЦІ БЫЛА «АПОШНЯЯ АЎТАРСКАЯ РЭДАКЦЫЯ»?

Мы так звыкліся сустракаць іх побач — два варыянты — у рэдакцыі «Вянка» і «апошняй аўтарскай рэдакцыі», што ў нашым уяўленні «Слуцкія ткачыхі» пачынаюць замацоўвацца як два раўналежныя тэксты. Пачынаючы з 1927 года ўкладальнікі ўсіх аднатомнікаў выбраных твораў паэта даюць іх побач — у раздзеле «Вянка», і каб не подпісы «рэдакцыя «Вянка» пад адным і «апошняя аўтарская рэдакцыя» пад другім, можна было б падумаць, што гэтыя дзве рэдакцыі адразу змяшчаліся ў «Вянку».

І ўсё ж як бы схіляешся ў пашане перад укладальнікамі выдання Багдановічавых твораў у 1927—1928 гг. — яны імкнуліся захаваць волю аўтара і, відаць, таму не ў каментарыях, а побач з першай рэдакцыяй даюць і «апошнюю аўтарскую рэдакцыю», даюць чытачу як бы самому выбраць, які тэкст прыняць за «аўтэнтычны». Так і жывуць у нашым уяўленні два вершы: адзін — жывы, поўны агню, свежасці, непасрэднасці, і другі — больш адшліфаваны, апрацаваны... але і міжвольна папсаваны аўтарскай рукою. Што ж, гісторыя сусветнай літаратуры мае мноства такіх прыкладаў, калі аўтар сваёю рукою касаваў сваю славу.

Горш, вядома, тое, што другі варыянт, відаць, з павагі да таго, што ён — «апошняя аўтарская рэдакцыя», пачынае ў некаторых выданнях лічыцца адзінай і канчатковай рэдакцыяй (гл.: Л. І. Якуніна. «Слуцкія паясы». Выд. Акадэміі навук БССР, Мінск, 1960).

А між тым другая рэдакцыя — гэта радкі, адшуканыя на адным з адбіткаў «Вянка», на так званым «Вянку» № 2, які аўтар меўся падараваць свайму знаёмаму Агурцову, але чамусьці гэты экземпляр заставаўся ў паэта ў час яго знаходжання ў Ялце. Туды — дзе алоўкам, дзе чарнілам — уносіў Максім Багдановіч свае папраўкі. **Між іншым, у гэтым жа экземпляры рукою паэта закрэслена пятнаццаць вершаў, сярод якіх «Прывет табе, жыццё на волі», «Не кувай ты, шэрая зязюля», «Раманс» («Зорка Венера…») і іншыя.**

**Вось што сведчыць пра другі варыянт «Слуцкіх ткачых» у каментарыях да першага тома рэдакцыйная камісія: «У другой рэдакцыі... даецца раўналежны тэкст, устаноўлены Літаратурнай камісіяй на падставе аўтарскіх паправак у экземпляры «Вянка» № 2»** (падкрэслена мною. — **Ан. К.**). І далей рэдакцыяй агаворваюцца «варыянты экземпляра № 2 (апроч уведзеных у тэкст выдання):

14 Ужо сінеюць васількі...
20 Там луг, як быццам з аксаміта».

Як бачым, рэдакцыйная камісія сама «сабрала», сама прычынілася да «апошняй аўтарскай рэдакцыі», а каторыя радкі не ўлічыла, агаварыла спецыяльна ў каментарыях. Вядома, усе гэтыя праўкі нам дарагія, як кожнае слова Багдановічавай спадчыны, але яны — сведчанне толькі таго, што для паэта праца над творам не скончылася. Верш пісаўся, былі новыя праўкі, але не было канчатковага, напісанага начыста рукапісу, канчатковага тэксту — не было «апошняй аўтарскай рэдакцыі».

**Мы ўдзячны камісіі за яе паважную працу над выданнем, за тое, што ў яе не загубіўся ніводзін паэтаў радок, што мы сёння можам нават дзе з чым і не пагадзіцца з ёю на падставе яе ж сведчанняў — яна агаварыла ўсе свае меркаванні і не ўтаіла перад пакаленнямі, як абыходзілася з тэкстамі. Сёння, калі пасля вайны мы асталіся без многіх рукапісаў Максіма Багдановіча, адчуваеш асаблівае значэнне гэтага выдання, якое сталася для нас і поўным зборам твораў, і своеасаблівым рукапісным фондам паэта.**

**Калі б Максім Багдановіч дажыў да 1928 года, ён мог бы сказаць: я не самотны, я маю першае навуковае выданне пад рэдакцыяй прафесара І. І. Замоціна. Гэты двухтомнік і па сённяшні дзень астаецца ўзорам для нашых акадэмічных выданняў.**

**Камісія выдання 1927—1928 гг. адзначае, што папраўкі ў творы звычайна «ўводзіліся... толькі ў тых выпадках, калі давалі ўзоры больш дасканалага тэксту і лексікі, якая болей адпавядае сучаснай літаратурнай мове». Аднак з вершам «Слуцкія ткачыхі» было складаней. Камісія, відаць, адчувала, што ўносіць праўкі ў тэкст, які ўжо знайшоў сваіх прыхільнікаў сярод тысяч чытачоў, не вельмі проста. І за лепшае палічыла даць гэтыя папраўкі як асобны варыянт. Шкада і недаравальна для такога аўтарытэтнага выдання, што тэкст быў вызначаны як «апошняя аўтарская рэдакцыя» і змешчаны не ў каментарыях, а побач з «рэдакцыяй «Вянка». А між тым ён не вытрымліваў з ёю параўнання.**

Ім не пабачыць роднай хаты,
Не ўчуць ім дзетак галасы.

Даволі параўнаць гэтыя радкі з пачаткам першай рэдакцыі:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы, —

каб адчуць, што пісаў паэт, а правіў празаік. Адзін смела давяраўся паэтычнаму слову, яго здольнасці гаварыць яшчэ і «між слоў», інтанацыяй — метрам, гукам, паўзай; другі баяўся здацца незразумелым і выразна, самім сэнсам слоў стараўся паказаць гэтую нядолю паднявольнай працы, калі не апісаць, то хоць назваць яе. У першапачатковых радках ужо ў самім гучанні, у суаднесенасці іх жыла трагедыя, і ў гэтай трагедыі чытач міжволі вычытваў і трагедыю гэтых дзяўчат, якія ніколі не стануць ужо мацеркамі, і шмат іншых трагедый — не менш жахлівых сваёю нялюдскасцю, пра якія чытач чуў ужо неаднойчы. Правячы, аўтар як бы не заўважаў, што ў яго вершы было тое, што ён намагаўся ўставіць сваёю праўкаю, і было — нават больш, было ва ўяўленні чытача, бо кожны чытач сам яшчэ «дапісвае» напісаны аўтарам твор. А паэт забываў на гэта, ён канкрэтызаваў, і гэта канкрэтызацыя падчас была толькі звужэннем, збядненнем паэзіі.

Яму таксама, відаць, здаўся няпэўным радок «дзявочыя забыўшы сны», і каб удакладніць яго, ён правіў: «Аб шчасці ўжо забыўшы сны». І зноў знікала паэзія, бо **дзявочыя** тут было не проста азначэннем узросту, а і вобразам маладосці, якая з чысцінёю ўсіх парыванняў выходзіць насустрач будучыні. А гэта ж была маладосць, якую вымушалі забыцца, што яна маладосць...

Як бачым, праўка рабіла не тое.

**Там так вясёла і прыгожа:**
**Зіяюць срэбрам ручайкі,**
**І у зялёных хвалях збожжа**
**Закрасавалі васількі, —**

перапісвае паэт цудоўную страфу, ставячы «Закрасавалі васількі» ў канцы чацвёртай страфы, як бы «падбіваючы» яе — відаць, для больш выразнага **кампазіцыйнага** супастаўлення — з «персідскім узорам» другой страфы. Але праўка, бадай, ці вымагалася, бо і ў першым варыянце, хоць васількі — і не ў заключным радку, яны вылучаюцца ў страфе, яны ў цэнтры нашай увагі. Праўда, добра, што ў новым варыянце няма «ліючайся». Але нават гэтае «ліючайся» — не характэрная для нашай мовы «дзеяслоўная прыкмета цяперашняга часу, утвораная на ўзор расійскай мовы», як гаворыцца ў каментарыях выдання 1927—1928 гг., — у гэтым вершы мае сёння для нас свой каларыт як напамінак аб няпростых шляхах нашае новае літаратурнае мовы.

**Толькі з чым ніяк не можаш згадзіцца — гэта новыя радкі ў паказе малюнка «там за сцяной»:**

Шуміць чарэмха ля вакна,

а таксама

Там ціхі бор шуміць сувора... —

радкі, у якіх прырода толькі і астаецца прыродай і ніяк не пераклікаецца з самім сэнсам верша — з гэтым слуцкім узорам. Прыгадайце, як тонка пададзена апісанне прыроды ў рэдакцыі «Вянка» (нават пры некаторай умоўнасці паасобных радкоў, такіх, як, напрыклад, «смяецца поле»). Там ужо ў саміх калёрах прыроды — у бляску збожжа, у срэбным зіхаценні ракі, у цёмным абрысе зубчастага бору — яшчэ да таго, як будзе ткацца ўзор, выступае бляск, серабрыстае зіхаценне слуцкага пояса, зубчасты, геаметрычны арнамент яго. У новых праўках «Шуміць чарэмха ля вакна» або «Там ціхі бор шуміць сувора» такой сувязі ўжо не

было. Гэтыя радкі забыліся на недатыкальнасць натхнення, якое часта ў працэсе творчасці ведае больш за аўтара. І блякла яркая захопленасць паэтычнага малюнка, тое аж перапоўненае фарбамі, жывымі ўражаннямі перажыванне роднай прыроды і цудоўнага мастацтва слуцкага пояса, дзе адно адсвечвалася ў другім і дзе ў прыродзе ўжо ўзнікаў узор пояса, а ва ўзоры чыталася беларуская прырода.

У эпістале да Вацлава Ластоўскага, аднаго з вельмі блізкіх яму супрацоўнікаў «Нашай нівы», які, дарэчы, быў «хросным бацькам» яго зборніка, даўшы назву «Вянок», Максім Багдановіч, разважаючы над тэмаю руплівай працы і натхнення, прыгадваў пушкінскія драмы:

Здаецца мне, што тут
Сальеры атрымаў несправядлівы суд.

Халодным розумам праняўшыся, натхненне
Ён мусіў тым губіць — так кажа абвіненне.
Сальеры ў творчасці усё хацеў паняць,
Ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць,
Абдумаць спосабы, і матар'ял, і мэту,
І горача любіў сваю свядомасць гэту.
У творчасці яго раптоўнага няма:
Аснова да яе — спакойная дума.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Таксама робіш ты, дума, і у паэта
Краснейшым кожын твор.
Прывет табе за гэта!

Яно, відаць-такі, рызыкоўнае было, такое сцвярджэнне. Праўкі Максіма Багдановіча «Слуцкіх ткачых» прымушаюць задумацца над гэтым. Можна пагадзіцца: аналіз, «дума» над творам — добрыя дарадчыкі ў працы. Але пісаць, правіць... Правіць ранейшае натхненне можа сваёю рукою зноў-такі толькі натхненне. Алгебрай не ствараецца гармонія...

І першая рэдакцыя, з якой увайшлі ў шырокую народную свядомасць «Слуцкія ткачыхі» — рэдакцыя «Вянка», — для нас астаецца ўзорам самага высокага натхнення паэта.

У Багдановічавым «Вянку», пакінутым бацькаўшчыне, яна будзе заўсёды жывым запаветам самаахвярнага служэння краю, гэтая сведка гаротных палёў — «цвяток радзімы васілька».

***P. S. Шаснаццатага красавіка гэтага года Анатоль Канстанцінавіч Клышка адзначыў сваё сямідзесяціпяцігоддзе. Ледзь не столькі ж разоў перавыдаваліся яго «Буквар», «Пропісы да «Буквара», «Пропісы для 1 класа», дапаможнік для 1 класа «Верасок» і інш. Маленькія чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца і з кніжкамі Анатоля Клышкі, якія пісаліся для дзяцей: «У лясах Белавежы», «Самая лепшая хатка», «Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга»…***

***Слынны пісьменнік пераклаў на беларускую мову Новы Запавет. Ён уганараваны медалём Францыска Скарыны і іншымі ўзнагародамі, ягоныя «Буквары» ледзь не штогод атрымліваюць прэміі як лепшыя выданні.***

***Рэдакцыя «Маладосці» сардэчна віншуе шаноўнага Анатоля Канстанцінавіча Клышку з высокім юбілеем, жадае далейшага творчага плёну і здароўя.***

*МАЛАДОСЦЕЎЦЫ*






Валянціна ЛОКУН

# МАЛІТВА, ЗВЕРНУТАЯ ДА ЛЮДЗЕЙ

Далёка не кожны, хто возьме ў рукі зборнік «Малітва да Калымы», адразу здагадаецца, хто стаіць за імем Лесі Беларускі. А між тым гісторыя «народзін» кніжкі мае сваю інтрыгу.

Але найперш — пра Лесю Беларуску.

Упершыню імя гэтай беларускай паэтэсы з’явілася ў друку ў 1997 годзе, калі часопіс «Полымя» (№ 2) змясціў яе нізку вершаў «Малітва да Калымы». Да гэтай публікацыі спрычыніліся тры чалавекі: Валянціна Коўтун, Ала Канапелька і ўкраінскі паэт Васіль Малагуша. А калі больш дакладна, то ідэя Лесі Беларускі належыць Васілю Малагушу, бо менавіта ён, былы вязень лагера «Эльген», распавядаў аб тым, што сустракаўся на Калыме з беларускай паэткай Ларысай Марозавай — ураджэнкай Маладзечна. Праўда, ніякага пісьмовага сведчання аб спадчыне паэткі ў яго не было. Ды і быць не магло, бо ГУЛАГ зусім не спрыяў захаванню такой спадчыны. Больш таго, і ў архівах КДБ, і ў царкоўных метрычных кнігах Маладзечанскага раёна імя Ларысы Марозавай увогуле адсутнічае.

Па словах Васіля Малагушы, Ала Канапелька напісала тады біяграфію беларускай «калымчанкі». А вершы былі створаны талентам і сілаю творчага ўяўлення Валянціны Коўтун. Апошняя настолькі глыбока «ўвайшла» ў вобраз далёкай паэткі, унікла ў акалічнасці жыцця, псіхалагічную атмасферу тых трагічных 30-х, што здолела спасцігнуць і філасофію гэтага жыцця, яго ідэю. Працэсу ўзаемапранікнення дзвюх крэатыўных асоб паспрыяла і тое, што сярэдзіна 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў плане маральным, псіхалагічным была не менш складанай, чым 30—40-я: свет расколваўся на часткі, руйнаваліся ранейшыя і, здавалася, непарушныя законы жыцця. Абвастрылася супрацьстаянне дабра і зла, святла і цемры. Да ўсяго, Валянціна Коўтун трапіла тады ў аварыю і ледзь не загінула. Яна была ў шокавым стане. Як і акаляючы яе свет.

Такім чынам, тэксты Валянціны Коўтун былі прадвызначаны самімі працэсамі жыцця — сацыяльнымі і асабістымі, працэсамі нацыянальнага самавызначэння і аўтарскім творчым патэнцыялам. Духоўнае збліжэнне Валянціны Коўтун з Паэтам трагічнага часу было непазбежным. Як і спасціжэнне бунтоўнага, нязломнага духу.

І вось цяпер, праз 12 гадоў, Валянціна Коўтун зноў вырашыла звярнуцца да тэмы Лесі Беларускі. У выдавецтве «Лімарыус» выйшаў яе зборнік вершаў «Малітва да Калымы» пад псеўданімам Леся Беларуска. Эпіграфам да зборніка яна ўзяла словы Васіля Быкава, якія ён напісаў ва ўступе да хронікі часоў культу асобы Яўгеніі Гінзбург «Круты маршрут»: *«...гэта — поўнае болю рэха нашага нядаўняга мінулага, якое, тым не меней, не можа не адклікнуцца ў чалавечай душы напаўзабытым страхам і ўздрыганнем»*. Гэтыя словы з’яўляюцца лейтматывам зборніка.

*«Я цалкам растварылася ў вобразе Лесі»*, — скажа Валяціна Коўтун. Увогуле ж, як сведчаць апошнія дыскусіі, канкрэтнай Лесі ніколі не было. Гэта — літаратурная містыфікацыя. Валянціна Коўтун дапускае, што Васіль Малагуша сапраўды сустракаў на Калыме таленавітую і прыгожую дзяў-

чыну з Беларусі. Нават не адну. І ў яго свядомасці з цягам часу выкрышталізаваўся калектыўны, ці абагулены, вобраз Лесі Беларускі. Менавіта так і ўспрымае Лесю пісьменніца ў сваёй кнізе «Малітва да Калымы».

Аб шматаблічнасці вобраза Лесі сведчыць шырыня і разнастайнасць геаграфічнай прасторы: Магадан, «Перасылка», 1939; «Бухта Нагаева», 1938; лагер «Эльген», 1942; «Новая Цёплая Даліна»; Магадан, 1938; бальніца «Левы Бераг», 1944; лагер «Эльген», 1948; «Мылга», 1939; «Таскань», 1946 і г. д. Больш таго, праз вобраз Лесі Беларускі Валянціна Коўтун уздымаецца да больш глыбокіх абагульненняў. Асноўны хранатоп зборніка — пачуцці Паэта ва ўмовах несвабоды.

Гераіня Валянціны Коўтун праходзіць скрозь бытавую сферу як чалавек іншага свету, як асоба, асвечаная горнім духам, святлом духоўным.

Разуменне драмы жыцця прыйшло да гераіні не адразу, спачатку яна думала, што свет *«цудоўны і багаты», «я думала, свет дабрыні... Ён вечны»*, таму і будавала сваю *«светлую вясну»* ці вясну маладосці, дзе *«слаўна пела», «крывавае тады здалося белым, і цішынёй — трывожных сноў набаты»*. Але лёс у асобе дзяржавы неўзабаве ўсё парушыў, зыначыў, запанаваў свет цемры, татальнага зла: *«на зямным абледзянелым шары — маразы. Баракі». «маразы», «баракі»* — гэта не проста вобразы-адчуванні, гэта сімвалы антыжыцця.

З аднаго боку, Леся — заступніца ўсіх прыніжаных, бяспраўных, выгнаных з роднай зямлі. Яна малітоўна звяртаецца да зямлі калымскай, такой жа зняважанай і абяздоленай, як і яе насельнікі, са словамі аб ратаванні:

*Тут — ні хлябоў, ні любві...*
*не пагубі, не ўмярцві!*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Матухна — Калыма,*
*голадам не замары!*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Матухна, абарані.*

Паводле Валянціны Коўтун, ранейшы Космас вызначаўся гарманічным зліццём зямлі і неба, неба і чалавека. Нават зоркі былі братамі і сёстрамі людзей. Але цяпер парушылася сувязь паміж чалавекам і Космасам. Парушыліся сувязі паміж людзьмі, знікла дабрыня ў свеце:

*Я думала, свет дабрыні... Ён вечны.*
*Але дайсці ўжо не магу да толку,*
*чаму стаў грубым ён, бесчалавечным?*
*Не брату — брат ужо, а воўк тут — воўку.*

Прырода таксама страціла сваю гармонію. Яна стала ахвярай цывілізацыі, соцыуму, яна ўцягнена ў сферу ўсечалавечай бяды. *«Стынуць, падаюць дрэвы, бядуючы. // Ліпкім болем крывяніць смала».*

Гераіня поўніцца апакаліпсічным прадчуваннем: над усім светам *«разышлася пурга. // Крышыць межы і лёд. // Рве нябёсы на шматы з размаху».*

Час напластоўваецца на час, узнікае ідэя несупыннага руху жыцця, касмічнага руху, у цэнтры якога стаіць трагічнае процістаянне святла і цемры.

*«...На адным з бакоў спрадвечнай барыкады чалавечага існавання — носьбіты Слова Божага і веры. На другім — чырвоныя зоркі і свастыкі»*, — адзначыць пісьменніца ў прадмове да зборніка.

*Пад метраном сусветных катастроф*
*ідуць народы пад лязо эпох.*
*Усё паўтараецца...*
*Жніво даспела зноў*
*і з кожна коласа*
*ў космас льецца кроў...*

Жніво, колас і — кроў — найглыбокая метафара быційнага плана, дзе процістаяць два пачаткі — стваральны і разбуральны. Гэтыя два пачаткі можна назваць субстанцыянальнымі.

*Бяда агульная. Яна ўсіх кранулася.*
*Планета сутаргава крушыць рубяжы...*
*Зямлі баліць. І неба скаланулася*
*ад вераломства, подласці, ілжы.*

Узнікае адчуванне «ўкрыжавання» ўсяго свету.

Гісторыя чалавецтва — ад пачатку трагічная. Хоць у гэтым трагізме, дакладней, праз яго, яна і набыла велічнасць.

*Мой свет...*
*Яго чарнілі.*
*Рабавалі. Гналі...*
*На плаху.*
*Наразброд.*
*На Калыму.*
*Аднак жа вышыню яго прызналі.*

Катэгорыя зла ў тэкстах пісьменніцы не мае сваёй персаніфікацыі. Яно без часу і геаграфіі, гэта безаблічна глабальнае, абагульненае

зло: *«Вінаваты — у кіцелі цень...»*, ці — як антытэза: *«альбо — вы, што не зналі свабоды»*.

Гераіня Валянціны Коўтун нібыта ўпітала ў сябе ўвесь боль зямны: *«Як баліць мне... // О, як мне балюча! //І нікому той боль не суняць»*. Яе існаванне — гэта ланцуг бясконцых выпрабаванняў. Яна паміж вечных снягоў Калымы «*ў тунэлі з людзьмі... канала», «ў крэп чарнаты»* яе спавівалі. Але нават у свеце татальнага зла яна верыла, што *«выстаіць у журбе скразной няверы»*.

Валянціна Коўтун параўноўвае Паэта з Праметэем: *«Дзесяты год я тут, у льдах, закута. // ...Як Праметэй //Ды веру, што мяне Гефест пазбавіць. // Скончыцца пакута»*.

Гераіня жыве памкненнем да волі ўласнай, бо *«мацней жалеза — вольны чалавек!»* і волі агульначалавечай: *«Да братэрства ўсіх народаў я імкнуся»*.

Яна жыве мэтай-спадзяваннем, *«каб зарою світальнаю //Воля ўзышла... над адзінствам людзей. // І — народаў»*. Узорам адзінства ўсіх *«людзей і народаў»* уяўляецца ёй родная Беларусь.

У зборніку выразна акрэслены два хранатопныя вобразы, вобразы-канцэпты — Паэта і Радзімы. Яны то прыпадабняюцца адзін аднаму: *«Беларусь, мы з табою адзіны: // па дыханні і твары // нас можна пазнаць»*, то зліваюцца ў адно цэлае: *«Я — часцінка цывілізацыі //ад Полацка і да Брэста»*, то атаясамліваюцца: *«Я ж — Беларусь»*. Радзіма персаніфікуецца ў вобразе матулі, з якой паэтка зноў-такі паядноўваецца: *«Мяне саграеш // ты, матуленька... ты, Беларуся. //Па шчацэ ў мяне — льюцца слёзы яе. //А слязінкі мае па шчацэ — у яе»*. Гэтае прачуленае *«матуленька... Беларуся»* ўносіць у стылёвую парадыгму верша асаблівую шчымлівасць, пэўны сентыментальны настрой. У зусім іншым ключы вырашаецца тэма Паэта і Радзімы ў вершы «Прысягаю». Тут пануе іншая стылістыка, іншая эмацыянальная стыхія, іншая моўная энергія:

*Прысягаю роднаму краю,*
*годнасці дачкі Яго —*
*клянуся...*
*Паміраю.*
*Ціха паміраю.*
*Паміраю...*
*Толькі не здаюся!*

Паэт у Валянціны Коўтун — асоба не толькі сакральна трагічная. Ён бессмяротны. Менавіта праз веру ў сваё бяссмерце. Для яго не існуе смерці, нават страху смерці няма: *«...і труна падасца лёгкаю калыскай»*. Смерць ёсць усяго толькі вызваленне ад жыцця зямнога. Высокі дух Паэта зліваецца з духам Космасу, каб пасля растварыцца ў рацэ памяці — бясконцай у часе.

*Адыходжу я з усмешкай — у манады.*
*І якая б ні была ў Айчыне ўлада,*
*хай прызнае тая будучыня ў скрусе:*
*...наша Леся адыходзіла ў манады,*
*ворагам сказаўшы: «Не здаюся!»*

Трэба сказаць, што якраз тады, у сярэдзіне 90-х, Валянціна Коўтун прыйшла да Бога, хрысціянскай рэлігіі. І гэта пэўным чынам паўплывала на вырашэнне вобраза Паэта. Яна параўноўвае Паэта з самім Месіяй:

*Цвік забівае хтосьці ў ногі мне...*
*І ў галаву... І выцягнуць не можа*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Мы ўсе ў цвіках наскрозь —*
*і я, і строфы!*

Вось гэтае *«і я, і строфы»* значна ўздымае ролю Паэта і яго Слова ў развіцці грамадства. Аўтарка гэтыя паняцці адухаўляе. Яны становяцца ўжо катэгорыямі філасофскага плана.

З другога ж боку, Паэт — прадстаўнік свайго народа. Лёс народа — і яго лёс.

*Укрыжаваны лёс людзей спакон.*
*І ўся тайга —*
*Як грозная Галгофа.*

Сімвалічным тут падаецца вобраз тайгі. Гэта метафара жыццёвай прасторы чалавека, якому наканавана заўсёднае выпрабаванне-ўзыходжанне.

Матыў святасці, ідэя заступніцтва ўвасоблены ў вобразе Еўфрасінні Полацкай. Вобраз паэткі аўтарка ставіць поруч з вялікай Святой: *«Нас — дзве сястры. // Адна на Калыме. // Другая — у Ерусаліме»*. Гераіня хоча раўняцца на святую Заступніцу, быць такой, як яна: *«Ты мураваныя апекавала храмы... // Я ж душы тут, як храмы, берагу»*. Яна звяртаецца да Святой са словамі малітвы: *«Здымі ж укрыжаванне ўсіх нас, Маці. // І — адагрэй. // О Найсвяцейшая...»*

Але гендэрная тэма на гэтым не заканчваецца. Пісьменніца і тут імкнецца да абагульнення. Праўда, тут чуецца голас найперш жанчыны ўжо XXI стагоддзя: *«Не на кітах Зямля, — а на жанчынах... // На нас спакон трымаецца Зямля!»* А неўзабаве ад гэтага «свецка-матэрыялістычнага» яна пераходзіць да абсалютнага, сакральнага:

*«Невыпадкова на іконе — Маці Божая, //як бессмяротнасць з Дзіцем на руках».*

Трагедыя чалавецтва ў тым, што яно адышло ад Бога, ад ягоных законаў. Яно забылася аб галоўным — зло нельга вынішчыць злом, дабрыня не ўсталёўваецца праз насілле і кроў:

*Пакуль сякера ўсюды скача,*
*Заступніца пацішу плача*
*На цвердзь зямную ў час пагрозы*
*гарачыя раняе слёзы.*

Адсюль і задача Паэта, дакладней, жанчыны-Паэткі, *«пакутніцы, дачкі дабра ў вяках»*, — самаахвярна, самаахвярна несці зняверанаму чалавецтву прасвятленне, вяртаць страчаную веру.

*Як свечкі, мы згараем для айчыны.*
*Святога Духа ў імя!*
*Айца!*
*І — Сына...*

Магчыма, некаму можа здацца, што Валянціна Коўтун часам злоўжывае публіцыстычнымі фарбамі. Толькі ж гэта натуральна, калі ўлічыць, чыімі вачыма глядзіць на свет аўтарка. Дакладней, вымушае сябе глядзець. Але побач з Лесяй Беларускай існуе, як бы мовіць, і Коўтун *«у чыстым»* выглядзе. Маем на ўвазе філасофію тэкстаў, светаадчуванне аўтара, якое больш адпавядае XXI стагоддзю.

Метафарызацыя вобразаў, шырокае ўжыванне сімволікі — таксама з арсенала менавіта сучаснай літаратуры. Таму мастацкія дыскурсы Валянціны Коўтун я б назвала хутчэй філасофска-публіцыстычнымі рэфлексіямі. Паэтка намагаецца даць народу адчуванне свайго быцця. У кнізе суіснуюць розныя па жанравай форме тэксты — ад шчымліва-пачуццёвых і патэтычных да вершаў-метафар, вершаў-сімвалаў, вершаў-абагульненняў. Апошнія выразна дамінуюць. Выяўленае праз вобраз-метафару, лірычнае пачуццё ўспрымаецца як інтэлектуальна асэнсаванае.

Але ж найперш паэтычны дыскурс у мастацкай канцэпцыі Валянціны Коўтун прасякаецца глыбокай думкай-ідэяй, думкай-канцэпцыяй, думкай-светаадчуваннем.

*Ноч сумёты высокія лепіць.*
*З гора ноч звар'яцела сама.*
*Усюды сумёты...*
*А бачацца — склепы.*
*Чорным крэпам злятае пацьма.*
*Над баракам уснежаны еецер.*
*Будзіць горкую памяць паўстаць.*
*Нібы плачуць галодныя дзеці,*
*нібы сіраты плачуць, не спяць.*

Аўтарка стварае шматвектарнае адлюстраванне, у якім закладзена ідэя свету як драмы быцця. Ключавымі словамі тут можна назваць *«ноч»*, *«сумёты»* і *«склепы»,* (цікавая мастацкая знаходка: *сумёты як склепы),* а таксама вызначэнні *«ўснежаны вецер»*, *«горкая памяць»*, *«галодныя дзеці».* Складваецца метафарычны малюнак найглыбокага трагічнага зместу — антысвету.

Як вядома, у рамантычнай мастацкай сістэме выключнае месца займалі музычныя матывы (згадваюцца Я. Колас, Я. Купала, З. Бядуля і інш.). Класікі расцэньвалі музыку як гарманічнае ўвасабленне бясконцасці і цэласнасці быцця, выражэнне адзінства душы чалавека і свету. У Валянціны Коўтун свет таксама паўстае агучаным, прасякнутым безліччу музычна выражаных плыняў. Толькі прастора яе мастацкіх дыскурсаў напоўнена гукамі іншага кшталту — яны падкрэсліваюць дысгарманічнасць свету-універсуму, раз'яднанасць чалавека і свету. Аўтарка ўводзіць у прастору сваіх тэкстаў топас аргана («Арган») — з мэтай гукавога выражэння трагічнага светаадчування. Здаецца, што яна перадае архітыповыя гукі самой калымскай зямлі. Ствараецца цэлая поліфанія гукаў: *«ляжыць арган» — «не спіць арган» — «хрыпіць аркестр» — «грыміць арган» — «крычыць арган» — «маўчыць аркестр» — «застыў арган».* Але гэта не толькі гукі калымскай зямлі як зямлі прыніжанай. У гэтай гукавой поліфаніі ў метафарычна-пераасэнсаваным выглядзе канцэнтруецца ідэя жыцця Паэта ва ўмовах несвабоды. Такая выснова пацвярджаецца фіналам верша, дзе даецца расшыфроўка вобраза-метафары: *«арган касцей, прадзьмутых сцюжай лёсу».*

«Малітва да Калымы», па словах самой Валянціны Коўтун, *ёсць «метафарычна абагулены паэтычны помнік усім вядомым і невядомым паэтэсам, што так і не змаглі данесці свае галасы да айчыны...*

*Помнік тым лагерным пакутніцам, якія з матчынай песняй у вуснах загінулі на вогненным крыжы незабыўных «гулагаўскіх».*

*Але — не змоўклі...*

«Малітва да Калымы» Лесі Беларускі — гэта малітва да ўсіх нас, да ўсяго свету. Малітва-боль, малітва-перасцярога, малітва-заклінанне. Каб памяталі...

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

# САПРАЎДНАЕ

## *(Паводле твораў Марыі Вайцяшонак)*

Марыю Вайцяшонак я вылучыла яшчэ з часопісных публікацый. Пісьменніца кранула сваёй адкрытасцю, шчырасцю. Ніякага фальшу, штучнасці. Уразіла перажытае пісьменніцай: сям'я асадніка, ссылка, сіроцтва. Лёс маёй сям'і склаўся не так трагічна, але ж таксама — Заходняя Беларусь, арышт дзеда, непасільныя падаткі, разбурэнне радавога гнязда. Помню, калі чытала апавяданне Марыі Вайцяшонак «Мы з аднаго поля», дзе ёсць апісанне пачуццяў пісьменніцы пры набліжэнні да родных мясцін, — было такое адчуванне, быццам гэта ўсё… пра мяне. Колькі гадоў няма ўжо ні бабулі, ні дзеда, якога не пабачыла, ні маці, ні хутара — там, паміж вёскамі Вялікая Ліпа і Студзёнкі Нясвіжскага раёна… Хутар! Адно гэта слова колькі ўмяшчае! Сёння ўспамінаецца сапраўды як страчаны рай. Я яшчэ пажыла там, помню ўсё. Бабуля паказвала, дзе быў наш лес, наш надзел зямлі, і ўпарта, пакуль не здарыўся інсульт, адмаўлялася пераязджаць у вёску ці да нас, у Гомель, да сваёй дачкі. Я помню, колькі там было хутароў. А колькі ўжо не было! Толькі здзічэлыя дрэвы. Майму прадзеду прызначылі такі падатак, што ў яго ногі адняліся. Так і пахавалі са скурчанымі нагамі. А які быў гаспадар! Усё наваколле складалася з гэтых былых хутароў. Сёння многіх ужо і няма. Аніякага знаку. Проста лес ці проста поле. Але нават я памятаю, што там было жыццё. А расповеды маці, бабулі, былых хутаран, што наведваліся да бабулі, прыязджалі на свае разбураныя котлішчы? Столькі жыцця, радасці і гора таксама. А цяпер — нічога. Было жыццё, быў цэлы свет, і вось усё разбурана, усё знішчана. Хутар мне сніцца часта, пакутліва і балюча. У Марыі Вайцяшонак: «Мне ў горадзе сніцца нашае неўзаранае поле… І нараніцу пачуццё невытлумачальнага разладу, няўпраўкі». Стараюся штогод пабываць на былым хутары. Разумею, што значыць «дакрануцца да роднай зямлі», «набрацца моцы ад роднай зямлі». Разумею, што гэта не метафара. А яшчэ ж так нядаўна была тая Беларусь, тая культура (памятаю, калі збіраліся госці, мужчыны цалавалі жанчынам рукі, не спешчаныя рукі, а рукі сялянак, напрацаваныя, у мазалях), была нейкая своеасаблівая людская еднасць. Памяць яднала. Як лёгка ўсё знішчаецца і разбураецца!

Але ж я пра Марыю Вайцяшонак: «Сляды маленства свецяцца і ў цемры, мы ходзім па іх, злізваючы слёзы, усё жыццё» *(«Мы з аднаго поля»).* Мы жывём з гэтай радавою траўмаю. Боль бацькоў, дзядоў, прадзедаў, «той боль, што я і мае суродзічы заўсёды носяць з сабой… калымажкі, у якой кожны з нас валачэ гістарычны досвед: арышты, ссылкі, войны... За мной сціпла цягнецца цугам мой сялянскі род, жывыя і мёртвыя, яны пільнуюць, каб надта далёка не адскочылася, не забылася на іхнія бядоты… Мы самі, дарослыя, не ўпэўненыя ні ў чым, і гэта перадаецца наветам малым безабаронным істотам» *(«Ханна Мурза»).* Таму і простая «гатоўнасць усміхнуцца, загаварыць, прывітацца» з незнаёмым чалавекам здзіўляе нашых людзей, выклікае непаразуменне. Усмешка выклікае непаразуменне! Мы — «зняверaныя, ужо народжаныя стомленымі». У Віктара Шалкевіча ёсць такія радкі: «Ён стаміўся, ён спіць». («Ён» — беларускі народ.)

Боль стаў нашай сутнасцю: «**я не бязродная — яны з майго гора, яны з майго гора».** Адсюль і трымценне пісьменніцы перад вёс-

кай, вяскоўцамі, яе «падучая любоў» да іх: «…душа павінна быць высокай, а жаль скіраваны ўніз, да простага чалавека», «хаджу па вёсцы, заглядаю ў вочы, шукаючы ідэал, век на дыбачках перад імі, з сябе віну спаганяючы. Хачу нарэшце пажыць без сваёй падучай любові» *(«Кола»).*

Адсюль і ўкарэненасць пісьменніцы ў роднае: «Гэтыя твары… Па іх я жыла, як па аракуле, і далёка адсюль вызначала сваіх прыяцеляў, сяброў па родных позірках, і давярала толькі падабенству. Лавіла па свеце інтанацыю іхніх галасоў і толькі тады адзывалася» *(«Мы з аднаго поля»).* Галоўнае — помніць, захоўваць роднае, інакш — страта сябе, сваёй сутнасці: «…каб ні ад чаго не адрачыся, не зганьбіць, не страціць, пабраўшы крошкі не тое што з сялянскага стала, але і пад сталом… Свет вельмі вялікі, жыццё ўтрапёна кароткае, навошта прывучацца да чужога дому, навошта спробы палюбіць яго» *(«Мы з аднаго поля»).* Таму і прагне пісьменніца пабудаваць, адбудаваць свой Дом тут, на радзіме. Адпавядаць самой сабе, сваёй сутнасці, усяму тутэйшаму. Таму і адмаўляецца гераіня аднаго з апавяданняў набыць дом у Італіі, бо прыходзіць разуменне неабходнасці берагчы і ашчаджваць сваё. «І гэта не рай — там працуюць з дня ў дзень, з веку ў век, каб быць італьянцамі. Мы будзем да іх прыглядацца, вучыцца, каб «заміж персідскага ўзору» выткаць дома свой свет» *(«Тэрарыстка»).*

Таму невыпадковае і наступнае прызнанне Марыі Вайцяшонак: «…заўсёды здаецца, што жыву ў самым цэнтры, пад самым высокім небам…»

Адсюль — і стаўленне да мовы: «Колькі разоў табе тэлефанавалі наконт перакладаў апавяданняў, а ты лічыш, што твая белмова дасканала не перакладаецца, яе, маўляў, трэба разам з глебай — на чужой зямлі яна не прыжывецца…» (*«Кола»).* Мова, звычаі, стагоддзямі ўсталяваныя, — абярог. Без іх мы «нічым не захінёныя, не абароненыя — ні звычаямі, ні абычаямі… іх лёгка суровічыць, абы за парог — і мовы сваёй счураюцца» («*Чорны саган*»). У апавяданні «Знакі на далонях»: «Не чуваць, каб хто гаварыў на родней мове, хай сабе і з «жабай у роце». Быццам выехаў не з ускраіны, а з краіны. Хоць ты бяры і тэрмінова тэлефануй, як не раўнуючы, ваенным часам: цэнтр горада ўжо заняты чужынцамі!» Паказальная назва апавядання «Знакі на далонях» — знакі крэўнасці, нашай існасці...

Марыя Вайцяшонак не ведае даты свайго нараджэння, бо нарадзілася ў Сібіры, куды выслалі бацькоў: «Каб знайсці такую паперыну аб сабе, ездзіла ў Сібір, падымала дакументы — і следу няма… сярод людзей…» *(«Ханна Мурза»).* Таму яе гераіня такая чуйная да ўсяго, найперш да безабаронных і сірот *(«Тэрарыстка»),* да жывёл, птушак *(«Ханна Мурза»).* Куды падзецца ад роднага, а там — боль. Над усім. Як жыць з такімі ўспамінамі: «...цябе мама несла на руках, мы йшлі некуды, без напрамку, як ходзяць па свеце жабракі… галодныя… сібірскія маразы. Заначавалі, забіўшыся ў чужы хлеў, сытна пахла саломай… Морыць сон, бы ты ўжо і павячэраўшы… І зноў — дарога, вочы долу, уніклівa, каб падняць што-небудзь з’есці. Да людзей не прасіліся, людзі ссыльных не пускалі… А як у хлеў зачынены трапілі, хіба, па-воўчы страху здзёрлі, пачуўшы жывёльнае цяпло?.. І цяпер я ступаю ў хлеў, як у боскія сені… І цяпер люблю раптам, як прыпадак, збедніўшыся, знайсці капейку… адчуць тую радасць ссыльнага дзіцяці, асалоду ахвяры…» *(«Ханна Мурза»).* Ахоўны матчын знак — перавязаная крыж-накрыж хустка — таксама звязаны з болем: «Маці, перавязаўшы яе крыж-накрыж хусткай-раблёнкай, пайшла з дому і не вярнулася. Потым нехта падняў падпахі, уссадзіў на лаву каля труны ў той самай хустцы. Маці ў старой сукенцы, каб людзям не відалася, накрыта да падбародка марлёўкай — зніцелым, змарнелым на сібірскіх ссылках калісьці дарагім вэлюмам, падараваным прыгожай сялянцы неспадзяваным жаніхом, польскім асаднікам» *(«Дом вокнамі ў сад»).*

Хоць і горкая памяць пра вяскоўцаў, якія імгнення разрабавалі маёмасць асадніка («…як вывозілі па начы на Алтайскія руднікі з асады Соўчын маіх бацькоў… Пакуль дазналася маміна сястра, сялянка, усё ўжо было разрабавана, толькі вазоны на вокнах засталіся. Узяла сабе адзін на памяць… Ніхто не паасцярогся, што яна самая бедная ў вёсцы, і асаднік Антэк быў надта хвалёны…»), пра людзей у Сібіры («да людзей не прасіліся, людзі ссыльных не пускалі»), пісьменніца не трымае крыўды. Хрысціянская душа. Нездарма Марыя Вайцяшонак цытуе

словы ксяндза Яна Соханя: «Толькі памятай: калі не любіш, спусташаеш свет». І беларуская, бо для пісьменніцы родны і дарагі і каталіцкі, і праваслаўны храм.

Столькі перажыўшы, несучы ў сабе боль сям'і, роду, народа, Марыя Вайцяшонак зберагае, ашчаджае чыстае, сумленнае, сапраўднае. І літаральна захлынаецца радасцю, знаходзячы яго. Радуецца, адкрываючы добрае ў людзях: «Адчуванне дасканалага імгнення, калі душа падымаецца над табой, а ты, амаль не дыхаючы, нема азіраешся, нічога не пазнаючы, ідзеш па вясковай дарозе, перабіраеш нагамі, як прывід. Пэўна, у такія хвіліны цябе ўжо ніхто не бачыць, які ты ёсць. І сам не памятаеш аніводнай недарэчнасці ў жыцці — ні сваёй, ні чужой. Толькі вось гэта ў чалавеку на тваёй дарозе вартае ўвагі. Якое цудоўнае, якое неспадзяванае жыццё, як бы мы адзін аднаго ні калечылі» (*«Я сядзела насупраць…»).*

У Мілана Кундэры ёсць раманы «Няспешнасць» і «Сапраўднасць». Гэтыя **Няспешнасць** і **Сапраўднасць** Марыя Вайцяшонак і імкнецца сцвердзіць у жыцці. Нясе ў Свет Мір, Спакой, Цяпло. І Любоў, галоўную хрысціянскую каштоўнасць. Невыпадкова і зборнік «Кола» пабачыў свет дзякуючы выдавецтву «Про Хрысто». І, канечне ж, сярод гэтых паняццяў асаблівае месца займае Дом. Менавіта з вялікай літары. У пісьменніцы — «Храм Быцця». Дом як цяпло, абарона, адпачынак, утульнасць, еднасць, крэўнасць («Смачней, калі адна ласуецца? І ёй не гарчыць гэты смак адзіноты, быццам яшчэ не зведана сямейнае, няма тут чалавека, з кім хацелася б падзяліцца»). А гаспадыня Дома — «служыцелька свайго Храму Быцця». І Сям'я: «Яна магла б жыць і ў птушынай зграі, самага нізкага птушынага сану, абы сям'я», «радавацца кожны раз, калі ты проста пераступаеш парог не толькі знадворку, а з аднаго пакоя ў другі, праходзіш побач».

Творы са зборніка «Кола» чытала няспешна, вечарамі, пасля ўсіх спраў, наталялася, зноў і зноў разглядала фотаздымкі, зробленыя пісьменніцай. Як хораша, як утульна ўладкавала яна свой Дом! («Цэнтр не можа быць Домам, як і звычайны гарадскі блок, дзе б ён ні знаходзіўся».) Сяброўка трапна заўважыла, што ў людзей, якія выхоўваліся ў дзіцячых дамах, асаблівая цяга да ўтульнасці, цеплыні Дому: «Па начах тут сніўся кожнай адзін і той жа самы страшны, як яны называлі, сон. Быццам зноў дзіцячы дом, у цесны пакой уносяць яшчэ адзін жалезны ложак. Скрозь ложкі. Ты чамусьці бачыў усё гэта зверху, па-птушынаму зняможана шукаеш сабе месца, куток набаку ці каля сцяны, каб хаця спіну абараніць ад чаплістага, здзічэлага ў сіроцтве, позірку. І не знаходзіш, усё пазаймана — твой ложак пад белай капай пасярэдзіне, як на віры…» *(«Ханна Мурза»).*

А ў апавяданні «Купіць дом у Італіі» гераіня спавядаецца, як ішла да свайго Дому: «Рухалася, як на інваліднай калымажцы, а мне, смеючыся, кідалі ў прыпол каменне — я з яго спрабавала скласці падмурак. Паказвалі пальцамі ў другі бок, калі губляла дарогу, блудзіла. Падвязвалі пустую кансервавую бляшанку ззаду да кола, як паблажлівай істоце».

Дзякую, спадарыня Марыя, што запрасілі ў свой Дом, падзяліліся цяплом свайго Дому. У жыцці, у літаратуры столькі несапраўднага, мітуслівага, дробязнага, штучнага (К. Льюіс: «Калі хочаце зразумець, што такое каханне, шлюб — не чытайце мастацкіх кніг і не глядзіце мастацкія стужкі»). З узростам пачынаеш задаваць сабе пытанні: для чаго, навошта? У тым ліку і такое: што табе дае чытанне таго ці іншага твора? Ці набліжае цябе да Сапраўднага? Ці робіць цябе лепшым? Год чытала толькі Свяшчэннае Пісанне і духоўную літаратуру. Бо — пра галоўнае. Пра галоўнае — і творы Марыі Вайцяшонак.

Марыя Вайцяшонак упарадкавала не толькі ўласны Дом, але і свет вакол сябе: «Сёстры будавалі дом самі, адрамантаваўшы старую сялянскую хату, і пільна вартавалі ўсіх, хто сяліўся побач: ластаўчына гняздо, шпакоў, нават злодзейку сароку на дзічцы. І кветкі, тут кожная кветка дабывала да пары, красавала на сваім карані, спяліла семя» *(«Ханна Мурза»*). Як у Вальтэра: «Будзем садзіць сад». У Марыі Вайцяшонак: «У яе толькі вось гэты кавалак зямлі пад нагамі, яго трэба ўрабляць…»

Пісьменніцы дадзена асаблівая чуйнасць, здольнасць тонкага адчування Быцця: «Толькі быццам дазволена табе выпадкова пачуць шчырую гаворку паміж небам і зямлёю». Адсюль і боль ад выні-

шчэння жывога: «Усюды, як на тое, дурныя знакі нічогага чалавека, быццам ён, гэты чалавек, і не тутэйшы, і наогул — не жылец» *(«Ханна Мурза»)*. Які выраз — «нічогага чалавека»!

Сваімі творамі пісьменніца пасылае ў свет імпульсы Сапраўднага Быцця, радасці **няспешнага** быцця: «Нават папалуднаваць на сенакосе ці проста адпачыць на некалькі хвілін вясковец садзіцца, як сонца: павольна, урачыста, прыглядаецца, выбірае месца, куды, у які бок тварам, да чаго спіной, пад вецер ці ўцяньку, каб засяродзіцца, каб падсвядома супасці з рытмам мясцовасці…» *(«Сведка»)*.

Творы Марыі Вайцяшонак — натуральнае спавяданне хрысціянскага: «Я не адракаюся ад самай маленькай чалавечай ролі, бо нам даецца плоцкае сэрца замест каменнага не толькі дзеля нас саміх», «мы ўсе адзін аднаму пасланыя некім», «абы твар павярнуў да сонца, то і малітва, абы толькі ўдалося сцішыць у душы злосць, гнеў — гэта ўжо і ёсць сувязь з Богам», «радасная істота найбліжэй да Бога». Як у апостала Паўла: «Заўсёды радуйцеся, за ўсё дзякуйце». І гэта побач з пякельнай памяццю роду: «Бо маю свой, паточаны часам камень, ён мне парогам разбуранага дому маіх бацькоў. І дзе б ні была ў свеце, іду найперш да скляпенняў, руін, падмуркаў — я плакальніца па кожным» («*Чорны саган*»).

Сапраўднасць быцця Марыя Вайцяшонак адчувае толькі ў вясковага чалавека («нас, вясковых жанчын, аб’ядноўвала таямнічая повязь, занядбаная гарадскім чалавекам», «кожны гук размеркаваны, усё па сваім часе — па сонцы, па зорах, па месяцы. Штодзённае покрыва расхінецца, і мне пакажацца іхняе нібыта марнае жыццё жыццем»). Таму так пільна яна ўглядаецца ў вясковыя лёсы, твары, жыцці. Адсюль і адчуванне віны перад імі *(«Мы з аднаго поля», «Кола», «Знакі на далоні», «Я сядзела насупраць…», «Свет вячэрні», «Чорны саган», «Паядынак»)*. Адсюль і такі пранізлівы, нібыта вінаваты, позірк пісьменніцы.

І яшчэ. У творах Марыі Вайцяшонак шмат пра Жанчыну, сутнасць жаночага. Пісьменніцца дзеліцца набытым, перажытым, у нечым нават балючым для Жанчыны: «…не заўважыў, што я пастарэла, я змянілася… І я не стыдаюся, бо гэта на мне знакі нашага сумеснага жыцця, сляды бед і непаразуменняў…», «мы старэем толькі на вачах мужчын…», «…кожная жанчына ад самай калыскі да самай смерці — «цяжарная», яна вякамі стварае вакол сябе зусім інакшы сусвет».

Творамі Марыі Вайцяшонак не толькі наталялася, але і саграваласяя. Яны кранаюць, бо яны напісаны не з разлікам на пэўную рэакцыю — чытача або крытыка. (Хіба не зачэпяць словы «як пераймаеш ва ўлонні матчына падабенства, самоту ейных вачэй»?) Марыя Вайцяшонак піша, бо баліць, бо шмат давялося перажыць, прачуць, зразумець. Творы пісьменніцы палоняць сваёй сапраўднасцю і шчырасцю, дапамагаюць зразумець сапраўднае, тое, што было запаведана ўжо некалькі тысяч гадоў таму, але на што ў штодзённай мітуслівасці забываешся: любіць і берагчы тых, хто побач, паляпшаць і ўпрыгожваць свет вакол сябе, быць самім сабой, убіраць у сябе, адчуваць кожнае імгненне быцця.



# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## ДЗЯРЖЫНСКІ РАЁН

### Горад Дзяржынск (да 1932 г. — Койданава)

**Вуліцы Астроўскага Мікалая, Горкага Максіма, Коласа Якуба, Купалы Янкі, Лермантава Міхаіла, Маякоўскага Уладзіміра, Пушкіна Аляксандра, Талстога Льва, Тургенева Івана, Фурманава Дзмітрыя.**

**Вуліца Ленінградская, 6б**

**Гісторыка-краязнаўчы музей**

Заснаваны ў 1985 г. на базе гістарычнага музея СШ № 3 г. Дзяржынска, адкрыты ў 1987 г. Аб'ём экспазіцыі 400 м$^2$. Мае звыш 4 тыс. адзінак асноўнага фонду, сярод якіх асабістыя рэчы і рукапісы землякоў-пісьменнікаў **Вольскага А., Глобуса А., Каганца К., Шушкевіча С.** і інш.

* * *

**Брайдэра Юрыя** (1.8.1948—5.2.2007), рускага празаіка-фантаста, радзіма. Пісаў у сааўтарстве з ураджэнцам **Краснай Слабады** Салігорскага р-на **Чадовічам Мікалаем**. Закончыў Мінскі тэхнікум сувязі, працаваў у органах МУС, дзе даслужыўся да звання маёра міліцыі. Выйшаўшы ў 1994 г. на пенсію, вярнуўся ў Дзяржынск. Цяжка хварэў, перанёс некалькі аперацый. Фантастыкай захапіўся яшчэ ў дзяцінстве. Пазнаёміўшыся з М. Чадовічам, з 1982 г. пачаў пісаць разам з ім апавяданні, аповесці і раманы. Дэбют — апавяданне «Парушальнік» (1983). Разам і паасобку ўдзельнічалі ў нарадах маладых пісьменнікаў-фантастаў у Малееўцы (Расія) і Дубултах (Латвія). Раннія аповесці і апавяданні Брайдэра і Чадовіча аб'яднаны ў зборнікі «Пасёлак на ўскрайку Галактыкі» (1989), «Пекла на Венеры» (1991) і ў двухтомным зборы твораў, які выйшаў у Мінску ў 1994 г. Вядомасць пісьменніцкаму дуэту прынеслі апавяданне «Тэлепатычнае ружжо» і раман «Евангелле ад Цімафея», якія разам з кнігай «Клінкі Максараў» паслужылі пачаткам вялізных цыклаў, якія пабачылі свет у маскоўскіх выдавецтвах (пераважна ў «Эксмо»). Сюды ўвайшлі цыклы «Мір сцяжыны» (9 раманаў), тры раманы, у якіх дзейнічае група «Ватага», тры раманы, прысвечаныя дзейнасці асобага падраздзялення міліцыі — усяго 19 раманаў і каля 40 аповесцей і апавяданняў, для якіх характэрны востры парадаксальны сюжэт. Гэтыя творы атрымоўвалі розныя прэміі, перакладзены на розныя мовы, у ліку якіх мангольская і іўрыт.

**Вольскага** (у сапр. Зэйдэля) **Артура (**23.9.1924—5.9.2002), паэта, празаіка, перакладчыка, драматурга, радзіма. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1962). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1966—1968 гг. — дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, у 1978—1980 гг. — дырэктар Дома літаратара, з 1980 — літкансультант СП БССР. На беларускай мове друкаваўся з 1946 г. Аўтар зборнікаў вершаў

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—3 за 2010 г.

«Водбліскі далёкіх маякоў» (1958), «Далёкія і блізкія прычалы» (1962), «Дабрата» (1966), «Выратавальны круг» (1974), «След завірухі» (2000), кніг для дзяцей «Маленькім сябрам» (1955), «Дзедаў госць» (1958), «Чырвоная зорка» (1961), «Каваль — Залатыя Рукі» (1996) і інш., п'ес «За лясамі дрымучымі» (з П. Макалём, паст. 1958), «Марынка-крапіўніца» (паст. 1962), «Сцяпан — вялікі пан» (паст. 1979). Складальнік школьных падручнікаў па літаратурнаму чытанню. Жыў у Мінску.

**Глобуса Адама** (у сапр. Адамчыка Уладзіміра; н. 29.9.1958), паэта, празаіка, радзіма. Сын пісьменніка **Адамчыка Вячаслава**. Скончыў мастацкі факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1983). Працаваў рэдактарам аддзела часопіса «Крыніца». Аўтар кніг «Парк» (1988), «Скрыжаванне» (1993), «Дамавікамерон» (1994), «Толькі не гавары маёй маме» (1995), «Койданава» (1997), «Новы дамавікамерон» (1998), «Post scriptum. Кантамінацыі» (Вільня, 1999), «Тэксты» (Масква, 2000), «Сшыткі» (2003), «Дом: Раман [аўтапартрэт у сямейным інтэр'еры]» (2004), «Дзікае паляванне: легенда ў малюнках паводле аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» (2005), «Літары» (2006), «Сучаснікі: фацэціі» (2006) і інш. Некаторыя з іх упрыгожаны яго ж малюнкамі. Многа падарожнічае. Аўтар верша «На станцыі Койданава» (Маладосць. — 1988 — № 5).

**Каганец Карусь** надрукаваў апавяданні, нарысы, апрацаваныя ім легенды і паданні на матэрыяле Койданаўшчыны (Каганец К. Творы. Мн., 1979).

**Калманавіча Рэйзена Аўрама** (1876—1953), яўрэйскага пісьменніка, радзіма. З 1914 г. жыў у ЗША. Аўтар вершаў, якія сталі народнымі песнямі, мемуараў «Эпізоды майго жыцця». У 1928 г. наведаў БССР.

З 1863 г. у Койданаве была народная школа. Першае гарадское трохкласнае вучылішча адкрыта 1 жніўня 1908 г., а з 1 студзеня 1913 г. было ператорана ў вышэйшую пачатковую школу. У 1912—1913 гг. у ёй вучыўся **Крапіва Кандрат** (Атраховіч Кандрат), пісьменнік, ураджэнец в. *Нізок* Уздзенскага р-на.

**Сыракомля Уладзіслаў** (у сапр. Кандратовіч Людвік) пісаў аб Койданаве ў «Вандроўках па маіх былых ваколіцах» (Вільня, 1853).

* * *

**Вёска Андрыеўшчына** Бараўскага сельсавета

**Сабалеўскага Анатоля** (н. 27.5.1932), тэатразнаўца, крытыка, літаратуразнаўца, празаіка, радзіма. Скончыў БДУ (1958). З 1961 г. працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з 1972 г. — у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Аўтар аповесцей «Жылі-былі хлопцы» (1961), «Жывая вада» (1994), даследаванняў «Глеб Глебаў» (1994, 2005), «Кандрат Крапіва: постаць і творы» (2003), «Барыс Платонаў: асоба і ролі» (3-е выд. 2004), апавяданняў. Пад яго агульнай рэдакцыяй выдадзены двухтомнік «Тэатральная Беларусь» (2002—2003).

**Вёска Бакінава** Бараўскага сельсавета

**Шушкевіча Станіслава** (псеўд. Я. Бор, Янка Бор, С. Койданаўскі, В. Эрнест, Вільгельм Эрнест, В. Эрнэст, крыпт. С. Ш., Стах Ш., С. Ш. и В. М. (з Мараковым), С. Ш-ч, С. Ш—Ч, Шуш, В. Э., Э—ст, В. Эрн; 6 (19).2.1908—1.2.1991), пісьменніка, радзіма. Заслужаны работнік культуры Беларусі. Нарадзіўся ў сям'і беззямельнага селяніна. Сям'я вымушана была выехаць на Смаленшчыну і толькі ў 1914 г. вярнулася ў Беларусь. Бацька знайшоў работу ў маёнтку Сенніца. У 1921 г. С. Шушкевіч пайшоў у 2-і клас мясцовай пачатковай школы, вучыўся ў настаўніцы А. Сонцавай, якая ў 1889 г. вучыла Янку Купалу. У 1923—1924 гг. працаваў рабочым саўгаса «Шчытомірычы» Мінскай вобл. У 1924—1926 гг. вучыўся ў 11-й сямігадовай школе Мінска. Пасля заканчэння яе паступіў у Мінскі бел-

педтэхнікум (1926), дзе выкладаў Якуб Колас. У 1926 г. яго прынялі ў літаратурную арганізацыю «Маладняк». Пасля 2-га курса Шушкевіч пайшоў працаваць у Кніжную палату і Дзяржаўную бібліятэку БССР (1928—1930). Потым загадваў бібліятэкай НДІ сельскай і лясной гаспадаркі (1930—1931), працаваў у рэдакцыях газет «Літаратура і мастацтва» (1934—1935), «Звязда» (1935—1936). Адначасова вучыўся на крытычна-творчым аддзяленні літаратурнага ф-та Вышэйшага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага, які скончыў у 1934 г. 15.11.1936 г. беспадстаўна арыштаваны і асуджаны на 8 год пазбаўлення волі. Знаходзіўся ў турме, лагеры, ссылцы. Працаваў цесляром, шахцёрам, бухгалтарам саўгаса МУС у Кемераўскай вобл. (1937—1946). Вярнуўшыся на радзіму, быў настаўнікам СШ у Данілавічах Дзяржынскага р-на (1947—1949). У 1949 г. паўторна рэпрэсіраваны і высланы на спецпасяленне ў Краснаярскі край, дзе працаваў лесарубам, у геалагічных партыях і экспедыцыях (1950—1956). Вярнуўшыся ў Мінск, быў загадчыкам аддзела пісем газеты «Літаратура і мастацтва» (1958—1970). З 1970 г. пенсіянер. Канчаткова рэабілітаваны па абедзвюх справах у 1975 г. Друкаваўся з 1924 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Вершы» (1934), «Дарогаю вясны» (1959), «Услед за марамі» (1961), «Навальніца» (1966), «Сябрам» (1972), кнігі ўспамінаў «Вяртанне ў маладосць» (1968), зборніка сатыры і гумару «Грушы на вярбе» (1969), кніжак вершаў і прозы для дзяцей «Звярыны баль» (1936), «Лясная калыханка» (1958), «Сарочы царамок» (1959), «Мы на змену ідзём» (1961), «Гара Марата Казея» (1963), «Вясёлыя дзятлікі» (1970), «Колькі кіпцікаў у кошкі» (1972), «Дванаццаць пасланцоў» (1973), «Красавік» (1977), «Ліса з магнітафонам» (1979), «Дарога ў залатую восень» (1983), «Апавяданні пра Марата Казея» (1988), «Непаседлівыя вавёркі» (1993) і інш. У 1978 г. выйшлі «Выбраныя творы» ў 2-х тамах.

**Вёска Віцкаўшчызна** Фаніпальскага сельсавета

**Улашчыка Мікалая** (14.2.1906—14.11.1986), беларускага гісторыка, археографа, археолага, этнографа, краязнаўца, літаратара, радзіма. Доктар гістарычных навук (1964). Пісаў на рускай і беларускай мовах. Скончыў БДУ (1929). У 1924—1930 гг. працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і Кніжнай палаце БССР. 16.6.1930 арыштаваны па так званай справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 г. высланы на 5 гадоў у г. Налінск Вяцкай вобл. 10.6.1933 г. асуджаны паўторна, этапіраваны ў Марыінскі папраўча-працоўны лагер (Новасібірская вобл.), пасля ў пас. Суслава Кемераўскай вобл. Вызвалены ў 1935 г. без дазволу вяртання ў Беларусь. Выкладаў у рускіх школах і тэхнікумах. У 1939 г. настаўнічаў у Ленінградзе. 23.6.1941 г. арыштаваны і высланы ў г. Златавуст Чалябінскай вобл. У 1942 г. вызвалены. Займаўся вывучэннем аграрнай гісторыі Беларусі і Літвы XIX ст. У 1948 г. выкладаў у Маскоўскім універсітэце. У 1949 г. звольнены з працы, рэпрэсіраваны і ў 1951 г. этапіраваны ў Сібірскі лагер пас. Суслава. Вызвалены ў 1955 г. Вярнуўся ў Маскву, дзе да 1986 г. працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН СССР. Аўтар гісторыка-этнаграфічных, краязнаўчых, мемуарных прац «Была такая вёска» (1989), «Хроніка» (1991—1997), «Краязнаўства» (1999—2000) і інш.

**Вёска Воўкавічы** Фаніпальскага сельсавета

**Хадасевіча Вацлава** (н. 1.1.1937), паэта, радзіма. Закончыў Грычынскую сярэднюю школу. Працаваў на розных прадпрыемствах Мінска і за яго межамі. У сталыя гады пачаў друкаваць вершы ў «Роднай прыродзе», «Літаратуры і мастацтве», «Вожыку». Заахвочаны паэтам Казімірам Камейшам, выдаў зборнік вершаў «Арган» (2009).

**Вёска Вялікія Навасёлкі** Дзяржынскага сельсавета

Радзіма бацькоў **Каганца Каруся**. Тут жыла іх сям'я Кастравіцкіх. У 1899 г., ажаніўшыся, Карусь Каганец асеў ва ўрочышчы Лісія Норы (каля Прымагілля). Непадалёк ад вёскі знаходзіўся хутар Прымагілле. Адсюль у Мінск Каганца везлі жандары ў 1905 г. пасля арышту за агітацыю сярод сялян. У Прымагіллі ён раптоўна памёр падчас наведання брата 20 мая 1918 г. ад хваробы лёгкіх. Пахаваны ў Вялікіх Навасёлках, дзе ўстаноўлены помнік пісьменніку, ураджэнцу г. Табольск (Расія). Адкрыты 20 мая 1988 г. Надпіс: «Карусь Каганец (Казімір Карлавіч Кастравіцкі), беларускі пісьменнік, мастак і скульптар, 1868—1918.

Адважна, брацця, наперад ідзіце
Цвёрдай і правай ступою!
Кожнаму смела ў вочы глядзіце,
Праўду нясіце з сабою!

**Вёска Грычына** Фаніпальскага сельсавета

**Калесніка Івана** (9.10.1932—10.6.1979), паэта, публіцыста, перакладчыка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1954 г. скончыў Мінскае педвучылішча імя Н. К. Крупскай. Працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» (1954—1961), адначасова завочна вучыўся на аддзяленні журналістыкі БДУ. Быў літсупрацоўнікам часопіса «Бярозка» (1962), старшым рэдактарам на Беларускім радыё (1963—1965; 1967—1968), літсупрацоўнікам часопіса «Маладосць» (1968—1972). У 1967 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. У 1972—1979 гг. — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1951 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Белыя каштаны» (1959), «Пяць сузор'яў» (1963), «Калі разам мы» (1967), «Інтэрнат» (1971), «Юнацтва» (1975).

**Вёска Дзягільна** Дзяржынскага сельсавета

**Янушкевіч Адольф**, польскі пісьменнік-мемуарыст, рэвалюцыянер, ураджэнец г. *Нясвіжа* Мінскай вобл., пасяліўся ў мясцовым маёнтку ў 1856 г., пасля вяртання з сібірскай ссылкі. Тут жыла яго маці. Тут і пахаваны.

**Былы фальв. Карукі** былой Койданаўскай воласці (месцазнаходжанне не ўстаноўлена)

**Купала Янка** летам 1912 г., едучы з Акопаў у Мікалаеўшчыну, на сустрэчу з Якубам Коласам, спыняўся нанач у гэтым фальварку, дзе, відаць, жылі знаёмыя. Тут паэтам напісаны верш «Мая малітва».

**Вёска Каменка** Станькаўскага сельсавета

**Шашкова Мікалая** (н. 14.5.1941), рускага і беларускага паэта, радзіма. Закончыўшы Станькаўскую сярэднюю школу (1958) і Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча (1967), служыў у ВС СССР (да 1987). Затым працаваў выкладчыкам у вышэйшых навуковых установах Мінска. Пачатак творчай дзейнасці датуецца 1970 г. Друкуецца ў зборніках і часопісах, уваходзіць у літаб'яднанне «Доблесць» пры Доме афіцэраў Мінска. Аўтар паэтычнага зборніка «Усямоцная зямля» (1996), дзе адзін з асноўных цыклаў вершаў прысвечаны роднай «малой зямлі».

**Вёска Косцевічы** Бараўскага сельсавета

**Акаловіча Мікалая**, журналіста, пісьменніка, радзіма. Аўтар кнігі «Уперад, на Захад» (1998).

**Вёска Крысава** Станькаўскага сельсавета

**Салаўя Алеся** (у сапр. Альфрэда Радзюка; 1.5.1922—22.1.1978), паэта, радзіма. З сям'і інтэлігента. У 1937 г. бацька быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Скончыў 8 класаў Койданаўскай школы. У 1938 г. паступіў у Мінскае педагагічнае вучылішча. Праз 2 гады з прычыны дрэнных жыццёвых абставін выехаў у г. Лагойск на работу ў рэдакцыю мясцовай раённай газеты, дзе працаваў да 22.6.1941 г. на пасадзе намесніка адказнага сакратара. З 19.10.1941 да 10.2.1942 г. быў у Мінску на журналісцкай працы ў рэдакцыі калабарацыянісцкай «Беларускай газеты». З 9.10.1942 г. жыў у Рызе, працаваў нам. рэдактара нацысцкага часопіса «Новы шлях». Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэса. Эвакуіраваўся ў Кёнігсберг, адтуль — у Берлін, Вену, Зальцбург. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. Аўтар зборнікаў вершаў «Мае песні» (Мінск, 1944), «Звіняць званы Святой Сафіі» (Зальцбург, 1946), «Сіла гневу» (Остэргофен, 1948), «Нятусклая краса» (1982). Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Міцкевіча, Р. М. Рыльке, Т. Шаўчэнкі і інш. Памёр і пахаваны ў Мельбурне.

**Вёска Кукшавічы** Дзяржынскага сельсавета

**Тумаша Генадзя** (у сапр. Тумаса Яўгена; н. 28.7.1940), паэта, празаіка, перакладчыка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Станькаўскай СШ (1957) працаваў у калгасе (1957—1959). Скончыў БДУ (1964). Працаваў выкладчыкам рускай і беларускай мовы і літаратуры ў Татаршчынскай СШ Дзяржынскага р-на (1964—1966), Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР (1966—1970), рэдактарам на Беларускім тэлебачанні (1970—1973), у літаратурным музеі Якуба Коласа (1974—1987). З 1987 г. — намеснікам дырэктара бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП Беларусі. У 1994—2002 — у Беларускім інстытуце праблем культуры. Друкуецца з 1963 г. Аўтар кніг «Лінкос» (1970), «Родны бераг песняра: да 100-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Я. Коласа» (1982), «Лісіца з Расохі» (2001). На беларускую мову пераклаў творы В. Каратынскага, Я. Лучыны, У. Мэя. Жыве ў Мінску.

**Вёска Ляхавічы,** цэнтр сельсавета

**Івашына Васіля** (9.5.1913—6.11.2009), літаратуразнаўца, радзіма. Доктар філалагічных навук (1965), прафесар (1973), акадэмік АПН СССР (1967). Скончыў Мінскі педінстытут (1938). З 1946 г. — у Інстытуце літаратуры АН БССР, у 1967—1978 гг. — дырэктар НДІ педагогікі Міністэрства адукацыі БССР. Аўтар прац «Янка Купала: творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг.» (1953), «Рэвалюцыя 1905—1907 гг. і развіццё беларускай літаратуры» і інш. У сталыя гады пісаў лірычныя вершы.

**Вёска Макаўчыцы** Дзяржынскага сельсавета

**Рыбака Алеся** (н. 7.11.1934), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацькі загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны. У 1958 г. скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў у рэдакцыях часопіса «Вожык» (1958—1959), газеты «Калгасная праўда» (1959—1963), на Беларускім радыё (1962—1963), у рэдакцыі часопіса «Бярозка» (1964—1965). З 1966 да 1972 гг. жыў у Маскве — працаваў старшым карэктарам у аддзеле апублікавання актаў Вярхоўнага Савета СССР, рэферэнтам у сакратарыяце Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Па сумяшчальніцтву выкладаў беларускую мову ў Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага. З 1972 г. — намеснік адказнага сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкуецца з 1953 г. Аўтар кніг: «Дарогі бываюць розныя» (1972), «Апошняя камандзіроўка» (1989), «Трэба было жыць» (1990, 1997), «Абпаленыя крылы» (1994), «Што пасееш...» (2000), кнігі для дзяцей «Сёння прыйдзе тата» (1976).

**Чакалава Міхася** (н. 14.10.1952), празаіка, перакладчыка, радзіма. Скончыў Мінскі медыцынскі інстытут (1976). Працуе доктарам у Маладзечанскай інфекцыйнай бальніцы. Піша апавяданні, мініяцюры, перакладае з англійскай на беларускую мову.

**Вёска Малыя Навасёлкі** Дзяржынскага сельсавета

**Ермаловіча Мікалая** (29.4.1921—5.3.2000), гісторыка і літаратуразнаўца, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут (1947). У 1940—1947 гг. — на педагагічнай рабоце ва ўстановах адукацыі, у 1948—1957 гг. — у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце і Маладзечанскім абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Пасля выхаду на пенсію па зроку (1957) пачаў займацца навукова-даследчай дзейнасцю. Галоўныя тэмы — гісторыя Беларусі IX—XIV стст. і беларуская літаратура. Аўтар кніг «Дарагое беларусам імя» (1970, у 1980 г. перавыдадзена па-англійску), «Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды» (1990), «Па слядах аднаго міфа» (2-е выд., 1991), «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд» (1994), «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае» (2000).

**Гарадскі пасёлак Негарэлае,** цэнтр пасялковага савета

У 1927, 1928, 1932, 1934, 1935 гг. праз Негарэлае праязджае **Барбюс Анры.**

2 жніўня 1937 г. праездам тут былі рускія пісьменнікі **Барто Агнія, Вішнеўскі Усевалад,** якія вярталіся з Іспаніі.

29 красавіка 1931 г. у чацвёрты раз у Негарэлым праездам спыняўся нямецкі паэт **Бехер Іаганес Роберт.** Летам 1932 і вясною 1935 г. — **Брэхт Бертальд.**

Аб Негарэлым згадвалі ў сваёй кнізе «Скачок у XXI стагоддзе» нямецкі пісьменнік **Вайскопф Франц-Карл**, чэшская пісьменніца **Пуйманава Марыя** ў кнізе рэпартажаў «Погляд на новую зямлю» (1932).

**Вялюгін Анатоль,** паэт, ураджэнец в. *Макшаны* Сенненскага р-на Віцебскай вобл., напісаў паэму «Арка ў Негарэлым», дзе ёсць радкі:

Там,
дзе у мытні
шпікі дэфензівы
Маякоўскага рэчы
траслі,
Гэты верш
праімчаўся
імкліва,
Не параніўся сэрцам
шчаслівы
Аб калючкі
дратоў
на раллі.

(Вялюгін А. Выбраныя творы.
Мінск, 1984. С. 198)

Рускі пісьменнік **Горкі Максім** чатыры разы праездам спыняўся ў Негарэлым (1928, 1929, 1931, 1932), сустракаўся тут з рабочымі станцыі. У маі 1928 г. пісьменнік выступіў з прывітальнай прамовай на сустрэчы з працоўнымі. 30 мая 1929 г. па дарозе з Негарэлага ў Мінск у купэ вагона М. Горкі гутарыў з беларускімі пісьменнікамі **Купалам Янкам, Гартным Цішкам, Александровічам Алесем** і інш. 24 красавіка 1932 г. М. Горкі ў Негарэлым выступіў на мітынгу перад працоўнымі. 28 сакавіка 1968 г. у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння М. Горкага на станцыі Негарэлае была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з надпісам: «Здесь, на станции Негорелое в 1928, 1929, 1931 и 1932 гг. представители общественности республики сердечно приветсвовали великого русского писателя, одного из зачинателей советской литературы Максима Горького».

У 1935 г. пасля паездкі ў Чэхаславакію **Купалу Янку** сустракала ў Негарэлым група беларускіх пісьменнікаў.

30 мая 1937 г., вяртаючыся пасля доўгіх год жыцця за мяжой, у Францыі, праездам у Негарэлым спыняўся вядомы рускі пісьменнік **Купрын Аляксандр.**

Тут пачынаючы з 1922 г. часта спыняўся, едучы за мяжу, рускі паэт **Маякоўскі Уладзімір**. Гутарыў з пагранічнікамі і чытаў ім творы. У вершы «Яны і мы» (1928), напісаным пасля паездкі ў Германію і Францыю, ёсць радкі, навеяныя ўражаннямі ад сустрэч з беларускім краем:

На горизонте —
белое
Снега
и Негорелое.

23 жніўня 1935 г. праз Негарэлае праязджаў французскі пісьменнік **Ралан Рамэн,** які наведаў СССР па асабістаму запрашэнню Горкага. На гэтай станцыі Ралан піша прывітальны ліст Горкаму, робіць запіс для гукавога кіно Саюзкінахронікі.

22 жніўня 1937 г. у Негарэлым спыняліся рускія пісьменнікі **Талстой Аляксей** і **Фадзееў Аляксандр,** якія ў Парыжы прымалі ўдзел у Міжнародным кангрэсе пісьменнікаў у абарону міру і культуры.

У 1928 г. тут праездам быў **Цвейг Стэфан,** у 1930 і 1934—1936 гг. — **Фучык Юліус.**

**Вёска Скварцы** Дабрынёўскага сельсавета

**Калюгі Лукаша** (у сапр. Канстанціна Вашыны; 27.9.1909—2.10.1937), празаіка, перакладчыка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1931 г. скончыў Беларускі педагагічны тэхнікум. Працаваў стыльрэдактарам у НДІ прамысловасці ВСНГ, на беларускім радыё. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Узвышша». З 1933 г. жыў у г. Ірбіце Свярдлоўскай вобл. Друкаваўся з 1927 г. У 1928 г. часопіс «Узвышша» змясціў яго аповесць «Ні госць, ні гаспадар», у 1929 г. — шэраг апавяданняў. У часопісе «Полымя» за 1931 г. была надрукавана першая частка аповесці «Нядоля Заблоцкіх» — «Прыгоды і летуценні». У 1974 г. выйшаў зборнік яго апавяданняў і аповесцей «Ні госць, ні гаспадар».

**Вёска Станькава,** цэнтр сельсавета

У другой палове XIX ст. маёнтак належаў Гутэн-Чапскім. Тут будуюцца палац з бібліятэкай, скарбец, капліца, розныя павільёны, жылыя і гаспадарчыя пабудовы. З часам у маёнтку сканцэнтраваліся багатыя гістарычныя і мастацкія каштоўнасці. У бібліятэцы налічвалася каля 20 тысяч тамоў. Многія рэдкія дакументы захоўваліся ў архіве. У зборах Гутэн-Чапскіх былі шматлікія археалагічныя матэрыялы, калекцыя з 772 карт старажытных зямель ад канца XV да сярэдзіны XIX ст., а таксама зброя, фарфор і г. д. Асноўныя каштоўнасці былі перавезены адным з уладальнікаў, Эмерыкам, у Кракаў, дзе ў асобным музеі знаходзяцца і цяпер.

**Вёска Шабунеўшчына** Рубілкаўскага сельсавета

**Семяновіча Антона** (23.7(5.8).1917—25.8.2000), літаратуразнаўца, крытыка, радзіма. Доктар філалагічных навук, прафесар (1971). Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1934—1938 гг. працаваў слесарам на заводзе імя К. Варашылава ў Мінску, у 1938—1941 гг. вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута імя М. Горкага (скончыў у 1945 г.). У час Вялікай Айчыннай вайны (з кастрычніка 1943 г.) — сувязны партызанскага атрада імя Д. Фурманава (Дзяржынскі р-н). У пасляваенныя гады настаўнічаў у Івацэвічах на Брэстчыне (1945—1946), вучыўся ў аспірантуры Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (1946—1949). Быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (1949—1963). З 1963 г. — дацэнт кафедры рускай і замежнай літаратуры, з 1971 г. — загадчык кафедры беларускай літаратуры Мінскага педінстытута. Друкуецца з 1949 г. Аўтар манаграфій «Проза Якуба Коласа (дакастрычніцкі перыяд)» (1953), «Беларуская драматургія (дакастрычніцкі перыяд)» (1961), «Беларуская савецкая драматургія. 1917—1932» (1968), «Ад вытокаў да сталасці. Беларуская драматургія 1917—1945 гг.» (1978), «Гісторыя беларускай драматургіі: XIX — пач. XX ст.» (1985), «Гісторыя беларускай савецкай драматургіі. 1917—1955» (1990), брашур «Кандрат Крапіва» (1956) і «Змітрок Бядуля» (1960), кнігі ўспамінаў «З пражытага і перажытага» (2000) і інш.

**Вёска Шпількі** Дзямідаўскага сельсавета

**Хадановіча Ігара** (10.6.1940—9.1.1966), празаіка, паэта, радзіма. З сям'і настаўніка. У 1957 г. паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. У 1962 г. закончыў універсітэт, залічаны на работу ў рэдакцыю газеты «Чырвоная змена». Працаваў у Мінскім абкаме камсамола, а ў 1964—1966 гг. — у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Друкавацца пачаў у студэнцкія гады. У 1967 г. выйшаў першы зборнік яго апавяданняў, нарысаў і нататак «За акном дождж». Трагічна загінуў. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**Пасёлак Энергетыкаў** Негарэльскага пассавета

**Негарэльская СШ**

Літаратурна-краязнаўчы музей. Адкрыты 9.5.1983 г. Фонды — больш за 600 экспанатаў. Матэрыялы аб Вольскім А., Горкім М., Калесніку І., Рыбаку А., Сабалеўскім А., Семяновічу А., Шушкевічу С. і інш.

**Вёска Юцкі** Дзямідавіцкага сельсавета

**Гарачкі Усевалада** (н. 1978), паэта, радзіма. Скончыў фізічны факультэт БДУ. Працаваў інжынерам-тэхнолагам на НВА «Інтэграл». Аўтар кніг паэзіі «Пралетарская песня», «Даты». Жыве ў Фаніпалі Дзяржынскага р-на.

## КАПЫЛЬСКІ РАЁН

### г. Капыль

**Вуліцы Астрэйкі Анатоля, Багдановіча Максіма, Гартнага Цішкі, Коласа Якуба, Коршака Аляксея, Купалы Янкі**.

**Замкавы зав., д. 1а**

Капыльская цэнтральная раённая бібліятэка носіць імя **Астрэйкі Анатоля**, паэта, перакладчыка, ураджэнца в. *Пясочнае* гэтага ж р-на**.** На будынку знаходзіцца барэльеф Астрэйкі, выкананы настаўнікам М. Скрыганам, пад ім — радкі з верша Астрэйкі:

Я шчыра ганаруся тым,
што родам сам з-пад Капыля.

**Пл. Леніна, 4**

**Капыльскі краязнаўчы музей.**

Адкрыты ў студзені 1979 г. у памяшканні былой гарбарні, дзе працаваў пісьменнік **Гартны Цішка**. Экспазіцыя — 396 м$^2$, звыш 13 тыс. экпанатаў. Адзін з тэматычных раздзелаў прысвечаны пісьменнікам-ураджэнцам Капыльшчыны. Экспануюцца рукапісы твораў, дзённікі, лісты і выданні пісьменнікаў-землякоў **Адамовіча А., Александровіча С., Астрэйкі А., Астрэйкі С., Бабарэкі А., Гартнага Ц., Коршака А., Міхальчука С., Мендэле Мойхера-Сфорыма (**Ш.-Я. Абрамовіча**), Ралько І., Сташэўскага В., Хведаровіча М., Чарнушэвіча Н., Чорнага К.** і інш.

**Плошча Калгасная, 27**

Капыль быў месцам творчых паездак і адпачынку **Купалы Янкі**. Паэт быў госцем сваіх сяброў і паплечнікаў: **Гартнага Цішкі, Гурло Алеся**, братоў **Чарнушэвічаў**, актыўнай дзеячкі беларускай культуры **Александровіч Алесі,** любіў пасядзець ля сівых курганоў і замчышча, паслухаць жывую каларытную мову. Па пазначаным адрасе ў Доме сацкультуры (цяпер кінатэатр) 18 ліпеня 1932 г. **Купала Янка** чытаў свае вершы на вялікім літаратурным вечары. Летам 1933 г. паэт адпачываў у доме Мароза па Пралетарскай вуліцы (памяшканне не захавалася), разам з Ц. Гартным і М. Хведаровічам хадзіў па наваколлю (Каменшчына, Замкавая гара), захапляўся рыбалкай. Зімой 1936 г. Купала наведаў Капыль з армянскім паэтам Зар'янам Н. На будынку кінатэатра «Мір» у 1982 г. была ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць аб тым, што тут чытаў свае вершы ў 1932 г. Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала).

**Вуліца Камсамольская, 25**

У доме па гэтым адрасе ў родным горадзе жыў **Чарнушэвіч Нічыпар** (1(14).11.1900—18.2.1967), паэт, драматург, перакладчык. У 1917—1920 гг. настаўнічаў у Траянаўскім земскім народным вучылішчы на Капыльшчыне. У 1920—1922 гг. служыў у Чырвонай Арміі. У 1928 г. скончыў гістарычны факультэт БДУ. Вучобу сумяшчаў з работай у газеце «Савецкая Беларусь» (1924—1929). Сябра літаратурнага аб'яднання «Маладняк», у 1929—1930 гг. — слухач Вышэйшых навукова-педагагічных курсаў пры 2-м Маскоўскім універсітэце. Улетку 1930 г. быў арыштаваны. 10.4.1931 г. прыгавораны да 5 гадоў ссылкі ў г. Вятку. У 1931—1935 гг. — супрацоўнік газеты «Вятская правда» (пазней — «Кировская правда»). У жніўні 1935 г. абвінавачванні былі зняты. У 1935—1941 гг. выкладаў гісторыю ў сярэдніх школах Масквы. У кастрычніку 1941 г. эвакуіраваўся ў Цюмень, дзе працаваў загадчыкам аддзела рэдакцыі газеты «Тюменская правда». З 1947 г. жыў у Мінску. Працаваў у Беларускім

дзяржаўным выдавецтве, начальнікам планавага аддзела Белсельгасзабеспячэння, выкладчыкам гісторыі ў Мінскай афіцэрскай школе, старшым інжынерам трэста папяровай прамысловасці, на Беларускім тэлебачанні. Канчаткова рэабілітаваны 19.9.1960 г. Друкаваўся з 1923 г. Аўтар кніг «Дзіва» (1927), «Нясу надзею» (1962), «Гаворка дум» (1966). Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

У гэтым жа доме жыў яго брат **Хведаровіч Мікола,** паэт.

**Вуліца К. Маркса, 39**

Мемарыяльная дошка **Гартнаму Цішку**. Устаноўлена ў 1955 г. на доме, дзе жыў пісьменнік.

**Вуліца Пралетарская**

Дом Мароза. Не захаваўся. Цяпер на яго месцы знаходзіцца трохпавярховы дом. **Гурло Алесь** жыў адсюль праз хату.

**Сярэдняя школа № 2**

Музей рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. Створаны ў 1985 г. У экспазіцыі змешчаны матэрыялы пра **Гартнага Цішку, Гурло Алеся,** аб культурным жыцці раёна.

* * *

У Капылі РСДРП выдавала рукапісныя часопісы «Заря», «Голос низа», «Вольная мысль» з удзелам **Гартнага Цішкі, Гурло Алеся, Чарнушэвіча Нічыпара**.

**Александровіча Сцяпана** (15.12.1921—1.5.1986), пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка і краязнаўца, радзіма. Доктар філалагічных навук (1972). Скончыў БДУ (1950). З 1959 г. працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, з 1963 г. — у БДУ. Друкаваўся з 1946 г. Аўтар кніг «Незабыўнымі сцежкамі» (1959), «Старонкі братняй дружбы» (1960), «Ад роднай зямлі...» (1962), «Па слядах паэтычнай легенды» (1965), «Далёкія зарніцы» (1967), «Гісторыя і сучаснасць» (1968), «Пуцявіны роднага слова» (1971), «На шырокі прастор» (1972), «Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі» (1975), «Кнігі і людзі» (1976), «Слова — багацце» (1981), «Тут зямля такая» (2-е выд., 1985).

**Гартнага Цішкі** (у сапр. Жылуновіча Зміцера; 4.11.1887—11.4.1937), беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча, акадэміка АН Беларусі, радзіма. З вясны 1906 г. Гартны стаў членам камітэта капыльскай групы РСДРП. Працаваў рамеснікам-гарбаром у Капылі, на заводзе ў Пецярбургу. Пасля 1917 г. сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята, рэдактар газеты «Дзянніца», з 1.1.1919 г. — старшыня Часовага рэвалюцыйнага ўрада Савецкай Беларусі, потым палітработнік 14-й арміі і штаба Заходняга фронту. Пазней узначальваў Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, працаваў у Наркамаце асветы БССР, Інстытуце гісторыі АН Беларусі. У 1923 г. пленум ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб прысваенні яму звання народнага паэта Беларусі, аднак пастанова не была выканана. 16.1.1931 г. выключаны з партыі, 15.11.1936 г. арыштаваны, 7.4.1937 г. пераведзены ў Магілёўскую псіхіятрычную лячэбніцу, дзе, паводле афіцыйнай версіі, памёр ад гангрэны лёгкіх. Іншая версія — самагубства. У 1988 г. рэабілітаваны. Друкаваўся з 1908 г. Выступаў як празаік, паэт, драматург, публіцыст, даследчык гісторыі беларускай літаратуры, крытык. Аўтар кніг «Песні» (1913), «Сокі цаліны» (1914—1929), «Трэскі на хвалях» (1924), «Прысады» (1927), «Узгоркі і нізіны» (1928), «Перагуды» (1935), збору твораў у 4 т. (Т. 1—3; 1987—1989), «Вершы» (1967), «Насустрач сонцу» (1978). Гораду прысвяціў верш «Капыль», напісаны ў Пецярбургу. Гартны ў ім усклікаў:

Капыль, Капыль! Маё мястэчка,
Вялікай Міншчыны куток!
Мне міла ўсё тваё: і рэчка,
І хаты, нівы, і гаёк!..

Паводле А. Адамовіча, в. Сілцы ў рамане «Сокі цаліны» Гартнага — гэта Капыль.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***